## У НУМАРЫ:



***ПАЭЗІЯ***



***ПРОЗА***



***ПЕРАКЛАДЫ***



***КРЫТЫКА***



***ПУБЛІЦЫСТЫКА***




## ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ.
## «ДЗЕ МЫ І ХТО МЫ:
## БЯСЕДЫ АБ УТВАРЭННІ СВЕТУ.
## НЕБАЗНАЎСТВА». 1937 г.

*«Першымі турыстамі-піянерамі з Зямлі на Луну будуць дзве экспедыцыі з дванаццаці чалавек, якія шчасліва далятуць і спусцяцца на Месяц.*

*Яны наведаюць скрозь чарнаскальныя цясніны арэну цырка Платона».*

Так уяўляў сабе першае падарожжа чалавека на Месяц славуты мастак Язэп Драздовіч. У сваім рукапісе пад назвай «Дзе мы і хто мы» ён разважае аб паходжанні і будове нябесных цел, жыцці на розных планетах, міжпланетных палётах, зносінах зямлян з жыхарамі іншых планет.

Рукапіс з аўтарскімі ілюстрацыямі захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа НАН Беларусі (Ф. 2, адз. зах. 10).



Яўген МАРТЫНОВІЧ

# АДНОЙЧЫ Я СПЫТАЎ ЯГО ЖАРТОЎНА

* * *

Дзень напаўняецца хвілінамі, нейкімі неадкладнымі справамі і нечаканымі падзеямі. Усё рухаецца, не стаіць на месцы. Ты заўважаеш, што ўсё гэта цябе не датычыцца! Ты сам выбіраеш, што цябе павінна хваляваць, а што не, сам выбіраеш шлях, па якім будзеш сёння-заўтра рухацца, каб дасягнуць нейкай мэты (нават, калі такой мэты няма, шлях, абраны табой, усё роўна існуе). Сотні сусветаў, сістэм пачакаюць, пакуль ты зашнуруеш свае боты. А куды спяшацца? (За гэты час на Зямлі нарадзілася 157 чалавек, памёрла…). А ты ўжо прымаешся за другі бот. «Цьфу ты, забыўся на ключы! Прыйдзецца ісці абутым па кватэры». (За гэты час на Зямлі здарылася 7 землятрусаў і 658 пажараў...). «Фу, ключы на месцы. Не трэба яшчэ раз пыласосіць падлогу і дыван!» І вось ты шчаслівa ўсміхаешся і крочыш па сваіх справах. А што калі б застаўся дома? Усё было б значна горш на Зямлі. Гэта дакладна.

## УСПАМІН

Памятаю, як з сябрам гулялі ў нашу любімую гульню: «У якую б эпоху ты хацеў жыць?» Пачалося з таго, што нам на вочы трапіла гістарычная энцыклапедыя з выявамі рыцараў, гусараў, розных выбітных асоб. Дома рабілі даспехі і мячы з кардону, шлемы з каструль і вядзёр, а потым гулялі дапазна, пакуль матулі не клікалі нас дахаты.

Цяпер, калі мы з сябрам сустракаемся, то з цеплынёй згадваем тыя прыгоды! Аднойчы я спытаў яго жартоўна, дзе б ён зараз хацеў аказацца? На што ён мне сур’ёзна адказаў: «Хацеў бы вярнуцца туды, дзе крыўдзіў блізкіх людзей і каханую — ды папрасіць у іх прабачэння».

Некаторыя моманты з жыцця і мне хацелася б «падрэдагаваць».

А потым я спытаў яго: «А што табе перашкаджае тут і цяпер папрасіць прабачэння ў блізкіх людзей?» Гэта пытанне я адрасаваў і сабе. Сябар не адказаў. Праз некалькі хвілін мы разышліся, кожны са сваімі думкамі і цяжарам. Канешне, усіх сказаных слоў і здзейсненых учынкаў не выправіць, але можна паспрабаваць жыць далей і не крыўдзіць людзей ні словамі, ні ўчынкамі. І калі людзі гавораць пра апошні шанец, то я не даю веры гэтым словам. Чалавеку даецца шмат шанцаў і магчымасцей. Ну вось што перашкаджае сказаць у слухаўку: «Мама, прывітанне. Даўно ўжо не званіў табе. Не… паслухай, нічога не здарылася. Гэта я проста так…».

Але з сябрам мы проста ідзём кожны сваім шляхам у чаканні цуду.

## ПІСЬМЕННІКІ

Некаторыя пісьменнікі пішуць так, быццам за іх спінамі стаіць сам Леў Талстой і прыгаворвае: «Ты, братка, пішы… Але ўсё роўна мяне не перапішаш!». І такі пісьменнік з апошніх сіл спрабуе напісаць нешта вартае. А раптам атрымаецца пацягацца з галіяфам?

Бываюць такія пісьменнікі, пасля чытання якіх не хочацца нічога ствараць самому (а навошта, і так жа ўсё напісаў!). Тытаны, адным словам… А ёсць такія, што, наадварот, натхняюць. Як быццам запрашаюць да сутворчасці. З нашай літаратуры назаву Максіма Гарэцкага, Змітрака Бядулю, Міхася Стральцова і Янку Брыля; з рускай — Чэхава, Буніна, Зошчанку, Казакова; з замежнай — Чапэка, Гашэка, Акутагаву, Леца.

Галава напаўняецца старонкамі. І табе падаецца, што няма больш на свеце такіх разумных думак, яскравых вобразаў, якія толькі што прабягалі ў тваёй галаве. Але, на жаль, усё гэта ў Свеце ёсць! Больш яскравае і таленавітае. А ты ідзеш і марыш: маўляў, калі зараз быў бы з сабою хаця б маленечкі кавалачак паперы, тады б паказаў клас! Але яе няма ў патрэбны момант. І дзякуй богу, што няма! Адной лухтой у Свеце будзе меней.

*Ягор КОНЕЎ*



# АДВЕЧНАЯ П’ЕСА

***ЭСЭ***

Уільям Шэкспір вуснамі Жака — персанажа камедыі «Як вам гэта спадабаецца» — сцвярджаў: «Увесь свет — тэатр, а людзі ў ім — акцёры». Французскі пісьменнік Анры дэ Монтэрлан (быў папулярны на радзіме ў другой палове XX стагоддзя, але ў старасці ў выніку няшчаснага здарэння страціў зрок, не змірыўся са слепатой і атруціўся) пісаў, што гісторыя — нязменная п’еса, у якой граюць усё новыя і новыя выканаўцы.

Добра ўсведамляючы, як мне далёка да загадкавасці Шэкспіра і да прыжыццёвай славы Монтэрлана, усё ж асмелюся наша жыццё параўнаць з адвечнай п’есай. Можна спрачацца: ці самі мы з’яўляемся драматургамі, ці падначальваемся найвышэйшай волі? Той волі, якая выводзіць на сцэну новых персанажаў і зводзіць за кулісы старых.

Мне падаецца, мудры той выканаўца, які разумее, што для яго ўжо напісаны тэкст адпаведнай ролі — яна можа звацца наканаваннем. Трэба спасцігнуць замысел Найвышэйшага Драматурга (ён жа і Рэжысёр, і Сцэнограф, і Мастак, і наогул увесь наш тэатр за шэсць дзён утварыў) ды належным чынам яго ўвасобіць. І тут у выканаўцы неабмежаваная прастора для творчага манёўру. Хтосьці грае сваю ролю таленавіта, хтосьці — бяздарна. Кагосьці ўхваляюць і праз шмат гадоў пасля сыходу са сцэны, а кагосьці з яе выспяткамі гоняць.

Нараджаецца слушнае пытанне: а хто ж гледачы тае адвечнай п’есы?

Падазраю, што Драматург і мы самі, выканаўцы. Калі ад уласных учынкаў пануе лад у душы і сэрца ў грудзях нібыта ўсміхаецца, значыць, граем сваю ролю ў адпаведнасці з вышэйшым замыслам. Калі ж злосць апякае розум, то, пэўна, дзесьці выканаўца памыліўся, забыўся тэкст або пераблытаў мізансцэны. У абодвух выпадках назіраць за гэтым цікава і павучальна. Вось я і адважыўся падзяліцца шэрагам уласных назіранняў.

* * *

Можа паўстаць слушнае пытанне: на якой падставе я атаясамліваю наша жыццё з п’есай, а не з раманам, песняй або карцінай? Місію дэміурга з тым жа поспехам можа ўвасобіць вобраз Літаратара, Кампазітара, Мастака ці нават Канструктара (так звалі Бога ў суполках алхімікаў ды масонаў).

Мой выбар, прызнаюся, абумоўлены асабістымі матывамі. Драматургія падавалася мне вышэйшым жанрам мастацтва яшчэ з юнацтва. (Праўду кажучы, да 28 гадоў мне бракавала смеласці ўзяцца за яе.) Колькі радкоў дыялогу ў п’есе з лішкам замяняюць цэлы раздзел рамана або аповесці. Драматургія, як мне падаецца, здатная ў большай у параўнанні з прозай ступені ўплываць на чытача. Галоўнае, каб п’еса атрымалася добрай. Гэта значыць, такой, якая павялічвае колькасць дабрыні ў свеце. А хіба не ў гэтым вышэйшае прызванне творчасці — дамагаць людзям стацца хоць крыху лепшымі, чым ёсць?

* * *

Ці ёсць у мяне падставы, каб нешта распавядаць, ускосна павучаць? Падазраю, што маю права.

Ці такія ўжо значныя мае дасягненні ў мастацтве? Мяркуйце самі.

## Шматвопытны журналіст, які «настукае» аб'ёмнае эсэ на тэму «Куды коціцца наша грамадства?», прайграе пачаткоўцу, які расшукае цікавую гісторыю і займальна яе апіша

Тры выдадзеныя кнігі прозы, тры пастаўленыя ў беларускіх тэатрах п'есы, звыш паўсотні апублікаваных аповесцей і апавяданняў у «холдынгавых» выданнях (гэта значыць не за ўласны кошт), а таксама каля дзясятка сцэнарыяў пастаўленых дакументальных фільмаў.

Мажліва, хтосьці палічыць — мізэр. Прыгадае сучасных аўтараў, якія панавыдавалі дзясяткі кніжак. Куды мне, маўляў, супраць такіх «літаратурных генералаў»!

Але ў тым і справа, што я не хачу ані з кім дужацца дасягненнямі. Грэх пыхлівасці нездарма лічуць смяротным. Я сыходжу з іншай катэгорыі: мой расповед цікавы або не.

Возьмем, да прыкладу, рэдакцыю газеты. Шматвопытны журналіст, які «настукае» аб'ёмнае эсэ на тэму «Куды коціцца наша грамадства?», прайграе пачаткоўцу, які расшукае цікавую гісторыю і займальна яе апіша. Чытач рэдка звяртае ўвагу на прозвішча пад матэрыялам, але змест запамінае.

Або зірнём на тэатральную сцэну. Угнараваны шматлікімі рэгаліямі артыст можа выйсці з-за кулісаў у благім настроі і «заваліць» галоўную ролю. А іншы акцёр нават кароткі эпізод «пражыве» запамінальна. І не маюць значэння колішнія дасягненні — галоўнае, як ты зараз распавядаеш сваю гісторыю. Цябе слухаюць або не, чытаюць або шпарчэй перагортваюць старонку. Вось адзіны сапраўдны крытэрый вартасці для мяне. Для вас, спадзяюся, таксама.

* * *

Мой тэатральны досвед не надта багаты, але і мне ёсць што прыгадаць.

Я марыў пісаць п'есы і кінасцэнарыі яшчэ з падлеткавай пары. (Нічога дзіўнага, калі ўлічыць, што мой бацька — пісьменнік і кінадраматург Фёдар Конеў, аўтар дзясяткаў кінасцэнарыяў, пастаўленых на кінастудыі «Беларусьфільм» у апошнія сорак гадоў.) Але, як кажуць, нагоды не было. Ды збег абставін надаў новы кірунак майму творчаму працэсу.

Увосень 1999-га я паглядзеў аматарскі спектакль «Эскарыял» на сцэне лялечнага тэатра Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі. Як чалавек выхаваны, пахваліў пастаноўку, сказаў колькі прыемных слоў рэжысёру Андрэйчыкаву. А той праз паўгода папрасіў мяне напісаць інсцэніроўку аповесці Яна Баршчэўскага «Драўляны Дзядок і кабета Інсекта». Дакляраваў, што паставіць яго на тэлебачанні. З праекта тэлепастаноўкі нічога не атрымалася і тэкст пыліўся ў маім архіве тры гады. Пакуль на вочы не трапіла аб'ява ў «СБ — Беларусь сегодня» пра абвешчаны Міністэрствам культуры конкурс п'ес. Я адаслаў «Драўлянага Дзядка» ў Мінкульт і атрымаў першую прэмію ў намінацыі «Інсцэніроўка твораў беларускай літаратуры». Уручэнне дыпломаў і распіццё шампанскага з гэтай нагоды адбылося ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Мастацкаму кіраўніку Валерыю Анісенку мая інсцэніроўка падалася цікавай. Таму параіў маладому рэжысёру Сяргею Кавальчыку, які шукаў п'есу для пастаноўкі, «папрацаваць з маладым аўтарам». Кавальчык запрасіў мяне на прэм'еру свайго спектакля «Адвечная песня» паводле паэмы Янкі Купалы. Я пайшоў выключна з ветлівасці, бо паэму Купалы, якая складаецца з суцэльнага плачу пра няшчасную долю мужыцкую, чытаў яшчэ ў школе і ўнутрана рыхтаваўся да нуды. Ды замест таго ўбачыў мюзікл на музыку Цімура Каліноўскага — карнавал вясковага жыцця, дзе шчасце і бяда суседнічаюць непарыўна. Я так і сказаў Кавальчыку, што нічога лепшага пакуль на беларускай сцэне не бачыў. А той папрасіў мяне напісаць камедыю для моладзі. Я стварыў «Студэнцкую гісторыю» і казку «Дамавічкі», паказаў іх Кавальчыку, але кан'юнктура ў тэатры маланкава змянілася — тэрмінова спатрэбілася інсцэніроўка аповесці Барыса Васільева «А досвіткі тут ціхія». Справа ў тым, што мастацкі

кіраўнік Валерый Анісенка не толькі кіраваў РТБД, але і вёў курс у Беларускім універсітэце культуры. Ён вырашыў паставіць са сваімі студэнтамі спектакль, каб засвойвалі тэатральнае майстэрства непасрэдна на сцэне. Але з-за таго, што ў самога час і сілы адняла пастаноўка іншага спектакля, даручыў гэтую справу Сяргею Кавальчыку, а той спыніў выбар на творы Васільева як найбольш адпаведнага для двух хлопцаў і шаснаццаці дзяўчат. Прэм’еру прымеркавалі да 60-годдзя Перамогі.

У пачатку 2005-га Кавальчык спытаў мяне: маўляў, ці не хацеў бы заняцца гэтым праектам?

— Можна, — адказаў я.

І на тры месяцы ўсё сціхла. А ў красавіку Кавальчык пазваніў і спытаў:

— Дзе тэкст, Ягор? Хоць які! Мне трэба ўжо рэпеціраваць.

Я засеў за інсцэніроўку і закончыў яе за тры тыдні. Тэкст адсылаў па электроннай пошце часткамі, па меры напісання, а той рэпеціраваў «з ходу». Твор назваў «Паўночная цішыня» і аформіў у жанры музыкальнай драмы з аптымістычным фіналам: Камялькова, закаханая ў галоўнага героя Васкова, не патанула ў балоце, а дабралася да сваіх і выклікала дапамогу. (Ну не люблю я забіваць герояў! У жыцці і без таго шмат гора, нашто цягнуць яго яшчэ і на сцэну!)

Але Кавальчык ідэяй спектакля зрабіў паказ таго, «як вайна забівае дзяўчат». Таму ўсе музычныя нумары выкінуў, а гераінь у фінале panішчыў, ды так уражвальна, што я нават слязу пусціў на перадпрэм’ерным праглядзе.

Прэм’ера «Паўночнай цішыні» адбылася на фестывалі ў Маскве, а ў Мінску спектакль паказалі восенню 2005-га. На другім, прэм’ерным, паказе, калі выканаўцы выйшлі на развітальныя апладысменты, на сцэну падняўся Анісенка, выклікаў туды ж мастака-пастаноўшчыка і мяне, аўтара інсцэніроўкі. Я паспяшаўся да Майстра, прысуседзіўся ды злёгку пакланіўся гледачам.

Таму магу сцвярджаць, што і ў мяне была свая хвіліна славы.

Што адчуваў у гэты момант? Жаданне, каб шаноўная публіка не скончыла пляскаць у далоні раней, чым вярнуся ў глядзельную залу.

* * *

Атрымліваць аўтарскія адлічэнні за кожны спектакль «Паўночнай цішыні» аказалася прыемна, хоць складалі яны літаральна 20—30 долараў у эквіваленце. Калі ж захацеў, каб пастаноўку аплаціла яшчэ і Міністэрства культуры, то аказалася, што належыць атрымаць дазвол на пастаноўку ад Барыса Васільева, які жыў у Расіі ды не падазраваў, што тою парой зрабіўся надзвычай папулярным тэатральным аўтарам. (Адначасова з «Паўночнай цішынёй у РТБД на сцэне Тэатра юнага гледача адбылася прэм’ера «А досвіткі тут ціхія…» паводле інсцэніроўкі Аляксея Дударава.) У Тэатры беларускай драматургіі наконт такой драбязы, як аўтарскі дазвол, ніхто не паклапаціўся, таму давялося самому выпрошваць у Цэнтры інтэлектуальнай маёмасці адрас пісьменніка і дасылаць яму ліст з тэкстам дамовы. Праз месяц атрымаў ад Васільева падпісаную дамову і трыумфальна занёс у Міністэрства. А неўзабаве «Паўночная цішыня», недзе праз паўтары гады пасля прэм’еры, сышла з рэпертуару. У выканаўцаў — студэнтаў Універсітэта культуры — завяршыўся тэрмін навучання і надышоў час размеркавання. Ад спектакля засталіся бадай што відэаверсія, знятая Сяргеем Кавальчыкам, ды ўспаміны ўдзельнікаў. Як тут ні прыгадаць выказванне, што тэатр — мастацтва вечнае, а вось спектакль — з’ява, якая існуе толькі тут і цяпер! Дык хочацца падоўжыць яго існаванне хаця б уласнай згадкай…

* * *

Яшчэ «гучала» на сцэне РТБД «Паўночная цішыня», а Сяргей Кавальчык ужо замовіў мне п’есу пра Максіма Багдановіча. Новая пастаноўка ўмоўна прымяркоўвалася да вясны 2007-га, 90-х угодак са дня смерці паэта. Мне дужа імпанавала ідэя разгадаць «загадку» адоранага юнака з Яраслаўля,

**Мудры той выканаўца, які разумее, што для яго ўжо напісаны тэкст адпаведнай ролі — яна можа звацца наканаваннем**

што, закахаўшыся ў дзяўчыну з Паўночна-Заходняга краю, прыдумаў маляўнічую краіну Беларусь, якой ніколі не было, але яна неадменна ўтворыцца. Дзеля чаго ён засвоіў на падставе старых кніжак беларускую літаратурную мову і сваімі вершамі ды празаічнымі мініяцюрамі стварыў Беларусь ва ўяўленні чытачоў. Узяўся я за такую справу з надзвычайным імпэтам, некалькі разоў перапісаў тэкст і ўвесну 2006-га прадставіў на разгляд Кавальчыка п’есу «Каханне і смерць Максіма Багдановіча». Згодна з пажаданнямі рэжысёра перапрацаваў тэкст яшчэ тройчы, пасля чаго Кавальчык перадаў яго мастацкаму кіраўніку. Той пачытаў — і яму не спадабалася, ён забракаваў праект.

Дарэчы, маю п’есу пра Багдановіча паставяць толькі праз пяць год, у снежні 2011-га, у Гомельскім абласным драматычным тэатры, і на жаль, тэрмін яе сцэнічнага жыцця акажацца непрацяглым. А тады, у жніўні 2006-га, мне падалося, што з адмоваю Анісенкі мая тэатральная дзейнасць завяршылася.

Ды праз пару месяцаў нечакана пазваніў Кавальчык і сказаў, што тэатральныя планы змяніліся, спектакль пра Багдановіча будзе ставіць іншы рэжысер (Баркоўскі) паводле п’есы іншага аўтара («Інтымны дзённік» Сяргея Кавалёва), а менавіта яму трэба да Новага года паставіць спектакль для дзяцей і мае «Дамавічкі» (пра якіх я наогул забыўся) найболей пасуюць. Я толькі рады быў.

Але калі ў снежні 2006-га ўбачыў прэм’еру «Дамавічкоў», то адчуў сапраўдны шок. Рэжысёр аніяк не пасвячаў мяне ў рэпетыцыйны працэс, і ў маім уяўленні прысутнічаў адзін спектакль, а на сцэне РТБД — іншы. Я думаў, што дзеянне мусіць адбывацца ў часы сівой даўніны, Кавальчык бачыў яго ў сучасным аграгарадку. І там, дзе я ўяўляў інтэр’ер сялянскай хаты, паўстаў гарадскі пакой з вялізнай чырвонай батарэяй цэнтральнага ацяплення ў цэнтры памяшкання. Нехта з гледачоў нават гаварыў мне, што ўбачыў у той батарэі сімвал барацьбы за дамінаванне ў жытле. Карацей кажучы, пасля другога, трэцяга, чацвёртага прагляду «Дамавічкоў» я падумаў: «А што благога ў тым, што рэжысёр на свой капыл увасобіў п’есу? Дзякуй богу, што хоць тэкст без змен захаваўся, і перапісваць болей не змушаў…»

І як толькі прымірыўся з арыгінальнай рэжысёрскай трактоўкай, то адчуў ахвоту зноў што-небудзь драматычнае стварыць. Напісаў на падставе этнаграфічных паданняў музычную казку «Калядная зорка» і даслаў на азнаямленне Кавальчыку. Але ў яго былі ўжо іншыя планы. Неўзабаве ён узначаліў Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Максіма Горкага, і на новай пасадзе яму стала ўжо не да казак.

А мне казкі па-ранейшаму грэлі душу, і ўвосень 2008-га, калі тросся ў мікрааўтобусе па дарозе з Палесся, вяртаючыся з жонкай з пахавання яе дзядулі, то прыдумаў гісторыю пра двух беспрытульных сабак, якую так і назваў — «Гісторыя двух сабак». Напісаў і даслаў загадчыку літаратурнай часткі Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Тая прачытала — і адхіліла, бо фінал падаўся няўдалым. Праз паўгода ў РТБД прыйшоў новы загліт — Ігар Скрыпка. Я даслаў яму свой твор. Ён «Гісторыю двух сабак» упадабаў, сказаў, што «пакажа Данілавічу» (так у тэатры называлі між сабой мастацкага кіраўніка Анісенку). Мінула яшчэ паўгода. Я апынуўся ў шпіталі — ныркі разбалеліся. Цягнуўся паўпрытомны з працэдурнай і раптам — званок на мабільнік.

— Вітаю вас, Ягор, — зажурчаў у трубцы жаночы голас. — Валерый Данілавіч паказаў мне вашу п’есу пра сабак. Прэм’ера запланавана на канец года.

Аказалася, мне званіла рэжысёр спектакля Святлана Навуменка. На той час яна ўзначальвала абласны драмтэатр у Маладзечне, але намагалася трапіць у Мінск, і ёй падвярнулася добрая нагода перайсці ў Тэатр беларускай драматургіі.

Не ведаю, ці ёсць тут нейкая ўзаемасувязь, але ў мяне ад такой навіны боль у нырках сціх.

У снежні 2009-га я паглядзеў прэм’еру другой сваёй п’есы на сцэне РТБД і зноў быў ашаломлены — гэтым разам прыемна. Святлана Навуменка паставіла «Гісторыю двух сабак» у жанры «экшн» — чуллівыя эпізоды імкліва змяняліся напружанымі.

Спектакль, як я заўважыў, спадабаўся і мастацкаму кіраўніку РТБД Валерыю Данілавічу. Праз чатыры гады, калі Анісенка ўзначаліў Нацыянальны драматычны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску, то прапанаваў

Навуменка паставіць «Гісторыю двух сабак» на коласаўскай сцэне. Атрымалася вельмі добра.

Восенню 2011-га нечакана ўзгадаўся твор, прысвечаны Багдановічу. З Гомельскага абласнога драматычнага тэатра пазваніла загадчык літаратурнай часткі ды сказала, што да 120-годдзя са дня нараджэння паэта ў снежні рэжысёр Сяргей Паздняк рыхтуе пастаноўку маёй п’есы «Каханне і смерць Максіма Багдановіча» і што, маўляў, добра будзе, калі я адмоўлюся ад аўтарскіх адлічэнняў. Аказалася, яшчэ пяць гадоў таму Сяргей Кавальчык спрабаваў паставіць у Гомелі маю п’есу, ды справа не заладзілася. Ён пакінуў п’есу ў архіве тэатра, дзе яе адшукаў Сяргей Паздняк. Рэжысёр скараціў двухактоўку да аднаго акту і даслаў мне свой варыянт. Азнаёміўшыся з ягонымі скарачэннямі, я тэрмінова дапісаў шэраг дапаўненняў дзеля лагічнай сувязі эпізодаў. Паздняку яны прыйшліся даспадобы і ён паставіў удалы спектакль. Аднак ад аўтарскіх выплат адмаўляцца я не стаў, чым выклікаў незадаволенасць дырэктара і мастацкага кіраўніка тэатра Чэпелева. Мне давялося нават звярнуцца за падтрымкай у Міністэрства культуры. Супрацоўнік Мінкульта Вікторыя Куксянкова сазванілася з Чэпелевым і ветліва патлумачыла, што не варта крыўдзіць аўтараў, тым болей сваіх, беларускіх. Чэпелеў саступіў, але «Каханне і смерць Максіма Багдановіча», хоць і мела добрыя водгукі ў прэсе, у афішы тэатра не затрымалася.

У далейшым я штогод прапаноўваў розныя свае п’есы ў розныя тэатры. Нідзе не наракалі мне на якасць, нават, здаралася, абнадзейвалі, што твор унесены ў пастановачны план. Але планы змяняліся, у мастацкіх кіраўнікоў з’яўляліся новыя прыярытэты.

Цяпер мае стасункі з Мельпаменай завяршыліся. Адзін Бог ведае ці назаўжды.

Шчыра прызнаюся, колькі месяцаў нерваваўся з гэтай нагоды. Нудна рабілася ад думкі, што жыццё сплывае, а рэалізацыі маіх ідэй не адбываецца ані на тэатральнай сцэне, ані на кінаэкране.

І супакойваў сябе тым, што ў сваіх страхах рухаўся да лагічнага завяршэння. Казаў: «Ну, няхай, болей аніколі мяне з маёй творчасцю на гарматны стрэл не падпусцяць туды, куды душа просіцца. І што далей? Як змагу тады я жыць?» І прыходзіў да высновы: «Ды вельмі добра! Жыццё — з’ява, шчодрая на цуды і шчаслівыя здарэнні, а творчасць — толькі ягоная частка».

Вядома, не ўсе свае страхі магу я гэтак лёгка ўлагодзіць. Але прыручэнне ўласных сполахаў — яшчэ адзін займальны эпізод адвечнай п’есы нашага быцця.

* * *

У драматургіі, якая разыгрываецца перад намі на працягу жыцця, мяне заўсёды цікавіла: што адбываецца на сцэне і па-за сцэнай да таго, як паднялі заслону, і пасля таго, як яе апусцілі? Адкуль з’яўляюцца дзеючыя асобы і куды сыходзяць?

Наконт нараджэння ўсё больш-менш зразумела. Адзін псіхолаг упэўнена гаварыў мне, што дзіця ва ўлонні матулі да жаху баіцца сысці ў час народзінаў у невядомасць, у іншы свет. Гэтаксама дарослы чалавек баіцца сысці ў час смерці з зямнога быцця ў невядомае. Як ненароджанае дзіця нізавошта не здагадаецца, які яго чакае свет, так і ў дарослага фантазіі не хопіць уявіць свет тагачасны.

Пэўныя сумненні, зразумела, выклікае наогул ягоная наяўнасць. Мяне такое пытанне доўга непакоіла: які сэнс набірацца розуму і досведу, калі ўсё абарвецца, як сцвярджаюць матэрыялісты, з фізічным сконам? Надта безнадзейны фінал атрымліваецца ў кожнай чалавечай гісторыі. А як жа ўніверсальны закон захавання энергіі?

Памятаю, што я пачаў баяцца смерці, незваротнага сыходу ў небыццё ў дзесяць гадоў — з таго дня, калі ўбачыў пахаванне роднай бабулі.

Страх адпусціў мяне толькі праз трыццаць гадоў, на Радуніцу 2014-га, калі мой чатырнаццацімесячны сын Цімоша раптам прачнуўся а трэцяй гадзіне ночы (зразумела, мяне з жонкаю таксама абудзіў). Колькі часу ён тузаў ножкамі, цягнуў ручкі да столі, потым шчасціва засмяяўся і праз паўгадзіны салодка задрамаў.

Шчыра скажу, паводзіны нетыповыя для дзіцяці, якое гаварыць не навучылася і раней уначы будзіла матулю, каб малаком падсілка-

**Чытаць сёння нудотныя «цагліны» Аляксандра Дзюма аб прыгодах мушкецёраў — справа, якая вымагае фізічнага напружання. Кожны ўчынак там абмяркоўваецца на дзесяці старонках. Такую ж нуду выклікаюць і апавяданні Артура Конан-Дойла пра сышчыка з Бэйкер-стрыт**

вацца. Усведамленне прыйшло, калі ўзгадаў, што напярэдадні Бацькоўскага дня, як меркавалі нашыя продкі, нябожчыкі прыходзяць у зямны свет, каб паглядзець на нашчадкаў. Вельмі верагодна, што ў сілу свайго ўзросту мой сынок убачыў і павітаўся з бабулямі ды дзядулямі, якія памерлі шмат гадоў таму. Відаць, ён спадабаўся ім, а яны — яму. Інакш з чаго дзіцяці так смяяцца ў непраглядна цемры?

Тое, што мы, дарослыя, не бачым таго, што бачаць малыя дзеці, мае сваё тлумачэнне. Псіхічнае светаўспрыманне з узростам мяняецца даволі кардынальна. Але радасны смех майго сына напярэдадні Радуніцы абнадзеіў і супакоіў мяне, пераканаў, што быццё не завяршаецца парогам смерці.

* * *

У снежні 2011-га Гомельскае тэлебачанне падрыхтавала рэпартаж з нагоды прэм'еры п'есы «Каханне і смерць Максіма Багдановіча» ў абласным драмтэатры. Рэжысёр-пастаноўшчык Сяргей Пазднях запісаў той тэлеролік і спрэзентаваў мне. Асабліва пазабавіў мяне эпізод, калі журналіст апытвае дзяцей, якіх вялі на спектакль настаўнікі: маўляў, хто такі Максім Багдановіч? Адзін са школьнікаў, самы смелы сярод аднакласнікаў, упэўнена заявіў:

— Максім Багдановіч — вялікі беларускі пісьменнік. Ён напісаў раманы «Людзі на балоце» і «Знак бяды»...

Сучасныя школьнікі могуць яшчэ і не так пацешыць сваімі ведамі. Хіба толькі іхняя ў тым віна? Ды не! У Злучаных Штатах Амерыкі, напрыклад, кожны трэці школьнік не ведае назву сталіцы сваёй краіны. Не таму, што такія ўжо дурныя, але таму, што актуальныя веды трэба няспынна аднаўляць. І каб беларускія школьнікі памяталі, што Багдановіч, Мележ і Быкаў — творцы, якія ўславілі Бацькаўшчыну ў прозе і паэзіі, трэба, каб адаптаваныя да сцэны творы Багдановіча, Мележа і Быкава (ды іншых класікаў са школьнай праграмы) не знікалі з тэатральнай сцэны. Толькі так і фарміруецца нацыянальная свядомасць.

* * *

Я ўпэўнены, што дзяржава павінна адстойваць свае інтарэсы ў мастацкай палітыцы гэтак жа цвёрда, як у знешняй і ўнутранай. Кіраўніцтва Беларусі прыкладае шмат намаганняў дзеля росквіту нацыянальнай эканомікі. Чаму б не паклапаціцца пра болей плённыя ўмовы для развіцця беларускага мастацтва і, у прыватнасці, тэатра?

Якая дзяржаве з таго карысць? Ды такая, што менавіта мастацтва фарміруе нацыю. Прыкладаў на гэты конт у гісторыі хапае. Дарэчы, першае, што прыгадваецца, — векапомныя падзеі канца XVII стагоддзя на берагах Альбіёна. Да тае пары англічане ўспрымалі сябе не столькі самабытным народам, колькі часткай хрысціянскай супольнасці. Самымі папулярнымі драматургамі ў той перыяд былі іспанцы, паколькі ўладанні Іспанскай манархіі (тады яе называлі Сусветнай) сягалі аж на чатыры кантыненты. Але ў 1530-х пажадлівы англійскі кароль Генрых VIII зацвердзіў англіканскае веравызнанне і жыхары Злучанага каралеўства адчулі сябе адметным народам. Каб замацаваць такое пачуццё на падсвядомым узроўні, дачка Генрыха — каралева Лізавета I — шчодра заахвочвала развіццё тэатраў, паколькі тое, што гучала са сцэны, западала ў памяць на цэлыя пакаленні. З тае прычыны ў 200-тысячным Лондане функцыянавалі (з перапынкамі толькі на час усеагульнага паморку) звыш 20 тэатраў. (У сённяшнім 2-мільённым Мінску столькі ж, калі не ўлічваць аматарскія калектывы.) Попытам карысталіся гістарычныя хронікі, якія адкрывалі англічанам іх славутае мінулае і прадракалі не меней слаўную будучыню. Зразумела, тагачасныя тэатры не выканалі

галоўную місію, ускладзеную на іх царквою і ўладай, — паляпшэнне грамадскіх нораваў. Брытанцы так і засталіся самай п'янай нацыяй у свеце, хоць злоўжыванне алкаголя часта дакаралася са сцэны. Аднак вышэйшая апека тэатра надала моцны імпульс развіццю ўсяму нацыянальнаму мастацтву.

Вядома, я не выступаю за тое, каб чыноўнікі рэгулявалі дзейнасць усіх тэтраў да драбніц. Пэўная культурная аўтаномія павінна захоўвацца, да таго ж, у дзяржаўных дзеячаў і без таго багата клопатаў. Але Міністэрства культуры магло б узяць за правіла фінансаваць у беларускіх тэатрах толькі пастаноўкі беларускіх аўтараў — класікаў і сучасных. Калі з'явіцца ў дырэктара або рэжысёра ахвота паставіць Шэкспіра або Мальера — калі ласка, за свой кошт. Тэатры могуць зарабляць грошы, калі будуць часцей спектаклі граць і актыўней заваблівоць гледачоў. На гэты конт таксама існуе багаты замежны досвед тэатральнага менеджменту. Але пакуль ён практычна незапатрабаваны, бо выпрошваць датацыі куды прасцей, чым вучыцца самастойна зарабляць. Часам здаецца, нібы тэатральны працэс заўжды будзе рухацца такім замкнёным колам: творчыя дзеячы будуць патрабаваць, каб ім далі грошы ды не клапаціліся, якім чынам іх выкарыстаюць, а дзяржава — адкупляцца ад енкаў датацыямі.

Але верыцца і ў тое, што з цягам часу нешта пераменіцца нават у тэатрах. Тым болей, што Беларусь ведае і станоўчыя прыклады змен. Гадоў пятнаццаць таму санаторна-курортная сфера нашай краіны здавалася безнадзейна стратнай. Тагачасныя кіраўнікі паўпустых здраўніц заяўлялі, што без дзяржпадтрымкі ўсё наогул разваліцца. У выніку падтрымку скасавалі, старых кіраўнікоў замянілі на прагрэсіўных, і неўзабаве курортная сфера стала адной з прыбытковых у нацыянальнай гаспадарцы. А чым тэатры горшыя за санаторыі?

* * *

Непрадказальным чынам часам складваюцца вынікі творчасці.

Лопе дэ Вега напісаў каля 2200 п'ес (захавалася не болей за 1800), Кальдэрон дэ ла Барка — 400, Шэкспір (хто б ні таіўся за гэтым імем) — 37. А на сусветнай тэатральнай сцэне ў апошняе стагоддзе ставяць не болей за тузін п'ес кожнага з гэтых драматургаў. Наўрад ці самі яны маглі прадказаць, што менавіта з напісанага перажыве сваіх стваральнікаў.

Аляксандр Грыбаедаў напісаў чатыры п'есы (дзве з іх у суаўтарстве), але дагэтуль ставяць толькі адну — «Гора ад розуму». Пры жыцці паэт так і не дачакаўся пастаноўкі свайго тварэння.

Агюстэн Бамаршэ пісаў камедыі пра Фігара ў перапынку паміж прадпрымальніцкай дзейнасцю ды фінансаваннем Амерыканскай Рэвалюцыі. Урэшце ўсе ягоныя авантуры пацярпелі крах і толькі аўтарскія адлічэнні за «Севільскага цырульніка», «Жаніцьбу Фігара» ды драму «Вінаватая маці» ўратавалі Бамаршэ ад галечы.

Камедыі ды трагедыі Шэкспіра не карысталіся папулярнасцю пры жыцці аўтара. У іх былі задзейнічаны дзясяткі персанажаў, між тым, гралі спектаклі нешматлікія трупы. Адзін акцёр мусіў выконваць шэраг роляў, часам палярных па характарыстыцы, і гледачы (якія ў XVII стагоддзі ў тэатр цвярозымі не хадзілі) не паспявалі зразумець, каго бачаць на сцэне. Сапраўдная слава прыйшла да Шэкспіра толькі пасля смерці, калі ў пастаноўшчыкаў з'явілася магчымасць скарачаць тэкст і колькасць дзеючых асоб. Тады толькі, ачышчаная ад шматслоўя, заззяла глыбінёй метафар і красамоўных параўнанняў мова несмяротных шэкспіраўскіх персанажаў.

Мікола Макіявелі напісаў звыш 20 празаічных і вершаваных твораў, у тым ліку тры п'есы, але праславіўся невялікім па аб'ёме трактатам «Гасудар», які стварыў у 63 гады, каб «пацешыць розум».

Прыкладна столькі ж — звыш 20 найменняў — стварыў і Джакама Казанова. У тым ліку драматычную камедыю, трохтомнае даследаванне гісторыі Рэчы Паспа-

**Выпрошваць датацыі куды прасцей, чым вучыцца самастойна зарабляць. Часам здаецца, нібы тэатральны працэс заўжды будзе рухацца замкнёным колам**

літай, пяцітомны ўтапічна-фантастычны раман «Іказамерон», а таксама зборнікі па вырашэнні геаметрычных задач. Калі яму споўнілася 64 гады, гэты знямоглы бабнік, які жыў у чэшскім замку на правах нахлебніка, з горыччу канстатаваў, што яго літаратурныя здабыткі не прынеслі яму ані славы, ані прыбытку. І дзеля душэўнага суцяшэння Казанова сеў пісаць біяграфію. Аднак уласнае жыццё падалося яму настолькі нікчэмным, што Казанова прыдумаў сабе новае, як сёння назвалі б, віртуальнае, у якім ён быў галантны авантурыст, пястун Фартуны і жаночы ўлюбёнец, майстар завабіць у ложак любую спадніцу. Так ён стварыў паралельную рэальнасць XVIII стагоддзя і палепшаную копію ўласнай асобы ў дзесяці тамах. Так перажыў нанава сваё жыццё, вярнуў, паводле Марсэля Пруста, «страчаны час». Дарэчы, большасць з 3500 старонак яго нудотнай біяграфіі былі прысвечаны інтымным стасункам Казановы не з жанчынамі (ён прымаў іх за прымітыўных, абмежаваных розумам асоб), але з мужчынамі. Маральнае суцяшэнне на схіле паўжабрацкага жыцця, аднак, не займела матэрыяльнага падмацавання. Свой рукапіс Казанова так і не апублікаваў, а на парозе смерці завяшчаў таўшчэзны рукапісны стос далёкім сваякам. У іх куфары «Біяграфія» Казановы пылілася яшчэ трыццаць гадоў, пакуль яе ўрэшце апублікавалі ў 1828 годзе ў энцыклапедычным выдавецтве Бракгаўза. (Сыходзячы з тагачасных уяўленняў пра мараль, у тэксце пакінулі апісанне толькі гетэрасексуальных любошчаў і выдалілі ўсе залёты гомасексуальнага кшталту, скараціўшы кнігу больш чым напалову.) На той момант у жывых не засталося анікога, хто мог бы аспрэчыць заяўленыя Казановай «авантуры», а паколькі час у Еўропе пасля напалеонаўскіх войнаў быў песімістычным для розуму і галодным для страўніка, то «Біяграфія» Казановы нарадзіла міф пра «Галантную эпоху» — залаты час, які сытыя арыстакраты марнавалі пераважна ў ложках чужых жонак. На працягу наступных двухсот гадоў кніжку Казановы экранізавалі звыш ста разоў — і кожны раз усё далей ад першакрыніцы. І па сённяшні дзень Казанова з'яўляецца такім жа несмяротным персанажам, як Дон Кіхот або Адысей, і такім жа нерэалістычным. А прыклад рэальнага Джакама Казановы пераконвае, што трэба жыць як мага даўжэй. Бо тады ёсць шанец, што перажывеш усіх сучаснікаў, прыдумаеш сабе новую біяграфію, у якой атрымаешся галоўнай асобай стагоддзя, і ніхто цябе не абвергне.

Доўгае жыццё пражыў і Даніэль Дэфо. Напісаў звыш 500 кніжак і артыкулаў, заснаваў эканамічную журналістыку і англійскую знешнюю разведку (знакамітую МІ-6), але праславіўся толькі ў 59 гадоў, выдаўшы ў 1719 годзе псеўдадакументальны твор з не вельмі лаканічнай назвай — «*Жыццё, незвычайныя і дзівосныя прыгоды Рабінзона Круза, марака з Йорка, які пражыў 28 гадоў у поўнай адзіноце на бязлюднай выспе каля берагоў Амерыкі блізка ад вусця ракі Арынока, куды ён быў выкінуты караблекрушэннем, падчас якога ўвесь экіпаж карабля, акрамя яго, загінуў, з выкладаннем нечаканага вызвалення піратамі; апісаныя ім самім*». Гэты раман укараніў моду на падарожжы гараджан у сельскую глыбінку — у сядзібу або на пікнік — абы здаволіць падсвядомую чалавечую прагу да існавання ў суладдзі з прыродай. Пазней Дэфо выдаў яшчэ дзве кнігі пра вандроўкі Рабінзона. У адной герой валацужыў па Тартарыі (так зваліся Расія і Кітай у тагачасным Альбіёне), а ў другой безупынна разважаў наконт маралі ды сэнсу быцця. Але ні гэтыя працягі, ні наступныя 12 прыгодніцкіх кніжак пра піратаў не займелі камерцыйнага поспеху.

Навошта я паглыбіўся ў літаратуразнаўства?

Ды, пэўна, каб сцвердзіць, што творы жывуць уласным жыццём. Але, каб яны займелі такі шанец, *твор* трэба *стварыць*. Якая ў яго будзе біяграфія, ад творцы часта не залежыць.

Чытаць сёння нудотныя «цагліны» Аляксандра Дзюма аб прыгодах мушкецёраў — справа, якая вымагае фізічнага напружання. Кожны ўчынак там абмяркоўваецца на дзесяці старонках. Такую ж нуду выклікаюць і апавяданні Артура Конан-Дойла пра сышчыка з Бэйкер-стрыт. Шэрлак Холмс апісаны ненатуральна бездакорным. Не дзіва, што пра паўсотні п'ес і пра дзве сотні раманаў Дзюма забыліся ў сучаснай Францыі, а Конан-Дойл страціў папулярнасць яшчэ пры жыцці. Тым не менш, «народжаныя» імі

Д'артаньян і Шэрлак Холмс пераджылі сотні кінаўвасабленняў — галоўным чынам таму, што не падобныя да сваіх першакрыніц.

У беларускай літаратуры не магу прыгадаць літаратурных постацей сусветнага маштабу. Але на ўзроўні нацыянальнай памяці не забываюцца Міколка-паравоз, палескія рабінзоны Мірон і Віктар, сукупны вобраз партызан часоў Вялікай Айчыннай. Можа, з цягам часу, калі ажыве айчынны кінематограф, нацыянальную душу ўвасобяць постаці Андрэя Беларэцкага або шляхціца Завальні. І чым болей будзе «важыць» наша эканоміка ў рэйтынгах ААН, тым хутчэй набудуць сусветную вядомасць беларускія мастацкія вобразы.

* * *

У 1980-х я вучыўся ў сярэдняй мінскай школе ў Сляпянцы. Біліся там хлопцы часта — у калідорах, на ганку, ля плота. З часоў юнацтва я цвёрда засвоіў: самае благое ў бойцы — калі збіваюць з ног. Бо ўзняцца ўжо не дадуць, будуць мясіць ботамі. Калі ж паваліўся, то трэба закрыць галаву рукамі, бо пацэляць па макаўцы або па скронях. (Добра ведаю, наколькі трывушчыя рэбры, калі па іх барабаняць кулакамі, або як іскры сыплюцца, калі табе патрапілі ў вока.)

У 2013 годзе я адчуў сябе, бы ў школе пасля ўрокаў. Дарогу маім п'есам перагарадзіў неадольны шлагбаум. Я літаральна адчуў сябе збітым з ног. Далейшая драматургічная творчасць губляла ўсялякі сэнс. Толькі цяпер я зразумеў, што меў на ўвазе паўтара стагоддзя таму Янка Лучына, калі гаварыў, што той, хто «піша ў шуфляду», прыпадабняецца да малпы, якая цягае каменне з поля.

Сапраўды, якая радасць ствараць для сябе? Пісьменнік або паэт дакладна не ведае, колькі чалавек прачытаюць напісанае ім, але яго сагрэе надзея, што апублікаваная рэч знойдзе свайго чытача. А драматург анічога не варты без гледачоў, якія ў глядзельнай залі ўспрымуць ягоную плынь свядомасці, падзеленую дзеля зручнасці на рэплікі ды маналогі.

Мне споўнілася сорак два гады і падалося, што шлях у драматургіі, які доўжыўся ўсяго тры гады, скончаны. Выпрацаваны за школьныя гады інстынкт змусіў мяне ўнутрана сканцэнтравацца, падрыхтавацца да новых балючых удараў.

Аднак лёс, адабраўшы сцэнічныя перспектывы, узнагародзіў мяне больш шчодра. 14 лютага 2013 года, у дзень найпадобнага Цімафея, мая жонка нарадзіла сына, якога мы ахрысцілі Цімафеем. Шчасце бацькоўства не зразумее той, хто яго не перажыў. Прачынаешся разоў дзесяць на ноч ад крыку немаўляці, удзень у паўсонным стане цягаешся за ім па кватэры, пільнуючы, каб той што-небудзь не зрынуў на сябе са стала, замілавана пазіраеш, як ён, седзячы пасярод пясочніцы, асыпае сябе пылам з галавы да ног, і разумееш, што бацькоўства — лепшая пара ў жыцці мужчыны.

Аднойчы пяць гадоў таму, калі я прачнуўся сярод ночы ад страху смерці, то сказаў жонцы, якая таксама абудзілася, што невыносна шкада тых сваякоў, што сышлі ў нябыт. Мая мудрая Кацярына, паціраючы сонныя вочы, параіла:

— А ты ўяві самае лепшае месца, куды б хацеў патрапіць. І дапусці, што менавіта там яны і знаходзяцца. Хіба не заслужылі?

Цяпер, разважаючы наконт таго, як буду бавіць час пасля таго, як міну парог смерці, я ўяўляю, што ахвотна займуся тэатральным пісьменніцтвам. У тамчасным свеце мае п'есы будуць пастаўлены менавіта так, як мроіцца мне зараз, калі слухаю музыку любімых выканаўцаў. А жонка неадменна нагадае:

— Ці не казала я, што маё прызнанне твайго таленту каштуе куды больш, чым прызнанне ўсяго свету?

Я з ёю, зразумела, пагаджуся.

Хіба я адзіны драматург, у якога напісаныя п'есы не ідуць на сцэне. Ды на Беларусі такіх дзясяткі, калі не сотні. І кожны мусіць сам знаходзіць суцяшэнне. І калі пераканаеш сябе, што ўсё адбываецца для нейкай, пакуль незразумелай карысці, то лёс табе лагодна ўсміхнецца.

А каб праверыць, ці насамрэч усё так і адбудзецца, варта шанаваць тое, што маем, і не шкадаваць пра тое, чаго не адбылося, паводзіць сябе ў адпаведнасці з катэгарычным імператывам Канта і пражыць яшчэ гадоў сорак. Мо і больш.

*Анастасія КАЦЮРГІНА*

# ЦЯЖАРНАЯ СЛОВАМ



***Анастасія Кацюргіна нарадзілася 8 красавіка 1992 года ў Гомелі. Друкавалася ў «Літаратуры і мастацтве», «Літаратурнай Гомельшчыне», прадстаўляла «БрамаМараўскі» нумар «Маладосці» артыкуламі ў намінацыі «Крытыка». Піша вершы і прозу. У 2011 годзе свет убачылі зборнікі вершаў «Пад ветразем ранку» і «Парасон».***

* * *

*Т. Булгакавай*

Лёгкасці ветру
не стае,
што ж да мяне!..
Снежань... Ён цеплыню разрэжа
І горад — яблык саспелы.
Ўвап'юцца ў духмянае цела
вусені ўсіх метро.

За снегам прыйдзе святло,
І ў доме зялёным-зялёным
стане ўсё
улюбёным!..
І ляжа зіма-зіма...
Бярэцік будзеш здымаць,
Люстэрку не ўсміхнешся.
У ціхай штодзённай песні
Тралейбусам паплыве сіняе-сіняе...

І да бясконцасці:
Табе цішыні нестае,
мне — не хапае лёгкасці...

* * *

Застаюся цнатлівай!..
Калыша лясы
Да начной нематы
Твой расчулены голас.
Тут разлітая боязь
Мілых рук.
Толькі ты
Не спыняй і яшчэ
папрасі: «Пацалуй!»
Пад сукенкай насіць

Кожны дотык (да
ўскрыку шчаслівы).
Застаюся цнатлівай!..
І крыж мой даруй!
Бо яшчэ і абдымкі хаваюць належна
твой спакой,
незалежнасць маю…
Светлы Мой, я і сэрца спыню,
Каб ты спаў легкакрыла!
Застаюся цнатлівай!
Устаю на лязо
У адзінай прасцінцы з аблокаў і зор
І сябе за цябе абдымаю.
Пагляздзі, я
ужо не трымаю
За краёчкі.
Трываю ледзь-ледзь —
Усюды неба, і страшна ўзляцець…
Толькі шчасце і сэрца прымусіць:
— Застаюся з табой…
Застаюся!..

* * *

Я сэрца слухаю,
сэрца проста
стукае, бы дзіця.
Нашто сягоння ўваскрос ты
усмешкаю
у грудзях?

Цяжарная словам, здрадзіць
Баюся сваёй віне —
Усмешкаю немаўляці
Ён свеціць і праз мяне.

Я слова яго не варта.
я сонцам яго нясу.
Ён крыж мой,
святло і вартасць жыцця
і яго прысуд.

Дзіця (унутры) — не болей —
зняверана не маўчы!
Тваёй цішынёй, як болем,
Разбуджана ўначы!
«Сту-чит!»

І смяяцца хоча
Абуджаны ў сэрцы Хлопчык.
Яму і ўнутры так цесна,
Цнатлівы Мой, Уваскрэслы.

Мне ўсё праз Цябе даруюць...
Я гэтак Цябе цалую,
што станаўлюся песняй!

Ды й стуку ўжо не чутна!...
О, Госпадзі, мой магутны!..

* * *

Госпадзі, беражы яго
Ад сонца ілжывага
Светлай Сваёй Любоўю!

І гэту атруту,
болем названую,
(нязваную?)
падзялі
для нас на паловы роўныя,
крывавыя — значыць, кроўныя!

Госпадзі, роднага
да Светлай Мяжы
з яго апантанасцю зберажы!

Калі
і надзеі скончацца,
у небыццё захочацца
Да прорвы той падыдзі,
Дай руку Сваю, Госпадзі,
Рабу Твайму!
Вымаліць
Дазволь, яго лёс выбеліць
Не словамі, дык душою.
Ну, а мяне чужою
пакінь!

Я болей
не буду
сонцам над ім.
А ён рабом будзе толькі Тваім
І гэтай Любові...
Амінь.

* * *

І Бог пачуе!
Ты сам прыснішся —
такі расчулены.
Рукі заблудзяцца ў валасах.
…Толькі нябёсы даюць у пасаг
мне.
…Сонца б выпіць,
і памяць астыне!

Ды пацалункам збягае па спіне
Гэта лязо.
У палоне нажа
плоццю хварэе рука і кінжал.
Цела не верыць, што стала алеем —
проста метал кожны раз пунсавее.

Бог не пачуе!
І варта крычаць
Толькі ад дотыку злога пляча.
Злога ды роднага…
Як жа не марыць
Аб першародным шчасці — ударыць?

Толькі б да смерці!
Такія грахі,
Божа, дай сцерці з любімай рукі!..

* * *

Нашто я табе хворая
Ва ўсмешцы сваёй, збалелая?
Так рука мая белая
Снегам тваю далонь накрыла.
Мы здабылі стомленасць крылаў,
Зморанасць подыху навальнічнага.
А калісьці была крынічнаю
Свежасць вуснаў тваіх сонных,
Цеплыня і пакорлівасць,
бездакорнасць,
запаветнасць,
бяздоннасць?
Вучаніцай стараннаю
Выдумляю найменні самоце.
Ты ёй станеш.
Разлажэнне,
распад на імгненні,
што
у нас
на сыходзе.
І пытанні,
І вечнае спасціжэнне
ненароджанных страт.
Значыць, кожнаму кат
Выдумляе сваю адзіноту!..
Ты прыходзіш у слоту
Маю і здымаеш боты
на парозе. І мне сорамна:
Я стаю дакорамі стомленая.
Зmoраная па дарозе
на шыбеніцу кахання,
(«забіць, але не параніць!»).
Так наступае ранне
сабе на горла.
Сорамна!
Спяшаемся,
пакуль прачынаецца горад.
Ды я ўжо хворая!
На тое, што дорыць
даросласць,
разумнасць,
сталенне:
Адчайнае гэта гора,
Салёнае самае мора —
Цярпенне....

Юльцэсь ГАЛОЎЧЫЦ

# КВІТОК ДА БАЦЬКОЎ



***Юльцэсь Галоўчыц нарадзіўся 3 ліпеня 1985 года ў Мінску. У розны час атрымліваў мастацкую і музычную адукацыю, перыядычна працаваў у гэтых накірунках. Глыбока цікавіцца аўтэнтычным фальклорам. Некалі ўдзельнічаў у рэканструктарскім руху. Заўжды быў моцна звязаны з літаратурай. Улюбёныя аўтары: Пелевін, По, Лаўкрафт, Юнг.***

Дзень абяцаў быць надзвычай прыемным. Указвала на гэта многае: ветлівыя павевы ветрыка, травеньскае цёплае сонца і квіток на цягнік да бацькоў. Мяне з дзяцінства вабіла дарога, нават, калі суткамі ехалі ў вагоне, аўтобусе ці машыне. Гэтая бясконцая змена даляглядаў за акном, змена часу дня і асветленасці наваколля, змена надвор’я і паху паветра. Можна стаць сведкам сотняў гісторый і ўбачыць тысячы твараў, нават не выходзячы з цягніка. Асабліва ўражвала гэтае цікавае адчуванне несапраўднасці рэчаіснасці: як магчыма тое, што ты ўжо некалькі дзён знаходзішся ў адным памяшканні, але пабываў у розных краінах, перасек шмат мерыдыянаў? Можа, тады ты нікуды і не рухаўся, проста хтосьці за акном перасоўваў наземныя пліты, па прынцыпе каруселі ў парку атракцыёнаў, ці да твайго цягніка падкочвалі, як тэатральную дэкарацыю, новы краявід?

Бывае, калі едзеш уначы і колы адбіваюць першабытныя рытмы, часам сон выпускае цябе са сваіх абдымаў, і ты расплюшчваеш вочы, нават не разумеючы, ці спаў увогуле. За акном, у цемры, звычайна бачыцца нешта зусім новае, нешта неверагоднае, казачнае. І, нібы ў здзек, машына не спыняецца, едзе далей, і ты не можаш выйсці вонкі ў гэтую чароўную вабную прастору. І шчыміць сэрца туга, але ты ўсё ж засынаеш, патанаючы ў іншы паралельны свет, а прачнуўшыся ўранку, зноў назіраеш непаўторную прыгажосць. І калі бачыш бясконцыя лясы ці зацягнуты ў белы ранішні ватналёгкі туман лог, то пільна ўглядаешся ў імклівыя кадры, стаіўшы дыханне, бо ў цябе толькі некалькі секунд, каб назаўсёды захаваць гэтае месца і ўсю яго адметнасць ды дэталі ў памяці. Ці тое старажытныя могілкі, ці самотны конь у полі, ці затоены між дрэў хутар — знакі прыгод і таямніц.

І ўсё гэта такое адрознае ад таго, што звычайна бачыш у родным горадзе: запыленыя аўтамабілямі праспекты, бетонна-шкляныя гмахі і падрубленыя невысокія дрэўцы. Вось і цяпер мяне сціскаюць гарадскія вуліцы і бяздушныя сцэны, але я хутка кіруюся да вакзала. Нарэшце

атрымалася дабрацца да чыгункі: платформа, цягнік — і я ў купэ. Побач аднаразовыя незнаёмцы, часцей за ўсё нецікавыя і не такія загадкавыя, як тыя краявіды, што чакаюць мяне ўжо праз некалькі хвілін. З сабою невялікі заплечнік і пакуначак з ежай: мінералка, яблык і слойка. А больш і не трэба, бо ў заплечніку прыхаваны томік з чарадзейнымі прыгодамі. Дзіўна, але ў дзяцінстве не так моцна падабалася чытаць казкі, як цяпер.

Разгарнуўшы кнігу на чарговай цікавай гісторыі, пачынаю чытаць: «У адным далёкім уладарстве Файдрэйк жыў дзіўны малады каралевіч Серпент. Замак яго — Афідыян — знаходзіўся ў самым сэрцы пракавечнай дубровы Афіялатры, якую з усіх бакоў ахоўвалі-атачалі ад чужынцаў і незапрошаных мінакоў-вандроўнікаў высокія курганы і халодныя могілкі Энгвана. Апошнія непарыўным ланцугом стаялі на варце цішыні і спакою Файдрэйка. Такія маркотныя краявіды-далягляды вельмі моцна ўплывалі на заўсёды сумнага Серпента. Юнак з кожным днём станавіўся ўсё больш змрочным і маўклівым. Бацькі прынца не заўважалі настрояў сына, што чуў спевы-галашэнні птушак, бачыў у нябёсах пагрозлівыя вобразы згубы і самотна блукаў па бясконца мудрай Афіялатры.

А прырода Файдрэйка і сапраўды высільвалася беднага прынца знішчыць, нават пакінула яму свой д’ябальскі падарунак, наслаўшы на яшчэ малога нашчадка каралёў такі заклён, які ледзь не пазбавіў наіўнага хлопчыка зроку. Так на ўсё жыццё і засталося ў яго адно вока меншым, а другое — большым. І бачылі тыя вокі* ўсё па-рознаму, нібы не адзін чалавек імі глядзеў, а два.

Гэта і сталася прычынай яго невытлумачальных для іншых паводзін: дзівакаваты Серпент адмаўляў усім князёўнам, якіх яму знаходзілі старыя кароль з каралевай. Глядзеў самотны прынц на незвычайных красунь і чароўных прыгажунь сваім малым вокам і бачыў толькі іх пустыя вачніцы і сапраўдныя злосныя сутнасці. Таму бацькі хутка перасталі спрабаваць ажаніць яго і пакінулі ў спакоі.

Тады загадкавы каралевіч змог пасяліцца ў паўночнай вежы Афідыяна — Вайпары, і замкнуўся там ад усяго і ад усіх. Дзіўны летуценнік не сумаваў, таму што больш за ўсё любіў Адзіноту, якая спявала яму перад сном чароўныя калыханкі-заклёны, навяваючы сюжэты для сноў-фантазій і мрояў-трызненняў.

Але аднойчы самотны прынц убачыў праз сваё акенца таямнічую красуню, якая адразу прывабіла яго халоднай адчужанасцю постаці, загадкавым нахілам галавы і танклявым вабным станам. Яна падалася такой самай, як і ён: далёкай ад гэтага знешняга варожага свету.

З часам рамантычны каралевіч так закахаўся ў прыцягальную незнаёмку, што і ўявіць не мог без яе сваё існаванне. Штовечар ён пазіраў з аканіцы Вайпары долу і дзівіўся паставе сваёй каханай, якая пазірала на захад, але акрамя здзічэлага і мёртвага Энгвана бачыць нічога не магла. Тады ўяўляліся яму розныя міфічныя краіны і казачныя сусветы, дзе яны разам будуць некалі вандраваць Шляхам Пошуку Сэнсаў.

Але прынц-дзівак не ведаў імя сваёй абранніцы, і таму, нарэшце, наважыўся пазнаёміцца з дзяўчынай. І такім глыбокім быў яго спуд, калі, наблізіўшыся да сваёй уяўнай мары, ён убачыў замест нахіленай, як бярозка, прыгажуні, цень вялізнай галіны магутнага дуба, што адкідаў свае чорныя адбіткі далёка навокал. Зразумеўшы ўсю трагічную безвыходнасць свайго становішча, малады Серпент імгненна кінуўся ў Афідыян, загадаў спілаваць галіну і потым ізноў замкнуўся ў Вайпары ад жывога і ад мёртвага. Але аднойчы каралевіч наважыўся паглядзець са свайго клятага акна

* Слова аўтара.

на ранейшае месца сваёй прывіднай мроі, і як толькі стомлены прынц убачыў скалечанае дрэва, то такі вусціш авалодаў яго душой, што на ўсё наваколле раздаўся нечалавечы гучны рокат — і беспрытомны каралевіч пачаў хіліцца вонкі з чорнай аконнай дзіркі».

Літары канчаткова расплыліся перад вачыма, і тухканне колаў цягніка калыханкаю ўгайдала мяне на адну-дзве гадзінкі. Сніўся нібы і працяг, але і не зусім гэтай гісторыі. Нейкі тунэль, палёт, чарговы іншасвет. Там мне давялося зірнуць у горла глыбокага калодзежа і трапіць у дзіўную пастку: гэта я, там, унізе, гляджу на сябе ў адказ? Ці гэта нейкі вязень-нешчаслівец? Трэба спусціцца па яго і ўратаваць бедака? Ці бяспечней назіраць зверху?

Але лепшым выйсцем падалося лезці ў дзірку. Знайшлася недзе вяроўка, на якой неабходна было навязаць вузлоў і замацаваць на дрэве, і пасля гэтага засталося толькі адно: наважыцца перакінуць нагу. І зрабіць тое мне давялося. Глядзець уніз было страшна, таму заставалася проста апускацца ў цемру ўсляпую. Спуск падаўся неверагодна доўгім. Рукі сцерліся ў кроў, цяглiцы на нагах напяліся і невыносна забалелі. Вяроўка рыпела, і, здавалася, што вось-вось здарыцца нешта непапраўнае: альбо зламаецца дрэва, альбо вузел развяжацца, альбо нехта перарэжа трос — і ты сарвешся ды паляціш. Як у «Алісе ў краіне цудаў», пачнеш падаць, нібы ў глыбокі тунэль. І ці тое тунэль будзе вельмі глыбокім, ці тое падаць ты будзеш вельмі павольна. І няўжо гэтаму не будзе канца? І ці не праляціш ты ўсю зямлю наскрозь? Як у тым жудасным «Падзенні ў Мальстрэм» Эдгара По.

Хаця куды там жахаўкам По, калі адчуваеш, што тут і цяпер ты больш зусім не маеш сіл: і ўгару не ўзняцца, а толькі долу, адкуль і выйсця іншага не будзе. Адзіная магчымасць — счакаць там троху, набрацца сілы і лезці назад. І вось — шлях пераадолены. Ногі ступілі ў сцюдзёную ваду, і нешта нібыта ўхапіла за ступак, але тое, відаць, слізкія заімшэлыя камяні дна. Але нават гэтыя маленькія каменьчыкі выклікалі ў душы вусціш.

Так, я на месцы, але тут нікога няма. Выцягваю рукі і намацваю цвёрдыя сцены — без таемных хадоў і лёхаў. Але гэта немагчыма! Калі акрамя мяне тут больш нікога няма, то куды падзеўся той дзіўны вадзянік, што роспачна глядзеў на мяне з гэтага самага месца? Мяне ахапіў адчай і злосць. Як мне цяпер выбрацца? Сіл няма і нікога побач, хто б дапамог, таксама. З горла вырваўся гнеўны рык, а потым увогуле аглушальны звярыны кліч, што агаломшыў і мяне самога. Нібыта крычаў яшчэ нехта зверху і, сапраўды, на мой здзіўлены позірк угору мне адказалі жахлівым пытаннем гэткія самыя ачмурэлыя вочы. Адтуль, з неба, на мяне глядзеў мой блізнюк ды крычаў з той жа гучнасцю, што і я!

Шчыра кажучы, хоць гэта быў толькі сон, але пасля яго сэрца напоўнілася трывогай. Уратавала тое, што грукат цягніка вырваў з гэтай халоднай ямiны. І, зноўку паглыбіўшыся ў кнігу на апошняй прачытанай старонцы, мяне зацягнула ў новы містычны вір: «Але не ўсё ў Файдрэйку прагнула смерці кволага юнака: яго шалёны дзікі енк пачула мясцовая вядзьмарка, якая жыла недалёка ў навакольных лясах і здаўна паглядала на невясёлы Вайпар з галіны таго самага высокага і раскідзістага дуба. Звярнуўшыся да ўсіх сваіх магічных сіл і гучна заспяваўшы маркотную песню Афіялатры, яна папрасіла духаў Файдрэйка дапамагчы. Пачуўшы дзівосны спеў, слабы Серпент імгненна выпрастаўся і паспеў ухапіцца за падаконне. Нібы ачуняўшы ад шматгадовага сну, прынц захацеў абавязкова дазнацца

пра незвычайную спявачку як мага болей. Ён накіраваўся насустрач яе голасу і доўга-доўга блукаў у зялёных дубровах. І толькі знайшоўшы сваю вядзьмарскую выратавальніцу, самотны юнак нарэшце ўбачыў усё сваімі align=розпапамернымі вокамі правільна і сіметрычна.

У тую самую хвіліну адроджаны каралевіч з яшчэ большым імпэтам памкнуўся да прыгожай чараўніцы, але, як толькі ён пачаў набліжацца, тутэйшая вядзьмарка пачала адыходзіць глыбей у нетры Афіялатры і ўсё працягвала спяваць свой магічны гімн. Акрылены Серпент крочыў за вандроўнай спадарожніцай, якую так і не мог дагнаць, бо адлегласць паміж імі не змяншалася, колькі б ён ні рабіў намаганняў. Так шпацыравалі яны дзень за днём, тыдзень за тыднем, месяц за месяцам. А калі сцішаны прынц ужо страціў надзею на знаёмства з чароўнай німфай, то яна адразу спынілася і павольна павярнулася да знямоглага пакутніка. Зірнуўшы ў твар чароўнай спявачкі, разгублены каралевіч нарэшце змог разгледзець яе вочы, адно з якіх было азёрна-вадзяністага колеру, а другое — балотна-бурштынавага. Загадкавая вядзьмарка ўсміхнулася зачараванаму вандроўніку і паклікала яго рукою да сябе. Здзіўлены, ён стрымгалоў кінуўся насустрач лясной жыхарцы, і нават спачатку не заўважыў, што пад нагамі яго была ўжо не цвёрдая зямля, а глыбокая, вільготная, бясконцая бездань, якая пачала зацягваць прыўкраснага Серпента ўсяго цалкам»…

Цягнік спыніўся на маёй станцыі, таму закладаю квітком старонку і кніга імкліва ляціць у заплечнік. Што будзе з каралевічам і вядзьмаркай? Не ўяўляю. Але пасля вячэры з бацькамі абавязкова даведаюся.

*Вадзім КРУК*

# РЫЦАР, ВІСКІ І ROCK'N'ROLL



***Вадзім Крук нарадзіўся 15 снежня 1987 года ў Кохтла-Ярве ў Эстоніі. Па адукацыі інжынер, працуе ў банку. Любіць вандроўкі, гісторыю і рок-музыку. Цікавіцца традыцыйнай беларускай кухняй. Лічыць, што і ў штодзённай руціне тоіцца шмат захаплялънага, калі толькі да яе ўважліва прыгледзецца.***

…Што ж гэта за цудоўны інструмент такі — гітара? Дальбог, д'яблава задума. Спецыяльна рагаты падарыў яе людзям, каб струнамі, быццам сеткай, лавіць душы людскія. Больш за тое, яшчэ і адмысловую музыку пад гэтую справу арганізаваў — рок-н-рол называецца. Трасіся і круціся. Музыка моцных, рамантычных; музыка абурэння, жалю і свабоды; музыка сексу і цноты. Сколькі розных пачуццяў можа перадаць яна — то змрочная, быццам багна, то празрыстая, як веснавы ручай! А гітарнае сола пасярод песні? Ці не замірала вашае сэрца, калі, імкнучыся прадказаць наступную ноту ў бясконцым гукавым струмені, вы несліся кудысьці ўверх?..

Маркотны блюз Мадзі Уотэрса, які толькі што на ўсю трохпакаёўку распавядаў пра цяжкія гадзіны рабскай працы на паўднёваамерыканскіх плантацыях, змяніўся густым, як англійскі туман у восеньскую ноч, гітарным рыфам ад Тоні Айомі, а ў таго ўжо быў гатовы перахапіць эстафету Джэймс Хэтфілд, гук гітары якога нагадваў рык бензапілы. Але чалавек, што стаяў каля акна, не звяртаў увагі на музыку.

«Так, Андрэй, — звярнуўся ён сам да сябе. — Гэта, здаецца, тваё найгоршае лета. Пяць гадоў жыцця ў Мінску, пяць гадоў вучобы — і вось ты зноў там, адкуль пачаў, у сваім горадзе. Аднак цяпер тут ні сяброў, якія разбегліся ў пошуках лепшай долі, ні юнацтва, а толькі размеркаванне і дні, што цягнуцца, як тыя пяцікурснікі на першую пару ў панядзелак. Становішча — дрэнь. Каб яго пранцы з'елі». Прамовіўшы апошнюю фразу ўслых, хлопец адышоў ад акна і агледзеў пакой.

Сёння быў суботні вечар. Новай кампаніі Андрэй яшчэ не знайшоў, а са старой на выходныя ніхто не прыехаў, таму заставалася ісці ў адзіны на ўвесь горад рок-бар «Iron man» у самоце, як пілігрым, што кіруецца ў Святую зямлю.

Андрэй быў настаўнікам англійскай мовы. Гожы высокі бландзін з доўгімі кучаравымі валасамі, сабранымі ў хвост, з шырокімі плячыма (займаўся боксам у юнацтве), ён нагадваў калі не маладога камандзіра варажскай дружыны, дык сярэднявечнага рыцара з рамантычных гравюр. А блакітныя вочы з дзёрзкай ільдзінкай, што

рабіла позірк жорсткім і нават здзеклівым, нейкім цудам спалучаліся з лагоднай усмешкай. Не адзіны жаночы бастыён быў скораны гэтым ваяром.

Больш за месяц прайшло з тае пары, як Андрэй прыехаў назад да бацькоў. Ён з дзяцінства хацеў вывучыць англійскую мову, але настаўнікам стаў выпадкова — на перакладчыка не хапіла балаў. Менавіта таму Андрэй лічыў два гады адпрацоўкі ў школе марнаваннем часу. Пасля ўсё роўна давядзецца мяняць працу. Толькі каму ты будзеш патрэбны з педагагічным досведам?

Пакуль хлопец знаходзіўся тут, ён заўважыў цікавую рэч: вярнуцца са сталіцы ў мясціны свайго юнацтва — гэта не толькі пераадолець прастору, але яшчэ і час.

За вокнамі цягніка мільгаюць дрэвы, якія быццам бы адлічваюць гадзіны ў адваротным кірунку, і вось ты ўжо сыходзіш на платформу і трапляеш у абдымкі роднага горада, а за спінай застаюцца дзве сотні кіламетраў і гадоў сем уласнага жыцця.

А тут усё як тады, калі ты апошні раз танцаваў на школьнай дыскатэцы альбо піў сваю першую пляшку піва каля гаражоў. Кожныя выходныя мясцовыя вуліцы, як і раней, боўтаюцца ў алкагольна-шансонным расоле, што тыя агуркі ў слоіку. Гопнікі шукаюць прыгод, невялікія купкі «элітарнай», па яе думках, моладзі спяшаюцца ва ўтульныя месцы, каб патусавацца без староннніх вачэй; панкі п'юць усё, што не атрута, на прыступках гандлёвага цэнтра і потым ванітуюць сабе пад ногі; скінхэды шукаюць замежных студэнтаў, а тыя сядзяць у інтэрнатах і забаўляюцца з дзяўчатамі. І ўвесь гэты навакольны свет абавязкова збярэцца ўвечары каля дыскатэк, начных клубаў і шапікаў з півам, дзе нехта будзе гарланіць песні ў караоке.

Між тым, недзе за даляглядам узнікалі субкультуры, нараджаліся і паміралі музычныя і грамадскія плыні, праходзілі мітынгі, віравалі войны ды палалі рэвалюцыі. Але ўсё гэта не магло разварушыць звычайную хаду тутэйшага жыцця, як не можа мураш зрушыць вялікі валун, што ляжыць на ўскрайку лесу. Хаця, шчыра кажучы, знешне горад стаў іншым, больш утульным. Ужо не стаялі на вуліцах старыя «Ікарусы», якія ўзімку здаваліся невялікімі філіямі ледзянога пекла, а летам — мабільнымі лазнямі. Былі адрамантаваны і пафарбаваны фасады будынкаў, перакладзена брукаванка, усталяваны новыя ліхтары. На жаль, не з'явілася пешаходных вуліц. Аднак, хто ведае, што будзе праз пару гадоў?

Горад змяніў свой твар, але ягоная душа змяняцца не хацела.

— Трэба збірацца. Чаго тут сядзець? Можа, хоць па вуліцах пахаджу, сустрэну каго, — сказаў сам сабе Андрэй і дадаў: — Та-а-ак, пачнеш тут, быццам шызафрэнік, сам з сабой размаўляць. А ці так гэта дрэнна? Чалавек сам сабе — добры суразмоўца. І ўвогуле, сёння пагутарыць з разумным — вялікае шчасце.

Сабраўся хутка: лета, адзення няшмат. Кашуля з доўгімі рукавамі, каб увечары камарэча не зжэрла, джынсы і кеды — вось і ўся вопратка.

У апошнія гады ў клубах і барах адзенню пачалі надаваць шмат увагі. Кеды пад татальнай забаронай паўсюль, акрамя «Жалезнага чалавека». Адна справа, калі прыхільнік песень пра турму, адпрацаваўшы на заводзе ці ў аўтапарку, ідзе адпачыць у лакіраваных, з выцягнутымі дзюбамі, дыхтоўных туфлях, а потым імі дае п'янага выспятка такому ж франту, не выходзячы з кавярні, і зусім іншая — калі туды прыходзіць настаўнік у кедах. Гэты вахлак адным сваім выглядам зняважыць пачуццё прыгожага шаноўных гасцей высакароднай карчмы.

А ў «Жалезным» па вопратцы не сустракалі. Туды ніколі не сунуліся тыя, хто, як кажуць, быў не ў тэме. Нават панкі, сябры рокераў, прыходзілі туды рэдка. Свабоду панка сціскалі такія дэмакратычныя сцены, якія, у дадатак, не звярталі ўвагі на правакацыі. Вядома ж, панк не можа без правакацый: разважныя месцічы ад аднаго ягонага выгляду не спяць паўночы. А яшчэ панк бывае філосафам.

Андрэй аднойчы хацеў дапамагчы такому, які не мог п'яным падняцца з лужыны, а ў адказ пачуў толькі патрабаванне адысці, не засланяць святло месяца. Чым не мясцовы Дыяген?

Атрымалася так, што раней за знешнім выглядам пільна сачылі толькі кампаніі гопнікаў, якія вырашалі, што значыць выглядаць «па-пацанску», а сёння гэта адсочваецца на амаль афіцыйным узроўні. Тады было цікавей: некалькіх дэталей гардэроба хапала, каб, як тут кажуць, выхапіць у лыч. А якія былі цудоўныя дармавыя дваравыя цырульні! Доўгавалосы рокер мог прыгламурыць прычоску паголенай паласой пасярод галавы ад ілба да патыліцы толькі за «дзякуй».

Андрэй ішоў па цэнтральнай вуліцы і з асалодай удыхаў летняе паветра. Учора ў парку скасілі траву, і таму горад пах вёскай. Не так, як гэта разумее сноб-гараджанін, а так, як насамрэч пахне вёска: скошанай на раніцу травой, сырадоем і сухімі яблыкамі-ягадамі з печы. Усё тут было цёпла і неяк па-свойску міла. Ад такой хатняй утульнасці Андрэй адвык у Мінску. Тут кожны калі і не ведаў кожнага, то мог лёгка знайсці агульных таварышаў. Хлопец ужо некалькі разоў паціснуў руку знаёмым, усміхнуўся прыяцелькам. У нейкім сэнсе горад, быццам вясковы падворак, быў працягам жытла гараджан, іх зонай камфорту. Даволі цікавая з'ява, улічваючы, што горад немалы па мерках краіны.

З такімі думкамі Андрэй адчыніў дзверы бара. Той сустрэў, як заўсёды, пахамі віскі, гарэлкі і піва, якія змяшаліся з клубамі цыгарэтнага дыму. Так яшчэ сустракае сябар, на вечарыну да якога спазняешся. Усміхаецца, ляпае па тваім плячы і прапануе келіх. Прывітаннем Андрэю былі словы: «Yes, I'm back. Yes, I'm back in black», якія гучна вішчаў у мікрафон недзе там, у Брытаніі, Браян Джонсан.

Дзверы ў бар — як дзверы ў Сусвет. Кожны дзень тут можна было далучыцца да вандроўкі: насіцца з горада — у горад, з краіны — у краіну, з канцэрта — на канцэрт, з эпохі — у эпоху. Губныя гармонікі Чыкага, падпольныя канцэрты піцерскага рок-клуба, стадыёны Англіі і фэсты кантынентальнай Еўропы месціліся пад адным дахам у беларускім горадзе.

Тут жыла маладосць. І не было ніякай розніцы між тымі, хто танчыў пад Элвіса ў шасцідзясятыя, трос хаерам пад Озі ў сямідзясятыя ці паказваў «казу» ўжо ў наш час. Бацькі і дзеці былі на адной назе — музыка аб'ядноўвала ўсіх. У такія месцы заходзілі душы мёртвых музыкаў, каб выпіць нябачны келіх са сваімі жывымі фанатамі.

А знешне — рок-бар як рок-бар: старыя постары на сценах, гітары, кружэлкі. Сталы, што нагадвалі барабаны, музычны аўтамат у куце, свяцільні, стылізаваныя пад сцэнічнае асвятленне, і, канешне ж, сцэна для жывых выступленняў — вось такі аскетычны інтэр'ер сустракаў наведвальніка.

Андрэй падышоў да бармэна, каторы, як і належыць бармэну ў вольны час, праціраў келіхі сурвэткай.

— О, каго я бачу! Здароў, Андрэй, — бармэн паціснуў яму руку. — Як справы, змагаешся патроху?

— Здароў, Дзіма. Ды ну яго. Усё будзе так, як і павінна быць, як ты ні змагайся.

— Ага, бачу, сёння да нас зайшоў настаўнік-фаталіст, — Дзіма ўсміхнуўся. — Ну, і што будзе піць фаталіст? Што там у цябе пад такі абыякавы настрой?

— Давай віскі. Гэта ў мяне пад будзь-які настрой.

— Чыстае?

— Не, давай з ільдом. Спёка ўвесь дзень, куды тут яшчэ і чыстае? Ну, а як вашыя справы, ёсць кліенты?

— Сам разумееш, у нашым горадзе прыхільнік такога месца — на вагу золата. Таму бачыш, як мы ўсім дагадзіць стараемся.



*Малюнак В. І. ПУЗАНКЕВІЧА.*

— Дзякуй, — Андрэй усміхнуўся. — Ну, а новыя людзі заходзяць, ці ўсё старая кампанія?

— Бываюць і новыя. Вунь, глядзі, дзяўчо сядзіць у куце каля аўтамата. Вось яна — новая. Другі дзень запар прыходзіць, і ўсё адна.

Андрэй утаропіўся ў кут і ўбачыў яе. Дзяўчына сядзела, адкінуўшыся на спінку крэсла, і задумліва глядзела перад сабой. У яе чорных, колеру грэчаскіх маслін, прамых валасах, вузкіх плячах, пульхных вуснах і крыху кірпатым носіку тоілася простая і адначасова высакародная прывабнасць…

— Прыгожая, — працягнуў Андрэй. — А што звычайна замаўляе?

— А табе якая справа? — Дзіма хітра прыжмурыў вочы. — Маеш планы на паненку?

— А ты глянь, яна ж сапраўдная красуня. І адна ў такім месцы.

— У якім — такі-і-ім? — у голасе Дзімы пачуліся ноткі крыўды.

— У мужчынскім. Дык што яна замаўляе?

— Не паверыш, каву. Але просіць дадаць туды кроплю каньяку.

— Добра. Значыць, буду імправізаваць. З кавай да яе не пад’едзеш, — Андрэй пацягнуўся, адчуўшы новы выклік і яшчэ нешта такое, што ён пакуль не здолеў зразумець. — Абнаві мне і зрабі дайкіры для красуні. Будзем знаёміцца.

— Ну, ні пуха, — з гэтымі словамі праз хвіліну Дзіма паставіў на стойку Андрэеву замову.

І Андрэй рушыў, трымаючы ў адной руцэ свой келіх з віскі, а ў другой — адзін з улюбёных кактэйляў Хемінгуэя. Ён ішоў да яе стала і адчуваў, як з кожным крокам, з кожным узмахам яе доўгіх веек ісці рабілася ўсё цяжэй. Раптам успомнілася, што такую самую млявасць перад дзяўчынай ён спазнаў толькі аднойчы — у першым класе, калі хацеў загаварыць з той, што стала потым сяброўкай.

Але цяпер ногі неслі яго наперад, а сэрца грукатала ў рэбры так, быццам арыштант у жалезныя краты.

Вось так заваёўнік жаноцкіх бастыёнаў апынуўся перад сваёй новай ахвярай не толькі без зброі, але нават і без даспехаў. Андрэй стаяў сарамліва, нібыта голы на плошчы, і глядзеў дзяўчыне ў цёмныя бурштынавыя вочы. А яна, заўважыўшы такую шчырую разгубленасць, абдарыла яго пяшчотным позіркам, ласкава ўсміхнулася і з жартам сказала:

— Віскі для знаёмства — гэта арыгінальна, але я ўсё ж такі абяру кактэйль.

— Мяне завуць Андрэй, — і тут ён, чалавек, слоў у якога было заўсёды як жыта ў торбе сейбіта, раптам асекся і дадаў з натугай: — А вас?

«Божа ж ты мой, што я нясу, як я гэта нясу, што за халера?» — пранеслася ў ягонай галаве пасля такога пачатку размовы, і ён, усміхнуўшыся ў адказ, паставіў перад дзяўчынай кактэйль.

— А мяне — Каця, — яна адсунула кубак з кавай убок і паказала рукой на крэсла. — Сядай, Андрэй. Ты не супраць, што я на «ты»?

Хлопец трохі авалодаў сваімі эмоцыямі, усміхнуўся і адказаў:

— Ну, толькі калі мне можна будзе і вас называць на «ты», — тут ён вытрымаў паўзу, быццам думаў, як лепей звярнуцца — Каця ці Кацярына, і ўрэшце прамовіў: — Каця.

— Канешне, можна. Сядай, калі ласка, Андрэй, чаго ты ўсё стаіш?

— Добра, гэта ва… табе, частуйся, — хлопец паставіў перад Кацяй кактэйль. — Я ніколі не бачыў цябе тут раней.

— Дзякуй за пачастунак. Сапраўды, я тут толькі другі раз. Шмат чула пра гэтае месца, але ўсё ніяк не наважвалася прыйсці.

— Чаму?

— То не было часу, то байкі пра тутэйшых брутальных наведвальнікаў палохалі. А ты тут часта бываеш?

— Не часта, але заходжу. Толькі ж не такая страшная тут грамада, калі ты другі раз прыйшла.

— Так і ёсць. Тут увогуле ўтульна і, як мне здаецца, бяспечней, чым у большасці гарадскіх кафэ.

— Маеш рацыю. У нас заўсёды незразумелае і нязвыклае абрастае страшнымі чуткамі. Доўгавалосы з татуіроўкамі чалавек для грамадства абавязкова пудзіла і наркаман, затое які-небудзь дзядзька Пеця, які напіваецца кожны вечар і лупцуе ўсё сваё сямейства, — гэта нармальна. Чарговая падзея.

— Ага, і бабкі ля пад'езда не будуць шыпець на такога дзядзьку Пецю, як, напрыклад, на дзяўчыну з фіялетавымі валасамі.

Гутарка падхапіла іх імкліва, быццам хуткая плынь Бярэзіны, і панесла да нечага большага і нязведанага.

Сыходзілі з бара амаль апошнімі. Андрэй, хаця і прыйшоў цалкам у прытомнасць, так і не змог перайсці ў звычайны для сябе наступ на жаночае сэрца. Ён глядзеў на Кацю ашаломлена і пяшчотна, як лясны паганец на святое дрэва. Андрэй вырашыў, што ніколі не ссячэ гэтае дрэва. Ніколі не пакрыўдзіць і не абыдзецца з ёю так, як здаралася раней з іншымі, нават калі будзе вымушаны сысці, адступіцца.

Ён праводзіў яе дадому, а сам трэсся, як мокры кот, баючыся, што яна не дасць свой нумар тэлефона. Якой цудоўнай была ноч, якой цікавай — гутарка, і якім кароткім — час!

На прыступках каля Кацінага пад'езда іх перарваў вокрык:

— Кацюха, гэта хто? — крычаў малады, каратка пастрыжаны хлопец у сініх джынсах і цёмнай майцы — нічым не адметны.

Побач з ім стаяў сябар. Таксама каратка стрыжаны, толькі ў шортах і шлёпанцах. Звычайныя такія «пацанчыкі» з празрыстымі, як вада ў лужыне, што адстаялася за дзень без ветру, вачыма і шырокімі скуламі. Здаецца, хлопцы як хлопцы, ды толькі ім не хапала маленькага агеньчыка думкі на тварах, каб быць сапраўды прыгожымі. Дзяўчына адказала пасля невялікай паўзы:

— Якая табе розніца, Сяргей? Гэта мой знаёмы, Андрэй. Ідзі, куды ішоў, — і звярнулася да Андрэя: — Давай зойдзем у пад'езд, ну іх.

— Давай.

Ужо там, каля яе дзвярэй, Андрэй спытаў:

— Старыя сябры? — яму вельмі не хацелася пачуць, што гэта — яе хлопец, а ён тут — пудзіла ў чужых гульнях.

— Даўно нават і не сябры.

Андрэй з палёгкай выдыхнуў і вырашыў больш пра гэта не пытацца.

— Я не хачу, каб ты туды ішоў, я іх ведаю.

— Ну, калісьці ж мне давядзецца пайсці дадому, а потым — прыходзіць да цябе, — Андрэй ласкава ўсміхнуўся. — Як мне тады: няўжо хавацца?

— Ты хочаш прыйсці да мяне яшчэ раз?

У яе голасе Андрэй адчуў ноткі трывожнай надзеі — першыя прыкметы таго, што знешні дзявочы спакой насамрэч быў не такі непахісны.

— Калі мне толькі будзе дазволена, я прыйду да цябе яшчэ не адзін раз.

На яго словы першымі адказалі Каціны шчокі, якія імгненна пачалі налівацца чырванню, а сама яна працягнула Андрэю кавалак паперы.

— Я хвалююся за цябе, але і прасіць цябе застацца не магу таксама. Патэлефануй мне, калі ласка, як прыйдзеш дадому. Толькі абавязкова.

— Я бы сёння і не застаўся.

Ён сунуў паперу ў кішэнь, нязграбна пацалаваў Кацю ў гарачую і салодкую, як печаны яблык з мёдам, шчаку і паабяцаў:

— Я абавязкова патэлефаную. Не хвалюйся, усё будзе добра.

Андрэй адышоў ад Кацінага дома крокаў на дзвесце, калі пачуў такое знаёмае для сябе, жорсткае і працяглае: «Эээ, стой!» Двое сталі перад ім. Трэба спыніцца. Калі не спынішся, дык як потым прыйдзеш сюды, як будзеш праводзіць яе дадому? Такія паважаюць толькі сілу і цвёрдасць. Тут нельга даць слабіну, але можна паспрабаваць звесці ўсё да размовы. Трэба толькі ведаць, за якія ніткі тузаць.

— Што трэба?

Гаварыў Сяргей:

— Трэба, каб ты сюды больш не прыходзіў, патлач.

Андрэй маўчаў у адказ. Вядома, адразу будуць жорсткія патрабаванні — кожны імкнецца шырока акрэсліць сваю пазіцыю.

— Чаго маўчыш? Зразумеў?

Трэба падвышаць стаўкі, браць нахабнасцю, глядзець наўпрост у вочы:

— Пайшоў на хрэн. Вось што я зразумеў.

— Макс, ты глядзі, які ён борзы, — Сяргей відавочна не чакаў такога адказу, а таму азірнуўся на сябра і спытаў, быццам хацеў сам сябе падбадзёрыць: — І што мы будзем рабіць з борзым? — А потым ужо ў Андрэя: — Ты не зашмат на сябе бярэш? Гэта мая дзяўчына, а ты хто такі?

— Яна так не лічыць.

— А ў бабы і не пытаюць, што яна лічыць.

Андрэй урэшце адчуў тое, што адчувае кожны ваяр перад бойкай: грукат крыві ў скронях і вялізны прыліў адрэналіну, які абуджае незразумелую весялосць. Вусны хлопца расцягнуліся ў шырокай усмешцы, дыханне зрабілася больш частым і дробным, а зрэнкі — вялізнымі.

— Карацей. Каця мне падабаецца, ты ёй — не. Запалохаць мяне можаш не спрабаваць — усё будзе дарэмна. Хочаш вырашыць справы кулакамі — калі ласка. Толькі і гэта не дапаможа. Пытанні ёсць?

Збянтэжаны такім выпадам, Сяргей маўчаў.

— Ну калі няма, дык я пайшоў.

Андрэй рашуча рушыў наперад у шчыліну паміж сябрамі — месца там было акурат, каб прайсці чалавеку, калі ісці бокам. Хлопец выставіў левае плячо наперад, але Максім зрабіў крок управа і звузіў праход.

Вырашана. Андрэй убачыў, што і бокам яму не прасунуцца, і з усяго маху ўсадзіў сваё правае плячо ў плячо Макса. Той ледзь не зваліўся. Пачуўшы

лаянку, Андрэй зрабіў пару хуткіх крокаў, каб заняць зручную пазіцыю. Але Сяргей быў бітым вераб'ём: як толькі Андрэй павярнуўся, адразу атрымаў удар нагой пад дых. Паспеў схапіць за нагу, але дыханне было парушана. Захацелася сесці, скруціцца і адпачыць. Думка маланкай пранеслася ў галаве: «Зараз яны будуць удвух, і тады — гамон».

Удар паназе, на якой Сяргей стаяў, пакуль другую ён трымаў у руках, — і агрэсар глуха гопнуўся на зямлю. «Рабі хутка, без літасці», — Андрэй падказваў сам сабе. Удар нагой туды, дзе быў Сяргееў твар. Міма. Яшчэ адзін. Патрапіў.

«Чаму ж так забалела сківіца?» — думкі Андрэя несліся, як коні. Макс быў тут як тут, бо Сяргей адняў шмат часу. Ізноў удар. Гэтым разам — Андрэю ў лоб. Хлопец нарэшце сфакусіраваў позірк на другім саперніку: «Гэта дрэнны фехтавальшчык. Ні сілы, ні дакладнасці, яшчэ і ў шлёпанцах». Моцны ўдар кулаком пад дых — і Максім ужо згінаецца напалам, крок у бок — і бакавы ў сківіцу. «Добра, але трэба з ім канчаць». Дзве рукі Максу на патыліцу — і каленам у галаву. Усе танцы — не болей за паўхвіліны.

Раптам нехта моцна схапіў Андрэя за плячо і развярнуў. Ад удару кроў палілася на кашулю. «А Сяргей — добры баец», — толькі і паспеў падумаць Андрэй. Адразу яшчэ некалькі ўдараў у твар і корпус, толькі ад паловы з якіх паспеў закрыцца альбо ўхіліцца. Біў у адказ. Праз хвіліну сапернікі стаялі адзін насупраць аднаго, хістаючыся. Андрэй абцёрся рукавом кашулі і, цяжка дыхаючы, агледзеў поле бойкі п'янымі ад стомы і адрэналіну вачыма. Макс яшчэ ляжаў на газоне і стагнаў. Напэўна, у яго быў зламаны нос. Сяргей, хаця і памяты, быў, відавочна, гатовы працягваць шляхетную размову.

— Я табе яшчэ раз кажу, калі ты з першага разу не разумееш, — бойкай не прымусіш мяне не прыходзіць.

Сяргей маўчаў.

— Хочаш працягнуць — давай, хочаш размінацца так кожны вечар — я не супраць. Але я б раіў табе заняцца чым-небудзь больш карысным.

— Не па паняццях чужую дзяўчыну адбіваць.

— А ўдвух на аднаго лезці — гэта нармальна? І не хлусі хаця б сабе, не твая яна і з табой не будзе.

Сяргей сплюнуў на зямлю крывавую сліну.

— Чорт з ёю, але ты лепей на вочы не трапляйся, бо ў наступны раз можа і не пашчасціць.

Андрэй не адказаў. Сяргей меў права сысці з адчуваннем пераможцы ў бітве, хаця і прайграў вайну. Андрэй ведаў, што болей ніколі не сутыкнецца з ім, калі толькі той паверыць, што гэта ён, Сяргей, так вырашыў, што ён дыктуе правілы. Вось чаму Андрэй не стаў парушаць высакародную вулічную традыцыю літасці. Сяргей дапамог свайму сябру падняцца, паслухаў скаргі на разбіты нос, і павольна павёў яго прэч.

Андрэй сеў на траву. Адзін гэты дзень сваёй весялосцю акупіў цэлы нудны месяц.

Хлопец дастаў з кішэні джынсаў аркушык з нумарам тэлефона і ласкава паглядзеў на напісаныя лічбы. Здавалася, што папера нават пахне парфумай. Для Андрэя гэта быў той самы шалік, якім у Сярэднявеччы панна адорвала свайго рыцара пасля турніру, а ён зберагаў падарунак як сваё жыццё. Пасля кароткага адпачынку хлопец устаў, беражліва паклаў аркушык у нагрудную кішэню і павольна пацягнуўся дахаты.

Трэба было патэлефанаваць ёй, бо яна — чакала.

*Кася ГЛУХОЎСКАЯ*

# СОНЕЧНАЯ РАКА



***Кася Глухоўская нарадзілася 2 чэрвеня 1995 года ў Мінску. Студэнтка 3 курса факультэта філасофііі сацыяльных навук БДУ. Дыпламант першай ступені ў намінацыі «Духоўная спадчына» за зборнік паэзіі «Белы леў» (самвыдатаўскі) у Рэспубліканскім конкурсе маладых талентаў (2012—2013).***

**НАРАДЖЭННЕ**

Прачніся, свет, за гарызонтам, там,
Няспынны квет — пяшчотныя аблокі,
Заранка слепіць вочы дзівакам
І вабіць дух — і дух ідзе, бязногі,
Бяскрылы, непабачаны нікім,
Чароўны дух, само жыццё, магчыма.
І падаецца свет святлом такім,
Што дзівакі ўсё лыпаюць вачыма,
Не дыхаюць, бо хочацца ўцягнуць
Заміж паветра вобраз неймаверны,
І замест слёз цячэ з вачніц іртуць —
Атрамантам і фарбай да паперы.
Не стой, замёршы, гэта хараство
Не для таго, каб чалавек стаў пасткай,
А мо наадварот, каб позірк твой
Схапіць — і ўсё астатняе каб засціць.
Каб ты пайшоў, панёс ды перадаў,
Захоплены — замкнёным у пячоры,
Што ўсё на свеце — неба ды вада,
Акно ад сёння ў заўтра ды ва ўчора;
Што прыгажосць — між мітуслівых змен,
А ўсе яны — адна жывая Вечнасць;
Што костку можа раздрабніць бязмен,
Душы ж яму ніколі не знявечыць;
Што толькі мы ў адказе за сябе
Прад кожным мінаком і кожным блізкім,
І ў той жа момант мы ў адной трубе
Менш за часціцу атамарнай рыскі,
Менш за слана і менш за мураша,
Нароўні з кожным, без віны ў той момант,
Калі ў здзіўленні кідаем дрыжаць —
І ўваскрасаем з амярцвелай комы.
Мінулае было — і там не ты,
Там чалавек з тваім імём ці целам.
І ўсе табой пражытыя гады —
Як прачытаны прыклад нечы ў цэлым.
Ён вопыт дасць — нязменны кніжны факт,

Што так і так — рабі цяпер высновы.
Ці будзеш ты пасля? — І не, і так.
Такі, як ёсць, ты толькі зараз, новы.

## НЕ ЗНІКАЙ

Не знікай: Зямля не стане стынуць,
І не згаснуць зоркі ў паднябессі,
Не знямее чалавечы род,
Толькі ты не выпрастаеш спіну,
Толькі ты сусвет не будзеш песціць,
І падасца мне, наадварот...

Ні святла, ні цеплыні, ні спеваў,
Ні вачэй, ні красак, ні жыцця,
Падрубілі Ігдрасіля дрэва,
Здолелі ўсе промні Сонца сцяць,
Не знікай: павер, не грымне громаў,
Не ўзламаецца Адамаў схіл.
Толькі больш цябе не будзе дома,
Толькі дом нам будзе між магіл.
З залатой пыльцой слядоў мятлушкі
Літары паснуць, паснуць тамы:
Будзе пыл каўнеры кніжак гушкаць,
Будзем пылам мы.

## КАЛЯДНАЕ ПЕРАМІР’Е

Калядная зорка саспела ў маёй руцэ да
Тых, хто яе перадасць праз акопы ў горад.
Ад стомы ва ўсіх перад зрэнкамі — абэцэда,
Дзе літара «Ш», як трызубец, тырчыць сувора.
І чорныя мушкі — цэ-цэ — у маіх вачах.
І так надакучыла бачыць людзей на мушцы.
Нібы джаліць з неба насланая саранча,
І сніцца Егіпет у цемры начной, і душыць.
І толькі Раство. І спыняем свой дыспут куль —
Стаў братам чужак, працягнуў мне насустрач зорку.
Любуюся ейным святлом і жыву. Пакуль
Вайна ў нас даўжэй ад каляднага надвячорка...

## АТЛАНТ

Стаіць Сусвет — здранцвелы ў слуп спакою,
Ён сілай наліты нібы такою,
Што здрыганецца — лусне неба ўшчэнт

І паліецца сонечнай ракою.
Пануры твар — ад стомы горка ў роце,
І вязнуць ногі ў багне ды балоце.
Сусвет маўчыць — і толькі пот цячэ,
Нібы сляза смалістая ў нягодзе,
Калі ў магутны ствол сякеры зуб
Пускае цмок людскі — і волат-дуб
Губляе раўнавагу, стогне, ходзіць,
Гайдаецца — і потым долу — груб.
І кроў цячэ з губы перасмыкнутай —
Сусвет хвіліны лічыць як мінуты,
Бо за імгненне год перажыве,
Бо ён стрываць спакой не можа люты.
І вусны закусіў, і неба сцяў —
Ды ўсё ў ім прагне шчырага жыцця.
І сэрца сцішыць не маглі б пакуты:
Ён рушыць хутка, сам сабе суддзя,
Страсе як пыл аблокаў дымку пены,
Напятыя свае з напругі вены
Суцішыць рухам вольных, новых мар —
І зрэшты разагне свае калены.

**ПАДАРОЖНАЕ**

На Польскай зямлі сто маленькіх касцёлаў стаіць —
І кожны з іх прагне сапраўднага Бога стаіць,
А Бог прыхаваўся на кожным зямным сантыметры,
Захутаўся ўвесь, з галавой, у дзявочыя гетры,
Дзіцячыя боты, старэчыя палкі ды тросткі.
Бог духам сваім угрызаецца ў нашыя косткі,
Хапае зубамі, ірве, як галодны сабака,
Каб кожны ад пашчы Яго прыгажосці заплакаў.

Германія — сонечны рапс падпірае лясы,
З-пад дрэваў габрэяў і гномаў гучаць галасы —
Гісторыя свету чапляе гісторыю казак,
І Якаў з Вільгельмам ляжаць між старонак і красак.
Шалёнае піва змывае з-пад ног берагі —
Мы злізваем пену з русалчынай мокрай рукі —
Хвасты роўным колам па хвалі вядуць карагоды —
Нямецкая іх філасофія іншай прыроды,
Ніж бачылі людзі. З навукай старога Эйнштэйна,
Яго капялюшык па піве плыве безнадзейна.
І Вагнера грае для скокаў шкляны чалавечак,
А ў рытме над лесам падрыгваюць Міхеля плечы.

**ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ЭМІГРАНТАМ**

Няспынны квет — заспаная зямля
Пацягваецца дрэвамі нясмела.
На новы подых, Беларусь мая,
Ты пасталела.

Цвіце вярба, займаецца ўзыход,
Лісцё расой пакрылася, як потам.
Заўжды ў табе і яблыня, і плот,
І плод над плотам.

І травы, і стары гарбатны збор,
І дзьмухаўцы з засанцаваным тварам,
Чаромхі, ліпы ды калматы бор,
І нават хмары,

Язмін, чабор, лілея на вадзе,
Агрэст, парэчак гронкі-завушніцы —
Калі такое я пабачу дзе,
Ты будзеш сніцца.

І толькі твой салодкі пах раллі,
Твой водар гною ды сабачай поўсці
Мяне люляе, прагаю баліць
І кліча ў госці...

*Данііл ЖУГЖДА*

# ЧАМУ Ў СЛАНЯНЯЦІ ДОЎГІ НОС



***Данііл Жугжда нарадзіўся 6 лістапада 1985 года ў Магілёве. Мае адукацыю мастака і рэжысёра. Піша вельмі мала і толькі тады, калі твор цалкам складзецца ў галаве. Сваю творчую манеру вызначае як гультайны лаканізм.***

*УСТУП*

*«Дрэнная казка, згадзіся!.. Маленькія мілыя хабаценькія сланяняткі не заслугоўваюць такой жудаснай гісторыі... Таму, можа, прыдумаеш сланяняткам лепшую? Буду дужа рада!» Вось што было напісана на апошняй старонцы, вырванай з казкі Кіплінга «Сланяня». Адклаўшы казку ўбок, Ён зноў зазірнуў у скрынку. Тамака былі канверт з лістом і нейкі каменьчык…*

**ДРЭВА БАГОЎ**

Пэўна, гэта быў жарт Багоў. Чаму жарт? А што як не жарт? Бо як могуць Багі крыўдзіцца на людзей, а тым больш помсціць ім? Гэта — Багі, а тое — людзі. Хто кім урадзіўся. Вось, не маючы магчымасці злавацца, Багі з людзей і пажартавалі…

Карацей кажучы, толькі найвышэйшая іронія прымусіла б вырасці дрэва ў пустыні, ды яшчэ на чыгуначным палатне, па якім рушыў цягнік. Убачыўшы такое здарэнне, машыніст з усяе сілы націснуў на тармазы, але дрэва так хутка ды нечакана вырасла, што спыніць спрэчку паміж ім і жалезам маглі толькі Багі, але Яны зацікаўлена маўчалі…

…Паміж рэштак, што засталіся ад палаючага жалезнага цмока, грацыёзна скакала Чорная Котка. Вы скажаце, што тое была велізарная чорная пантэра, але памыліцеся, бо гэта была менавіта котка, толькі значна большая за звычайную (таму што была незвычайнай).

То тут, то там пясчаныя мурашы ды скарпіёны зацягвалі пад зямлю нябожчыкаў. Котка наблізілася да ламачча, што засталося ад вагона нумар тры, і села ля аднаго нябожчыка, захіліўшы сваім ценем яго галаву ад пякучага сонца.

— Данель, уставай! — сказала Яна ціхім, мяккім і незвычайна прыгожым голасам.

Нябожчык расплюшчыў вочы.

— Рана табе, — прамовіла Котка, — бо ты яшчэ не даведаўся, чаму ў сланяняці такі доўгі нос!

Тут Данель, які ўжо перастаў быць нябожчыкам, адразу ўзгадаў мэту свайго падарожжа: што б ні здарылася, даведацца, чаму ў сланяняці такі доўгі нос. Данель падскочыў, але моцны боль ва ўсім целе вырваў з яго вуснаў стогн.

— Цішэй, — усміхнулася Котка, — можа, спачатку пап'еш малачка? — і, не чакаючы адказу, прыхілілася жывоцікам да Данеля.

Данель зірнуў у чароўныя блакітныя вочы і, прымкнуўшы да цмочкі незвычайнай Коткі, пачаў піць малако. Што гэта было за малако!..

Адначасова цёплае і халоднае, яно ўлівалася жыццём у разбітае цела. Баючыся, што чорная выратавальніца можа знікнуць, як мара або здань, Данель ухапіўся за Яе чорную поўсць, а Котка толькі муркатала, задаволена звузіўшы вочы, і то выпускала, то зноў хавала свае кіпцюры.

— Што, малачко п'ём? — спытаў Шэры Локі, які нечакана матэрыялізаваўся на адной галінцы Дрэва Багоў. — Можа, піва? — Локі матэрыялізаваў у руцэ бутэльку «Стэла Артуа». — Яшчэ халоднае!

— Адчапіся, Шэры, — прамуркатала Котка, — забірай, што трэба, і кацісяǃ

— Прабачце, можаце лічыць, што мяне ўжо няма, — сказаўшы так, Локі з'явіўся ля адной нябожчыцы, за якую спрачаліся пясчаныя мурашы ды скарпіёны. — Жыць хочаш? — спытаў Шэры ў нябожчыцы. Тая кіўнула. Тады, схапіўшы дзяўчыну за валасы, Локі разам з ёю знік.

— От, ніяк не нагойсаецца, — незадаволена прамовіла Котка.

Урэшце Данель адарваўся ад цмочкі, але па-ранейшаму трымаў Котку, каб тая не пераўвасобілася, як Шэры Локі.

— Я ведаю, хто Ты!..

— Ну, і хто ж я? — з жартаўлівым здзіўленнем усміхнулася Котка.

— Ты…

## ІСПЫТ

— Ты... — Данель глядзеў на некалькі чорных шарсцінак, што засталіся ў яго далонях... — Ты... — ён усё ніяк не мог вымавіць тое дзіўнае імя... — Ты...

Незвычайная адзінота ахапіла Данеля. Яму здавалася, што ён яшчэ нябожчык, хоць малако ў жываце казала супрацьлеглае.

— Што, знікла? — сказаў, зноўку матэрыялізаваўшыся побач, Локі. — Думаў, што Яна застанецца з табою назаўсёды? Вось дзівак! Простаму смяротнаму павінна вельмі добра пашанцаваць, каб пабачыць Чарнявую другі раз. Ну, чаго ты такі разгублены? Калі б я вяртаў табе жыццё, ты б простым «дзякуй» не расплаціўся, таму радуйся, што Котка паспела. І што Яна ў табе знайшла? Ну, досыць, пайшлі далей! Ведаеш, апошнія здарэнні вельмі зацікавілі тамака ўсіх — кіўнуў ён на нябёсы. — Калі іспыт пройдзе добра, тады ў нас з'явіцца шмат працы...

— Іспыт? — спытаў Данель.

— Так, іспыт, — з гэтымі словамі Локі нацэліў на Данеля пісталет і стрэліў...

Данель расплюшчыў вочы. Над ім стаяў Шэры Локі і разглядваў Трахэнбержскі каменьчык.

— Гэта мой... — ледзь вымавіў Данель. Увесь боль, што быў у ягоным целе, сканцэнтраваўся ў адной маленькай кропачцы — там, дзе сэрца...

— А, апрытомнеў? Віншую, ты прайшоў іспыт, — Локі падкінуў камень да Данеля. — Камяні Трахэнберга валодаюць вялікай сілай, але ў звычайных руках яны нічога не вартыя...

— Навошта ты стрэліў у мяне?

— Гэта і быў іспыт. Калі ты павінен застацца ў жывых, то нават срэбная куля Локі не спыніць цябе. Калі ты сапраўды варты жыцця, то нештачка павінна было зберагчы цябе. У дадзеным выпадку гэта — чароўны камень. Дарэчы, цікава, як ён трапіў да цябе?

— Яго падарыла адна дзяўчына...

— Пэўна ж, не ведала, што дорыць, дурніца. Гэты рарытэт змяняе акалічнасці жыцця на карысць уладара. Калі ў небяспецы ёсць хоць маленечкі шанец застацца жывым — ты застанешся жыць. Але каменьчык маленькі і яго моцы хопіць яшчэ на раз ці два. Карыстайся асцярожна. Наперадзе вялікі шлях.

— Шлях?

— ШЛЯХ! Каб здзейсніць тваё наканаванне. Навошта ты ехаў у гэтым цягніку?

— Каб даведацца, чаму ў сланяняці такі доўгі нос.

— Вось, з гэтага і пачнём. Падымайся!..

**ЛІС**

Пустыня ўжо даўно схавалася за іхнімі спінамі. Камяністыя пагоркі сталі полем, якое неўзабаве ператварылася ў лес.

— Куды мы ідзём?

— Да Непаседы Дыяса.

— Хто ён такі?

— Занадта многа пытанняў, чалавеча. Дыяс сам адкажа. Ён можа адказаць на ўсе пытанні. І хто ён, і чаму ў сланяняці такі нос… Але не трэба расслабляцца, бо спачатку трэба заскочыць яшчэ ў адно месца.

— Ты чуеш? — Данелю здалося недалёкае рыканне і жалобныя стогны.

— А, мусіць грашогі кагосьці зноў заелі. Іх тутака шмат бегае. Хадзем, гэта не наша справа.

— Грашогі?

— Ну, ведаеш, калі нештачка знікае, напрыклад, грошы на мабілцы, то гэта з’ядаюць монстры грашогі. Яны знішчаюць забытыя рэчы і падарожнікаў, якія заблукалі...

— Трэба дапамагчы! — сказаў Данель, і, схапіўшы нейкую ламачыну, пабег на гукі праз хмызняк.

— От, вар’ят! Тут я табе не памочнік! — крыкнуў наўздагон Локі.

Данель выскачыў на пералесак і рынуўся ў мітуслівую гушчу маленькіх валасатых істот. Махнуў сваёй доўбіняй сюды-туды, раскідваючы са свістам грашогаў. Тыя шыпелі ды кусаліся, спрабуючы падскочыць і ўрваць Данеля за горла.

— Прэч! — Данель адагнаў апошняга грашога сучынай куды далей.

Перад вачыма Данеля ляжаў раздзёрты ліс. Цяжка дыхаючы, ён не зводзіў з Данеля блакітных вачэй.

— Усё роўна сканае! — матэрыялізаваўся побач Локі. — Намахаўся ўволю? Тады хадзем!

— Як яму дапамагчы? — Данель глядзеў на ліса, які ўжо амаль не рухаўся.

На баку і шыі было некалькі цяжкіх ран. Кроў аніяк не спынялася. Замусоленая ў брудзе поўсць здавалася чорнай, хвост быў абадраны, лапы, касцянеючы, пачалі дрыжаць, і толькі чыстыя, як празрыстая вада, вочы пільна глядзелі ў шэрыя вочы Данеля.

— Дапамагчы? Ну ты дзівак! — усміхнуўся Локі. — Яго час выйшаў. Хіба ж толькі ў цябе недзе захавалася малако Чарнявай.

— Ты ж выратаваў тую нябожчыцу!

— Тая нябожчыца была з твару нічога, ды ўвогуле… А навошта мне душа гэтае недарэчнае жывёліны? Досыць! Я пайшоў. Даганяй!

Локі знік. Данель сядзеў ля ліса і глядзеў яму ў вочы. Бо нічога іншага не заставалася. Шэрыя вочы поўніліся слязьмі, а блакітныя ўсміхаліся. І ад гэтае простае ўсмешкі Данелю рабілася так балюча і горача…

## СІВЫ ХЕЛЬГ

— Падарыў? — незадаволена спытаў Локі.

— Так! — Данель запыхаўся, даганяючы Шэрага, але яго твар свяціўся ад радасці.

— Глупства! Патраціць Камень Трахэнберга на нейкага паўдохлага ліса!

— Дарэчы, ты мог яго выратаваць сам…

— Дурань!

— Я зрабіў так, бо лічыў, што так зрабіць трэба і…

— Вар'ят!

— …І ніколечкі не шкадую…

— І што ты цяпер будзеш рабіць? — дула пісталета Локі было накіравана ў крупну між вачэй Данеля. — Ты цяпер можаш памерці не тое што ад маёй кулі, — нават ад простага катару! Але ж мы ўжо прыйшлі, — Локі схаваў зброю.

Падарожнікі выйшлі з лесу і сталі перад падножжам вялізнай гары, якая рохкала.

— Бачыш дымок на вяршыні? Гэта Сівы Хельг кіпяціць ваду.

— Мо будзем піць гарбату?

— Тую ваду Хельг кіпяціць са свайго нараджэння. Паспрабуеш хоць кропельку — нават малако Чарнявай табе не дапаможа. Няма мацней атруты за гэтую ваду. Толькі глядзі не навярніся, як будзеш лезці ўверх. — Шэры падскочыў і знік.

— Нешта ты доўга, — пазяхаючы, прамовіў Локі.

— Трэба было як тую нябожчыцу, за валасы! — абліваючыся потам, адказаў Данель.

— Што ты прычапіўся да нябожчыцы? Лепш знаёмся — Хельг. Хельг, гэта Данель.

Сівы Хельг сядзеў спінаю да падарожнікаў на маленькім зэдліку. Перад ім праз расколіну ў камені прабіваліся маленькія языкі полымя. Над агеньчыкам завіс у паветры чайнік, у якім бурболіла змярцвелая вада. Хельг, не адрываючыся ад свайго занятку, кіўнуў гасцям, але, як потым высветлілася, ён так ківаў час ад часу на працягу ўсяго свайго існавання.

— Ну, што стаў? Адлі крыху вады і рушым далей.

Хельг кіўнуў.

— Я не маю ніякае пасудзіны.

— О, чаму ты ўвесь час ныеш? Усё яму не падабаецца: не страляй у яго, сядзі з ім побач да канца сусвету, адначасова збірай яму тару і выратоўвай усялякую

блышывую дробязь, — Хельг кіўнуў. — На, трымай! — Локі працягнуў Данелю бутэльку ад «Стэла Артуа».

Данель, набліжаючыся да чайніка, не ўтрымаўся, каб не зазірнуць у твар Хельгу. Абвіслая сухая скура, запалыя вочы, бяззубы рот, скулы ды нос, якія выпіралі праз тую скуру, стваралі не вельмі добрае відовішча.

— Як ён яшчэ не зваліўся з зэдліка? Гэта ж труп!

Хельг кіўнуў.

— А што яму? Сядзі ды глядзі. Вось і ўсё. Ты лепей паспяшай.

Хельг кіўнуў.

Данель нахіліў носік чайніка, і ў бутэльку палілася самая празрыстая вада, якую толькі бачыў у сваім жыцці.

— А нашто ён гэта робіць? — спытаў Данель, закручваючы крышку.

— Таму што больш нічога рабіць не ўмее.

Хельг кіўнуў.

— Як гэта жудасна!

Хельг кіўнуў.

— Калі не ён, дык нехта іншы. Не забівай галаву.

Хельг кіўнуў.

Данель зірнуў апошні раз на твар Хельга. На імгненне вочы Сівога ажылі. У іх з’явілася неверагодная стома і самота, а скурчанныя пальцы пацягнуліся да бутэлькі Данеля. Бяззубы рот паціху заварушыўся, вызваляючы ціхі шэпт:

— Шпыні… Шпыні ўшо гэта…

Але рука Хельга зноў апусцілася, а вочы па-ранейшаму ўтаропіліся на чайнік.

— Бывай, стары! — развітаўся Локі.

Хельг кіўнуў.

## НЕПАСЕДА ДЫЯС

— «Лазня», — прачытаў Данель літары на шыльдзе. — Нам сюды?

Яны стаялі перад маленькім драўляным будынкам. Праз запацелае шкло вокнаў нічога не было відаць.

— Заходзь, — прамовіў Локі.

Пераступіўшы парог, Данель застыў у нерашучасці: кафля… усюды была багатая кафля. Кафляй абліцавана велізарная зала, у якой месціўся агромністы басейн. Святло траплялa зверху, праз вялікія круглыя ілюмінатары ў даху. Пасярод басейна плаваў драўляны плыт. Побач з вялікай бочкай на плыце стаяла крэсла з чырвананосым Непаседам Дыясам, які лянiва махаў трызубцам.

— Прывітанне, Дыяс! — Локі сеў на борцік басейна, спусціўшы ногі ў ваду. — Усё сінячыш?

— Жыццё такое! — усміхнуўся Дыяс і пачаў, нібы вяслом, грэбці трызубцам да борціка. — Што, Данель, маеш пытанні да мяне?

— Так, — Данель сеў побач з Локі.

— Відаць, сёння давядзецца аднаму піць, — уздыхнуў Непаседа.

— Чаму так, а мы? — здзівіўся Локі.

— Ну, Данель адмовіцца, а на цябе, Шэры, толькі пітво марнаваць.

На вечку ад бочкі, што стаяла на плыце Дыяса, знаходзіліся графінчык і тры гранёныя шклянкі. Непаседа начапіў графінчык на свой трызубец і зачэрпаў вады з басейна. Патросшы ваду ў графінчыку, ён наліў крыху ў шклянку.

— Ну, за нагоду! — заплюшчыў вочы ды залпам гэтую шклянку асушыў. Дыяс моцна зажмурыўся, торкнуў трызубцам у сярэдзіну бочкі, выцягнуў адтуль сушаную рыбіну, занюхаў ёю і кінуў зноўку ў бочку.

— А вось цяпер можна пачынаць, — лагодна ўсміхнуўся Дыяс. — У цябе ёсць тры пытанні!

— Тры? — здзівіўся Данель. — Трэба прыдумаць астатнія два… Так… Першнаперш, адкажы, чаму ў сланяняці такі доўгі нос!

— Гэта лёгка! У даўнія часіны, мой даражэнькі, слон не меў хобата. У яго быў толькі чарнявы тоўсты нос, памерам з бот, які хістаўся з боку ў бок, і падымаць ім слон нічога не мог. Але з'явіўся на свеце адзін…

— Не, гэтую байку я ведаю! Адна мая знаёмая прасіла мяне даведацца сапраўдную гісторыю.

— Сапраўдную гісторыю? — Непаседа Дыяс перайшоў на шэпт. — Малады чалавек, некаторыя веды не прыносяць нічога, акрамя болю… Ёсць на свеце таямніцы, якія мусяць такімі застацца. Ты ўпэўнены, што хочаш гэта ведаць?..

— Дарэчы, Локі, гурыі ў трэцяй зале, — Дыяс наліў яшчэ ў сваю шклянку.

— Вось з гэтага і трэба было пачынаць! — адразу ажывіўся Локі. — Не буду вам перашкаджаць, — з гэтымі словамі Шэры знік.

— Раней у сланяняці сапраўды быў нос як бот, — распачаў Непаседа, — а болей за ўсё на зямлі яно любіла кветкі! І была адна ружа, да якой сланяня ўсё ніяк не магло дабрацца, бо расла гэтая ружа ў непралазных і вельмі вострых калючках. Як бы ні старалася сланяня, але ўвесь час ружа заставалася далёка, а яно само было пасля вельмі моцна паколата. Ад такое бяды перастала сланяня есці і піць. За гэта родныя ўвесь час сварыліся з ім:

— Патрэбна табе гэта зелле! Зноў прыйшло парэпанае. А ўсё праз твой дапытлівы нос!

— Нос! — ускрыкнула сланяня і, расцалаваўшы родных, наступіла сабе на нос і пачало, нягледзячы на вялікі боль, выцягваць яго. Церпячы пакуты, сланяня ўсе выцягвала і выцягвала свой нос, пакуль той не ператварыўся ў хобат, якім, нарэшце, яно змагло дастаць да тае ружы.

Некаторы час Данель сядзеў моўчкі, знаходзячыся пад уражанем.

— Толькі памятай, — вымавіў Дыяс, — што гэта адна з тых таямнічых таямніц, пра якія я табе казаў. І чым меней людзей будзе пра гэта ведаць, тым болей людзей будзе добра спаць. У цябе ёсць яшчэ два пытанні…

— Раскажы пра Чорную Котку!

— Пра Чорную Котку? Хм… Добра, слухай.

Жыла аднойчы багіня Сакрысція. І падпарадкоўваўся Ёй ветрык, што вырывае з рук парасоны ды скідвае з галоў капелюшы. Была гэтая багіня прыгажуняй з доўгімі валасамі, якія, нябачнымі пасмамі ахутваючы ўвесь свет, стваралі гэты самы ветрык. Пакахала Сакрысція Дартарыеля — бога навальнічнага дажджу і грымот. Але Дартарыель здрадзіў Ёй. Не вытрымала таго Сакрысція. Абстрыгла свае чароўныя валасы і разарвала сваё сэрца на тры кавалкі. Паляцелі гэтыя кавалкі на зямлю і сталі Дабрынёю, Мудрасцю ды Жаноцкасцю. Пабачыўшы, што нарабіў, Дартарыель спусціўся за тымі кавалкамі на зямлю. Так Ён і блукае па зямлі, спрабуючы знайсці сэрца Сакрысціі. А Чорная Котка — гэта і ёсць Жаноцкасць.

— Адкуль ты ўсё ведаеш?

— Ну, жыццё такое. Чаму людзі п'юць? Быццё дрэннае, а моцы змяніць усё няма. Нават часцей не хапае моцы каму-небудзь пра гэтае быццё распавесці. Таму

трэба напіцца, каб язык самлеў, і сябра знайсці (а лепей — двух), каб паразмаўляць пра ўсё. А калі мець слых, дык можна шмат чаго пачуць цікавага за век паўбога, — Дыяс лагодна ўсміхнуўся і наліў зноўку сабе ў шклянку. — Ну, за быццё! — і выпіў.

— А ці знойдзе Дартарыель сэрца Сакрысціі?

— А ці ўмееце вы лічыць, малады чалавек? — Дыяс занюхаў сушанай рыбінай. — Ваш ліміт пытанняў скончыўся. Ды і час вам ужо збірацца. Праўда, Локі?

— Так! — матэрыялізаваўся побач Шэры. — Пайшлі, Данель!..

— Калі ласка, адкажыце! — прасіў Данель.

— Дай мне сваю правую руку, Данель, — прамовіў Дыяс… — Што тут напісана?

— Але тут нічога няма!

— А калі прыгледзецца?

— Так, тая дзяўчына, што дала Трахэнбержскі Камень, нештачка напісала маркерам. Але я не ведаю ісландскай!

— А ты чытай між радкоў!

— Дык тут толькі адзін радок…

— Так, малады чалавек, даю табе параду. Слухай уважліва: часам няважна, што зроблена, а важна тое, навошта гэта зроблена. Болей нічога не скажу! Бывайце!

Локі перахапіў у Непаседы руку Данеля.

— І куды мы цяпер рушым? — Данель утаропіўся вачыма ў тое, што засталося ад літар на руцэ.

— А куды б ты хацеў прыйсці?

— Да дзяўчыны, каб расказаць ёй пра сланяня.

— Вось і хадзем туды!..

## СУСТРЭЧА

— Я бачу, ты рамантык, Данель, сустракаешся з дзяўчынай на могілках.

— Бо тут значна лепей, чым у горадзе: няма грукацення машын ды гоману людзей. На могілках усё проста. Спакой, цішыня, адзінота… Гэта ўсё можна знайсці тут, калі табе патрэбна. Але ж вось і яна.

— Я пачакаю тут, — сказаў Локі.

Данель падышоў да дзяўчыны і сеў побач з ёю на лаву.

— Прывітанне!

— Прывітанне, я — Юліна!

— Што?

— Такое маё імя — Юліна. А як тваё?

— Хіба ж ты мяне не памятаеш?

— А мы раней ці бачыліся?

— Так! Ты падарыла мне Камень Трахэнберга і прасіла дазнацца, чаму ў сланяняці такі доўгі нос. Каменя ў мяне ўжо няма, але гісторыю сланяняці я ведаю…

— Які ты смешны! Выдумаў нейкі камень, але пра сланяня будзе цікава паслухаць.

— Пачакай мяне крыху, я зараз, — ледзь прамовіў Данель ад здзіўлення, падняўся з лавы і падышоў да Локі.

— Ну, як справы? — праз усмешку звярнуўся да Данеля Локі.

— Яна не памятае мяне!

— Ды няўжо? Як такое магло здарыцца?

— Нібы размаўляў з іншым чалавекам!

— Хочаш, каб яна ўсё ўспомніла? — запытаўся Локі. — Ёсць адзін сродак! — Шэры працягнуў Данелю бутэльку «Стэла Артуа».

— Піва?.. Што?!. Не! Як ты можаш так жартаваць?

— Што такое жарт, як не сумленнае фізічнае дзеянне, накіраванае на дасягненне пастаўленай мэты? А цяпер у цябе адна мэта…

— Але гэта заб'е яе!

— І што з таго?..

— Адкажы мне на адно простае пытанне: чаму ты, на сваю галаву, сеў у цягнік? — працягваў Локі.

— Трэба было ехаць…

— Каб даведацца, чаму ў сланяняці такі доўгі нос? — Гэта проста смешна! Сур'езны чалавек павёў сябе як дзіця, ганяючыся за адказам на дзіцячае пытанне; ганяючыся за марай, за казкай! Навошта?

— Яна прасіла…

— Вось! Вось яно! Што б ты зрабіў, калі б цябе папрасіў пра гэта нехта іншы?.. Але ёй ты не адмовіў! Чаму?

— Ну… Яна…

— Заплюшчы свае вочы. Адкажы, што ты бачыш, калі ўзгадваеш яе?

— …Усмешку!.. Не!.. Вочы!.. Блакітныя вочы! Чыстыя, як самая празрыстая крыніца, і глыбокія, як самая велізарная бездань!..

— Можа, ты не адмовіў ёй таму, што яна падарыла табе маленькі каменьчык? — Не! Ты не адмовіў ёй таму, што яна прыгожая, мілая і ДОБРАЯ!

— Яна?.. ЯНА!..

— Так, Данель, ЯНА! А цяпер адкажы мне на яшчэ адно пытанне: што трэба зрабіць са скарбонкаю, каб дастаць адтуль грошыкі?.. Яе час на зямлі ўжо скончыўся. Нябёсы чакаюць вяртання Бога. Ведаеш, калі Бог жыве ў чалавечым целе, Ён можа вярнуцца, толькі пазбавіўшыся ад кволае абалонкі. Але ёсць адно «але» — нязкончаныя пры жыцці справы зноў і зноў прыцягваюць да гэтае зямлі. Таму ідзі да Яе і раскажы пра сланяня. Яна так хацела пачуць гэтую гісторыю…

Данель знямелымі рукамі ўзяў бутэльку.

— Але ж ёсць яшчэ Чорная Котка і Ліс… Яны з Юлінай складаюць адзінае цэлае…

— Пачакай крышачку… — Локі на імгненне знік, потым матэрыялізаваўся. — Пра што ты казаў? — у руках Локі дымеў ягоны пісталет. — А, ужо ўсё роўна, — выкінуў з барабана дзве пустыя срэбныя гільзы. — Дарэчы, Яна ўспомніць цябе, бо ў час смерці перад вачыма паўстае ўсё жыццё. Так розум шукае выйсце ў цяжкіх абставінах. Розум абапіраецца на жыццёвы вопыт. Але ад смерці выратавання няма… Яна чакае…

— Мо ты хочаш піць? — Данель стаяў увесь збялелы. Яго пачынала біць ліхаманка.

— Піва?

— Не, тут… ВАДА…

— Тады можна. Сядай побач! Ты хацеў расказаць, чаму ў сланяняці такі доўгі нос?!

— Так!.. — пабачыўшы, як Юліна зрабіла глыток, Данель апусціўся на лаву ля Яе. — Было гэта так: жыло на свеце сланянятка, якое любіла кветкі… — Ён працягваў. Юліна зрабіла яшчэ глыток… — І была адна ружа, да якой сланяня не магло дабрацца… — яшчэ глыток. — Бо расла яна ў непралазных калючках. І тады…

— Ты такі збялелы. Выпі вады! — прапанавала Юліна.

Данель успомніў пра Камень Трахэнберга, паглядзеў на Шэрага Локі — той кіўнуў… Данель узяў бутэльку абедзвюма рукамі… Велізарны ком засеў у горле і было складана глытаць. Тая ВАДА была халоднай і незвычайна цяжкай. Можа, праз тую цяжкасць ЯНА прасачылася скрозь ком туды, куды Ёй было трэба…

— …І тады сланяня наступіла на свой нос і, церпячы пакуты, выцягнула яго ў хобат… — бутэлька выслізнула з рук Данеля і разбілася. ВАДА пацякла па зямлі да бліжэйшае магілы. Локі зноў кіўнуў. — …Каб толькі дабрацца да тае ружы… — Данель зазірнуў у вочы Юліны.

Ліхаманка адпусціла яго. Стала лёгка, як ад дзівоснага малака Чорнае Коткі. Яны з Юлінай глядзелі ў вочы адно аднаму. Неўзабаве вочы яе пачалі змяняцца: празрыстасць стала больш празрыстаю, а глыбіня — больш глыбокаю. Праз тыя вочы на Данеля глядзела бясконцасць! Бровы Юліны ўзняліся. Яна прытулілася да Данеля, абняла яго рукамі і ціха прашаптала:

— Ты прыйшоў… Дартарыель!..

— Што?! — перад вачыма Данеля пачалі з’яўляцца дзівосныя карціны, і самая дзівосная з іх — чароўныя блакітныя вочы з-пад даўгіх валасоў.

— Так, Данель, нам патрэбны ты! — усміхаўся Локі. — Ну, не ты, а нехта іншы, але таксама на «Д»!

— А яна?

— А яна памерла. Я не папярэдзіў цябе? Ой, прабач! Яна зрабілася смяротнай, як толькі пакахала Дартарыеля. Багі кахаць не ўмеюць. Чамусьці гэта не падабалася Сакрысціі. Вось яна і…

— Памерла?!

— Усё роўна, навошта нам Багіня ветрыку, які вырывае парасоны з рук і зрывае з галоў капелюшы? Нам патрэбен Дартарыель — Бог навальнічнага дажджу і грымот! Ведаеш, цяпер вельмі цяжка прымусіць людзей верыць. Толькі катаклізмы здольныя разварушыць смяротных. Ад часін Ноя нікога не было лепшага за цябе!

— Але гэта бесчалавечна!

— Маеш рацыю!

— Чаму вы не забілі мяне адразу? Навошта гэты ШЛЯХ?

— А забівалі… І не аднойчы! Але ж ты кожны раз вяртаўся да гэтае абалонкі. Вось і вырашылі даць табе скончыць твае зямныя справы, — Локі паказаў на цела Юліны. — Тым больш, цяжка забіць уладальніка Трахэнбержскага Камня.

— Ты мяне падмануў!

— Ды няўжо? А ці я сказаў штосьці не тое? Я сказаў, што нябёсы чакаюць Бога; хіба ж я называў пэўныя імёны?

— Юліна!.. Сакрысція!.. Што я нарабіў?! — Данель схіліўся над целам. З яго шэрых, як хмары, вачэй ліліся буйныя слёзы.

— О! — пазнаю старыну Дартарыеля! Чым ты незадаволены? Столькі вясёлых прыгод: спачатку — аварыя цягніка, потым — грашогі, Хельг, Дыяс! Ты знайшоў Юліну, Чорную Котку і Ліса; даведаўся, чаму ў сланяняці такі доўгі нос! — Хіба ж не гэтага ты жадаў?

Але Данель яго ўжо не чуў…

## ЭПІЛОГ

— Уставай, Дартарыель. Як я і казаў, у нас шмат працы.

…Дартарыель!

…Дартарыель?..

*Артур КАМАРОЎСКІ*

# ПРЫВІД МІНУЛАГА



***Артур Камароўскі нарадзіўся 22 сакавіка 1991 года ў Міры. Скончыў аддзяленне беларускай філалогіі і магістратуру ў ГрДУ імя Янкі Купалы. Не ўяўляе жыццё без сяброў, цікавых кніг, зялёнай гарбаты і цукерак. Упэўнены, што ў кожнага павінна быць недасягальная мара, за якой ён будзе ісці ўсё жыццё. Ведае, што шчасце — гэта не мэта, а тое, як ты сябе адчуваеш.***

За акном рэйсавага аўтобуса з шалёнай хуткасцю прабягалі незнаёмыя краявіды, большасць з якіх я не паспяваў разгледзець, і яны, абагрэтыя ранішнім сакавіцкім сонцам, назаўсёды знікалі недзе ззаду, губляліся ў паўрасталых снегавых палях, надзьмутых сонных лясах і прыдарожных салдатках-ялінках. Бывала, мой позірк выхопліваў адзінокія хаціны сярод поля: адну-дзве, абнесеныя, бы плотам, дрэвамі. Яны здаваліся астраўкамі сярод поля-акіяна, і я думаў пра тое, што надыдзе час, і яны знікнуць, схаваюцца пад спрадвечнай беларускай вадой — зямлёй — якой нам заўжды не хапала.

Я любіў дарогі з ранняга дзяцінства. Больш, канешне, чыгуначныя. Ніякіх слоў не хопіць, каб перадаць тыя пачуцці, што перапаўняюць дзіцячае сэрца, калі ты, асцярожна азіраючыся, залазіш з нагамі на сядзенне ў электрычцы з жаданнем высунуць галаву, але росту бракуе і высоўваецца толькі нос, а пасля — далонь. І ты стаіш, маленькі чалавек, і ляціш насустрач ветру, дрэвам і чыгуначным прыпынкам. І так хораша, так хораша, што больш нічога і не трэба. Акрамя цукерак, канешне.

У аўтобусе такія нумары не праходзілі. Але ў аўтобусах існавала свая прыцягальнасць. Напрыклад, калі сядзіш на пярэдніх месцах, то можаш уявіць сябе кіроўцам, добрым дзядзем, які завязе цябе туды, куды пажадаеш.

Апошні раз тузануўшыся, машына спынілася насупраць невялічкай аўтастанцыі, дзверы якой аказаліся адчыненымі. Унутры — пуста. На плошчы — таксама нікога. Я адышоўся да скверыка, што раскінуўся ў яе цэнтры разам з гандлёвымі радамі, і сеў на лаву, густа пафарбаваную ў цёмна-чырвоны колер.

З левага боку танула ў ранішніх сонечных промнях, свяцілася царква, купалы якой амаль зліваліся з небам. З правага — цягнулася плошча. Уздоўж яе шчыльным ланцужком стаялі крамы, а з процілеглага боку сарамліва чырванеў касцёл. У скверыку брахалі беспрытульныя сабакі, крумкала вараннё, абляпіўшы вершаліны цыбатых ліп, дзесьці чулася шаргаценне дзеркача — дворнік пачынаў свой працоўны дзень: вакол плыло размеранае жыццё невялікага мястэчка з вялікай гісторыяй.

Яно здавалася гэткім жа, як і пятнаццаць гадоў таму, калі мы з матуляй і малодшым братам — тры пакутнікі лёсу, пагарэльцы — ішлі на вакзал туманнай восеньскай раніцай, як нам думалася, назаўсёды пакідаючы Мір. Адзінае, што змянілася — сонца. Цяпер яно саграваЛа.

— Папяросы не будзе? — навіс нада мною мужчына з яўнымі прыкметамі аматара таннага ягадна-пладовага.

— Калі ласка, — я пакапаўся ў кішэні і працягнуў яму пачак, з якога ён дрыжачай рукой дастаў дзве «Monte Carlo».

— Ооо, — зацягнуў мой новы знаёмы, — «монта крала». Дзякуй. Раз смаліў ужо. Нішто такія. Сын, калі прыязджаў, то купіў. Я яму кажу: «Астру» мне ці «Прыму». А ён во што прывалок — гэтыя «монта крала». Ну а я што. Мне і гэта добра. Абы было. Здараецца, сядзіш, а смаліць няма чаго. Дык яно горш, чым калі няма чаго паесці. Вось так.

Я працягнуў яму запальніцу, ён прыкурыў, зацягнуўся і павольна, нібы шкадуючы, выпусціў дым. Я прыкурыў таксама. Нядоўга думаючы, мужчына апусціўся на лаву побач са мной.

— Ад першай ранішняй папяросы, як ад першага пацалунка — надта радасна, — пачаў філасофстваваць мой новы знаёмы. — Пакуль не засмалю — не магу прачнуцца. Учора крыху выпіў вечарам з сябрам. Дык Грышка, каб яму добра жылося, таго… скамуніздзіў амаль цэлы пачак. Я ж помню, што клаў пад падушку. Я яшчэ не дурны. Прачынаюся — няма. Яго работа, больш няма каму. Васька, кот значыцца мой, не мог, хоць той яшчэ злодзей. Вось так.

— Ну, як тут Мір, жыве? — я вырашыў перапыніць маналог свайго субяседніка і, скарыстаўшыся сітуацыяй, даведацца пра сёе-тое.

— Ну а як жа. Куды падзенецца. Але людзі мруць, што мухі. Вунь учора толькі Сцяпанаўну пахавалі. Хведаровіч. Добрая была жанчына, хай зямля ёй будзе пухам. Бывала, і чарку нальe. Нічога не скажу. Харошая.

Я помніў Сцяпанаўну. Яшчэ як быў малым, лазілі да яе ў гарод па яблыкі. Набіралі ў майку, колькі ўлазіла. Аднойчы, не заўважыўшы, што гаспадыня сядзела ў градах, палезлі цераз плот. Добра помню, як ляцелі, пакідаўшы тыя яблыкі, а за намі з крапівою ў руцэ неслася Сцяпанаўна. Пах тых яблык, спелых, сакаўных, адчуваю і сёння. Хоць мне ўжо далёка не пятнаццаць, а ў два разы болей.

— …А я яму кажу: ну куды, куды ты пхнешся? Другі раз хочаш з міліцамі хадзіць? Не. Не паслухаў. Палез на той дах. І што ты думаеш? Навярнуўся, каб яго качкі затапталі разам з той Ільінішнай! — працягваў знаёміць з навінамі мой гаваркі незнаёмец. — Паспеў пакласці ўсяго некалькі лістоў. Цяпер во сядзіць, не вылазіць. Добра, што жывы застаўся. Гэта, хачу табе сказаць, дзякуючы таму, што выпіў трохі. Так бы гамон быў. А Ільінішна — што? Павохкала, павохкала, паставіла нам бутэльку і ўсё на тым. Зарабілі. Пайду во сёння. Адведаю.

Ільінішну я не помніў. Можа быць таму, што не лазілі да яе ў гарод. Памяць ашчадна захавала толькі самае яркае. Вось мы з братам і кімсьці яшчэ бяжым па лузе, што знаходзіцца праз суседнюю вуліцу, ля рэчкі, а за намі, падняўшы крылы, імчыць гусак. Брат крыху адстаў, зачапіўся ды паваліўся. Гусак нагнаў яго, нацэліўся і ўшчыкнуў за грудзіну. Малы, не помнячы сябе, даў на пяту, равучы так, што папалохаліся ўсе куры ды каровы, а я пайшоў на гусака, але на паўшляху спыніўся: вораг, гарлапанячы, кінуўся наўцёкі. Аднойчы мы ўпершыню пакаштавалі папяросы. Надалёка ад цэнтральнай плошчы, там, дзе цяпер стаяў нейкі будынак, хутчэй за ўсё, крама, раслі шчыльнай сцяною дрэвы і кусты. Усярэдзіне валяліся камяні — адно з улюбёных месцаў такіх, як мой сённяшні знаёмы. Тут мы і паспрабавалі смаліць, не ведаючы, як гэта робіцца. Маці, канешне, здагадалася — мы прапахлі

дымам з ног да галавы. Ох, і ўсыпала ж нам яна як мае быць! Не дапамагло і тое, што залезлі пад ложак: бацькоўская папруга нагнала нас і там.

— А замак як? Прыгажэе з кожным днём, мусіць? — адарваўся я ад успамінаў.

— О! Не тое слова. Адбудавалі як належыць. І агароджа з'явілася ўжо. А ўнутры — рэстаран. Нейкі бізнесмен паспрыяў. Дарагое месца. Не нам з табою туды хадзіць. Хаця, хто яго ведае, мо табе і якраз, — незнаёмы ўзяў запальніцу і прыкурыў другую папяросу.

— Іван, — я працягнуў яму руку.

— Міхал, можна Белы.

Мабыць, у маім поглядзе Міша ўбачыў здзіўленне, таму патлумачыў:

— Прозвішча Белякоў. Вось і завуць так.

Мястэчка канчаткова прачнулася. На плошчы з'яўлялася ўсё больш людзей. Сярод іх я не знайшоў аніводнага знаёмага твару. Ды, зрэшты, да гэтага і не імкнуўся.

— Грыша, халера на цябе, стой! — зароў Белы і рвануў з месца, нават не развітаўшыся.

Каля «Бярозкі» намалявалася хісткая постаць сябра, што прыбраў да рук Міхасёвы папяросы. Я ўстаў, пакінуўшы і Белага, і Грышку, ды накіраваўся да касцёла, у бок вуліцы, дзе прайшло маё дзяцінства.

* * *

Вуліца Першамайская пачыналася ад касцёла святога Мікалая і будынка пасялковага савета дэпутатаў, а заканчвалася выганам і дарогамі на Аюцавічы і Жухавічы — суседнія вёскі. Шырокая, прыгожая, роўная, раней яна была адной з нешматлікіх заасфальтаваных вуліц нашага мястэчка, па якой можна было спакойна ісці нават ноччу і не баяцца збіць нос.

А хата пастарэла, прыбралася ў зморшчыны і крывыя шнары, пакінутыя жорсткім лёсам ды скупым на цяпло надвор'ем. Гліняная тынкоўка дзе-нідзе абсыпалася, і адтуль праступала чырвонае нутро хаты.

Я сеў на парэнчы ганка, як у дзяцінстве, калі любіў глядзець праз дарогу на ўскраек лесу, на жытняе поле, на ўзыход сонца. Было ціха, толькі раз-пораз праязджала машына ды недзе ў гародах адчайна крычалі каты.

Падворак зарос пустазеллем, што буяла і ў расколінах ганка. Помню, як маці з бабуляй стаялі на ім і глядзелі, як я, малое і смаркатае хлапчанё, намагаюся ўправіцца з аўтамабілем — падарункам на дзень нараджэння. На мне былі калготы да пупа, нейкія сандалеты, чырвоныя ў дробны гарох. Я штосілы круціў педалі і выпрабоўваў на трываласць сцены хаты і плот. А аднойчы, ужо крыху падвучыўшыся, выехаў на дарогу і, шчаслівы ды задаволены, імкнуўся ўцячы ад бабулі, што ўжо бегла за мной.

Паглыблены ва ўспаміны, я і не заўважыў, што ўжо надышоў вечар — першы вечар за апошнія пятнаццаць гадоў, які я сустракаў дома. Гарадская кватэра хоць і была ўтульнай і цёплай, але так і не стала Домам. Я ведаў, што Дом мой вось тут, адкуль з ганка відаць лес і поле, і дзе ў старым садзе квітнеюць яблыні, а ў вершалінах бяроз гучыць песня бабулі.

Цяпер я працаваў на будоўлі, меў каханую жанчыну і, збольшага, не скардзіўся на лёс. Самае страшнае — смерць бацькі, пажар, дэпрэсія маці, адсутнасць грошай, ежы і любові, пераезд у горад — засталося ў мінулым. У свае няпоўныя пятнац-

цаць я стаў дарослым. На маіх плячах ляжала адказнасць за малодшага брата, маці, што пачала співацца, і самога сябе. Больш у нас нікога не было. І мы выжывалі, як маглі.

Часамі даводзілася есці пустую кашу, калі-нікалі быў хлеб, сала і яйкі. І мала хто ведае тыя адчуванні, калі ты бачыш, што маці спіць, а побач стаіць пустая бутэлька таннага віна. І на палічцы — адзіны пачак абрыдлых макарон.

Начамі я чуў, як брат ціхенька плакаў. Але слоў для суцяшэння не было. І мы абодва верылі, што калі доўга-доўга дрэнна, то пасля абавязкова будзе добра.

* * *

Ужо добра прышарэла, калі я пакінуў двор былой хаты і накіраваўся да цэнтра. Вуліца была пустая і свяцілася першымі запаленымі вокнамі.

Было яшчэ адно месца, куды я хацеў трапіць, перад тым, як з'еду з мястэчка — замак. Не тое, каб з ім былі звязаны нейкія асаблівыя ўспаміны. Замак — гэта сімвал нашага мястэчка, наш гонар і слава. Я запомніў яго параненым, з разбуранай варожай зброяй усходняй вежай. Раніцай, я бачыў здалёк, што ён ужо не такі.

Павярнуўшы за касцёлам на Чырвонаармейскую, я спусціўся з горкі, прайшоў мост праз Міранку і апынуўся перад замкам. Яго сапраўды, абнеслі агароджай, але ўваход быў вольны, прынамсі, ніякіх вартавых я не заўважыў. Паўсюль з'явіліся добрыя газоны, замак падсвечваўся featureнакаляровымі ліхтарамі. Ён відавочна змяніўся. Але ўся велічнасць, непаўторнасць, мажнасць знікла пад покрывам рэстаўрацыйных матэрыялаў. Цяпер гэта быў проста замак, з замазанай гісторыяй і яшчэ больш цьмяным мінулым. Мне стала так крыўдна, што нават захацелася заплакаць. Я абышоў замак вакол, у надзеі знайсці хоць невялічкі кавалак самабытнасці, мінулага, але марна. Замак быў іншым. Не ведаю, як унутры, але звонку — так.

Я пайшоў да моста на «дамбе», які таксама быў новым, але па-ранейшаму драўляным. Праз хмары прабівалася поўня, прыгожа свяціла на цёмную роўнядзь возера, якое раскінулася побач з замкам. Я заўважыў, што і яно змянілася. Раней сярод возера знаходзіўся невялічкі астравок, парослы нейкім кустоўем з навіслай над самай вадой вярбою. Ён быццам хаваў нейкую таямніцу. На яго маглі трапіць усе, хто добра плаваў. Я тады не адчуваў у сабе столькі сілы, каб адолець адлегласць ад берага да вострава, таму толькі здалёк сузіраў тую прыгажосць. Цяпер жа трапіць на востраў не хацелася — вярба засталася адзінай на ім раслінай, і ніякай таямніцы ўжо не было.

Згадалася легенда, звязаная з возерам, якую мы распавядалі турыстам. Можа, і ёсць у ёй кропля праўды, але нашай мэтай было запужаць слухача, чаго ў большасці выпадкаў мы і дасягалі. Казалі, што раней на месцы возера рос яблыневы сад, які кожную вясну ап'яняў сваім водарам усё наваколле. Замкам у тыя часы валодаў Мікалай Святаполк-Мірскі. Ён хацеў бачыць возера на месцы саду, таму загадаў яго ссекчы. Тады стаяла вясна, сад квітнеў, як ніколі. Князя не спынілі перасцярогі і просьбы насельніцтва: высякаць квітнеючы сад нельга, гэта вялікі грэх, бо тыя, хто знішчае маладое жыццё, будуць выклятымі і няшчасці напаткаюць увесь іх род. Князь першым узяў сякеру ў рукі, а за ім — яго памочнікі. Сад быў знішчаны, а на яго месцы выкапалі возера.

Возера лёгка князю не далося: падчас яго ўладкавання амаль кожны дзень гінулі людзі. Адным з загінулых хлопцаў быў сын мясцовай вядзьмаркі, якая і наклала праклён на возера. Казалі, што з гэтай пары кожны год яно будзе забіраць адно жыццё.

Першай ахвярай возера стала дачка князя — дванаццацігадовая Соня. Пасля кожны год тут танулі людзі — выключна мужчыны. Такі быў праклён.

Асабіста я не верыў ва ўсе гэтыя казкі. Вядома, у кожнага замка павінны быць свае прывіды.

* * *

Вечар быў цёплы, мяккі. Ціха перашэптвалася лісце ліп і таполяў, бязгучна пагойдваліся сосны алеі, што раскінулася з другога боку возера. Я накіраваўся да магільнага склепа Святаполк-Мірскіх, пад нагамі нязвыкла шамацела галька. І здавалася, што ты ідзеш не па зямлі, а па нечым хісткім і нетрывалым, што вось-вось абрынецца ўніз.

У святле ліхтароў склеп выглядаў загадкава. Але было відаць, што і тут папрацавалі рэстаўратары. Знешні выгляд пахавальні змяніўся, за выключэннем аблічча Хрыста, позірк якога быў гэткім жа пранізлівым і суровым.

Калі мы былі малымі, лазілі ў склеп праз адагнуты прут рашоткі: пастараліся ПТУшнікі. Якраз за склепам знаходзілася мясцовае мастацкае вучылішча (сёння — каледж). Мы былі худзенькімі, спрытнымі, таму, лёгка праціснуўшыся цераз пруты, траплялі туды, дзе ў вільготным паветры чарнелі магільныя пліты. Дзіўна, але страшна не было. Па гнілых прыступках, што неміласэрна рыпелі і кожную хвіліну намагаліся трэснуць пад дзіцячымі нагамі, мы падымаліся наверх, дзе была званіца. Адтуль (хоць і не надта было высока) перад вачыма паўставала прыгажосць нашага мястэчка: Міранка, невялічкія хаты, царква, возера з востравам, — усё гэта я трымаў у памяці, быццам, бы перада мной ляжаў сапраўдны фотаздымак.

Цяпер, канешне, усярэдзіну не залезці: пруты цэлыя, дзверы — на вялізным замку. Да таго ж — сігналізацыя.

Ну вось і ўсё. Што хацеў і паспеў убачыць — убачыў. Трэба ісці бліжэй да цывілізацыі. Была гадзіна ночы, ад вады цягнула прахалодаю, і цемень шчыльна ахутала невялікі парк з могілкамі, што знаходзіўся побач, а таксама частку возера — тую, што была далей ад замка. Я засмаліў другую за сёння папяросу. У жываце, як казала бабуля, кішкі гулялі марш.

Нечакана я пачуў, што ля берага ўскаламуцілася вада, так, быццам хтосьці даў нырца. Я прыслухаўся: было ціха, толькі недзе на тым баку возера раз-пораз сонна крумкала вараннё. Падалося. Я працягваў смаліць і думаў пра тое, што яшчэ не паспеў схадзіць на могілкі: не гэтыя, што побач, а вялікія, да бабулі.

Другім разам я пачуў усплёск вады больш выразна. І гэта было штосьці большае за рыбу ці птушку. На імгненне я падумаў, што гэта чалавек.

Але ж які дурань будзе лезці ў ваду ў сакавіку? Я кінуў недапалак у белую пляму снегу і накіраваўся да возера, адчуваючы, як сэрца паскарае рытм і як жах, халодны і цёмны, залазіць пад скуру. Я быў не з баязліўцаў, але маё месцазнаходжанне наклала свой адбітак на сітуацыю, і, мабыць, упершыню мне было так страшна, што хацелася бегчы, не адчуваючы пад сабой зямлі.

Але я, бы насуперак самому сабе, проста ішоў. Ля берага спыніўся: чорная роўнядзь вады з праблісками святла ліхтароў і поўні здавалася спакойнай. Праз імгненне, за метраў дзесяць ад берага, я ўбачыў чалавека ў вадзе, які тануў. Падбегшы яшчэ бліжэй да возера, я ўбачыў, што гэта была жанчына. Яна то хавалася з галавою пад вадой, то раптоўна вынырвала і спрабавала ўхапіцца рукамі за начное паветра.

Я сарваў са спіны заплечнік, скінуў куртку і з разбегу нырнуў, разбіваючы чорнае люстра вады на мільёны жывых аскепкаў. Плаваць я ўмеў не тое каб вельмі добра —

больш спадзяваўся на грунтоўныя веды ратавання і сваю мужчынскую сілу. Мне спатрэбілася шэсць-сем узмахаў, каб апынуцца там, дзе я апошні раз бачыў бездапаможныя рукі і цёмны абрыс галавы, перад тым, як яны схаваліся пад покрывам вады. Было нясцерпна холадна і, вядома, я нічога не мог бачыць пад вадой і толькі кідаўся з боку ў бок, спрабуючы намацаць няшчасную. Паветра ў лёгкіх сыходзіла, я выплыў наверх. З-за хмар, якія з'явіліся аднекуль, на некалькі імгненняў вылезла поўня і праклала па возеры, бы ратавальны канат, вузкую жоўтую сцяжыну, але хутка зноў схавалася.

Зусім нечакана мяне схапіла штосьці за нагу. Чалавечая рука, што шукала выратавання, знайшла яго. Мяне пацягнула ўніз так імгненна, што я ледзь паспеў ухапіць жаданага паветра. Неўзабаве адчуў, што другую нагу таксама схапілі: моцна, адчайна. Мы ішлі на дно. Канешне, я не збіраўся мірыцца з такім ходам падзей. Напяўшыся, я штосілы загроб рукамі пад сябе і, на дзіва лёгка, пачаў падымацца. Чужыя рукі гэтак жа моцна трымалі мяне і здаваліся больш халоднымі за ваду, ледзянымі. Я гучна ўдыхнуў паветра і не паспеў яшчэ апрытомнець, як перада мной з'явілася тая, што танула... ці нешта зусім іншае...

Даволі прыгожы светлы твар і чорныя, як гэтая сакавіцкая ноч, валасы… Але чаму я іх бачу наскрозь? За яе вачыма ў цьмяным свеце ліхтароў віднеліся ліпы, мост і абрысы чагосьці яшчэ, што я не змог разгледзець. Яе празрыстыя вусны скалаліся ў злую ўсмешку, недарэчную і непрыгожую, і... яўна набліжаліся да мяне.

Я закрычаў так моцна, наколькі маглі мне дазволіць жах і падступаючая непрытомнасць, што пакрысе адольвала мяне. Прывід знік, і ў той жа момант, хаваючыся пад вадой, я адчуў яго ледзяныя рукі на сваіх нагах. Я спрабаваў супраціўляцца, але тое было марна. Неяк умомант я перастаў думаць, адчуваць і, урэшце, праваліўся ў бездань.

* * *

Спінаю я адчуваў пад сабою халодную зямлю. Адчуваў, як непрыемна ліпла да цела мокрае адзенне. Як у абтку стаяла вада. Я паварушыў рукой, упэўніўся, што валодаю целам і толькі тады расплюшчыў вочы.

Нада мною схіліліся два незнаёмыя твары — нейкія падлеткі.

— Фух… Жывы, — пісклявым голасам азваўся адзін.

— Нарэшце. А мы ўжо і не спадзяваліся, — дадаў другі.

— Там. Прывід. Яна за ногі. Танула, — я ніяк не мог звязаць словы ў сказ. — Празрыстая. Ногі. За ногі…

Я прыўзняўся, абапёршыся на локці. Адзін з выратавальнікаў пацягнуўся да маіх ног, задраў адну калашыну і, падалося, крыху здзівіўся. Пасля задраў другую. Я сеў і ўбачыў, што там, дзе мяне хапалі жудасныя рукі, віднеліся іх крывава-сінія адбіткі. Адбіткі рук прывіда.

Ізноў свяціла поўня. Я бег, колькі ставала сіл, і нават не адразу ўцяміў, што апынуўся на плошчы. Адзенне апякала холадам. Я збочыў на сваю вуліцу, трапіў у двор першай жа хаты і пагрукаў у дзверы. Адно з вокнаў зажаўцела. Перад вачыма ўсё паплыло, і я зваліўся ў нерасталы ля ганка снег. На парозе з'явілася нейкая постаць. Я паспеў падумаць пра тое, што вясна ў гэтым годзе дрэнная і дужа халодная, і зноўку страціў прытомнасць.

І ўжо не бачыў, як на ўсходзе ледзь пачынала ружавець раніца, сарамліва выглядаючы з-за далягляду, і як прачнулася вараннё на ліпах у парку, і як абудзіліся сабакі, і недзе там, ля замка, цяжка ўздыхала возера, бы рыбак, у якога з кручка сарвалася рыбіна, пляснуўшы — на здзек — бліскучым сваім хвастом па мутнай вадзе.

Марыя КОБЕЦ

# КАЛІ ДАСПЕЕ МОЙ РАДОК...



***Марыя Кобец нарадзілася 19 кастрычніка 1974 года ў вёсцы Валішча Пінскага раёна. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Калесніка. Вучыцца ў інстытуце журналістыкі БДУ. Аўтар паэтычнага зборніка «Кроплі» (2011 г.).***

## РАЗМОВА З ВЕТРАМ

Вятрыска-вецер!
Стой! Куды ляціш?!
Куды кіруеш крыламі аблокаў?
Твая жалейка парушае ціш,
Музыка-вецер — майстар найвысокі!..

Навошта хмары скручваеш ў клубок?
Падолы рвеш бязлітасна на дрэвах?
Ну што ж ты, вецер?
Ці ж у гэтым прок?
Ды годзе ўжо!
Ці ў тым твая патрэба?

Пастой жа, вецер,
дружа мой, пастой!
Не рві мне косы!
Я даўно не тая!
Дазволь сагрэцца ў бездані пустой
І не счарсцвець у сіверным адчаі.
І не растраціць тое, што здаўна
Падараваў-узнагародзіў Творца.
Пастой жа, вецер,
хопіць жа, спаўна,
Шугаць-пужаць у цемені бясконцай.

Ты лепей злёгку голле палюляй —
Няхай паснуць збянтэжаныя птушкі.
А потым
ціха-ціха мне найграй
Сваёй жалейкай песню Папялушкі.

## ХАЙ ВІРУЕ СУМЛЕННЯ БАЛЬ

…Хай віруе сумлення баль! —
Без дажджу камнем стане зямля.
...Я дарую сабе ўсё,

на жаль.
Я дарую сабе
Апасля…

А пакуль…
Захлісне пад дых.
І сумленне спаўе змяя.
Не дарую я дзён слабых.
Не даруйце мне —
я — не Я.

Не шкадуце мяне.
Не трэ.
Для нячулых спагада — мана.
Уратуйце сябе!
Мой грэх —
ёсць не ваша — мая цана.

Не пытайце навошта?!
…Так! —
Даўні вязень сумлення я.
Ланцугі і бізун, кулак.
Так і трэ мне!
Бо я — не Я!

Справядлівасць?!
Які ў ёй смак?
Асалода мядовых траў?..
Не! — акраец чарствы, праснак.
Не! — халодны ляза метал.
Гэта верад і вораг мой,
Гэта боль і пятля мая,
Кайданы ад сваіх жа няволь,
што трымаюць мацней удвая!

Не даруйце мне!
Лепей так!
Хай сумленне спаўе змяя!
Ланцугі і бізун, кулак —
ёсць прычасце і споведзь мая,
і збавенне ад дратаўя
і ахоўнік мой,
і анёл!

…Не даруйце мне —
я — не Я.
Даравацць можа толькі ЁН.

* * *

Я замоўлю твой боль навякі.
Я шаптуха.
Ну што ты не знаеш?!
Дакрануся шчакой да шчакі,
І праз хвілю ты боль не ўзгадаеш.

Выкінь прэч ўсе пігулкі!
Які
толк ад іх?
Ты ж даўно іх прымаеш.
Я парву гэты боль на шматкі!
Адмалю!
Ты са мной акрыяеш!

Ты не хочаш?!
Твой шлях напрасткі.
Ён адрозны.
Напэўна, ты знаеш.
Я шаптуха.
Ты іншы, другі.
І шаптухам ты не давяраеш.

Прыйдзе Заўтра.
Халодны такі
Новы дзень, новы боль…
Не чакаеш?
Заўтра
будзе шаптаць не з рукі.
Ды шаптухам ты не давяраеш.

* * *

Забудзеш мяне,
як раніца ўзыдзе,
як вечар над лесам
запаліць агні.
Забудзеш пра ўсё.
Знаю — хутка адыдзе.
А зараз ты лепей
Сябе не мані.

Забудзеш, як сонца
свяцілася ў зрэнках,
Як вецер растрэпваў

мае валасы.
Забудзеш той міг,
як дрыжэлі каленкі,
іскрыліся вочы
ў начныя часы.

Забудзеш, як золак
нашэптваў прызнанне,
як зоры падміргвалі
нам па начах.
І нават не ўспомніш
сустрэчы-растанні
з прыкметай адчаю
ў жаночых вачах.

Забудзеш-забудзеш.
Знаю — забудзеш
аблічча і рысы
дазвання.
А я?
Маіх жа пачуццяў
і час не астудзіць.
Хай ты і забудзеш!
Ці ж забудуся я?

* * *

Халодны дотык цёплае рукі —
гарачай спёкі —
звычка прахалоды.
Пасмяглых вуснаў —
подых трапяткі…
І зноўку — бездань, вір, прывід!..
…Лагода…
І зноў вачэй байніцы —
забыццё.
І абуджэння — звыклая
трывога.
Халодны позірк —
сэрца — на шмаццё,
Лязо вачэй —
як смерць без засцярогі.

* * *

Ці ж знаеш ты, як спеліцца радок,
Без воч-вушэй істота, ці ж ты знаеш?!
...Шляхі-дарогі збіліся ў клубок...
Ды што табе?
Ці ж ты на іх зважаеш?!

Ці ж знаеш ты, як спеліцца радок?
Жывы, гарачы, з прысмакам палыну.
Ці ж ты прачуеш горычы клубок?
Ці ж ты прачуеш,
не каўтнуўшы сліну.

Ці ж знаеш ты, як дыхаецца ў смог?
Сівы, густы, і едкі і абрыдлы.
Дзе ты была, істота, як знямог?!
Маўчы!
Я знаю!
Струшчвала мне крылы!

Ці ж знаеш ты, дзе будзе мой грудок?
Зямлі-мяне,
травы-мяне,
вадзіцы.
Тады, калі даспее мой радок,
Ці ж зможа ім хто колісь спаталіцца?

Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ

# ТРЫ ПОЎНІ, ГОРАД І АГНІ



***Маргарыта Латышкевіч нарадзілася 19 студзеня 1989 года ў Брэсце. У 2011 годзе скончыла філфак і магістратуру БДУ. Працуе ва ўніверсітэцкай лабараторыі фальклору, вучыцца ў аспірантуры. Адзін з самых любімых жанраў для творчасці — фантастыка. У вольны час лепіць з палімернай гліны, малюе, гуляе ў камп'ютарныя гульні. Любіць джаз, катоў і зіму.***

Няма ва ўсёй Галактыцы горшага месца за Кагаяйрэн. Самі падумайце: заўсёдны дождж, смуга, бязглуздыя рытуальныя шэсці. Пабудзеш тут дзень — і ўвечары ўжо на ваніты пацягне ад усіх гэтых агеньчыкаў, танюткіх галасоў званочкаў ды гугнявых спеваў.

Кажуць, да мясцовай экзотыкі ёсць ахвотнікі, арыгіналы, турысты ды іншыя вычварэнцы, але я дакладна не адзін з іх. Не жадаю я фатаграфаваць купку святароў у маляўнічых лахманах, хай сабе яны нават вытанцоўваюць з папяровымі ліхтарыкамі. Не, мне, калі ласка, дайце добры касмапорт, утульны буфет і годнае абслугоўванне. Толькі дзе знойдзеш годнае абслугоўванне на гэтай чортавай ускраіне.

— Амальтэ, — кажу я, па-пакутніцку круцячыся на залішне высокім для мяне крэсле. — Амальтэ, гэта ж невыносна.

— Што, мой шаноўны? — млява пытае Амальтэ, ленавата выціраючы пыл з барнай стойкі. Ляпае далонню па нейкай гідкай з выгляду казюрцы і спакойна працягвае наразаць для мяне замоўленую салатку. Ага, санітарныя нормы на самым высокім узроўні. А як жа.

— Ды ўсё, — адказваю я, хмурачыся. — Гэты ваш горад. Планета гэтая ваша. Дождж, бруд, сырасць. Як вы наогул тут жывяце, Амальтэ?

— Жывём, — Амальтэ абыякава паціскае плячыма і шпурляе на стойку талерку. — Яшчэ чаго-небудзь, мой шаноўны?

Я моршчуся і тыкаю палачкай у змесціва талеркі. Амальтэ, склаўшы тонкія смуглявыя рукі, глядзіць на мяне прадаўгаватымі пунсовымі — кагскімі — вачыма. Святло ад лямпы б'е ёй у твар, і зрэнкі ператвараюцца ў ледзь прыкметныя нітачкі.

— Дзікуны, — бурчу я, адштурхоўваючы талерку.

Амальтэ трасе валасамі — бразгаюць уплеценыя ў косы традыцыйныя дробныя званкі. Без асаблівай цікавасці гляджу ў акно. За дажджавой заслонай, акрамя бледных плям, нічагуткі не відаць. Плывуць агні чарговага шэсця, льюцца спевы — бясконцыя, панылыя, як надвор'е, як гэты горад, як цяжкае неба над нашымі галовамі.

— Дзікуны, — паўтараю я спецыяльна грамчэй, каб соннай кага было чуваць.

— У нас сёння вялікае свята, шаноўны Бейрыс, — кажа Амальтэ, пазяхаючы і затуляючы рот рукою. — Важнае свята. Тры поўні сустракаюцца ў небе.

Я не слухаю. Калупаю салатку з мясцовай беднай раслiннасцi і апошнімі словамі праклінаю лёс, які прывёў мяне на гэтую агідную планету з не меней агіднымі звычаямі і стравамі.

Хаця, шчыра кажучы, праклінаць трэба Гіза, гэтую ўпартую зямлянскую доўбню. Каму яшчэ прыйдзе ў галаву рабіць падзапраўку ў гарадку накшталт Кагаяйрэн? А я, між іншым, дыпламаваны пілот міжзоркавых пералётаў У-класа. Я павінен пракладаць маршруты, весці карабель... Весці карабель, але аніяк не завязваць знаёмства з буфетчыцай касмапорта і гуляцца са смерцю, каштуючы пададзеную ёй ежу, пакуль мой напарнік дзесьці важдаецца.

Дзверы бразгаюць. Над імі, вядома, Амальтэ таксама прычапіла званок. Гэтыя кагі паўсюль развешваюць званочкі, і ўсё вакол бразгае, брынкае, дзынкае, трэнькае, брэнкае. Яны кажуць — гэта на шчасце. А па мне — да галаўнога болю.

— Добры вечар, гаспадыня, — кажа той, што ўвайшоў, і цяжка апускаецца ў крэсла побач са мной. Амальтэ, нават не пытаючы, пачынае штосьці рэзаць сваім велізарным нажом, раз-пораз паплёўваючы на лязо.

Я адважваюся ўхапіць палачкамі нешта бурае і нават вонкава нясмачнае, пільна разглядаю непрывабны кавалак і суну яго ў рот. І ў той жа момант, задыхаючыся, цягнуся да шклянкі з вадой: такое пачуццё, што ў гэтую салату Амальтэ ўвапхнула ўсе самыя моцныя спецыі, якія толькі знайшліся ў яе бруднай забягалаўцы. А можа, нават і ўсе, што знайшліся ў гэтым праклятым горадзе.

Пакуль я брудна лаюся і кашляю, заходзячыся слязьмі і лаянкай у роўнай ступені, мой сусед мірна папівае нейкае кагскае пойла з высокай шклянкі.

— Праняло? — пытае ён спагадліва. — Гэта ў многіх так, хто нязвыклы, мой шаноўны.

На ім — каптур, таму твару не ўбачыць; але вочы выдаюць, свецяцца чырванаватым агнём, а на адзенні ціхутка бразгаюць дробныя званочкі. Вядома, адзін з мясцовых. Хто ж яшчэ будзе тут бадзяцца.

— Нічога, — працягвае незнаёмы кага. — Праз месяц-два будзеце толькі так есці. Спецыі, яны, ведаеце, хваробы забіваюць, мой шаноўны. Так кажуць.

Гэтыя іх спецыі і цалкам здаровага сірыяніна могуць даканаць. Я абурана сапу.

— А сёння, — усё балбоча сваё наведвальнік Амальтэ. — У нас такое вялікае свята! Вы вось дарма тут засталіся. Там шэсці, карнавал, песні спяваюць.

— У вас заўсёды шэсці і карнавалы, — бурчу я. — Заўсёды спяваюць песні. А касмапорт развальваецца, у буфеце бруд…

Амальтэ ўважліва слухае мяне, падпёршы рукой галаву, і ледзь прыкметна ўсміхаецца. Усмешка недаверлівая, кплівая.

— Так, — выхавана згаджаецца кага ў каптуры. — Здаецца, сапраўды бруд.

— Як вы можаце так жыць? — абураюся я. — Ды ў нас за такое абслугоўванне неадкладна пазбавілі б уладальнікаў касмапорта ліцэнзіі!

— Вось як, мой шаноўны, — вельмі ветліва заўважае незнаёмы мне кага і зноў адпівае свайго напою. Амальтэ, адкрыта пасмейваючыся, працірае пыльныя шклянкі запэцканым фартухом. Па твары відаць — яна мне нікольки, нават на драбочак, не верыць. І, магчыма, нават не зразумела значэнне слова «ліцэнзія».

Я ўздыхаю і пачынаю корпацца ў кішэні камбінезона. Тутэйшая валюта — металічныя манеты самых розных формаў, з дзірачкамі пасярэдзіне, — жудасна нязручная рэч для цывілізаванай істоты і праўдзівая асалода для тубыльцаў. Гэтыя дзікуны носяць завушніцы, бранзалеты і караді са сваіх грошай. І радуюцца.

— Гэтулькі? — з сумневам пытаю я ў Амальтэ, выкладваючы на стальніцу два жаўтаватыя шасцікутнікі, адзін кружок і ледзь зацягнуты ржой квадрат.

— Зашмат, мой шаноўны, — Амальтэ хітае галавой, адным пальцам падсоўвае да сябе шасцікутнік і тут жа спрытна дадае яго да груды металу на сваёй шыі.

Крэсла для мяне высакаватае, таму злезці з яго — выпрабаванне. Я прыкусваю ад напругі губу, баязліва чапляюся за барную стойку і павольна спаўзаю на падлогу. Незнаёмы кага назірае за мной з бяздзейнай цікавасцю. Пастаўлю ўсе металічныя шасцікутнікі, што ў мяне засталіся: калі б я ўпаў і разбіў нос, ён сядзеў бы і глядзеў гэтаксама.

— Добрых вам шляхоў пад трыма поўнямі, — нягучна кажа ён, калі я, стоячы на падлозе, спрабую адсапціся. Амальтэ ківае. Званкі ў яе валасах ізноў брынкаюць.

* * *

На дварэ ўсё яшчэ лье, на зацягнутых льснянай плёнкай заўсёдных лужынах бадзёра ўспухаюць і лопаюцца бурбалкі, адліваючы ўсімі колерамі вясёлкі. За аблупленай сцяной касмапорта чуваць, як гугнявяць свае малітвы мясцовыя. Раздражнёны, знерваваны, я спатыкаюся і лячу носам у лужыну. Спеў і кплівы перазвон рытуальных званочкаў узмацняюцца. Прынамсі, мне гэтыя тонкія серабрыстыя галасы цяпер падаюцца надзвычай кплівымі.

Наскрозь мокры і перапэцканы, крэкчучы, я цяжка паднімаюся на ногі.

— Дзікуны, — бурчу пад нос, тупаючы да карабля.

Трап апушчаны, зверху на мокры бетон лёг квадрат святла. Гэты зямлянскі гадавец, вядома, сядзіць там, у цяпле, дзе суха і ўтульна, пакуль яго таварыш мокне пад дажджом і тоне ў лужынах. Я сціскаю кулакі.

— Гіз!.. — крычу я са злосцю.

Гіз паказваецца на трапе, выцірае рукі аб нейкае рыззё. Бачыць мяне, з хвіліну лыпае вачыма — і заходзіцца рогатам.

— Ты дзе гэта паплаваць паспеў, Клёнік? — пытаецца, хіхікаючы. Заўсёды ён так. А я, між іншым, дыпламаваны пілот міжзоркавых пералётаў У-класа. Мяне трэба шанаваць і берагчы. Магчыма, нават абагаўляць.

Гіз, гулка тупаючы, шпарка спускаецца і, падхапіўшы мяне пад локаць, цягне на карабель.

— Застудзішся яшчэ, — кажа ён. — Ідзі пераапраніся пакуль, Клёнік.

— Пакуль што? — сярдзіта пытаю я. Гіз толькі ўсміхаецца і маўчыць. Яму, як і любой не абцяжаранай належным выхаваннем істоце, падабаецца таямнічасць і нявызначанасць. Напэўна, і дурныя званочкі з шэсцямі таксама падабаюцца.

Але я атрымаў адпаведнае выхаванне, таму не пераношу тыя дурасці і недарэчнасці, якія наіўны Гіз дабрадушна заве «неспадзяванкамі». Тым больш, што нічога добрага з таго ніколі не выходзіць. Ніколі. Ды хіба гэтай доўбні што патлумачыш?

— Вось дык сустрэча! — прапітым голасам гарлапаняць знізу. Гіз рэзка паварочваецца, і яго твар робіцца злым і чамусьці нават больш сталым. Мне гэта не падабаецца. Хай ужо лепш застаецца дураслівым ёлупам.

Да нашага карабля, пераступаючы доўгімі нажышчамі цераз лужыны, ідзе, падняўшы каўнер скуранай пілоцкай курткі, яшчэ адзін зямлянін.

— Зыгмусь, дружа, — весела кажа ён, сушачы зубы. — Колькі гадоў не бачыліся, га?

У яго бракуе аднаго з пярэдніх зубоў, таму ўсмешка атрымліваецца шчарбатай.

— «Зыгмусь»? — нягучна здзіўляюся я. Гіз моршчыць нос. Зварот шчарбатага, нягледзячы на ўсю ласкавасць, яму відавочна не падабаецца.

— Усё лётаеш на бабульцы A-550-L? — тым часам пытае зямлянін, акідваючы ліпкім позіркам наш карабель. — Колькі ёй год ужо стукнула, га?

Вочы ў яго дзікія, светлыя, зусім як у Гіза, а валасы і скура — цямнейшыя. Я хмуруся і на ўсялякі выпадак хаваюся за Гізавай спінай. Не выклікае ён майго даверу.

— А гэта што з табой за пацучок? — зямлянін ківае на мяне. — А, Зыгмусь?

Мне застаецца адно злосна сапці. Не ведаю, што можа азначаць гэтае слова, але гучыць яно непаважліва і мне не падабаецца. Прыблізна гэтаксама, як Гізу — цукровы зварот «Зыгмусь».

— Гэта не пацучок, — кажа Гіз. — Гэта мой напарнік. Чаго табе трэба, Чэска?

— Ды так сабе, — адказвае гэты грубіян. — Пачуў, што адзін з лепшых пілотаў Галактыкі заняты кур'ерскай працай і дробнай кантрабандай, ды не паверыў спачатку. Вырашыў сам пераканацца.

— А, — хмыкае Гіз. — Ну, і як яно? Пераканаўся?

Чэска разводзіць рукамі.

— Ішоў бы ты да мяне, братуха, — няшчыра ўздыхае ён. — У нас на «Клеапатры», далібог, самая сучасная тэхніка. Не тое што твая старажытная развалюха.

Дарма гэты Чэска так. Да нашага карабля Гіз прывязаны больш, чым самка каўу-тпаі — да сваіх шчанюкоў. Аднаму механіку са станцыі «Салют» ледзьве галаву не адкусіў, калі той завёў гаворку пра спісанне.

Гіз нечакана ўсміхаецца, але настолькі злавесна, што я міжволі адступаю назад. Дробнымі-дробнымі павольнымі крокамі, каб, барані продкі, не справакаваць. На шчарбатага гэтая ўхмылка, як ні дзіўна, таксама дзейнічае — ён шчэрыцца павоўчы, цягнецца да вялікай кабуры з бластарам на поясе.

— Мая «Асоль» не развалюха, — цвёрда кажа Гіз. — І не спрабуй мяне надурыць, Чэска. Усе ведаюць, пад якім сцягам твая «Клеапатра» ходзіць.

Чэска смяецца.

— Якія мы ганарыстыя, — ізноў сушыць зубы ён. — Нават і не скажаш, што з Акадэміі касмалётчыкаў у свой час выперлі.

— Ну, — задуменна заўважае Гіз, паціраючы лоб. — Лётаю я ўсё адно лепей за большасць «залатых» выпускнікоў. І дакладна лепей за цябе. Бывай здаровы.

Твар у Чэскі выцягваецца.

— Чакай, сайгак, — паспешліва кажа ён. — Паскакаў ужо, бач ты. Я ж пра што… Мне для аднаго задання патрэбны ўмелы пілот.

— Вось як? — цягне Гіз, звузіўшы вочы.

— А ўсіх спраў, — шчарбаты разводзіць рукамі, — усяго толькі зматацца на трэці спадарожнік гэтай планеткі. Сёе-тое забраць.

Ён, вытрымаўшы тэатральную паўзу, называе суму ўзнагароды — і я ледзь не валюся. Грошай хапіла б на тры такія караблі, як наша «Асоль». І на стыльную аэраграфію на абшыўцы хапіла б, і на скафандры новыя.

Гіз пагардліва чмыхае.

— Не строй дурня, братуха, — гаворыць Чэска. — Адзін заход, а потым цэлы год адпачываць будзеш. Дапіраеш, не?

— Аніяк не магу, — адказвае Гіз. — У мяне тэрміновая праца.

Я тузаю гэтага дурня за рукаў.

— Ты звар'яцеў, ці што? — гнеўна шапчу я. — Гіз, цяпер нам не да тваіх асабістых цёрак з гэтым піратам. Мы тут у раскошы не купаемся, памятаеш?

— У нас праца, — кажа Гіз і мне, і шчарбатаму.

Чэска плюе сабе пад ногі.

— А каб табе добра было, — бурчыць ён. — Быў дурнем і застаўся.

Гіз праводзіць яго напружаным позіркам і лёгенька штурхае мяне ў плечы.

— Варушыся, Клёнік, — загадае ён весела. — У нас шмат спраў.

— А як жа інакш, — змрочна кажу я. — І якіх гэта, цікава?

— Ты толькі не хвалюйся, — усміхаецца Гіз. — Усё будзе…

Я спатыкаюся аб нейкую скрыню ў напаўцёмным труме і не валюся толькі таму, што Гіз сталёвай рукой трымае мяне за каўнер камбінезона. У сярэдзіне скрыні штосьці падазрона звініць і перавальваецца. Ад усёй душы спадзяюся, што гэта падала голас не дарагая зямлянская парцаляна, якую замаўлялі ў сектары 14-Х-9.

— …Добра, так? — кісла заканчваю за яго я. — Вось нагу я зараз добра выцяў, а ў астатнім…

— Усё будзе добра, — упэўнена кажа Гіз.

Мне б яго ўпэўненасць.

У рубцы светла, толькі навокал чамусьці ўецца блакітны дымок. У маіх продкаў нюх атрафіраваўся, таму зразумець праз пах, ці не тлее што з апаратуры «Асоль», я не магу. Даводзіцца спадзявацца на нос Гіза.

— Гіз, — кажу я насцярожана. — Дыміць жа…

— Гэта нічога, — адмахваецца Гіз. — Гэта праца.

Цяпер я і сам бачу: на дошчачцы прыборнай панэлі тлеюць араматычныя палачкі. Побач перабірае пацеркі абарваны кага-святар з рэдкай сівой бародкай. На тонкай шыі — адпаліраваная металічная пласціна на доўгім ланцужку. Гэта яшчэ, праўда, паўбяды, але асабліва бянтэжыць і злуе тое, што ў маім крэсле змясціўся велізарны скрутак пярэстай тканіны.

Я цяжка ўздыхаю.

— Казаў жа, — Гіз набірае на клавіятуры код запячатвання люкаў. — У нас праца, Клёнік.

— Ды што ты кажаш, — змрочна цягну я, разглядаючы прыпёрты да сцяны кій з прывязанымі званочкамі. Несумненна, рытуальны. Святарскі, каб яго.

Святар складае далоні і цырымонна кланяецца.

— Хай будзе блаславёны ваш шлях пад трыма поўнямі, шаноўны Клёнік, — кажа ён бразготкім галаском. Быццам адзін з тых навязлівых рытуальных званкоў раптам загаварыў.

Гэтай дурной мянушкай мяне называе Гіз, з яго сапраўды варварскімі схільнасцямі да скарачэння высакародных і паважных імён. Але чуць такое з вуснаў нейкага незнаёмца, ды яшчэ ад аднаго з кага — гэта ўжо, даруйце, занадта.

— Мяне трэба называць, — абурана заяўляю я, — Клеан Ікара А-Бэйрыс. Я папрасіў бы вас не ўжываць такое недарэчнае…

— Спадар Кэркі, — умешваецца Гіз, — старэйшы святар у храме на трэцім спадарожніку гэтай планеты. І сёння, з нагоды свята, ён павінен правесці там набажэнства. Я правільна вас зразумеў?

— Цалкам правільна, сын мой, — адказвае святар Кэркі.

— І гэта, па-твойму... — шыплю я.

— Гэта наша работа, — спакойна адгукаецца Гіз. У мяне пачынае тузацца вока. Калі ён так кажа, нам звычайна нічога не плацяць. І добра яшчэ, калі пасля не трэба нікому выплочваць штрафы.

Са скрутка ў маім крэсле паказваецца цікаўная пляскатая галава ў залацістай поўсці. Галава косіць жоўтым вокам на Кэркі, прыязна паглядае на Гіза і вышчарае вострыя, частыя — у два рады — зубы на мяне.

— А гэта яшчэ што за халера, — бурчу я і аглушальна чхаю. Галава непрыязна рыкае.

З-пад матэрыі з'яўляецца невялікая шасціпальцая ручка і пляскае па сярдзітай галаве. Тая шыпіць і знікае. На яе месцы з'яўляецца мурзаты тварык кагскай дзяўчынкі.

— У вас што, цырк у храме? — пытаю я трохі раздражнёна і зноў чхаю.

Святар Кэркі смяецца, трасе рэдкай сівой бародкай.

— Не, сын мой, — кажа. — Раманары — наша свяшчэнная жывёліна. Іх гадуюць у горадзе жрыцы, дрэсіруюць, а потым адвозяць у храм Поўні. А дзіця — гэта нашае боства ў смяротным целе, дакладней, яго шэсцьсот сорак чацвёртая інкарнацыя. Мы верым, што Вялікая ходзіць між нас, не пакідаючы свой народ у нястачы, і…

Я пагардліва крыўлюся. Святар маю грымасу заўважае, асякаецца, глядзіць здзіўлена. Відаць, планаваў звінець пра сваіх свяшчэнных пачварак і багінь увесь палёт. Быццам бы камусьці хочацца гэтую лухту слухаць.

— Ідзі лепш пераапраніся, малы, — кажа мне Гіз. — З цябе ўжо лужына нацякла.

Заўсёды ён са мной, як з маленькім. А мне, між іншым, трыста восем сірыянскіх гадоў. Я пацягваю носам і, трымаючыся за сценку, паўзу ў каюту, дзе доўга капаюся ў шафе. З-пад пакункаў з пратэрмінаванымі меднаборамі выцягваю сухі і адносна чысты камбінезон. У галаве нягучна звініць, і незразумела: ці то гэта бацька Кэркі размахвае сваім кіем, ці то ўвесь шум, звон і трэск неспакойнага горада намёртва засеў у маёй галаве.

Я зноў голасна чхаю, і з паліц шафы на мяне абвальваецца ўсё іх змесціва. Пакуль я дарэмна спрабую выблытацца са старога зямлянскага пледа, з грукатам валяцца на падлогу кардонныя скрынкі з прыладамі і старымі часопісамі.

— Клёнік, — кажа Гіз, зазіраючы ў каюту. — Нам стартаваць трэба. Ты як?

— Прыўкрасда, — гугнява адказваю я з-пад пледа. — Дашто хвалябацца за бяне.

Я моршчуся. Ніхто мяне не шкадуе. Ніколі.

Бабулька «Асоль» уздрыгвае і плаўна ідзе ўгару. Пераапрануты ў сухое, з тоўстым пачкам папяровых сурвэтак у руцэ я вяртаюся ў рубку. Без асаблівай ахвоты, канешне. Але Клеан Ікара А-Бэйрыс не звык кідаць свае абавязкі нават у самыя цяжкія моманты. На жаль, гэтага ніхто не ацэніць.

Гіз, насвістваючы адвечны свой варварскі матыўчык, сядзіць за штурвалам, а зласлівая свяшчэнная жывёліна мясцовых дзікуноў сядзіць на яго плячы і — ад цеплыні пачуццяў — далікатна пакусвае за вуха. У ілюмінатары бачныя ўсе тры спадарожнікі: двое блакітнаватых, паменей памерам, і адзін чырванаваты, няправільнай, дзіўнай формы і трохі большы. Варта было мне ўвайсці, як раманары пачынае заходзіцца глухім непрыемным рыкам.

— Ціха, — сурова кажа пачварцы Гіз і, не гледзячы, пстрыкае звера па вуху. Той імгненна супакойваецца.

Я сядаю ў сваё крэсла і гучна смаркаюся.

— А дзе стары? — пытаюся, косячы вокам на падазрона прыціхлага раманары.

— Кэркі і дзяўчынка павінны падрыхтавацца, — безуважліва адказвае Гіз, бо лавіруе ў гравітацыйным полі спадарожнікаў. — Ды і малая, як мне сказалі, не дужа добра пераносіць палёты. Хочаш цукровы юм?

Вольнай рукой ён працягвае мне распачаты пакуначак з цукеркамі. Я бяру адзін шэры шарык і падазрона разглядаю.

— Гэта смачна, Клёнік, — так спакусліва кажа Гіз, што я вырашаю пакаштаваць. На смак цукерка досыць прыемная, кісла-салодкая, ды яшчэ з арэхавымі ноткамі. Падобна да пладоў дрэва туўук з маёй роднай планеты.

Я набіраю цэлую прыгаршчу шарыкаў з пакуначка.

— Мясцовы папулярны ласунак, — працягвае гэты зямлянскі гадавец. — Як я зразумеў, нейкі від жамярын…

Я губляю цукеркі, кашляю і адплёўваюся. Гіз, праўда, не звяртае на гэта ўвагі, бо занадта заглыблены ў сведчанні навігацыйнай сістэмы. Раманары лёгка саскоквае з яго пляча, прынюхваецца да ласункаў на падлозе. Прынамсі, хоць у яе хапае розуму не есці гэтую дрэнь.

— Квадрат адзін — сорак восем, — мармыча Гіз. — Заходжу на пасадку.

Рухавікі мерна гудуць, і гэта супакойвае. Трэці спадарожнік наплывае на нас — чырвоны шар з рэдкімі жмутамі аблокаў. Дзіўна, што тут наогул ёсць атмасфера. Мабыць, пры будаўніцтве храма дадалі модулі тэрафармавання. Помню, у трэцім класе пачатковай школы мы вучылі закон Аві-Каята... Як жа гэта… «пры множнасці элементаў сістэмы іх гравітацыйныя палі могуць узаемадзейнічаць…»

Я хітаю галавой. Не магу ўспомніць. Ды і не павінны. Я пілот, а не навукоўца.

Гіз адкідваецца назад і пацягваецца.

— Гарбаткі б… — летуценна прымружвае ён вочы.

— Скончылася, — паведамляю я помсліва. — Забыўся? Так што нямай свой цукровы юм.

Што і казаць. Яго ж аніяк не прашыбеш. Гіз толькі ўсміхаецца, паднімаецца на ногі і ляпае мяне па галаве.

— Скажу святару, што прыляцелі, — кажа ён, пстрыкаючы гузікам аўтапілота. — Правер пакуль агульныя паказальнікі.

Я моршчуся і з непрыязню гляджу на паверхню спадарожніка. На пунсовых скалах пад намі віднеюцца нейкія лініі. Занадта ўжо правільныя, занадта роўныя.

Карабель заўважна патрэсвае. І гэта дзіўна. Я старанна правяраю прыборы, што шалеюць і заліваюцца віскам: Гіз, відаць па ўсім, зноў не правёў належную каліброўку перад стартам. Паводле звар'яцелых прыбораў, бабулька «Асоль» нясе ўдвая болей пасажыраў.

— Ёлупень, — бурчу я сярдзіта. «Асоль» дрыжыць, быццам у ліхаманцы. Па прыборнай панэлі бокам з'язджае кій бацькі Кэркі. Я працягваю руку, каб злавіць яго, і натыкаюся на цяжкі погляд раманары.

— Нічога такога я не раблю, — кажу я, прыбіраючы руку. Для поўнага шчасця мне не хапае толькі пакінуць пальцы ў пашчы гэтага зласлівага дробнага монстра.

Чуваць, як равуць і адключаюцца рухавікі. «Асоль» цяжка садзіцца, уздымаючы клубы пылу. Я ўздыхаю, сканірую мясцовасць ды яшчэ раз правяраю прыборы. Прабягаю вачыма шэрагі зыркіх значкоў на экране, пазяхаю і нечакана натыкаюся на сёе-тое цікавае. Аж занадта цікавае. На караблі ў нас сапраўды ўдвая болей пасажыраў. Стыковачны шлюз актываваны, і да нас, як п'яўка, прысмактаўся невялікі чаўнок з незнаёмым электронным подпісам. Думкі б'юцца шалёна, пераскокваюць адна праз адну. Няўжо прычапіліся яшчэ ў касмапорце? Скажам, тады, калі і мне, і зямляніну загаворваў зубы той шчарбаты Чэска?

— Гіз! — віскліва крычу я ў камунікатар. У горле суха, голас падводзіць, ламаецца. А гэты дурань, вядома, не чуе. Ніколі не чуе, калі сапраўды трэба.

Я, быццам ашпараны, ускокваю, натыкаюся на незадаволенага раманары, гучна лаюся ды раптам разумею, што звер пагрозліва рыкае зусім не на мяне. У рубцы ста-

яць трое дужых зямлян на чале з тым, з касмапорта. І ён усміхаецца, але ж усмешка ў яго такая нядобрая.

— Выдатна, маленькі пацук, — кажа гэты хам. — Усё ж такі заўважыў наш чаўнок? Вельмі своечасова.

Раманары рыкае гучней, з непрыхаванай нянавісцю, і Чэска, скрывіўшыся, лезе ў кабуру. Я сутаргава перасмыкаю плячыма і адступаю назад. Толькі вось адыходзіць асабліва няма куды — ззаду прыборная панэль, на якой вішчыць трывожная жоўтая лямпачка.

— Ты на маім караблі, Чэска, — выразна і гучна прамаўляе Гіз, з'яўляючыся ў дзвярным праёме. — Трымай свае граблі пры сабе.

Чэска голасна смяецца. Нікому больш, праўда, не весела.

— Братуха, — кажа ён. — Я б ніколі ў жыцці не палез у гэтую лятучую кучу смецця, калі б не вострая патрэба.

З-за пляча Гіза відаць зусім шэрага ад спалоху святара Кэркі. Вочы яго, вялікія, пунсовыя, глядзяць няўцямна, здзіўлена.

— Мне замовілі адну рэч, — працягвае Чэска. — Я ж табе казаў, так? Як высветлілася, гэтую самую рэч я ніяк не магу дастаць без дапамогі мясцовых жрацоў. Акурат ад таго, які раніцай, аказваецца, наняў аднаго пілота — зямляніна і яго вучонага пацучка.

— Эй! — абураюся я, але не так гучна, як належала б: у руках шчарбатага і яго прыяцеляў паблісКваюць срэбрам цяжкія бластары. Адзін скіраваны энергетычны імпульс — і бывай назаўжды.

— І ты вырашыў выкарыстаць мяне, — цэдзіць Гіз. — Пралезці на мой карабель. Выдатна.

Апошняе слова ён выплёўвае з агідаю. Прыблізна так звер каўу-тпаі плюецца атрутнай слінай.

— Ты мог бы згадзіцца адразу, — пірат разводзіць рукамі. — Усім нам было б прасцей.

Яго прыяцелі змушана смяюцца, а шчарбаты весела падміргвае святару:

— Абавязкова падніму кілішак за цябе і ўсіх тваіх бостваў, дзядуля.

— Як вы смееце здзекавацца са святога… — ускіпае святар Кэркі, але Чэска спрытна падымае бластар і выстрэльвае ў сцяну побач з галавой старога. Той імгненна заціхае, толькі разгублена лыпае вачыма.

— Замова ад вашага ж яйрэнскага чыноўніка, — холадна заўважае Чэска. — Так што будзь паслухмяным, дзядуля, і адчыні нам храм. А то як бы чаго нядобрага не здарылася.

З калідора паказваецца мурзатая кагская дзяўчынка са скруткам цукерак. Мала ўвагі звяртаючы на ўзброеных зямлян, яна крочыць у рубку да раззлаванага раманары.

— *Гаэл*, — ласкава лапоча дзяўчынка. — *Канна і ціяда да'ала*?

Чэска ўхмыляецца, хапае дзяўчынку і прыстаўляе бластар да яе галавы.

— Ну? — кажа шчарбаты. — Дзядуля, вырашай давай. А то ў мяне пальчык можа і саслізнуць. Нечакана так. Незнарок.

У святара Кэркі закочваюцца вочы, і ён павольна асядае на падлогу. Чэска раздражнёна сплёўвае.

— Вось жа…

Я бачу твар Гіза і разумею, што зараз адбудзецца штосьці вельмі-вельмі дрэннае. А толькі што мне здавалася, што горш быць ужо не можа.

— Гіз, не трэба ўблытвацца, — настойліва шапчу я, а гэты зямлянскі дурань ужо кідаецца на пірата, як дзікі трохногі дайюр.

— Н-н-навалач! — раве ён і суне кулак шчарбатаму ў здзіўлены твар.

Дзяўчынка верашчыць, коціцца ўбок. Пальчык у ашалелага Чэскі сапраўды саслізгвае, і бластар выстрэльвае — праўда, у сцяну. Выстрэльвае зноў — і зноў атрымлівае ў твар, губляе зброю, лаецца і хрыпіць. Двое іншых зямлян спрабуюць адцягнуць Гіза ад свайго капітана, але занадта замінаюць адно аднаму, каб гэта зрабіць.

— *Гаэл*! — крычыць дзяўчынка, і па галасе чуваць, што гэта загад.

Раманары закідвае галаву і пачынае выць так жудасна, што ў мяне аддаецца ў галаве. Вые і, увесь у пене ды ззянні, раптам вырастае на вачах да пачвары памерам з двух зямлян, якім, дарэчы, грэх жаліцца на рост. Гэтая жудасная пачвара б'е хвастом па прыборнай панэлі і прыціскае дваіх разгубленых піратаў да падлогі. Прыборы іскраць, сірэна галосіць, а бабулька «Асоль» незадаволена крэкча. Карабельны камп'ютар задумваецца на хвілінку і ўключае супрацьпажарную сігналізацыю — мабыць, не лёс мне сёння канчаткова высахнуць.

— Каб табе, — хрыпіць Чэска пад локцем Гіза. — Каб табе…

Адно вока ў яго заплывае, у роце нестае яшчэ аднаго зуба: Гіз здолеў за такі кароткі тэрмін як след урэзаць яму.

Асабіста я прынцыпова супраць усялякага гвалту і цвёрда перакананы ў тым, што цывілізаваныя істоты ніколі не пачнуць вырашаць пытанні банальным біццём мордаў, нават і зямлянскіх. Праблемы можна і трэба вырашаць інакш — вось што мне прышчапілі яшчэ ў раннім дзяцінстве. Гэта называецца належным выхаваннем.

Таму я на дыбачках падыходжу, акуратна пераступаючы цераз доўгія зямлянскія ногі, падымаю з падлогі пірацкі бластар, і — на ўсялякі выпадак — наводжу яго на вельмі ціхага цяпер і нават нявіннага з выгляду Чэску. Гіз, трымаючыся адной рукой за рэбры, павалі выпростваецца, моршчыцца.

Святар Кэркі ўжо апрытомнеў, паволі падымаецца, і рукі ў яго дрыжаць.

— Піраты, — абурана кажа стары. — Але хто… хто ж вас наняў… навошта?!

— Так я табе і сказаў, — злосна адказвае Чэска.

Я недвухсэнсоўна ківаю на бластар у руцэ. Пірат хмурыцца. Ён істота нецывілізаваная, як і ўсе зямляне, але нішто так не натхняе на шчырасць, як накіраваная ў лоб руля бластара.

— Усе гэтыя кага на адзін твар, — кажа пірат неахвотна. — Ну, проста нейкі тып з гарадской адміністрацыі. Напэўна, спусціў грошы ў карты, а цяпер трэба вярнуць у бюджэт. А тут статуя, бачыце. Якая даражэйшая за ўсю вашую дурную планету.

— Стату… — шэпча Кэркі і раптам выбухае: — Статую Вялікай?! Любая Багіня, гэта ж блюзнерства! І каб чыноўнік… неверагодна!

Мяркуючы па маім вопыце знаёмства з чыноўнікамі розных рангаў па ўсёй Галактыцы, не так ужо гэта і неверагодна.

— А яшчэ той тып даў нам ключык, — Чэска пакруціў носам. — Толькі без паловы, што ў святара, сказаў, не спрацуе. Ну, я і падумаў...

Раманары шыпіць пагрозліва. Чэска па-пакутніцку ўзнімае вочы да столі, здымае з рукі тонкі металічны бранзалет і раздражнёна кідае яго побач з сабой. Мурзатая дзяўчынка імгненна падыходзіць і хапае бранзалетку. Раманары зноў вые, але ўжо інача́й. Радасна, здаецца.

— Гаэл, — строга кажа дзяўчынка. — Цішэй, калі ласка.

Звер азіраецца на яе і імгненна памяншаецца да ранейшых памераў. Вызваленыя піраты, вохкаючы, адпаўзаюць да сценкі, імкнучыся не прыцягваць увагі, і я не магу іх вінаваціць: сам бы ахвотна запоўз у ціхае і спакойнае месца.

Дзяўчынка, праходзячы паўз святара, рэзка чапляецца пальчыкамі за яго амулет. Ланцужок не вытрымлівае, і зіхоткі метал застаецца ў дзіцячай далоньцы.

— Цяпер код, — мармыча дзяўчынка і пстрыкае бранзалетамі. Дзве металічныя пласціны імгненна счапляюцца, як два кавалкі мазаікі, а на паверхні не застаецца і следу ад стыку. Яшчэ дотык тонкіх пальчыкаў — і на гладкім метале загараюцца раней незаўважныя зыркія знакі.

— Йіла! — усклікае Кэркі здзіўлена. — Мілае дзіця! Што... што тут адбываецца? Багіня…

Паверхня спадарожніка ідзе доўгімі расколінамі, раскрываецца, быццам агромністы бутон. Пад вусцішнае мернае гудзенне «Асоль» апускаецца кудысьці ў цемру. Салата з забягалаўкі Амальтэ падкочваецца да майго горла і пераканаўча просіцца на выхад.

— Прыехалі, Машу вашу, — бадзёра, хоць і шапялява, кажа Чэска.

— Йіла! — паўтарае Кэркі, цяпер ужо з адценнем слёзнай просьбы. Дзяўчынка холадна ўсміхаецца.

— Гэта ненатуральны спадарожнік, — кажа яна павучальна. — І храм — гэта не храм. Продкі кага не ведалі такіх тэхналогій, істота. Усё гэта — касмічная станцыя і адзін няўдалы эксперымент. Вы ўсе — няўдалы эксперымент.

Раманары, чапляючыся кіпцюрамі за патрапаную сукенку, узбіраецца ёй на плячо, і дзяўчынка пяшчотна гладзіць звярка па галаве.

— Пачакай, — вырашаю ўмяшацца я. — Касмічная станцыя? Што за лухта? Адкуль табе тое ведаць, малая?

Словы засядаюць комам у горле. Глядзіць яна зусім не як дзіця. Глядзіць і ледзь заўважна ўсміхаецца — як дарослая, нават старая жанчына. Жудасна старая жанчына.

— Я была тут, — адказвае яна. — Даўно. Мы вывучалі гэтую прымітыўную планетку. Выводзілі новую разумную расу. Вось іх.

Яна ківае на ўражанага Кэркі. Пасля зноў пстрыкае бранзалетам, і цемра вакол нашага карабля расквечваецца тысячамі зыркіх лямпаў. Я прыпадаю да ілюмінатара. Падобна да таго, што мы ў сярэдзіне велізарнага ангара.

— Карабель?.. — шапчу я, не верачы.

Яшчэ смаркатым школьнікам я чуў пра Даўніх і чытаў пра іх з апантанай цікаўнасцю. Пра тых, што перасякалі зорныя абшары, сягаючы далей, чым хто-небудзь. Тых, што з'явіліся раней за іншых, нават раней за сірыян. Тых, што прыйшлі з нязведанага, таемнага ды жудаснага Чорнага Космасу і ў ім, у рэшце рэшт, зніклі. Пакінулі пасля сябе толькі руіны пад вечным лёдам на некаторых аддаленых планетах ды рэдкія запісы ў старадаўніх летапісах.

Лухта. Даўнія жылі тысячы гадоў таму.

— Я была тут, калі ўсё пайшло не так, — вельмі сур'ёзна кажа дзяўчынка, і на тварыку яе — цукар ад юма. — Экспедыцыя праходзіла тут, на планеце. Сутычка з дзікунамі… капітан і яшчэ трое загінулі. Капітанавы ключы хтосьці сцягнуў. У мяне атрымалася схавацца і асімілявацца. Жыць, хай сабе і ў розных целах. На жаль, недасканалых, тубыльскіх. Акрамя таго, іх вера ў боскасць Трэцяга спадарожніка была мне на руку. Інкарнацыі Багіні, так яны мяне называлі. Сотні гадоў пошукаў — і толькі адзін ключ вярнуўся да мяне.

Яна змрочна глядзіць на агні.

— Цяжка было дапамагаць дзікунам развіць тэхналогіі да належнага стану, — працягвае дзяўчынка. — Яны ні за што не паляцелі б сюды, калі б ведалі праўду. Ці паляцелі б, каб расцягнуць усю станцыю па кавалачках. Як гэтыя, — яна ківае на Чэску. Той робіць вялікія вочы і спрабуе адсунуцца яшчэ далей.

— Іх рэлігія, вера былі маёй абаронай. Раз у трыццаць гадоў, у гэтае праклятае свята я прылятала сюды… безнадзейна. Сістэму нельга было актываваць толькі з адным ключом. І вось, нарэшце…

Дзяўчынка змаўкае. На мурзатым тварыку з’яўляюцца слёзы.

— Я змагу адправіцца дахаты, — працягвае яна. — Прэч адсюль. Нарэшце.

— Дык вы ашуквалі мясцовых? — пытаю я. — Прымусілі верыць у нейкую лухту дзеля сваёй выгады… выкарыстоўвалі іх... целы? Гэта ж агідна, як ні круці.

— Мне ўсё адно, істота. Я хачу дахаты, далей ад гэтай гідкай планеты і яе брыдкіх насельнікаў.

Кэркі, глынаючы слёзы, падае на калені.

— Любая! — святар цягне да яе рукі. — Не пакідайце нас! Мы заўсёды верылі, што багі ахоўваюць нас! Што Багіня…

— Дзякуйце Багіне, — кажа дзяўчынка, крывячы пульхныя вусны, — што я не стану знішчаць ваш брудны свецік.

Яна лёгка варушыць плечуком, быццам скідаючы ранейшае аблічча. Цяпер яна галавы на дзве вышэйшая за маленькую кага і нікольні да яе не падобная, а вочы — яркія, жоўтыя, як у раманары, — цьмяна свецяцца.

— Дзеля багоў! — Кэркі кідаецца ёй у ногі, і Йіла, што так рэзка змянілася і так нечакана вырасла, грэбліва адштурхоўвае яго.

— Няма ў вас аніякіх багоў, — злосна кажа яна. — Няма і не было, істота.

— Але ж вы — іх багі, — кажа Гіз, па-ранейшаму трымаючыся за рэбры. — Можа, яны не тых абралі. Дык вы самі вінаватыя, з вашымі дурнымі эксперыментамі. І цяпер не вам вырашаць, верыць ім ці не або ў што іменна ім верыць.

Заўсёды ён пляце ўсялякае глупства. А гэтую жаўтавокую асобу, здаецца, раззлаваць вельмі лёгка — бач, як нахмурылася. З Даўніх яна ці не, але згусткі зыркага полымя на кончыках яе пальцаў мяне надзвычай непакояць. Такая ж па сценцы гэтага ёлупа размажа — і не паморшчыцца нават. А дзе я пасля ў Кага-яйрэн прыстойнага пілота знайду?

— Ім не багі дапамагаюць жыць у галечы і брудзе, — усё гне сваё ўпарты Гіз. — А вера. І гэтага вам у іх не адабраць, нават калі вераць яны ў вас.

Гляджу я і дзіву даюся: рукаў камбінезона ў Гіза цямнее. Нядобра так цямнее. Чэска ўсё-такі не зусім прамазаў, відаць.

— Ідыёціна! — крычу яму я. — Ты што робіш… ты ж… у цябе ж…

А гэты гадавец зямлянскі белы-белы ўжо, як смерць. І хістаецца.

— Вера? — з’едліва перапытвае жаўтавокая. — Ім, па-твойму, дапамагае вера, істота?

— Усім трэба ў што-небудзь верыць, — шэпча Гіз. — Усім трэба… верыць.

Зразумелая справа, тут каленкі ў яго ўжо падкошваюцца, бо, сапраўды, як можна так безадказна ставіцца да раненняў? Я, лаючыся пад нос, лезу ў аптэчку па бінт ды аэразоль «Антышкода». Добра б яшчэ якасны стымулятар укалоць, толькі дзе ж яго ўзяць. Ды і на зямлян сірыянскія стымулятары дзіўна ўплываюць.

Тут жаўтавокая раптам пляснула ў ладкі.

— Так, — кажа яна. — Ты… вы маеце рацыю.

А раманары з яе пляча як шмыгне! Гізу аб нагу трэцца і пішчыць штосьці сваё, раманарынскае. Жаўтавокая падыходзіць да гэтага зямлянскага дурня, кладзе руку

на яго плячо і шэпча штосьці. І бачу я: вакол яе рукі праблісквае блакітная іскрыстая паўсфера.

— Вам будзе лепш, — кажа жаўтавокая. — Гэта... лячэнне.

Я сапу з абурэннем. Усе мае старанні наконт бінтоў і лекаў нечакана блякнуць на гэтым фоне і становяцца непатрэбнымі. Акрамя таго, не падабаецца мне, як тая жаўтавокая іншапланецянка на Гіза глядзіць. Як на рэдкую жамярыну для калекцыі.

— А гэтыя, — жаўтавокая глядзіць на святара Кэркі і ўздыхае. — Яны… няхай вераць. Так?

* * *

…Усё-такі няма ва ўсёй Галактыцы горшага месца за Кага-яйрэн. Самі памяркуйце: бясконцы дождж, адвечная смуга, заўсёдныя рытуальныя шэсці. Пабудзеш тут дзень — і да вечара ванітаваць пачнеш праз усе гэтыя агні, званочкі і гугнявыя спевы. І праз кепскую ежу таксама будзеце ванітаваць.

— Амальтэ, — кажу я, круцячыся на залішне высокім для мяне крэсле. — Амальтэ, гэта ж невыносна…

— Што, мой шаноўны? — пытае Амальтэ, ахінаючы сябе жэстам Трохпоўні. — Сёння вялікае свята. Жрацы кажуць, Трэцяя поўня нам ззяла. Добры знак. Добра жыць будзем, мой шаноўны.

Я кручу галавой. Дарма яны такую ўвагу надаюць ззянню сваіх спадарожнікаў замест таго, каб прыбрацца.

Раманары Гаэл, жмурачыся ад задавальнення, ружовым язычком сёрбае малако з вялікай міскі. Жаўтавокая Йіла злева ад мяне разняволена гартае турыстычны даведнік.

— А ты чаго за намі пацягнулася? — злосна бурчу я пад нос. Але ў гэтай іншапланетнай ведзьмы слых, як у начнога звера кхта-йлу.

— Усім трэба ў нешта верыць, — цьмяна адказвае яна, адпраўляючы ў рот цукровы юм.

Вось і паразмаўляй з ёй, ніякіх нерваў не хопіць. А я, не магу не заўважыць, дыпламаваны пілот міжзоркавых пералётаў У-класа. Мяне трэба паважаць і берагчы.

Дзверы бразгаюць. Ізноў гэтыя клятыя кагскія званочкі.

Мы з Йілай адначасова паварочваемся.

— Дзе цябе насіла, ёлуп, — бурчу я. Раманары перастае піць малако, таксама глядзіць на дзверы. Звер прыкусіў кончык ружовага язычка і выглядае вельмі пацешна.

— Ёсць выдатная місія, — паведамляе Гіз радасна. — Толькі варушыцеся.

— Гэта яна па-твойму «выдатная», — бурчу я, спаўзаючы на падлогу з крэсла.

— Пачалося, — чмыхае Йіла, кідаючы Амальтэ некалькі звонкіх манет. Гаэл, хутка перабіраючы лапкамі, залазіць ёй на плячо і кпліва сушыць вострыя зубы.

— Ды ўсё будзе добра, — у які раз пераконвае мяне гэты дурны зямлянін. — Праўда, Клёнік.

Я ківаю. Я, як ні дзіўна, практычна веру яму.

Проста кожнаму трэба ў што-небудзь верыць.

*Віктар ШНІП*

# НА БЕРАЗЕ НАШАГА ЎЧОРА



***Віктар Шніп нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна. Працуе галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура». Ганарыцца тым, што ў дзесяці кіламетрах ад Пугачоў знаходзіцца купалаўская Вязынка.***

* * *

Стамілася сонца вісець над зямлёй.
Напоўнена сонца нявіннай крывёй,
Слязьмі і віном, у якіх ёсць святло
І тое, што будзе, што ёсць, што было
На нашай зямлі, што ляціць сярод зор,
Спалохаўшы зоры і вечны прастор,
Дзе сонца вісіць, як на нітцы, на веры,
Што Моцартаў болей між нас, чым Сальеры…
Я сонцу ўсміхнуся, і сонца ў адказ
Мне будзе ўсміхацца яшчэ сотню раз,
Каб я не самотна глядзеў на наш свет,
Дзе сёння ў прароках не ходзіць Паэт…

* * *

Гэты снег, як пачатак апошняй зімы,
Забірае дарогі, кусты і дамы.
І бялюткае неба з бялюткай зямлёй
Раптам сталі прад мною бялюткай сцяной,
Праз якую іду, быццам бы праз той свет,
Дзе за мной аніхто не спяшаецца ўслед.
І, здаецца, што час прыпыніўся, як смерць,
І што будзе праз хвілю нам не зразумець,
Бо ўсё тут, як са снегу, і ўсё, быццам снег,
Нават твой, мая панна, гарэзлівы смех.
І мы будзем смяяцца, бо хопіць нам слёз,
Нам без бою не здацца і зменіцца лёс,
Снег не стане пачаткам апошняй зімы,
Снег растане, як сцены апошняй турмы…

* * *

Ты сваю палюбіў адзіноту,
Як у чорнае пляшчы, віно,
Што чырвонае, быццам лістота
На асіне, якая ў акно

Да цябе заглядае ў журбоце
І ўсё шэпча, што трэба табе
Не згараць на бясконцай рабоце,
Не ляцець, нібы дым, па трубе,
Па той вуліцы, дзе анікога
Ты не бачыш, нібы ў цемнаце,
Праз якую расці нам да Бога,
Як трава, што нястрымна расце
Праз асфальт, каб сваю адзіноту
Берагчы і спакойна любіць,
Хоць бывае, падчас, не ахвота
Нават жыць...

* * *

Не баяцца паэты дажджу
І дажджы не баяцца паэта.
Я ў дажджы, як у лесе, хаджу
І шукаю ўчарашняе лета.
А яго быццам бы й не было
І, здаецца, зноў восень прыходзіць.
Я на кветках знаходжу святло,
Як пчала мёд надзённы знаходзіць.
І мне светла ў дажджы ад дажджу,
Як ад вершаў нябёсных Стральцова.
Я ў дажджы, як у вершах, хаджу,
Дзе дажджынка, як роснае слова,
Што ад Бога з нябёсаў прыйшло,
Каб адзін аднаго мы любілі
Так, як дзеці ўсе любяць святло
Зорак тых, што мы ўчора стушылі.
Не баяцца паэты дажджу
І дажджы не баяцца паэта.
Я ў дажджы, як у небе, хаджу
І знаходжу ўчарашняе лета…

* * *

На хмарах няма ні агню, ні камення,
І сыплецца з хмараў вялізарны град,
Як ночы мінулай дурное насенне,
Якому ніхто на зямлі ў нас не рад.

Збіваюцца градам лістота і кветкі,
Якія нядаўна па-райску цвілі.
І ты ўжо самотна глядзіш на палеткі,
Што сталі, як мора, вадой заплылі.

Гаворыш: «Змагаецца з намі прырода!»
І я не пярэчу нікольки табе.
Што нас пераможа прырода —
не шкода.
Шкада мне, што кветкі сягоння
ў журбе…

* * *

Сяджу адзін у бары,
Ваду, як неба, п'ю.
Навокал тары-бары,
А я іх не люблю.
Абрыдла ўсё, і сонца
На вуліцы, як пень,
Які гарыць бясконца
І, нібы дым, твой цень
Заплыў і знік у бары
У каве і віне.
Начэй маіх гітары
Разбіліся ўва мне.
І знікла ўсё, і вецер
Мяне, як пыл, панёс
Па чорным белым свеце,
Дзе шмат віна і слёз,
Дзе ты сядзела ў бары,
Дзе я з табою піў
І слухаў тары-бары,
Бо я цябе любіў…

* * *

Сёння ты падымаешся ў неба
Па прыступках з драўляных крыжоў,
І табе ўжо нічога не трэба,
Нават наша, як неба, любоў.
Засталося ў мінулым былое,
І яго, быццам бы й не было,
Каб не крыж, што стаіць над табою,
Каб не свечак спакой і святло,
Што гавораць, што ты быў у свеце,
Дзе нічога без Бога няма.

І ляціць, як прысмалены, вецер,
І спакойна прыходзіць зіма
Праз цябе па дарозе да неба,
Дзе няма ні жыцця, ні крыжоў,
Дзе нікому нічога не трэба,
Бо там Бог і там Бога любоў…

* * *

Мне сніцца Балтыйскае мора,
Дзе поўня, нібыта бурштын
На беразе нашага Ўчора
Ляжыць, не падымеш адзін.
Мне сніцца, што гэта — Айчына
Мая і яна без мяне
Самотная, нібы жанчына,
Якая мне бачна ў віне,
Якое я п’ю за Айчыну,
Як Сыс Анатоль часта піў
Пакуль не памёр, не пакінуў
Усё, што цвяроза любіў.
Мне сніцца Балтыйскае мора.
Яно, як халодны агонь,
З якога народжаны зоры.
Збіраю бурштын на далонь,
Які як крышталікі шчасця
Вялікага княства майго,
Якога нікому не ўкрасці,
Бо ў сэрцах мы носім яго…
Мне сніцца, што я не самотны,
Бо маю Айчыну, дзе я
Адной толькі ёй вечна родны
І вольны, як песня твая,
Айчына мая залатая,
Святая Айчына мая…

* * *

Халодная з крана вада,
Нібы з таго свету цячэ.
Любая бяда — не бяда,
Бо мы тут жывыя яшчэ.
Нам сумна на белай зямлі,
Дзе снег, ну а заўтра — дажджы.
Тут нашыя продкі жылі,
Пра гэта вам скажуць крыжы
На храмах старых, на кладах,
Куды мы адыдзем з бядой.
Не спыніцца з крана вада,
Ёй, мёртвай, не стацца жывой.
І п’ём мы з табою ваду,
Бо мы тут жывыя яшчэ.
Праз нас аблачыны лятуць,
І неба праз вочы цячэ,
Халоднае, нібы вада,
Якою затоплены свет,
Дзе наша бяда — не бяда,
Дзе Бог наш жыве, як Паэт…

* * *

Ты хацеў прыкурыць цыгарэту,
А ўзяў ноч падпаліў і паўсвету
Асвяціў, і пачаўся там дзень
У тумане, бы ў дыме начным,
І ў нябёсах аблокі, як дым,
Над зямлёю плылі і ў вадзе,
Па якой ты ішоў, як святы,
І найсветлай на свеце вады
Для цябе яшчэ тут не было.
Ты хацеў прыкурыць цыгарэту,
А ўзяў ноч падпаліў і паўсвету
Затапіла жывое святло…

* * *

Тады агнём напоўніцца вада
І белым дымам чорныя нябёсы,
Як будзе лісце спалена ў садах,
Што вершамі былі на дрэвах прозы.

І разнясецца попел па зямлі,
Нібы ваўкамі, шэрымі вятрамі,
Якія ўчора музыкай былі
За нашымі замкнутымі дзвярамі.

І ты санет запішаш на вадзе
Пра гэты дзень, што ў вечнасць
перальецца,
І яблыкам апошнім упадзе
Ці сонца з неба, ці анёла сэрца…

*Васіль МАКАРЭВІЧ*

# АПАВЯДАННІ



***Васіль Макарэвіч нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна. Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё. 18-гадовым юнаком дэбютаваў у «Маладосці» вершамі пра Архангельскую лесарасправоўку, праз што быў прыняты тагачаснай рэдакцыяй часопіса за аднаго з рэпрэсаваных паэтаў: акурат у той час выкрываўся культ асобы Сталіна і вязняў выпусцілі на волю.***

## КРЫНІЦА-КРЫНІЧКА

Калі гэта было, адзін Бог ведае. Можа, за царом Гарохам ці крыху раней. Пра гэта сёе-тое мог бы сказаць вядун Страхапуд. Але дабрацца да яго, пачуць мудрае слова было не так і проста. Спачатку вярсту за вярстой людзі мералі-цярабілі нагамі, а там, дзе пачыналася голая зямля, на валах ехалі, плылі на чоўне, прадзіраліся цераз лясныя гушчары гэтулькі часу, што выбіваліся з сіл і, пераступіўшы парог жытла Страхапуда, хаткі на курыных ножках, пластом слаліся на падлозе і гадзінамі не маглі не тое што падняцца, а нават брывом паварушыць. Байдун даваў нейкага адвару, вандроўнікі прыходзілі ў сябе, дужэлі і, прысеўшы хто дзе, слухалі сказы і аповеды, што цяклі з яго вуснаў, як мёд з каўша. І ўсе, хто быў у гэты час каля казачніка, на ўсё на свеце забываліся. Шмат у яго люду перабывала, а ніхто пасля не мог згадаць ніводнай яго рыскі. Ведама, хай яго кадук, чарадзей быў. А чарадзей, як дым, во хістаецца перад табой, гойдаецца, а адыдзе убок — і ты забудзеш, які ён з выгляду. А далей пайшлі, няўрокам кажучы, войны-калатнечы і сцежкі-дарожкі, што вялі да яго, зараслі травой-муравой. Людзі зрэдку згадвалі Страхапуда. Толькі і застаўся ад яго аповед пра крыніцу-крынічку. Як там было, ніхто не ведае і не скажа. Недзе на краі свету нараслі горы лёду, празрыстага, як крышталь. Стаялі гэтыя горы ды маўчалі. Надышоў час, нешта завуркатала ўнутры іх, быццам пачалі яны прачынацца і варушыцца. А ўслед за гэтым трэснулі, расчапіліся напалову, гул пайшоў па зямлі, друзкі ды аскепкі ўзляцелі ў неба. А праз некалькі дзён долу апалі і гул сціх. І вакол зрабілася так ціха, што чутно было, як за сотні кіламетраў сініца ценькае. Пастаялі агромністыя глыбы лёду і давай з месца кратацца, паўзці. Першыя метры, як плугам, дол аралі. Але разварушыліся і, адчуўшы, як гэта хораша коўзацца ды ехаць на чэраве ўніз, падаліся яшчэ хутчэй.

Спяшацца не было куды, час ад часу яны спыняліся, нібы адпачывалі, а можа, гадалі, што чакае наперадзе. Праходзілі дні і тыдні, месяцы і гады, і не паспелі ледзя-

ныя глыбы агледзецца, як адчулі, што трапілі ў такое месца, дзе стаяла гарачыня, як у лазні. Навокал высіліся дрэвы, абвітыя вяроўкамі ліян, і так гожа спявалі птушкі, што можна заслухацца і заснуць. Пэўна, яны і прыдрамалі крыху. А калі ачомаліся ды глянулі навокал, то жахнуліся: Божачка, льдзіны плавяцца, як скрылі тлушчу на пякельнай патэльні. Ручаі цурчаць, звіняць, вада гамоніць ды балбоча, як сварлівая кабеціна, без упынку. А далей — болей! Разлілася вада настолькі шырока, што і вокам не ахапіць. Ад лёдавых глыб і каліва не засталося. Вадой зрабіліся. Пастаяла вада ды пачала бунтаваць, характар і нораў паказваць. Жывое, вядома, пра жывое думае. Пачала яна шукаць сабе дарогу, рэчышча рыць. А на той час ведзьмакоў было столькі, што не прайсці з-за іх, не праехаць. Рэчышчы яны круцілі ды вадзілі ў бакі, направа-налева, як толькі хацелі. Нарабілі чортавых петляў, ды скончылася ўсё, дзякуй богу, добра. Частка вады паплыла да мора-акіяна, іншая ўціхамірылася, атайбавалася ў нізінах і, такім чынам, з'явіліся азёры. Прабілася і крыніца-крынічка. Прачнулася яна ўранку, вызірнула з-пад кораня вольхі: якая вакол краса і хараство! Па берагах краскі цвітуць, буслы і бацяны на доўгіх, нібы жэрдкі, нагах ходзяць, жаб збіраюць ды носяць у гнёзды для дзяцей. Дзяўчаты вянкі з красак плятуць і па вадзе пускаюць. А непадалёк, пад вярбой, сядзіць хлопчык у белай ільняной кашулі, вышытай васількамі і падперазаны паяском, грае на жалейцы. І настолькі пявучая мелодыя льецца, што за душу бярэ, на край зямлі кліча, рай паказаць абяцае. Ды нашто для крынічкі рай? Ёй і тут добра! Дзіва што! Ніхто крынічку не крыўдзіў, ваду не муціў, коламі не пераязджаў. Людзі зрабілі масток, па якім ездзілі на фурманках, кладкі перакінулі і хадзілі адно да аднаго ў госці.

Так ішлі-каціліся вазамі гады, колькі раз падрасталі ў гнёздах бацяны, станавіліся на крыло і адляталі ў вырай, дзе круглы год было цёплае лета, жылося сытна і ўежна. А вясной вярталіся з выраю, сяліліся ў ранейшых гнёздах і хваліліся, якія дзівосы пабачылі ў далёкіх мясцінах. Крынічка слухала іх, але не надта давала веры. Магчыма, думала яна, хваляцца бацяны ад няма чаго рабіць. Лепшых дрэў і траў, птушак і нябёсаў, дажджоў і навальніц, што падоўгу ліліся і цурбалілі днём і ўначы, поячы сасмяглыя палі і лясы, не было нідзе на свеце, акрамя як тут, дзе цякла крынічка. А калі ўслед за гэтым ўставала на паўнеба вясёлка і апускала адзін канец у раку ці возера, каб напіцца гаючай прахалоды, то можна было гадзінамі глядзець на іх і не нагледзецца. Ах, як тады буяла ды ішла ў рост трава, як ззялі ў дажджавых кроплях ліпы, бярозы і вербы, што стаялі над ракой, а недзе на дне мітусіліся шчупакі і плоткі, хадзілі ментузы і язі. А ў небе цвыркалі жаўрукі і, слухаючы іх, здаецца, заціхаў увесь свет. Але чаго толькі не здараецца з тымі, хто мае жывую душу. Замаркоцілася, зажурылася крынічка. Стала яна заўважаць за сабой тое, чаго не было раней: задумаецца дзе-небудзь пад вярбой, пакуль не спахопіцца: маўляў, што гэта з ёй дзеецца? А тут дайшла да яе чутка, што недзе ў акіяне жыве яе дзядуля Няптун і вельмі хоча пабачыць унучку. Трэба ёй пусціцца ў белы свет, падзівіцца з яго прыгажосці і пабачыць дзядулю Нептуна.

Як толькі падумала пра гэта, зазвінела па каменьчыках, забруіла па жвіры, між карэння дрэў і сярод аеру, пятляючы пожнямі і абмінаючы пагоркі і ўзлескі. З бярозкі шуганула птушка, галінка завагалася ўгору-ўніз, нібы памахала ёй, жадаючы шчаслівай дарогі. Кінуўся ўслед і бярозавы лісток, доўга кружляў над крынічкай, быццам не хацеў расставацца з ёй, пакуль не стаміўся і не апусціўся на пожню. Не паспела крынічка дых перавесці, як нейкая сіла так крутанула яе ўбок, што яна аж войкнула і здагадалася: дабралася да месца, дзе ў рачулку ўпадаў прыток-мурзач, што выцякаў з балота. Ён настолькі быў рад сустрэчы з чыстай крынічкай, што, здавалася, задушыць яе ў сваіх абдымках. Яна не ведала, што зрабіць, каб толькі быць

далей ад мурзача. Але пачалі трапляцца сцюдзёныя крыніцы, што вырываліся з-пад карчоў, білі з глыбіні, і ад халадэчы ажно кідала ў дрыжыкі. Мурзачу-прытоку стала не да крынічкі і ён адкаснуўся ад яе.

Неяк вечарам, калі запалалі ў небе Стажары, на адным з узлескаў зашугалі вогнішчы, дзяўчаты і юнакі пачалі вадзіць карагоды, спяваць песні. А раніцай з пушчы вырвалася плойма дзікоў, вялікіх і малых: відаць, наеліся яны ўдосталь жалудоў, даймала смага, і, збіўшыся ў гурт, лезлі яны адзін аднаму на спіну, каб, як хутчэй, дапасці да вады. Дзябёлы і наравісты дзік падчапіў лычам невялічкага вепручка, што мітусіўся перад ім, і так ёмка падкінуў угору, што той праляцеў колькі метраў і кульнуўся ў ваду. Адчуўшы, што пад ім мель, ён вёртка крутануўся, ускочыў на ногі і страсянуўся з такой сілай, што пырскі сыпанулі ўбакі. Супакоіўшыся, апусціў лыч у ваду і пачаў цадзіць яе праз зубы. А дзікі ішлі з лесу і, здавалася, вывадку не будзе канца. Крыху далей, дзе купалася пожня ў паводцы расы, пастаўшы ў шэраг, касцы гналі шырокія пракосы, валілі траву. Нейкі зух, здаецца, не касіў, а гуляў-забаўляўся з касой-літоўкай, крычаў пярэдняму касцу, таксама не зломку: «Гэй, паддай пары, інакш пяткі падрэжу!» І рагатаў здаровым залівістым смехам. Сям-там, высока на беразе, сядзелі з вудамі рыбакі, клявалі носам — хіліла на сон. Каля вёскі хлопец перавозіў на лодцы красуню, асцярожна заграбаў вяслом. А каля берага, нібы чорт у бок шылам яго кальнуў, гайдануў лодку і яна перавярнулася. Дзяўчына злякнулася, што можа ўтапіцца, абвіла рукамі шыю дзецюка, не адчуваючы, што пад нагамі — дно і нішто не пагражае ёй. А хлопцу толькі тое і трэба было, абхапіў яе аберуч і цалаваў вусны, бровы, млеючы ад шчасця. І дзяўчына, забыўшыся, што яшчэ ўчора не дазваляла і дакрануцца да сябе, сама гарнулася і тулілася да яго грудзей. Крынічцы так радасна і весела было глядзець на закаханую пару, што яна гарэзна вільнула з боку ўбок і, зрабіўшы яшчэ нейкі выкрутас, кінулася далей. На лузе пасвіліся каровы, і бычок, які стаяў каля Лысухі, падскочыў угору і памчаў да ракі, а потым ірвануў назад, спыніўся, як укапаны, ля маці. Лысуха пяшчотна лізнула яго языком і, выцягнуўшы шыю ды мыкнуўшы, апусціла галаву і стала шчыпаць траву. А бычок пабачыў мятлушку, якая ўзнялася перад яго мызай, і пагнаўся за ёй. Як і што было далей, крынічка не бачыла, яе нешта падхапіла і панесла ўніз. Наўзбоч сюды-туды хадзілі лодкі-душагубкі і чаўны, катары і маторкі, праплывалі няўклюдныя параходы з апранутымі па-святочнаму пасажырамі, якія, звесіўшыся цераз парэнчы, глядзелі ў рачную плынь.

Услед за гэтым пачалося такое страхоцце, якое ёй і не снілася. Яна як быццам праваліліся ў яму, яе стала кідаць і матляць па каменнях, нарэшце, павалакло ў прорву, закруціла, быццам у матавіле, і яна падумала: халэмус! Але выбрала зручны момант, нырнула пад вір, што змяёй круціўся на адным месцы, і, захапканая ды стомленая, вынырнула далёка ад яго і пабегла сабе далей. Здагадалася, што былі гэта дняпроўскія парогі, а за імі — плаціна. І — ніякіх больш прыгод аж да Чорнага мора! Праўда, усхадзілася аднаго разу навальніца, стралялі перуны, палілі неба бліскавіцы, гойдаліся і трашчалі дрэвы, пагражаючы зваліцца ў раку. Але ўсё неяк, дзякуй богу, абышлося. Крынічка адчула, што вымкнула на прастору. Бачыла яна пад вадой вялізныя, падобныя да акул, сталёвыя аграмадзіны, якія, здаецца, вадзілі па баках носам ды віжавалі, што робіцца навокал. Над ёй праплывалі караблі і параходы, нейкія юнакі ў ластах ныралі ў ваду і лазілі каля абломкаў старых затанулых пасудзін: відаць, шукалі скарбы. І тут адчула, як яе пачало сціскаць з бакоў, нібы трапіла ў гарлавіну. І зразумела — Гібралтар! Сабралася як след, паднатужылася крынічка, нырнула наперад і адчула палёгку, выплыла ў акіян. А ў акіяне, што хочаш, тое і рабі, хоць кідайся наперагонкі з дэльфінамі! А дзе яе дзядуля, марскі цар Няптун?

Ён павінен яе сустрэць! Толькі паспела крынічка падумаць, як перад ёй нібы сотні маланак успыхнулі і стала так светла, хоць нітку ў вушка іголкі прасоўвай! Палац зіхцеў мармуровымі калонамі, рознымі завітушкамі на франтоне, шырокімі пазалочанымі вокнамі. І вялі ў палац зіхоткія ступені, вычасаныя з золата, на якіх стаяла варта з коп'ямі ў руках, далей німфы і наяды ў кісейных абновах. А вышэй за ўсіх на залатым троне — яе дзядуля, цар Няптун. На ім карона, аздобленая дыяментамі і жамчужынамі, якія на дне акіяна толькі і бываюць. Грымнула музыка, надышла ўрачыстая хвіліна. Падхапілі крынічку німфы і наяды, і яна ўмомант апынулася перад дзядулем. Устаў ён з трона, разгладзіў вусы, абняў унучку-крынічку і пачаломкаўся з ёю. Не забыў і некалькі слоў сказаць пра тое, як ён чакаў гэтай сустрэчы, як хацеў пабачыць унучку! А яна вунь якая прыгажуня і малайчына! Столькі вёрст адолела, нішто не спалохала яе. Няптун бачыць: характарам удалася ў дзядулю! Дык давайце піць і гуляць, каб усе ведалі: гэта ён, цар Няптун адзначае сустрэчу з унучкай-крынічкай! Сказаў дзядуля, узняў залаты коўш з пітвом, а з ім і ўсе астатнія, хто быў за сталом. І ўзяліся за смакоцце. Праўда, ніхто нікуды не спяшаўся. Пілі і елі, ведаючы ўсяму кошт і меру. Частаванне ішло зладжана і роўна, нібы кацілася па нейкай нябачнай калейцы. За сталамі, здавалася, сядзела адна сям'я і кожны паводзіў сябе так, як і павінен паводзіць сярод сямейнікаў. Маладзейшыя перакідваліся кепікамі і жартамі, старэйшыя былі больш стрыманыя ў гаворцы і паводзінах, як арыстакраты. А перад тым, як зноў паднесці да вуснаў пітво, пазіралі ў бок крынічкі, прыязна ўсміхаліся і, нешта кажучы, ківалі галовамі. Яна здагадвалася: зычылі ёй усяго лепшага, што было на свеце, і радаваліся разам з ёй гэтай сустрэчы. Крынічцы таксама было весела і радасна. Дзядуля Няптун не зводзіў з яе шчаслівых вачэй: не верыў, што перад ім родная ўнучка. Узняў ён рукі, пляснуў у далоні, і музыканты, нібы толькі і чакалі знаку, ускінулі перад сабой смычкі, апусцілі іх на струны, і пацякла такая мелодыя, што ніхто не мог уседзець за сталом, ногі самі неслі ў скокі. Не вытрымаў і Няптун, падхапіўся з-за стала, зухавата топнуў нагой, нібы хацеў выгукнуць: шырэй кола! На нейкае імгненне, быццам сівы журавель перад тым, як выправіцца ў вырай, заціх і знерухомеў, а потым лёгка падскочыў угору, крутануўся разы тры і апусціўся на падлогу. Але, відно, зрабіў гэта крыху няўдала. Можа, вывіхнуў нагу, можа, ступню пашкодзіў. Да яго ўмомант падляцелі памочнікі: мо патрэбна дапамога? Але Няптун толькі на імгненне паморшчыўся ад болю і, відно, каб не сапсаваць нікому настрою, заўсміхаўся, ат, маўляў, глупства, нічога з ім не здарылася — махнуў рукою, паказваючы, што скокі, як ішлі, няхай ідуць і далей. А сам падаўся да ўлюбёнага месца, залачонага трона, усеўся ў ім, знайшоў вачамі ўнучку, што пусцілася ў скокі, па-змоўніцку падміргнуў ёй, нешта выгукнуў і стаў пляскаць у ладкі, радуючыся, як прыгожа і лёгка, быццам ветрык, кружыцца яна, гатовая ўзляцець угору. Ад яе, відаць, ніхто не чакаў такога спрыту. Нейкае імгненне кавалеры ад здзіўлення стаялі, як аслупянелыя, ды сарваліся з месца і пачалі выраблаць такія каленцы, якіх зроду ніхто не бачыў. Німфы і наяды не адставалі ад іх. Трэба было паказаць госці, як умеюць весяліцца ў падводным царстве! Няптун не знаходзіў сабе месца. Ад радасці кідаўся на троне, хапаў за вопратку тых, хто стаяў побач, тузаў, маўляў, паглядзіце, што робіць яго ўнучка, крыніца-крынічка!

Недзе апоўначы скончыліся скокі. Адчула крыніца-крынічка, што стамілася. І ледзьве падумала, што ўжо час класціся спаць, як падхапілі яе німфы і панеслі. А праз імгненне апынулася яна на мяккай, як воблака, тахце, што стала калыхацьзакалыхваць пад нейкую мілагучную мелодыю. Крынічка адразу і патанула ў цёплых хвалях сну. І, калі вынырнула з іх, праз шыбы шырокіх вокнаў цэдзілася сонечнае праменне. Вакол яе зноў німфы кружацца, сочаць за кожным рухам, каб зрабіць тое,

што яна захоча. На сняданак нясуць піражныя і розныя іншыя прысмакі, якія самі ў роце растаюць, як летняя маліна. Праз акно выглянуў дзядуля Няптун, усміхнуўся, памахаў ёй рукой. А яна ўжо сядзіць у карэце, што павязе на шпацыр. Божа, што за краявіды! Скалы, абвітыя вянкамі хмелю і плюшчом. Крыху вышэй квітнеюць яблыні, аплятае выступы вінаградная лаза. Ля прычала стаіць шматпалубны параход, на ім — людзі і сотні пярэстых парасонаў. Зверне карэта на абочыну — над ёй дрэва стаіць, яблыка да вуснаў дакранаецца: бяры ды смакуй! Па галінках птушкі пырхаюць, песні спяваюць. А якія рулады выпрабляюць салаўі!

Ці думала, ці гадала крынічка, што неўзабаве захочацца ёй трапіць дамоў, пабачыць тое, сярод чаго жыла раней. Засумавала-затужыла крыніца-крынічка. Не радавалі яе ні ружы-кветкі, ні размаляваныя карэты, ні феерверкі, што ладзілі сярод ночы, каб хоць крыху развесяліць яе. Пачала яна не па днях, а па хвілінах чэзнуць. Дзядуля Няптун клікнуў лепшых дактароў, паабяцаў золатам з ног да галавы абсыпаць, каб толькі хваробу ад унучкі адагналі. Абстукалі-абгрукалі яе малаточкамі, абслухалі трубкамі, прасвяцілі наскрозь, а хваробы — каб табе хоць каліва знайшлі. «Здаровая!» — заўляюць дактары ў адзін голас, клянуцца, што праўду кажуць, а ўнучка па-ранейшаму чэзне і сохне. Ужо не ходзіць, на ложку ляжыць, вусны засмяглі, маўчыць, як нямая. «Можа, ты сама ведаеш, як ратаваць цябе ад напасці-пошасці?» — кінуўся на калені дзядуля. «Трэба дамоў мне вярнуцца!» — прашаптала крыніца-крынічка. Загадаў ён даставіць яе ўмомант туды, адкуль прыплыла. Яна толькі і помніла, як загрукатаў пярун, бліснула маланка: нейкая неймаверная сіла падхапіла яе і ўзнесла ўгору.

Прыйшла ў сябе ранічкай, зірнула вакол: каровы на пожні пасвяцца, пастушок на купіну прысеў ды на берасцянцы грае. Наводдаль, па ўзбалотку, бусел цыбае на жэрдках-нагах, жаб ды вужоў на спажыву шукае. А там, на дарозе, падвода зарыпела: нехта сена вязе. Божа, вакол усё роднае, знаёмае і дарагое! Запахла рачным аерам, травой-зверабоем. А гэта для крыніцы-крынічкі — самыя лепшыя лекі. Адразу млоснасць знікла, сілу яна адчула. А як жа інакш! У роднай хаце і куты памагаюць. Стала яна папраўляцца, весялосць і бадзёрасць пакрысе вярнуліся. А да сярэдзіны лета расцвіла яна, як кветка, зацурчала, заструменіла сярод апавіта-спавітых разнатраўем берагоў, памчала ўніз той самай дарогай, якой цякла заўсёды. Думала, усё пойдзе па-ранейшаму. Ды памылілася. З'явіўся змей па мянушцы Ліхадзей, што да людзей ў давер убіўся, абяцаў іх багацеямі зрабіць, а на самай справе шмат зла і бяды ім чыніў. Дачуўся ён пра крыніцу-крынічку, пракраўся да яе, зірнуў і ледзь не самлеў: што за красуня! І стаў Ліхадзей заляцацца да яе. Прыляціць, сядзе на валун і давай пераліваць з пустога ў парожняе. Крыніца-крынічка не слухае яго. Каму ён патрэбен, гарбаты, клышаногі, з плешам і слінявым ротам, з якога, быццам корч, гнілы зуб тырчыць. Цьфу! — брыдота адна. А змею Ліхадзею здаецца, што ён прыгажун на ўсю ваколіцу. Пачаў ён пішчом лезці да крынічкі, ушчыкне за руку, схопіць за каленку, цалавацца спрабуе. Аднойчы ў шчаку цмокнуў. Крыніца-крынічка не сцярпела, узяла і грэбліва плюнула: маўляў, во як я стаўлюся да цябе, гад ты печаны! Пакрыўдзіўся Ліхадзей, прыстрашыў: калі па сваёй волі не пойдзе за яго замуж, сілай возьме. І стаў яшчэ больш сляпіцай лезці да яе. Разы два кофтачку на грудзях парваў, сінякі на руках пакінуў. Што рабіць з жывадзёрам? Калі не даць адпору, са свету зжыве. Успомніла крынічка пра пярсцёнак, які перад расстаннем адзеў ёй на палец дзядуля Няптун. Крутанула яна пярсцёнак, калі Ліхадзей з'явіўся, і сказала так, як і вучыў яе дзядуля: «Няптун, Няптун, выйдзі з мора, клапатун! У бядзе памажы, ад зладзея зберажы!» Сказала яна гэтак тры разы, і, як быццам з-пад зямлі з'явіліся прыгажуны-малайцы з бізунамі ў руках.

Задрыжэў, закалаціўся Ліхадзей, кінуўся на калені, пачаў енчыць і прасіць літасці. Маўляў, незнарок пакрыўдзіў крыніцу-крынічку. Больш і пальцам не кране яе. Але памочнікі Няптуна ведалі, што перад імі — несусветны манюка і хлус. Яны колькі раз даравалі Ліхадзею. А цяпер цярпенню прыйшоў канец. Змалацілі яго на порхаўку. Паляцеў ён потырч у прадонне са смалой і патануў, захлынуўся ў ёй, толькі горб застаўся тырчэць.

З тых дзён уга колькі часу прайшло-мінула, вады збегла-схлынула ў мора-акіян! Крыніца-крынічка па-ранейшаму плыве, цурчыць сабе ў невысокіх берагах, скача па каменьчыках, карэннях лазняку і вербалозу, што перапляці дно, пятляе з боку ў бок, падбягае да жыта, кідаецца ў алешнік ды зноў выбягае на пожню і расцяроб, дзе кароўкі скубуць траву, а ля іх труцца бычкі і цяляткі з белымі плямамі на ілбах. А крыніца-крынічка плюхне ў бераг, вызірне на пожню і плыве сабе далей, радуючыся, што над ёй мітусяцца-лётаюць стракозы, цвыркаюць конікі, дзумкаюць чмялі, з кветак п’юць мёд рупныя пчолы і ад небасхілу да небасхілу гамоніць, радуецца сонцу і пагоднаму дню жыццядайнае лета.

## СЛЯДЫ

Лісавета за дзень добра натамілася і ўходалася. Гэта толькі падумаць: як узялася за рыдлёўку на досвітку ды пачала ўвіхацца ля град, то да самага вечара, лічы, не выпускала яе з рук. Ускапала, пералапаціла тлустую і ўрадлівую, дадзеную, відаць, калісьці самім Богам, зямлю, якая ад прэку-веку ляжала сабе паненкай у канцы гародаў, непадалёк ад нешырокай Мясрэды, дзе гаспадыні рабілі грады і садзілі капусту, цыбулю і гуркі. Толькі і паспела перадыхнуць, што разы два на нейкую хвіліну разагнулася, бо надта балела паясніца, а полуднем збегала дамоў і на скорую руку пасёрбала поліўкі з кавалкам чорнага хлеба. Наказала дзецям, тром шалапутам, каб пільнавалі садок з гарохам, у які маглі ўбіцца куры, і зноў рынулася ў прырэчча, узялася садзіць расаду. Стоячы карчом, брала з падаткнутага за пояс падола каліўца расады і ўтыркала яго кволымі карэньчыкамі ў маленькую ямку, дзе яно, здавалася, адразу чаплялася за зямлю ды ішло ў рост. У вачах успыхвалі бліскотныя светлякі, зноў пачынала ныць паясніца, і Лісавета хапалася за яе рукамі, разгіналася і стаяла ў баразне, пакуль не прасвятляўся зрок. Боль адпускаў, і жанчыну цешылі дзве грады, што, як парадзіхі, ляжалі каля плота, за якім зелянела пожня з маладзенькай сакаўной травой, а далей пялёхкалася ў рацэ дробная рыба ды шалясцелі стракозы. Дзень ішоў на спад, жанчыне заставалася пасадзіць расаду ў апошні жалабок, які яна рабіла таўкачом, сунучы яго плазам па градзе. Лісавета асцярожна, баючыся пашкодзіць далікатныя растапыраныя карэньчыкі, апусціла ў ямачку лапчасты кусцік, з якога да восені павінен вырасці галавасты качан капусты, атрапала рукі і, абцёршы аб падол спадніцы, стомлена апусцілася на абмежак. Умомант акінула позіркам дзве грады і на душы стала неяк цёпла і хораша. Шнуркі расады беглі адзін каля аднаго і былі падобны да маленькіх жывых істот ці мятлікаў, якія могуць зварухнуцца, узляцець угору і знікнуць з вачэй. Не, нічога з імі не здарыцца! Кожны кусцік будзе расці, набірацца сілы, лапушыцца, і, зрабіўшыся качаном, «апранаць» на сябе кожны дзень і кожную ноч новую «сарочку», пакуль не зробіцца круглым і тоўстым, як анучнік Іцка, што возіць па вёсках іголкі, ніткі, фарбы і ўсялякую іншую дробязь, і ніхто ні бачыў, каб ён памногу і смачна еў, але не толькі не драбнеў, а з кожным прыездам, здаецца, яшчэ больш раздаваўся ўшыркі. Чаму так чаўпецца Лісавеце, яна не скажа і сама. Во, дзякуй богу, управілася яшчэ з адным клопатам і як гара з плячэй! Яна

яшчэ раз акінула грады шчаслівым вокам, і зноў цёплая хваля радасці ўзварухнулася недзе ў грудзях. Можа, па той прычыне, што грады былі самыя лепшыя не толькі на гэтым канцы сяла, ад які чамусьці лічыўся больш шчаслівым і ўдалым, але і ва ўсёй вёсцы. Дасталіся яны і перайшлі ад свёкра і яго жонкі, якіх разам з паўсотяй чалавек карнікі расстралялі на выгане за тое, што ў іх знайшлі шаснаццаць вінтовак. Пасля вайны, калі ўзяліся за гароды і грады, Лісавета і ўхапіла гэтую зямлю ў свае рукі. У яе засталося трое сыноў, якіх трэба было гадаваць і карміць. Праўда, падумала яна неяк на здаровую галаву і палову тлустай зямліцы адшчодрыла малодшай сястры Ганне. Лісавета добра завучыла прымаўку свёкра: адна з'еш і вала дык адна хвала! Ганна не сказаць, каб пусцілася ў скокі ад радасці. Такая была ў жанчыны натура: калі пашэнціць ці падваліць удача, не вельмі трэба паказваць сваю радасць на людзях. У чужых вачах саломіна здаецца бервяном, а ўдача з волас вырастае з вала. Лепш жыць сярэдне, чым у сытай раскошы і пад бокам у зайздроснікаў. Іх вочы не лепшыя за крывыя іклы. Ганна моўчкі насадзіла ў мінулы год капусты і гуркоў, і, хоць яны ўрадзілі, не хвалілася ўраджаем, моўчкі ссекла капусту і выбрала гуркі ды і жыла сабе, як жылі ўдовы, у якіх ляжалі «пахаронкі». Перабівалася сяк-так, пакуль не здарылася няшчасце, горшае за якое нельга было пабачыць і ў пачварным сне. Вясной каля хмызнякоў, непадалёк ад град, здзічэлая нямецкая аўчарка, якая страціла гаспадара, а можа, ён сам, трапіўшы ў пераплёт, спусціў сабаку з павадка, маўляў, няхай як хоча, так і выбіраецца з пасляваеннай галадухі і нішчымніцы. Цяпер, у мірныя дні, туляючыся і блукаючы па лясах без прыгляду, стала больш драпежнай і лютай, і, ледзь не вар'яцеючы ад голаду і страху, з-за таго, што, калі яна нападала на статак авечак, пастухі стралялі па ёй з вінтоўкі, на гэты раз накінулася на малога хлопчыка, схапіла чэпкімі ікламі і панесла ў хмызняк. Божа, як перанесці такое гора любой маці? А яе сястры Ганне? Як яна шанавала яго, берагла, баялася, каб на яго не дыхнуў вецер! Можа, гэтак дае вядзьмак ці сатана, — чым маці больш трасецца над сваім дзіцёнкам, тым большая бяда падпільноўвае яе. Нудзіцца, не знаходзіць сабе месца Ганна, гатовая, здаецца, на сябе рукі накласці. Што толькі ні робіць Лісавета, каб яна ачуняла, прыйшла да памяці, штосьці рабіла, хоць соткі пасеяла. Трэба ж неяк жыць пасля, нешта есці. А як жа быць без пасеянага гарода! Можна памерці з голаду ці з торбай у белы свет пайсці. Ай-яй-ёй! Божа, што рабіць, як яе навучыць розуму, каб перастала мучыцца? Не лезці ж ёй, жывой, у магілу ўслед за сынком.

Хаця, якая там магіла! Ад Мішкі засталася толькі сарочачка ды абрыўкі ад кароценькіх штонікаў, у якіх ён бегаў з сябрамі каля град на пожні і ля ракі. Усадзіў нехта з мужчын рыдлёўку ў зямлю на могілках, вывернуў зямлю набок — вось і ямка для таго, што засталося ад хлопчыка. Прыгарнулі тую ж зямлю на месца — магілка атрымалася.

Лісавета ўздыхае і рука сама міжволі хрысіцца на наваколле, якое моўчкі ляжыць за градамі, над ракой і далей за хмызамі ды полем, што лезе на гарушку. Надвор'е стаіць райскае. Хіба дзіва, што жанчыны высыпалі на гароды, кожная хоча пасадзіць што-небудзь. Толькі яе сястры, Ганны, няма на гародзе. Што яна робіць? Сядзіць у хаце, ды слёзы ў тры ручаі цякуць, льюцца з вачэй. Відаць, не ведае, што рабіць, за што рукі зачапіць. Хіба гарод у яе галаве! Трэба схадзіць да сястры, неяк суцешыць, сказаць такое слова, каб у яе перад вачыма пасвятлела, каб стала бачна, як быць і што рабіць. Нельга адну яе пакідаць. Могуць нечалавечыя думкі прыйсці ў голаў, і Ганна зробіць з сабой такое, што не давядзі Бог! Хіба не здараліся выпадкі. Праўда, не ў іх вёсцы, а ў суседніх Белавічах. Ажаніўся хлопец дый узяў сабе ў галаву, што жонка сохне па былым кавалеры, а на яго, законнага мужа, глядзіць, нібы з-пад палкі.

Знік ён з вёскі, нібы ў ваду кануў. Тры дні шукалі па ўсіх закутках, а на чацвёрты, пад вечар, падлеткі апаролі ў лесе на сухадрэвіне. Засіліўся, небарака. Хіба такое не можа здарыцца і з Ганнай! Дык чаго ж яна стаіць, як укопаная? Трэба бегчы ды, можа, ужо і ратаваць Ганну, выцягваць з пятлі! Лісавета падхапіла падол спадніцы ў руку, кінулася цераз гароды ў сяло. Бегла і нічога не бачыла перад сабой. Яміны пераскоквала, а платы пералятала птушкай. Жанчыны здзіўлена глядзелі ўслед ды хіталі галовамі: божа, што з людзьмі робіцца! Калі пасля ў яе пыталі, ці помніць хоць каліўца з таго, што рабіла, яна адмоўна круціла галавой. На імгненне праяснілася ў галаве тады, калі пабачыла перад сабой хату Ганны. Спачатку зазірнула ў акно: можа, пабачыць, што сястра робіць? Аднак апрача, параскіданых хатніх рэчаў, нічога больш не ўгледзела. Божачка праведны, няўжо яна спазнілася? Лісавета кінулася да веснічак, і яны адляцелі ўбок, як ад віхуры. Узбегла на ганак, тузанула дзверы, што вялі ў сенцы. Сноп сонечнага святла ўварваўся ў іх. Сястра сядзела на ўслоне і шчапала смаловы кругляк.

— Ганна, няўжо ты здзяцінела? — кінулася да яе Лісавета. — Людзі градамі займаюцца. А ты во да кругляка прычапілася. Можа, хату падпаліць сабралася?

Ганна павoлі павярнулася на голас, пагляд яе вачэй быў стомлены. Яна баязліва зірнула на старэйшую сястру.

— А ты з капаніцай з градаў бяжыш ці ў грады? — вусны яе скрывіліся і задрыжалі. — Можа, слядочкі майго Мішкі хочаш падзяўбаць і знішчыць? Не бяры грэх на душу, Богам заклінаю!

Толькі цяпер Лісавета пабачыла ў сваіх руках капаніцу і ўспомніла пагляды жанчын, якія палахліва-насцярожана пазіралі на яе з двароў і гародаў, калі бегла вуліцай. А яна думала, што дзівяцца з яе рашучасці. Дзверы ў сенцах заставаліся адчыненымі, і Лісавета, з прыкрасцю зірнуўшы на капаніцу, шпурнула яе на двор.

— Заўтра ўскапаю грады, — праз слёзы вымавіла Ганна. — Толькі слядочкі майго Мішкі не чапай. Лепей капаніцай вазьмі і стукні мне ў сэрца. Яно во блізенька тут, пад рабрынай. Не бойся, мне не будзе балюча. Яно ўжо перабалела, — яна дакранулася рукой да грудзей. — А слядочкі з градаў, дзе бегала маё дзіцятка, я ў хату забяру. Ноччу перавязу. Пачнеш адгаворваць ці што іншае рабіць, век пасля не дарую.

— А нашто ж табе смалякі? — кіўнула Лісавета на смаловыя аскалабкі. — Што ты будзеш з імі рабіць?

— А што я ўбачу ноччу без вогнішча? — толькі і сказала Ганна.

— Рабі, як ведаеш, — азірнулася на яе старэйшая сястра, выходзячы на ганак, радуючыся ў душы, што скончылая непатрэбная мітрэнга і Ганна нарэшце ўзялася за розум.

А нешта праз гадзіну, ці трохі пазней, Ганна выкаціла колы, паклала на драбіны сякеру і папраставала вуліцай да мастка, што перакінуўся цераз нешырокую Мясрэду, а там — пад гару і ў лес, дзе ад спёкі дымілася дзялянка, на якой ляжалі ў штабелях смаловыя карчы, якія мінулым летам падрыўнікі вывернулі з долу аманалам, але зімой чамусьці не вывезлі. Прыкідваючы на вока, жанчына выбірала карчы, што густа набрынялі смалой, як вашчына — мёдам, ладкавала іх ў драбіну калёсак. А калі зірнула збоку і пабачыла, што смаловай чырвані было, як павезці, абкруціла карчы вяроўкай, каб яны не падалі долу па дарозе, упрэглася ў аглоблі і рушыла ў бок сяла.

Сярод ночы ўнізе, ля ракі, дзе ляжалі грады, нечакана шуганула полымя. Як лемяшамі, яно развярнула густую цемру, адкінула яе далёка за рачулку, да самага лесу. А ўгары круцілася, шалела, то падымаючыся ўгору, то апускаючыся ўніз, вог-

ненная карусель. Яна гула, стагнала і выла чырвона-святлістай віхурай, і крывавыя барвы ўскідваліся ўгору, гойдаючы змрок і неба. Гарэлі смаловыя карчы. Вогнішча мясцілася на коміне былой ёўні, што застаўся ад былой адрыны, якую раскацілі і перавезлі на калгасны двор пад цялятнік. У коміне ацалела цяга і праз адчыненыя ўнізе дзверцы печы яна была настолькі магутная, што не толькі смаловыя карчы, а нават хвойныя дровы маглі гарэць і шугаць, як порах. Людзі спалохана глядзелі спрасоння праз вокны, не ведаючы, што рабіць: бегчы да агню ці чакаць, што будзе далей. І бачылі, як сцелецца на пожні страхавіты і пачварны цень. Ён быў то скрыўлены, то згінаўся ў тры пагібелі і, здавалася, пераломіцца папалам, і тады адбудзецца нешта жудаснае і непапраўнае. Можна было здагадацца, што цень слаўся ад Ганны. Гэта яна завіхалася, шчыравала ў градах, падразала зямлю і клала яе на дно драбіны. Толькі для чаго і навошта? І ці доўга гэта будзе цягнуцца? Але вось жанчына, здаецца зрабіла ўсё тое, што трэба было зрабіць, атрапла рукі і, узяўшыся за аглоблі пакаціла колы ў бок дарогі. І тое, што везла, было настолькі цяжкім, што колы ўразаліся ў глыб чарназёму па самыя ўтулкі, выварочвалі важкія скібіны зямлі, але нарэшце выбраліся на дарогу і пакаціліся больш лёгка і спакойна. І калі збіраліся знікнуць за паваротках, полымя вогнішча затрывожылася, кінулася ўслед і толькі кола бліснула працёртай шынай.

У сенцах Ганна з Лісаветай прыставілі да сцяны дзве драбіны, узялі з колаў дзябёлую крыгу фанеры, на якой ляжала зямля са слядамі Мішкі, што ён пакінуў на градах, калі бегаў за матылямі, узнеслі на гарышча і паклалі ў тым кутку, дзе ў хаце была покуць. Сёстры селі на нейкі ўслон, што немаведама як апынуўся тут, і, абліваючыся слязьмі, моўчкі абняліся.

А на сяло наляцела навальніца. Казалі пасля, што яе наклікала вогнішча, што шугала ў градах. Грывастыя хмары ўсталі з-за лесу, за якім крактали па начах парныя балоты, і, круцячыся і звіваючыся жудаснымі пачварамі, пакаціліся да вёскі, гойдаючы і сцелячы долу, як лазу, стагадовыя дрэвы, згінаючы яблыні і вішні, якія ламалі і абдзіралі аб частакол галіны і бакі. Гнеўна ляснуў пярун, ударыў другі і, нібы хтосьці адчыніў засаўкі, на дол рынулі патокі вады, затапілі ўмомант вуліцу. Праз імгненне ўжо здавалася, што па ёй імчыцца рака, рыючы і несучы падзол, жарству і гліну. Струмені ліўня наводмаш махалі, сцябалі па камлях дрэў і па зямлі, што моўчкі ляжала вакол вёскі, баючыся захлынуцца ў вадзе, і каб лівень не стаў патопам. Не было бачна, дзе дол, а дзе неба. Вогнішча, што пры першых струменях ліўня, здаецца, ад нечаканасці падскочыла ўгору і мерылася супраціўляцца, капрызна ўзмахнула крыллем, затрапятала і пачало слабець. Злосна засіпела вуголле, засцілаючы наваколле парай і дымам. Комін, складзены з неапаленай цэглы, пачаў распаўзацца і рушыцца. Плынь вады кацілася да ракі, зносячы з сабой зімовыя абноскі.

Світала.

*Таццяна ЦВІРКА*

# ВОЛЕЧКА

***Хачу, каб восень цёплаю была,***
***У вырай птушкі каб не адляталі.***
***Каб баба Жэня сто гадоў жыла.***
***Гарэлка і віно вадою сталі.***
***Хачу, каб людзі добрымі былі.***
***І каб ніколі не хварэлі дзеці.***
***Каб войны не грымелі на Зямлі,***
***А маю мову зналі ва ўсім свеце.***

Рука прыгожа вывела апошні радок верша. Вочы хуценька прабеглі па творы. І затрымцелі струны дзіцячай душы. Яна, душа, ужо стамілася, выношваючы ў сабе гэтыя жаданні-мары. Так хацелася выказацца. Выказацца хораша і зразумела. Радкі складаліся не адразу. Крэсліла-перакрэслівала (ці не праз слова) дзесяцігадовая дзяўчынка. Шукала патрэбную рыфму, каб складна, каб як песню можна было заспяваць яе невялічкі вершык. Не першы ў жыцці: былі ў яе сшытку і іншыя вершаваныя радочкі, але гэтыя, здалося, атрымаліся вельмі ўдала. Шчыры, рытмічны, а да ўсяго — доўгачаканы. Дзяўчынка загарнула сшытак, асцярожна прытуліла яго да грудзей і, прытанцоўваючы, стала напяваць на незнаёмы, прыдуманы матыў: «Хачу, каб восень цёплаю была»…

Волечка была сіратой. Сіратой пры жывых бацьках. Татка паехаў жыць у далёкі горад, калі Волечцы было ўсяго тры з паловай гады, а яе брацiку Коліку — паўгадочка. Крыху счакаўшы, паехала і мамка. Куды і чаму паехала мамка, Волечка не ведала. Толькі баба Жэня, завіхаючыся штораніцы каля печы, часам ціха бубніла сабе пад нос: «От, даў Бог дачушку… Кінула, шэльма, дваіх дзяцей, паляцела за хахалем на край свету… Любоў у яе, каб на цябе ліха…»

Хахаля таго Волечка памятае, як праз сон. Дый бачыла дзіцянё таго дзядзьку ўсяго аднаго разу, аж вунь так і застаўся ўваччу, урэзаўся ў памяць сваімі чорнымі кудлатымі валасамі ды яшчэ чарнейшымі вусамі, з-пад якіх не было відаць губ.

Тым ранкам Волечка забаўлялася на ложку са сваёй лялькай Кацяй і, пачуўшы шум матора, адразу ж на кінулася да акна. Акурат ля іхняй брамкі спынілася чырвоная легкавушка. З машыны выпырхнула мама. За рулём



**Таццяна Цвірка нарадзілася 25 жніўня 1967 года ў вёсцы Расветная Клецкага раёна. «Дзева» ва ўсіх яе праявах. Любіць чысціню, кветкі, падарожжы. Настаўнік, шчаслівая жонка і матуля. Вершы і прозу піша з дзяцінства. Друкуецца ў розных перыядычных выданнях. Аўтар лірычнага зборніка «Ясачка долі маёй». Сябра раённага літаб'яднання «Голас» і абласнога аб'яднання «Жывіца». Любіць жыццё, людзей і ўсмешкі!**

сядзеў чорны дзядзька, які нечакана павярнуў галаву, і Волечка аж здрыганулася ад яго позірку. Мама забегла ў хату на некалькі хвілін (напэўна, баялася патрапіць на бабулю ці, чаго добрага, на дзеда), кінулася да шафы, павыцягвала адтуль вялікія напакаваныя торбы. Палезла на гарышча, зняла стары чорны чамадан. Усе рэчы пацягнула да машыны. Чорны дзядзька вылез, адчыніў багажнік, запхаў туды маміны торбы і чамадан. Дзяўчынка спалохана сачыла за кожным рухам чужынца. Яна запомніла, што на дзядзьку былі белыя порткі. Тата ніколі такіх не насіў. Напэўна, гэты дзядзька іх хутка вымурзвае, а мама патрэбная яму для таго, каб іх мыць і прасаваць.

Калі мама зноў павярнула ў бок хаты, Волечка кінулася ёй насустрач, разгублена прыціскаючы сваю ляльку, спынілася і запытальна паглядзела ў родныя вочы.

«Волечка, дачушка мая, — мама цмокала яе ў маленькі кірпаценькі носік, шчочкі, лобік. — Я потым забяру цябе. Мы будзем жыць далёка-далёка, там амаль не бывае зімы, а на дрэвах растуць мандарыны».

Мама прыхінула яе да грудзей, і малая адчула, як прыемна пахне ў яе каля шыі, салодка так пахне, аж галава закружылася…

Коліка мама не цалавала. Ён ціхенька спаў ў калысцы. Мама падышла да яго і нешта зрабіла над немаўлём рукой. Можа, адганяла муху?

Волечка выбегла за мамай да легкавушкі. Чорны дзядзька ў белых портках неахвотна ўсміхнуўся, паказаўшы з-пад вусоў жаўтаватыя зубы, і, здалося, кіўнуў ёй. Мама памахала рукой. Машына спраўна развярнулася і паімчала па вясковай вуліцы, пакідаючы за сабою клубы горкага пылу. Падаецца, і цяпер, праз гады, у роце ў Волечкі адчуваецца смак таго пылу, а яшчэ не-не ды аднекуль улоўліваецца той, да гідлівасці салодкі, мамін пах.

* * *

Волечка ніяк не магла зразумець: калі баба Жэня паспявае выспацца? Увечары накорміць унукаў, на ложак пакладзе, цёплай коўдрай накрые: «Спаць, малечы, мне яшчэ ўхадні шмат». Голас у бабулі сур’ёзны, але не злы. Таму ні Волечка, ні Колік вачэй не заплюшчваюць, просяцца: «А калыханачку? А казку?» Бабулька нібы таго і чакае. Выцірае шурпатымі далонямі свой стомлены твар, быццам зганяе санлівасць, ледзь улоўна ўсміхаецца: «Дзе ж іх набрацца, калыханак гэтых? Мо ўжо ўсе пераспявала?» І ціхутка тоненька заводзіць:

Люлі-люлі, люлясі, заспяваю пра Яся.
Пайшоў Ясік на таржок, купіў Яська піражок.
Ой, ці самому з’есці, а ці дзеткам несці?
Панясу дахаты, аддам дзіцянятам.
Коліку ды Вольцы па маленькай дольцы…

Ці сама баба Жэня выдумляе кожны вечар калыханку, ці памятае са свайго маленства, але так прыемна засынаецца пад яе лагодныя спевы, так спакойна сапуць неўзабаве ўнучаняты. А бабуля (Волечка добра ведае, хоць і сніць у гэты час ружовы сон) спяшаецца ў хлеў: маленькіх парасятак карміць і карову даіць. Раніцай, калі б дзяўчынка вочы ні расплюшчыла, бабуля зноў на нагах: тупае, совае свае чыгункі то з печы, то ў печ — сняданак гатуе. Па ўсёй хаце расцякаецца пах смажанай цыбулі з салам.

Саскоквае Волечка з ложка, да бабы на кухню коціцца.

— Ах, мая ж ты нябога! Ужо ўстала. Глянь, унь цыганка яшчэ ў печы паліць, а ты ўжо выспалася. Бяжы шкарпэткі нацягні, бо забухікаеш.

Волечка асцярожненька, каб не разбудзіць брацікa, нацягвала на ногі звязаныя бабуляй шкарпэткі, апранала доўгі цёплы халат і сядала на кухні ля акна, глядзець, як цыганка ў печы паліць.

Там, за акном, была цемра хоць вочы выкалі, і толькі скакалі языкі жвавага агню. Напачатку дзяўчынка нават не сумнявалася, што агонь гэты скача ў цыганчынай печы, і ніяк не магла дацяміць, чаму не відаць самой цыганкі — хаця і пабойвалася яе ўбачыць. Жартачкі! Яна, кажуць, дзяцей забраць можа. Але праз колькі дзён Волечка разгадала гэтыя жарты, бо, калі баба засланяла сабой агонь у печы, выцягваючы чыгунчык, дзесьці хаваўся і цыганчын агонь. Смяялася здагадлівая ўнучка: «Не цыганка там, а бабуля Жэня»!

«Разумніца мая!» — жанчына выцірала фартухом вымазаную ў сажу руку, гладзіла малую па галаве. Рука ў бабы шурпатая, уся ў дробненькіх парэзінках. І каля вачэй, асабліва, калі ўсміхалася, было шмат зморшчын.

Волечка разумела, што бабуля немаладая, але была яна для ўнучкі самай прыгожай. Ні ў кога не было такіх мяккіх валасоў, заплеценых у тугую касу і скручаных тоўстаю гуляю. Ні ў кога не было такой ласкавай усмешкі, ад якой святлела ў хаце, такіх добрых, прыжмураных вачэй колеру позніх валошак. Нават нос у бабы Жэні быў своеасаблівы — таўставаты і мяккі-мяккі. А яшчэ ў яе была вельмі прыгожая кашміроўка, што прывёз тата на дзень яе нараджэння. І ярка-вішнёвы фартух, які яна апранала ў нядзельку і на святы. З бабай было спакойна і хараша. І хоць Волечка была яшчэ малечай, яна заўсёды кідалася ёй на дапамогу. Але галоўны абавязак дзяўчынкі быў нязменны: няньчыць малога Мікалайку.

* * *

Брацік быў для Волечкі адначасова і вялікай радасцю, і нястрымнай пакутай. Хадзіў ён ўжо добра і заўсёды лез менавіта туды, куды не дазвалялі ні дзед Уладзік, ні баба Жэня. Утрымаць малога было вельмі цяжка. Ён адпіхваў сястрычку рукамі і нагамі, пішчаў на ўсю хату, плакаў, а калі не мог дабіцца свайго, хапаў, што трапляла пад рукі, і шпурляў у Волечку. Аднойчы гэта аказалася дзедава шкляная попельніца, другі раз — бабіны туфлі, нават настольны гадзіннік паслужыў у якасці снарада. Добра, што дзяўчынка паспявала нагнуцца ці выбегчы ў суседні пакой. Калі ў хаце нікога не было, Колік святкаваў перамогу: пераварочваў усё дагары нагамі.

Шчасце, калі першай у хату прыходзіла бабуля. Яна шлёпала ўнука па мяккім месцы, прыкрыквала і, дапамагаючы Волечцы прыбіраць у пакоі, прыгаворвала: «Ах, нягоднік, ах шалапут! А ці ж можна так рабіць. Дам-дам! Боля будзе Коліку, боля!»

Сапраўдная «боля» Коліку была, калі ў хату першым прыходзіў дзед Уладзік. Волечка кідалася да малога, казала, што ідзе дзед, і, хапаючы ўсё, што валялася пад нагамі, старалася расставіць на месцы. Колік хаваўся пад ложак, бо памятаў, колькі дзён балела яму ўсё цела ад дзедавай папругі за разбітую попельніцу.

— Бач, смаркач! Як у порткі рабіць, то ён яшчэ маленькі, а як хату ў «гарачую кропку» ператварыць — салдат, — раззлаваны дзед моцна шлёпаў папругай малога, а той крычаў на ўвесь свет. — Атрымай, як рукі чэшуцца, будзеш дзеда ўвесь век помніць!

Дзяўчынка тады схавалася за печ і ціхенька плакала. Баялася, каб дзед хаця не забіў брацікa, бо моц у старога была ой-ёй-ёй! Ён на ферме, калі каровам муку раздае, мех вялікі на плячо падкідвае і нясе. Волечка сама бачыла, калі з дзедам на кароўнік ездзіла. І ў хляве сечку карове адной рукою круціць. Баба дык ледзь дзвюма перакручвае старую сячкарню, нават Волечка лепіцца, каб дапамагчы.

А дзед, гуляючы: шах-шых, шах-шых… Вялікія рукі ў яго, дужыя. Што для яго Колік? Мошка. Адсцёбаў. На печ да сястрычкі пасадзіў:

— Смей мне яшчэ раз што ўчварыць!

Выцірала Волечка брацiку слёзкі, гладзіла галоўку і здавалася ёй, што Колік яе частачка: яму баліць — і ёй баліць, ён смяецца — і дзяўчынцы радасна.

«Кака дзед», — шаптаў хлопчык. І Волечка згаджалася, тоячы ў сіроцкай душы дзіцячую крыўду на дзеда.

* * *

— Волечка, прыбяры, дзіцятка, на кухні. Падлогу трохі змый, бацька ж вечарам прыедзе, — бразнула ў сенцах клямка, баба пайшла ў гарод.

Волечка прыбрала посуд са стала, наліла ў вядро вады, намачыла анучу. Падлога мыецца лёгка, бо на тым тыдні яны з бабуляй зрабілі касметычны рамонт у хаце: паклеілі шпалеры ў зале і на кухні, пафарбавалі падлогу. На акно, пад якім стаіць Волеччын ложак, баба павесіла новую фіранку. Дзед нарэшце (яшчэ зімою задумаў) скончыў майстраваць кніжную палічку, прыбіў яе да сцяны і доўга цешыўся: «От, бач, унучка, цяпер у цябе, лічы, свой пакойчык, свая паліца для кніг. Добрая выйшла, як з крамы. Чаго маўчыш? Падабаецца ці не?» «Дзякуй», — працадзіла ледзь чутна дзяўчо, а ў самой душа «скакала». Свая палічка, акно ў бялюткай фіранцы, шторка, якая аддзяляе ложкі дзеда, бабы і Мікалайкі. Яна ж сама сабе гаспадыня! На радасцях гатова была абняць ручанятамі кудлатую рыжую галаву дзеда, але баялася і вочы падняць. Чамусьці ён быў для Волечкі непрыступнай сцяной. І ўсё ж такі асмелілася, паглядзела на старога лагодна, удзячна ўсміхнулася.

Хутчэй бы вечар! Так карцела паглядзець на абновы, што прывязе тата. Колік сёлета пойдзе ў школу. Як на крылах лётае: «Татка заплечнік прывязе! Татка касцюм прывязе!» І Волечцы нешта навенькае перападзе. Тата прыязджае нячаста, але на Новы год і ў канцы лета — абавязкова. Дзяўчынка часта сніць яго: то яны разам корпаюцца ў гародзе, то тата гушкае яе на арэлях, што вісяць на тоўстай ігрушы ў садзе, то яны едуць удваіх на цягніку і шчасліва ўсміхаюцца, ведаючы, што хутка іх стрэне мама… Пасля гэтага сну Волечка хадзіла сама не свая. Дастала з вялікага чырвонага альбома мамін фотаздымак, доўга разглядала яго, а потым прыклеіла да шпалераў у куточку, каб збоку незаўважна было. Ды ўжо назаўтра дзед браў з шафы старыя газеты і спыніў позірк на здымку. З хвіліну моўчкі разглядаў яго, пасля чаго, цяжка ўздыхнуўшы, павярнуўся да ўнучкі: «Ат, маці твая, як артыстка. Невядома толькі, дзе ў якое кіно ўсунулася. Каторы год ні слыху… Ты пакладзі назад, бо зжаўцее і памяткі не будзе». Сказаў так, нібы яе, Волеччынай мамы, ужо і на свеце няма… І чамусьці Волечцы зрабілася шкада не маці, а дзеда. Калі ён панура пасунуўся на двор, дзяўчына асцярожна адарвала здымак і паклала яго назад у стары чырвоны альбом.

Тата зайшоў у хату з вялікай сіняй торбай. Волечка сустрэла яго ў парозе, сарамліва цмокнула ў шчаку, усміхнулася.

— Ну, як вы тут? Падраслі, бачу. А дзе ж той падшыванец? У школу збіраецца?

Колік нясмела вызіраў з-за печкі.

— Ну то бяжы, школьнік, татку чакаў штовечар, а то ўжо і схаваўся! — паклікала баба Жэня.

Хлопчык кінуўся да бацькі, абхапіў ручанятамі яго шыю, прытуліў галаву да пляча.

— О, цяжкі які! Мужык! Ну, разбіраем торбу, дзецi! Мераем абновы. Табе, Волька, толькі туфлі не купіў, без прымеркі пабаяўся.

— Купім! У яе на восень ёсць туфлі, а вясной новыя купім, — супакоіла бабуля.

Касцюм на Коліку сядзеў адмыслова. І чорненькія туфелькі, і беласнежная кашулька, і чорны вузенькі гальштук надавалі хлопчыку сталасці, сур'ёзнасці.

А Волечка круцілася ля люстэрка ў цёмна-карычневай сукенцы з бялюсенькімі манжэтамі і ў атласным чорным фартушку. «Вось каб яшчэ белы фартушок, як у Ленкі, з гіпюру, увесь у рушачках…» Малая ведала, што грошай у бабы на дарагі школьны фартушок пакуль няма: нядаўна новы парнік купілі, цукру мяшок на варэнне (яблыкі градам падаюць), макаронаў, крупаў розных… А калі і прыхавае бабуля якую капейчыну, дзед у сварцы вырве на гарэлку.

— Ну, то пакажыся, унучка, — бабуля з дзедам чакалі Волечку на кухні.

Дзяўчо выйшла, крутнулася раз-другі.

— От, скажы, калі і вырасці паспела… Дзеўка ўжо! — дзед сказаў гэта неяк задаволена-ўрачыста. Падалося, што і вочы ў яго неяк памякчэлі, злавілі сонечны праменьчык і крышку заіскрыліся…

— Ты адно пасмы з вачэй прымай. А то апусцілася валасамі, — дзед Уладзік дастаў з кішэні скамечаную брудноватую насоўку, выцер ёй свае прыжмураныя вочы, шмаргануў тоўсты, чырванаваты, з сінімі прожылкамі нос.

— Глядзі, Жэня, каб унучка не горш за іншых дзяцей хадзіла. На дзеўку, бач, бярэцца, — і кальнула Волечцы пад самае сэрца нястрымным жалем — мо ўпершыню голас у дзеда быў спакойны, нават ласкавы.

— Добра, Уладзя. Хіба я калі яе не дагледзела. Яшчэ і фартушок новы беленькі купім. І валасы прыгожа запляцём: стужкі Зінка Ванікава з Масквы прывезла.

Волечка аж падскочыла ад радасці. Куляй — да бабулі, за шыю абхапіла, прыгарнулася.

— Ты тату ідзі пацалуй, такія абновы прывёз, — кранула бабуліны вусны задаволеная ўсмешка.

Саромеючыся, дзяўчынка прыхінулася да бацькі, прашаптала: «Дзякуй, татачка!»

— Насі здаровенькая, дачушка, — тата пасадзіў Волечку на калена, пагладзіў па валасах.

— То і мае вусы ідзі паказычы, — голас дзеда прагучаў нечакана, Волечка аж сцепанулася. Замерла. Раздумвала, што рабіць.

Бабуля выручыла: «Ой, стары, цябе яшчэ цалаваць. Надумаўся…»

— То хай абдыме. Што? Дзед не чалавек? І ты ідзі сюды, падшыванец, — клікнуў Коліка. — Ану, сцісні дзедаву шыю, каб аж уваччу сцямнела, пакажы, што я цябе хлебам не дарэмна кармлю.

Таго абдымка Волечка не забудзе ніколі. Падышла як на чужых нагах, нагнулася да калючага дзедавага твару. Адразу адчула рэзкі пах тытуню, перамяшаны з непрыемным пахам фермы. Нехаця абняла тоўстую шыю дзеда і сціснулася, бо агромністая рука абвіла ў адказ яе худую спіну. І неяк шчыра зашкадавала дзеда Волечка: калі да яго хто з ласкай прыхінаўся?

На стол сабралі за колькі хвілін. Баба дастала з печы чыгунок са смажаным пеўнем — пах не выказаць! Аж слюні давялося глытаць. Затым з сіняга рондаля ў глыбокую талерку ўлегліся добра ўтушаныя галубцы са свежай капусткі. Побач з'явілася місачка тварагу, перамяшанага са смятанай і цукрам. Акуратна разлажыла бабуля накроеныя кавалачкі вяндліны. Нашастала кругленькіх памідорчыкаў, што дружна сталі спець у цяпліцы апошнімі днямі. Калі селі, тата дастаў з торбы бутэльку чырвонага віна і жменю шакаладных «камунаркаўскіх» цукерак.

— Багатая вячэра будзе, — крэкнуў дзед, — весела пацёр руку аб руку. — Ну то налівай сабе гэты кампот, а мне, Жэня, нясі чаго мацнейшага.

Бабуля выйшла ў сенцы і вярнулася з паўлітровым слоічкам сівой вадкасці — самаробным першаком.

— На! Табе ўсё мацнейшага, нап’ешся ды буяніць пачнеш.

— От, не твая справа, налівай!

Волечка ведала, што дзед, як вып’е, надта прыставучы і злосны робіцца, але з кулакамі не кідаецца, так крычыць, нервуецца…

Сон у той вечар прыйшоў неўзаметку. Дзеці заснулі, задаволеныя сустрэчаю з татам. Але раптоўна ўсхапіліся ад дзедавага голасу:

— А мне, думаеш, лёгка? Дваіх вашанят на сваёй шыі карміць?

— Ціха ты, каб цябе чэрці! Дзеці паснулі. Ідзі ўжо кладзіся. Разбяромся, як!

— А я сказаў! Маці дзяўчаці ты заменіш, а хлопца бацька хай гадуе! Не малы ўжо, пялюшкі мыць не трэба!

— Падрасце хай. Там жа школа далёка, хто яго вазіцьме шторанку? І карміць яго будзе цяжка. Трэба ж і супчык, і кашку зварыць.

— Халера не возьме! Вытрымае. Сам жа з голаду не памёр.

— Ну ідзі, ідзі! На печ лезь, бо на раніцу не дабуджуся, — баба як мага ласкавей выправіла дзеда на кухню.

Бразнула табурэтка. Праз хвіліну-другую чуваць было, што дзед распранаецца, і, цяжка дыхаючы, узбіраецца на печ. Ён як вып’е — няма мілей, чым паспаць на печы.

— Ты, зяцёк, да сэрца яго крыкі не бяры. Як нап’ецца, то ўсё адна песня: дзяцей гадаваць цяжка. А што ж зробіш, як ад маці ні слыху ні дыху каторы год. Не перажывай! Я Коліка падгадую яшчэ. Хоць за ім вочы трэба і ззаду, і збоку… Вёрткі надта. Ад старога і перападае яму, а шкура — гарыць, не ўгнацца! А Волечка — памочніца. Я яе нікому не аддам. І вучыцца добра, і вершыкі піша, і спявае хораша. Адна пацеха нам на старасць.

— То, можа, забяру я яго, Пятроўна. Да школы яшчэ больш за тыдзень. Дакументы паспею аддаць. А ў мяне суседка-пенсіянерка, яна дапаможа, калі што.

— Ну, сам глядзі. Ці яшчэ гэты ўюн захоча з табой ехаць? Тут яму раздолле. Адзін мароз на яго — дзед Уладзік, — бабуля ўздыхнула. — Кладзіся, Ляксейка, заўтра разбяромся. Яшчэ ж дровы пасячэш. Пагамонім.

Волечка штурхнула малога пад бок:

— Чуў?

— Не глухі.

— Паедзеш з татам?

— Не ведаю. А ты што?

— Я нішто, пра цябе ж гаворка.

— А ты што скажаш?

— Хочаш, то едзь. Як тата возьме.

— Не ведаю. Шчыра… Я б хацеў з татам… Але ў горад — баюся. І цябе шкада пакідаць…

— Што я, малая? Мне бабе дапамагаць трэба. А табе, праўда, з татам лепш будзе.

— Не ведаю. Яшчэ ці возьме…

— Папросіш — возьме. І я папрашу, — Волечцы раптам зрабілася холадна. Нібы калючы вецер пранізаў яе цела. Затрымцела сэрца. Затуманіліся вочы. Цёпленькія кропелькі пацяклі па шчоках. Лізнула языком, пакаштавала саленаватую крыўду. Брацік паедзе ў горад… Уявіла, нібыта частачку яе цела адрэжуць хутка пры складанай аперацыі. Нават не дадумаецца — якую. Руку? Нагу? А можа, кавалачак сэрца?

Да аўтобуснага прыпынку рушылі паволі. Выйшлі загадзя, каб па дарозе яшчэ пагаманіць. Баба з бацькам крочылі наперадзе, Волечка поруч з братам — воддаль.

— Навучышся пісаць, каб кожны тыдзень лісты слаў.

— Ыгы. Я ўжо літары ведаю. За месяц навучуся ды напішу.

— Тату дасі, каб канверт падпісваў, бо ты не ведаеш як, ліст не прыйдзе.

— Добра. У таты ж яшчэ і тэлефон у кватэры, я тэлефанаваць буду. Да цёткі Галі. Часта-часта. Яна цябе пакліча.

— А мо і нам тэлефон правядуць. У гэтым годзе абяцалі.

Волечка асцярожна ўзяла хлопчыка за руку. Той паслухмяна апусціў галаву, руку не вырваў. Каб калі ў іншы раз, то абазваў бы сястру. Што ён — малы — за ручку хадзіць? А сёння…

— Есці ён усё есць. Бульбу смажаную вельмі любіць. І яйкі з маянэзам. Агуркоў я назакатвала мо сорак слоікаў. Ігар Насцін, сусед, будзе ехаць, то папрашу, каб перадаў табе. А там свінню заколем, свежаніны перашлю. Машынаю ж — не ў руках цягнуць. Бульбу выкапаем. Буракі, капуста, морква — усё ж сваё. Галадаць не будзеце. Але не лянуйся, зяцёк. Як-небудзь гаруй.

— Ну што вы, Пятроўна, мне і самому хацелася забраць яго. Але то рамонт у кватэры рабіў, то жанчына была завялася… А цяпер я сам сабе. Машыну вось думаю купіць, збіраю патрохі. Так што не прападзём. Удваіх весела будзе.

Слёзы Волечка стрымала. Махала рукой на развітанне, аж пакуль аўтобус не звярнуў на суседнюю вуліцу. Нават не дадумалася, што праз пыл, які павіс надзейнай заслонай, тата з Колікам яе не бачаць.

— Хадзем, унучачка, — баба шморгнула носам. — Ужо і сварыцца не будзе з кім. Паехаў наш жэўжык. Хай іх бог беражэ.

Волечка прапіхвала даўкія камякі праз горла. І мільганула думка, што камякі гэтыя, разам з дарожным пылам, яна ўжо каўтала некалі, калі ад бабулінага дома ад'язджала чырвоная машына з мамай і дзядзькам у белых портках з брыдкімі жоўтымі зубамі. Супакойвала сябе: «Я ж бабулі патрэбна, хто ёй дапаможа? Ды і школа тут недалёка, і настаўнікі добрыя».

* * *

Пасля чацвёртага ўрока школа гула, бы вулей. Дзятва з каляровымі паветранымі шарамі, плакатамі, малюнкамі павысыпала з класаў. Справа важная — актавую залу патрэбна прыбраць да свята 8 Сакавіка. Зносілі з усіх класаў свае нарыхтоўкі, а Эма Васільеўна, старшая піянерважатая, маладзенькая дзяўчына з рабаватым носікам і вялікімі лупатымі вачыма, старанна прымала ўсё і запісвала ў нататнік, хто чым вылучыўся:

— Так, пяты клас. Два плакаты, дзесяць паветраных шароў. Добранька. Так, сёмы-вясёлы… Што, толькі ваза з кветкамі? Слабенька нешта. О, шосты, мае старанні. І шароў надзьмулі, і малюнкаў намалявалі, і вырабы розныя… Малайчынкі!

Дзеці ляталі, бы на крылах. Лятала разам з усімі і Волечка. Нібы руплівая пчолка, дзяўчынка ўвіхалася разам з аднакласнікамі то на калідоры — завязвала ніткамі шарыкі, то ў класе — малявала на дошцы кветкі для настаўніц, то ў актавай зале — рэпеціравалі песні на ранішнік.

Заўтра… Якое яно доўгачаканае! Заўтра яна абуе новыя туфлі (падарунак бабулі на дзень нараджэння), апране бялюткую блузку, што заўчора прывёз тата да жаночага свята, і выйдзе на сцэну. Як сапраўдная артыстка! Сольна будзе спяваць песню пра вясну. Спачатку Вера Іванаўна, класны кіраўнік, сказала, што гэтую песню разам з

Волечкай будзе спяваць Ларыса. Але Ігар Сяргеевіч, настаўнік музыкі, не ўхваліў іх дуэт і прапанаваў Волечцы заспяваць адной. А калі яна завяла: «Вясна ясна, дзеўка красна…», пагладзіў свае вусікі, ласкава ўсміхнуўся і сказаў: «Гуд! Народніца ты на пяць балаў. Ларысе мы дамо іншую песню». Волечка сумелася… Ці справіцца адна? Але рэпетыцыі паказалі, што ўсё ёй па сіле. І песня, і верш, што запісалі ў праграму другім нумарам. Яе напісаны для бабулі Жэні верш, які прыгожа абвесціць Эма Васільеўна: «Верш “Жанчыне”, чытае аўтар». Думкі пра заўтрашні дзень правілі баль у маленькай галаве, і Волечка нават не заўважыла, што дарога праз поле, якой па звычцы пабегла дамоў, ужо і не дарога зусім, а сапраўднае гразкае месіва. Ногі беглі борздзенька, лёгка. Ля кустоў вербалозу, акурат там, дзе пачыналася вёска, дзяўчынка паставіла ранец на купінку леташняй падгнілай травы, нагнула колькі галінак з жоўценькімі «коцікамі», абламала — на раніцу бабулю павіншаваць…

У актавай зале амаль не было свабодных месцаў. Матулі і бабулі ўладкоўваліся на крэслах, папраўлялі сваім дачушкам і ўнучачкам стужкі, прычоскі, калготачкі, сюсюкалі з імі. Волечка стаяла ля акна, якое выходзіла на школьны ганак і выглядвала, калі нарэшце з’явіцца знаёмая постаць бабулі. Да пачатку канцэрта пяць хвілін. А яе няма… Эма Васільеўна сказала бегчы за кулісы. Але для каго тады дзяўчынка будзе чытаць свой верш?

— Бабулечка, родненькая, ну чаму ты позніўся? — сэрцайка тахкала, як у злоўленага вераб’я. — Я ж так чакала гэтых хвілін…

Волечка праспявала «на біс». Выйшла, пакланілася яшчэ раз. Радасныя вочкі разгублена шукалі родны твар сярод мноства знаёмых і незнаёмых. Бабуля не прыйшла.

Волечка пусцілася дахаты адразу пасля канцэрта. Ні салодкі стол, ні цікавыя гульні-забавы, што рыхтавалі для аднакласніц хлопчыкі, яе не спынілі. Яна мясіла гумавымі боцікамі вясновую гразь, і здавалася, што іх падэшвы прырастаюць да зямлі. А ў галаве — клубок думак-гаданак: «Чаму не прыйшла бабуля? Яна ж раніцай і сукенку прасавала, і кашміроўку з шафы даставала».

Крок, яшчэ крок… Нарэшце, вясковая вуліца. І вунь міргнула жоўтым вокам родная хата.

Дзяўчынка таропка адкінула зашчапку на брамцы, патупала да ганка. Міжволі затрымала руку на дзвярной клямцы, не націснула. Прыслухалася:

— А каб ты атруты напіўся! Чорт ты рыжы! Ты мне ўсе вантробы згрыз! Хоць бы дзіця пашкадаваў, расце, бы той гарох пры дарозе. Раз у год на свята выбралася, радасць яе раздзяліць… Раздзяліла! Злазь з печы, калода старая! Ідзі сечку рэж!..

Кропелькі халоднага поту праступілі на кірпатым носіку, прайшліся па спіне пякучыя мурашы. Волечка зразумела: жаночае свята першым адзначыў дзед. А ён, як вып’е — гоп на печ! І мора па калена, і каровы хай равуць, і з працы хай гоняць… А бабулі прыйшлося бегчы на ферму.

Дзяўчынка ціхенька паплялася да хлеўчука. Рыпнулі дзверы, падзьмула цёплым паветрам, прасякнутым духам свойскай скаціны. Волечка падышла да Красуні, якая сумна жавала жуйку ля свайго жолаба, абхапіла яе тоўстую вільготную шыю: «Каровачка, мілая, чаму дзед такі нядобры?» З вачэй градзінкамі сыпанулі слёзы. Яна не выцірала іх — буйных, салёных, сіроцкіх слёз.

* * *

Размова з класным кіраўніком — настаўніцай роднай мовы Верай Іванаўнай — не давала заснуць каторую ноч. Волечка ўжо і адрас газеты на памяць вывучыла, і вершы падабрала. Тры. Яны найбольш падабаліся. А напісанне ліста ўсё адкладвала. Вера Іванаўна так і сказала: «Ты, Волечка, выберы колькі вершаў, напішы

прыгожанька (глядзі, каб без памылак, правер) і дашлі ў газету «Піянер Беларусі». Адрас я вось табе напісала. Ды ты і сама глянь, унізе ўсё пазначана, ты ж газету чытаеш?» «Чытаю — кожны чацвер чакаю і пра ўсё чытаю», — зачырванела школьніца. — «Напішы, дзіця. Хочаш, я дапамагу?»

— Не, — вырашыла цвёрда, — нікому гаварыць пра напісанне ліста не буду. Нават бабулі. Напішу, дзе жыву, у якім класе вучуся, вершы ўкладу і дашлю.

Нарэшце ліст быў гатовы. Перапраўераны разоў пяць. Акуратна падпісаны. Ідучы ранкам у школу, Волечка асцярожненька апусціла яго ў паштовую скрынку, што вісела на тоўстай высахлай ігрушы ля дзядзькі Канцавога.

У школу тупацелі вясёлай групкай. Наперадзе — хлопчыкі-пачаткоўцы, за імі — дзяўчаткі. Алеся, дачка паштальёнкі цёткі Галі, на год старэйшая за Волечку, прыцішыла хаду, намагаючыся зазірнуць ёй у самыя вочы:

— А каму гэта ты ліст у паштовую скрынку кідала? Я бачыла.

Волечка пераклала з рукі ў руку свой карычневы партфелік.

— Ну, кідала. Тату з брацікам пішу. А што?

— Ты лепш у скрынку не кідай. А то адтуль лісты могуць знікнуць. Іх раз на тыдзень забіраюць, — вочы Алесі хітравата блiснулі. Ты мне давай, я маме перадам — яна на пошце ў той жа дзень адправіць.

Волечка сумелася. Яна не раз дасылала сваім лісты ў Мінск, кідаючы іх у паштовую скрыначку на сухой ігрушы, не прапалі. Але згадзілася з Алесяй:

— Добра. Не буду кідаць больш.

А самой аж дыхаць стала цяжка. Абвіла шыю тугой вужакай трывога. А як і праўда, не асталі з той блакітнай скрынкі яе канверт, не паслалі ў Мінск!

І ўсё ж такі расла надзея, што з дня на дзень цёця Галя (ці сама Алеся) прынясе ёй доўгачаканы адказ. Самае дзіўнае, што адбывалася з дзяўчынкай — гэта нежаданне пісаць вершы. Як адправіла пісьмо, ні разу не схілілася над сшыткам, каб нешта скласці, зарыфмаваць. Нават урокі вучыла несумленна. Дзе на перапынку пачытае, а дзе — толькі пісьмовыя напіша. Па геаграфіі тройку атрымала. Вера Іванаўна нават спытала, ці не закахалася яна. Успыхнуў тварык яркім колерам вясновага цюльпана, а вочы ледзь стрымалі слёзы. Вось яшчэ! Хлопчыкі яе зусім не цікавілі. Яна гадавала ў душы сапраўдную таямніцу. Яна чакала водгук на свой допіс у рэдакцыю, нібы ён быў лёсавырашальным. І нікому — ні слоўца. Толькі штодзень бегала да паштовай скрынкі і, калі яна зноўку аказвалася пустой, па дзесяць разоў выглядала з акна залы на вуліцу: дзе ж тая цёця Галя?

* * *

У хаце пахла свежанінай. Асвежавалі парсючка ў суботу з самага ранку. Дзед з суседам Мішам управіліся хутка. Нават не піскнуў кабанчык. Смалілі ў дзве рукі. Дзве лямпы, падведзеныя да газавых балонаў, спявалі ва ўнісон. Пяць хвілін, дзесяць… Не згледзелі, як стадвaццацікілаграмовая туша, вымытая і вычышчаная, жаўцела ля дзвярэй хлеўчука на шырокай лаве.

Пакуль мужчыны разбіралі яе, вытрыбушвалі, Волечка з бабуляй вымылі ў сенцах падлогу, заслалі цыратай: дзед будзе насіць туды мяса ды сала, а пасля — секчы костачкі, кроіць сала кругамі ды засольваць у кубелец на лета.

— Прынёс во, Жэня, рэж грудзінку ды на патэльню. Зараз пячоначку падам. І крыві напячы. Ды цыбулькі не шкадуй! — дзед кінуў на цырату добры кавалак сала, пацёр рука аб руку: на дварэ было яшчэ па-вясноваму халаднавата. Хоць і звыклы дзед да ўсякай работы, мокрыя рукі мёрзлі.

— Ды на стол накрывайце. Агурочкаў салёных дастань са склепа. Паўлітра нясі. На свежанінку ідзём з Міхасём! — крутнуўся дзед на адной назе, як малады, мабыць, у прадчуванні прыемнага застолля. Шапка на ім зімовая, вушы падвязаныя, камізэлька старая, але даволі цёплая; штаны ад колішняга новага касцюма — на адной калашыне акуратная латка, падабраная у колер. Волечка ўспомніла, як бабуля прасавала дзеду на Каляды штаны і прапаліла дзірку. Ой, гоману было! Давялося ад старога касцюма штаны дзеду апранаць, а новыя абзавяліся шэраю латкаю і сталі паўсядзённымі. Смешны дзед. Увіхаецца. Гамоніць весела з суседам. Задаволены, што «добры кабанчык вырас. А еў, што ні дасі. І зелле, і муку, і буракі». Хоць дзед сам ніколі таму кабанчыку ў карыта не зазіраў. Яго справа была харчамі забяспечыць. А бабуля парыла-варыла, замешвала, карміла. Вось агульны іх клопат стаў радасцю для ўсіх. І тата па свежанінку з Колікам з'явіцца. Сцегнячок бабуля ўжо ўбок адклала для іх.

Сквірчыць на адной патэльні сала-мяса. Гусцее, ператвараецца ў кашыцу вадкая барвовая кроў на другой. Волечка памешвае яе, каб не прыгарэла, і дасыпае парэзаную цыбульку. Так дзед закамандаваў. Сама яна ніколі не каштавала гэту спечаную кроў. А дзед кажа: смаката! Насмажыць дзяўчынка дзве патэльні прысмакаў і — да бабулі ў памочніцы: яшчэ ж столькі валтузні з гэтай свежанінай! І ў школу не пайшла. Дзе тут бабулі адной справіцца! І кішкі мыць-скрэбці, і мяса на фарш пакруціць, і каўбасы напхаць… Усё ўмее дзяўчо, на год па два разы колюць старыя, а яна — першая памочніца!

Вясновы дзень ужо і не такі кароткі, а часу на ўсё не хапіла. Натапталася бабуля Жэня, наўвіхалася. Вечарам карову падаіла, ледзь малако працадзіла. Села ля печы на табурэцік, нават куртку не зняла. Рукі-ногі гудуць. Вочы самі зліпліся.

А тут стук-грук у сенцах. Аж падскочыла неспадзеўкі жанчына. «Каго там нясе? Сцямнела ўжо».

— А-а, то ты, Галечка, — сустрэла паштальёнку ветліва. — З якой навінай на парог? Сядай во, скварачку свежую з'еш, — бабуля, папраўляючы на галаве хустку, крыху засаромелася часовага беспарадку на кухні, быццам заспелі яе за нейкім непрыстойным заняткам.

— О, Пятроўна, дык я і на свежанінку якраз! Не, сядаць не буду, у самой конь не валяўся. Бульбу з капца цягалі. Во, пошту ноччу разношу.

Цётка Галя! Голас яе Волечка пазнала б з тысячы.

— А дзе ж унучка твая? Дзеля яе ж зайшла. Ліст тут ёй з Мінска, з газеты.

О, сэрцайка! Як цябе ўтрымаць! Колькі ж табе трэба, каб пачало ты скакаць, нібы маленькі мячык? Усяго толькі пачуць знаёмы голас паштальёна!

— Волечка!

А яна ўжо тут. Стаіць слупком на кухні і язык праглынула. І сэрца злавіць не можа ды на месца пасадзіць. Тах-тах-тах! Канверт дрыжачымі рукамі ўзяла: «Дзякуй, цётачка!» — і подскакам у свой пакойчык за шафаю. Што там паштальёнка з бабуляй абмяркоўвалі далей — не яе справа. Вось ён — канверцік запаветны! Рэдакцыя газеты «Піянер Беларусі»! Ліст вялікі, з чырвонай палоскай з левага боку. На машынцы аддрукавана:

*Добры дзень, Вольга!*

*Вершы твае прачыталі з увагай. Шчыра прызнаемся: яны нас парадавалі. Вядома, працаваць трэба шмат. Вывяраць словы, шукаць патрэбную рыфму, думаць над кожным радком. Пішы яшчэ. Усё ў цябе атрымаецца. А верш пра вясну нас зацікавіў. Думаем, зможам яго надрукаваць. Чакаем ад цябе новых лістоў. Дамовіліся?*

*З павагай, карэспандэнт Раіса Сарокіна.*

Ой, Божачка! Якая харашыня запоўніла дзіцячую душу! Каб можна было яе намаляваць, можа, не хапіла б колераў вясёлкі — такая яна была шчаслівa-каляровая! Волечка прытуліла доўгачаканы лісток да грудзей, потым прыціснула да вуснаў, зноў — да грудзей… «Надрукуюць!»

* * *

«*Вялік святы нам дзень настаў…*» — лілася песня. Святочная, напеўная, мілагучная. Першай заводзіла бабуля. Яна сядзела на рагу стала, такая ўся светлая! У белай блузе ў чорныя гарошынкі, паверх якой — пашыты мо з месяц таму цёмна-вішнёвы сарафан. І як жа ёй пасавала ружовая хустка з квяцістым малюнкам! З-пад яе выбіваліся чарнявыя валасы, зрэдку перасыпаныя сівымі ніточкамі, і азначаліся стомленыя ад бяссоннай ночы (хадзіла ў царкву на ўсяночную) вочы, якія свяціліся пяшчотай і спакоем. Бабуля злёгку падперла рукою шчаку, але гэта не перашкаджала ёй гучна выводзіць велікодную песню:

У царквах спявайце і ў дамах,
жыццё там ёсць на небясах.
Усе весяліцясь людзі скрозь:
Хрыстос уваскро-о-о-с!

Падхоплівалі песню ўсе прысутныя: і дзядзька Міхась, і тата, і дзедава сястра Манюся, што прыехала на ровары з суседняй вёскі. Асабліва стараўся дзед Уладзік, гучна пастукваючы ў бубен, трымаючы песенны рытм. Бубен той мо ўжо гадоў з дваццаць вісіць у сенцах на тоўстым цвіку, чакае свайго штогадовага велікоднага часу. І вось гэты час зноўку надышоў. Звініць-трымціць у дужых руках інструмент, а твар дзедаў памякчэў, палагаднеў. Сёння дзед старанна паголены і апрануты ў блакітную кашулю ды сінюю вязаную камізэльку. Валасы старанна зачасаны назад. Памаладзеў на дзясятак гадоў. І не п’яны зусім. Толькі віна крыху выпіў.

Глядзіць на сваіх бабулю і дзядулю Волечка, і радасць напаўняе яе маленькую душу. Унутры расплываецца цяпло. Як добра, што яны ў яе ёсць… І так захацелася прыхінуцца, папесціцца. У мяккім крэсле ля таты сядзіць Колік. Топча каўбасу. Падрос. Ужо другі клас заканчвае. Брацік мой… Дзяўчынка перавяла вочы на тату. Неяк зашкадавала яго. Цяжка, напэўна, яму і за маму, і за тату. Адзначыла, як пахудзеў яго твар з высокім ілбом, густымі бровамі і даўгаватым тонкім носам. Тата, хоць і не ведаў добра слоў песні, падхопліваў на прыпеве, ярка вёў: «Хрыстос уваскро-о-о-ос!»

Лагодна ўсміхнулася сама сабе дзяўчынка. Супакоеная, прыцішаная. Абвяла вочкамі хату. Святочна, чысцютка. На абразах — накрухмаленыя ручнікі. На вокнах — новыя фіранкі. Вымытыя дываны і ходнікі, пафарбавана печ, вымецены ўсе закуточкі. І ў двары чысціня! Так заведзена — да Вялікадня рыхтуюцца не адзін дзень. А ў чырвоную суботу пякуцца пірагі. Толькі і гаворкі пра іх: каб хаця толькі падышлі, каб з цукрам угадаць, каб маку ды разынак закупіць, каб печ напаліць не залішне горача… А пасля пірагоў лезуць у печ яшчэ і катлеты, і зразы, і шынка (кавалачак свініны, нашпігаваны прыправамі, морквай, аблеплены цестам), і курачка ці пеўнік, каб добра ўтушыліся. Бо на газавай пліце ці згатуеш так? От у печы! Смаката!

І вось нарэшце скончыліся працоўныя будні. Сёння — свята!

У дзверы гучна пагрукалі. Чуваць было, як за імі таўкліся дзеці. Пахіхіквалі, шапталіся. Першым кінуўся Колік, адчыніў.

— Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос! Хрыстос уваскрос! — прывіталіся дружна. Было іх чалавек восем. Першым стаяў Янка, суседскі падлетак, рослы васьмікласнік, з кручкаватым носам і светлымі прамымі валасамі. З-за яго спіны вызіралі малодшыя хлапчукі і некалькі дзяўчатак: Алеся, Насця, Ірына.

— Сапраўды ўваскрос! — заходзьце ў хату, — разнасцежыў дзверы Колік. Дзеці зайшлі. Скучкаваліся. Волечка заўважыла, як яны прыгожа апрануты. У дзяўчынак у руках — плеценыя кошыкі, прыкрытыя сурвэткамі.

— Ой, гасцей колькі! — усхапілася бабуля Жэня і вылезла з-за стала. — А мае ж вы дзетачкі! А харошанькія якія! Па валачонае прыйшлі! То мо заспяваеце што?

Дзеці крыху засаромеліся. Выпхнулі наперад Алесю і Насцю. Дзяўчынкі перазірнуліся. І Алеся нясмела завяла:

— Дзень добры таму, хто ў гэтым даму.
— Хрыстос уваскрос, сын Божы! — падхапілі астатнія.
— А ў даму гаспадар, гаспадар, нібы пан.
— Хрыстос уваскрос, сын Божы!
— Ці ён спіць, ці ляжыць, ці за сталом сядзіць.
— Хрыстос уваскрос, сын Божы!
— А калі ты спіш, Бог з табою, а калі не спіш — гукай са мною.
— Хрыстос уваскрос, сын Божы-ы! —

на адным дыханні скончылі валачобную песню дзяўчаткі.

— Разумнічкі мае! — зноў замітусілася бабуля. Адчыніла створку ў буфеце, дастала адтуль гліняную глыбокую міску з фарбаванымі яйкамі і па адным уручала кожнаму. «Добра пафарбаваліся», — радавалася Волечка. Напярэдадні яна наабдзірала ў чыгунчык шалупіння з цыбулі. Заліла на ноч кіпнем. А раніцай у гэты адвар, што бурлеў на пліце, асцярожна апускала бялюткія яйкі. Дзесяць хвілін — і на стол леглі ўжо зусім іншыя, цёмна-вішнёвыя яечкі. Прыгажуны!

— Частуйцеся, нябогі! От вам яшчэ і рубель на цукеркі, — аж свяціліся бабуля: любіла яна святы, любіла гасцей.

— Волечка, хадзем з намі, — тузанула за руку Алеся, — і малога бяры.

— Ідзіце, ідзіце, унучаняты, — падтрымала прапанову баба Жэня. На дварэ цёпленька.

Бабуля правяла ўсіх у сенцы. Пастаяла на парозе. Злавіла сябе на думцы: «Добрыя ўнукі ў мяне. Але нутро сціскае болем, калі з вачэй адпускаю. Так боязна мне за іх! Асабліва за Волечку. Я ў адказе за яе. На мне будуць усе яе грахі і памылкі. Божа, дапамажы, падкажы, калі што не так раблю. Дай сілы вывучыць яе, вывесці ў людзі…» Не стрымала слёз. Правяла шурпатай далонню па чырванаватых вейках. Палезла ў патаемную кішэньку сарафана па насоўку. «Ой, Госпадзі, на ўсё твая воля…»

Вялікдзень у гэтым годзе быў на рэдкасць позні. Маявалі першыя дзянькі апошняга вясновага месяца. Быў ён на радасць шчодры на сонейка. Сыпануў колькі разоў дробны дождж, асвяжыў паветра. І прырода па-мацярынску пяшчотна гадавала ўсё навокал. Зазелянела трава на лугах, усімі колерамі вясёлкі гарэлі цюльпаны ў кветніках вяскоўцаў, свяціў сваімі белымі і фіялетавымі свечкамі бэз, лыпалі жоўтымі вачанятамі дзьмухаўцы. Вясковая вуліца была сухая і ўтульная. Амаль ля кожнай хаты адцвіталі ўжо, сыпалі манеткамі-пялёсткамі вішні і грушы. Яшчэ пару дзянёчкаў… І дрэвы забуяюць сваёй незвычайнай ружаватай квеценню, будуць стаяць велічна-казачна і лавіць на сабе зачараваныя людскія пагляды. Дзівосна!

Абышоўшы яшчэ колькі хат, дзятва завярнула да будынка старой школы. Там, за густымі кустамі бэзу, на мяккай маладой траўцы разаслалі дзве саматканыя паласатыя посцілкі, паставілі кошыкі, напоўненыя рознымі прысмакамі.

— Давай, разграбай назбіранае, — скамандаваў Янка. Ён быў тут самы старэйшы і вёў сябе адпаведна. Дзяўчаткі пачалі даставаць з кошыкаў яйкі, каўбасу, пірагі, цукеркі… Прыгожа выклалі ўсё гэта на сурвэткі. Паселі колам. Янка дастаў з кішэні памятыя грашовыя купюры і жменю капеек.

— Во, глядзіце, яшчэ тры рублі з капейкамі… — хлопец пачаў хутка лічыць. — Я зараз прыйду, — сказаў ён і знік за бэзавымі кустамі.

— А давайце ў біткі! — прапанаваў Колік. — Я першы выбіраю «мацак».

Дзеці зашумелі, загаманілі, пачалі разбіраць яйкі і гуляць у біткі. Пакуль Янка недзе бегаў, яйкі ўсе былі пабітыя і палова з іх ачышчаная ад шкарлупіння.

— Ну што, малеча, пачынаем свята! — спачатку Янка падаў Марыне пакет, дзе ляжалі тры бутэлькі ліманаду, пара жменяў цукерак і паўбохана хлеба. Потым адкінуў крысо пінжака і дастаў адтуль паўлітровую бутэльку з сіваватай вадкасцю. Кінуў на посцілку нераспакаваны пачак цыгарэт з фільтрам.

— Ого! Дзе расстараўся? — прыцмокнуў Лёшык, крыху малодшы за Янку хлапчук. У яго былі вельмі кучаравыя чорныя валасы і таму да яго даўно прыклеілася мянушка «Цыган».

— Надта дапытлівых просьба язычок прыкусіць, — абазваўся Янка, адкаркоўваючы бутэльку. — Стаграмоўка толькі адна. Па чарзе будзем.

Ён наліваў сівуху ў невялікую гранёную шклянку. Налілося крыху больш за палову.

— Ну, за Вялікдзень! — і кульнуў адным махам.

— На, закусвай! — прашчабятала Алеся, падносячы да рота падлетка абабранае яйка. З яе рук Янка адкусіў палову і, жуючы, узяўся наліваць зноў.

Волечка разгублена абвяла позіркам дзятву. Усе спакойна назіралі за Янкам. Ні хвалявання, ні здзіўлення на тварах. Колік пацягнуўся па цукерку, выбраў сабе даспадобы, разгарнуў і паклаў у рот.

Другой выпіла Алеся.

— Фу-у! Пячэ, гадасць! — скрывілася яна і хуценька ўкінула ў рот кавалачак пірага.

— Цыган, табе колькі? — Янка вёў рэй.

— Многа не лі, бо мамка пазнаць можа, — забегалі мітуслівa вочы ў хлопца.

— На, прывыкай да дарослага жыцця!

Лёшык перакуліў чарку і адным глытком пракаўтнуў вадкасць.

— Ты давай, закусі, закусі, — загаманіла дзятва. — На каўбаскі, Цыганёнак, а то асалавееш! — мітусілася як гаспадыня Алеся. Насця і Ірына сядзелі разам і ніякай ініцыятывы не выяўлялі.

Волечка падсела да брата, шапнула на вушка: «Колік, хадзем адсюль».

— Чаго? Сядзі, цябе ж ніхто піць не прымушае.

Па чарзе выпілі патрохі яшчэ двое падшыванцаў, як назваў бы іх дзед. Весела загаманілі, жуючы.

— Я вам так скажу, сябры мае! — гучна, каб усе заціхлі і паслухалі, пачаў Янка. — Пра тое, што мы сёння «Вялік-святы» адзначаем па-даросламу, нікому ні-ні, бо шкуру здзяру! І ў школу ніякіх яек не насіць! Класуха сказала, калі ўбачыць каго, да дырэктара выклічуць, — ён укінуў у рот печыва і, смачна жуючы, спытаў: — Усім зразумела?

— Зразумела! Зразумела!

Янка наліў зноў. Менш за палову чаркі.

— Ну, хто наступны? — хлопец запытальна паглядзеў на дзяўчатак. — Мо ты, Волечка? Бо брацік твой пакуль гадкамі для такой справы не выйшаў!

Нечаканы пякучы сорам ударыў у галаву, у шчокі. Як прысох у роце язык. Дзяўчынцы здалося, што вось-вось можа здарыцца нешта такое, пасля чаго яна, Волечка, стане зусім іншай, а таму будзе ненавідзець сябе. І кальнула стрэмка-думка: «Не! Гэта трэба абысці! Гэта трэба спыніць!» Задрыжалі павекі, дзяўчынка баялася падняць вочы. Нейкім незнаёмым голасам прамовіла:

— Не, я не буду… Не хачу! — нервова пачала папраўляць спаднічку, нацягваць яе на калені.

Янка паволі паставіў шклянку на посцілку. Пацягнуўся за цыгарэтамі. Распакаваў. Дастаў адну. Звыкла, відаць было, што не ў першы раз, прыкурыў. Зацягнуўся. Па-даросламу, праз нос, выпусціў дымок і зноў загаварыў:

— Тут от якая справа. Хто не з намі, той супраць нас! — зноў зацягнуўся. Нахіліўся да Волечкі і, акругліўшы губы, выпусціў дым ёй у твар. — Я, канешне, нікога не прымушаю, але глядзіце, даражэнькія, не дай бог, дзе чаго вякнеце! Зразумела!

Рука, у якой дымілася цыгарэта, здрыганулася, і попел з яе зляцеў на абабранае яйка.

Волечка ўскочыла.

— Зразумела! Усё зразумела. Вы тут сядзіце, а нас тата чакае. Дадому трэба, — дзяўчо схапіла брата за руку.

— Пакуль, мы пойдзем! — кінуў на адыход Колік і борздзенька патупаў за сястрой.

— Чаго ты, як уджаленая! Не бойся ты яго! Хай п’е, курыць, — бурчэў малы, незадаволены ўчынкам сястры. — А нам што?

— Маўчы! Ты нармальны? Не дай бог, даведаецца хто! Сорам які! Пайшлі хутчэй. І забудзь, што там бачыў. Зразумеў! — ледзь не выкрыкнула Волечка.

— Зразумеў! Не маленькі.

— Ты, Колічак, глядзі, у Мінску хаця нідзе ні з кім не звязвайся. Дурное ў галаў не бяры!

— Ды не. Там у мяне хлопцы харошыя. Мы спортам займаемся. І тата, як што, то… Сама знаеш. Па галоўцы не пагладзіць.

— От, схадзілі ў кукольнікі! От, кампанію надыбалі, — голас у Волечкі дрыжаў. Яна ступала шырокімі крокамі, быццам яе нехта даганяў. На кірпатым носіку блішчалі кропелькі поту.

— А што, булкі смачныя. І цукеркі нішто сабе. Я ўсе перакаштаваў.

* * *

На лясную паляну збіраліся ці не цэлай школай. Толькі пачаткоўцы патупалі дамоў пасля трэцяга ўрока. Астатнія выстраіліся ля параднага ўвахода школы на заасфальтаванай пляцоўцы. Піянерважатая Эма Васільеўна павіншавала ўсіх з 19 мая — Усесаюзным днём Піянерскай арганізацыі. Абвясціла: «Збор на лясной паляне праз трыццаць хвілін. Старэйшыя, не спускайце з вачэй малодшых. Нікому не згубіцца!»

Сыпанулі дружна. Хто пешшу, хто на ровары. Класныя кіраўнікі ўжо не маглі сабраць асобна свае класы. Згрупаваліся, амаль усю дарогу занялі.

Волечка ішла з Алесяй і Ліляй, сваёй аднакласніцай. Дзеці і дарослыя расцягнуліся метраў на дзвесце. Замыкаў шэсце на сваім сінім «Масквічы» фізрук Ігар Валер’евіч. На заднім сядзенні ўладкаваліся медсястра Іна Іванаўна і завуч па выхаваўчай працы Алена Адамаўна.

Надвор'е святкавала разам са школай. Добра, амаль па-летняму, прыгравала сонца. Луг зелянеў маладой траўкай, з якой высоўвалі свае бела-жоўтыя галовы дзьмухаўцы. Лес — вунь ён! Рукой падаць. Але гэта толькі падаецца, бо дыбаць далёка. Ішлі таропка. Волечка зняла лёгкую куртачку — горача. Ззаду рэзка тармазнуў ровар. Дзяўчаткі спалохана азірнуліся: Антон Купрэвіч, дзевяцікласнік. Саскочыў, павітаўся ўсмешкай толькі з Волечкай:

— Прывітанне, Вольга Нічыпаронак. Як ножкі, не баляць?

Пачырванела дзяўчынка. Хлопцы-старшакласнікі рэдка загаворвалі з ёй.

— Не баляць пакуль. А што?

— Сядай на раму, падвязу да паляны. А там нешта пакажу. Сюрпрызік для цябе маецца, — з сур'ёзным выглядам прапанаваў хлопец.

Алеся пырснула ад смеху.

— Нічога сабе, сюрпрызік! Едзь, едзь, яшчэ не туды завязе.

Волечка сумелася. Разгублена глядзела то на Антона, то на Алесю. Перабірала ў галаве, што за сюрпрызік мог яе чакаць?

— Эх ты, — буркнуў Антон, павярнуўся назад, махнуў рукой. Праз секунду ля іх тармазнуў яшчэ адзін веласіпедыст. Сямён, Антонаў сябар.

— Сёмка, вазьмі Алеську на кола. А я меншых дваіх. Настаўнікі прасілі падвозіць малодшых, — спакойна папрасіў Антон, загадкава падміргнуў Волечцы.

— Залязай, Леся, на раму! — Сёмка не раздумваў.

— О, я так і залезла. А слоўца чароўнае? — какетнічала Алеся.

— Калі ласачка, мадам. Думаеш, за шчасце цябе вязці? Аднаму спрытней.

— Руку прымай. Так і быць. З вецярком імчы!

— Паехалі-і! — і Сёмка ўдарыў па педалях.

Волечка прымасціліся на раме Антонавага ровара, Ліля — на багажніку.

Антон ехаў не спяшаючы, але хутка яны абагналі ўсіх, хто ішоў пешшу.

Волечка трымалася за руль ровара, адчуваючы, як змяняецца Антонава дыханне: хлопец сапеў цяжэй і цяжэй. Не дзіва — двух пасажыраў пад горку цягне. Загаварыць Волечка сарамелася. Ды і хваляванне душыла: што ён там сабе выдумаў? Нешта ж скажа-раскажа!

Саскочылі на паляне. Падзякавалі. Волечка з надзеяй глядзела на Антона: «Ну, паказвай свой сюрпрызік…»

— На, трымай ровар, — Антон спрытна скінуў з сябе заплечнік. Запусціў руку ў самую вялікую кішэню і дастаў складзеную ў некалькі разоў газету.

Волечка адразу пазнала: «Піянер Беларусі».

— Во, дамоў за велікам забягаў, а мая малая паказвае: «Глянь, газета прыйшла, Волеччын верш надрукавалі. Я ўжо і маме прачытала».

— На, глядзі! Твой? Сама пісала? — не то жартам, не то сур'ёзна кажа Антон і працягвае газету.

«Бож-жа! Сёння ж чацвер! Надрукавалі! А я і не чакала яшчэ…»

Дрыжачымі рукамі разгарнула газету. Адразу ж знайшла сваё прозвішча. Прабегла вачыма па знаёмых радках.

— Мой-мой! Сама, сама пісала! — разышлося цяпло па ўсім целе. Усмешка заіграла на тварыку. «Надрукавалі! У такі дзень!»

Глядзела вішнямі-вачыма на Антона, на дзяўчатак і свяцілася.

— Газету выпісваеш?

— Ы-гы!

— То гэту аддай. Малая прасіла вярнуць.

— Дзякуй табе, Антон! Дзяўчынка неахвотна працягнула газету.

Хлопец задаволена крутнуўся на ровары: «Удаўся сюрпрызік!»

А чутка пра тое, што ў газеце «Вольку прапячаталі», разляцелася па паляне ў адно імгненне. Волечка і апамятацца не паспела, як набеглі дзеці, пачалі віншаваць і хваліць настаўнікі.

Потым былі розныя спаборніцтвы. Сцяжкі па лесе шукалі. У піянербол гулялі. Песні пад баян ля кастра спявалі. Волечка бегала і весялілася разам з усімі. І не пазнавала сябе. Шчаслівая-а-а!

Хоць і стамілася за дзень — ногі гудуць, есці хочацца — а дамоў ляцела, як на крылах! Да паштовай скрынкі кінулася. Ляжаць, ляжаць газеткі! Пахнуць друкарскай фарбай. Выняла, брамку адчыніла. Заўважыла: дзед на ганку сядзіць, цыгарэту курыць. Падышла нясмела, газету працягнула:

— Паглядзі, дзед, мой верш у газеце надрукавалі. Пачытай.

— О-го-о! — вочы дзеда зрабіліся ласкавымі. Узяў сваімі вялізнымі рукамі газету, прыгледзеўся. — Ну, глядзі-тка, ага, во і напісана: Вольга Нічыпаронак, 5 клас. І школа, і раён наш. От-то, брат ты мой! На, пачытай сама, — сунуў газету ўнучцы, а сам у кішэню палез, дастаў бруднаватую насоўку. І Волечка ўбачыла… А Божанькі! У дзедавых вачах блішчалі слёзы.

Ён паднёс да вачэй хусцінку, потым усёй далонню шмаргануў свой тоўсты чырвоны нос. Дзед папрасіў: «Чытай, дзіця!»

Сыпанулі мурашы па целе. Чытала на адным дыханні, старалася.

— Ну во… Ач ты, як мае быць… От, брат ты мой, унучка! — дзед паківаў галавой. Палез у кішэню. Дастаў памятую паперку. — На, курносая, цукерак купіш. Добра, што пішаш. Бачыш, гонар які!

Волечка асцярожна забрала з тоўстых дзедавых пальцаў зашмальцаваны рубель, стаяла насупраць і не ведала, ці ісці ёй ужо ў хату, ці яшчэ пастаяць. Дзед устаў з ганка. Дастаў з-за вуха цыгарэту, прыкурыў. І, паціху крэкчучы, паплёўся ў сад, да яблынь. Зачыніў за сабою брамку, каб у сад не заскочылі парасяткі, што бегалі па двары, і знік з вачэй, схаваўшыся за сцяной хлява.

Волечка не бачыла, як укленчыў стары ў мяккую вясновую траву, моцна зацягнуўся цыгарэтай. А потым рэзка адкінуў недакурак, пачаў гладзіць сваёй каравай далонню няголены з тыдзень твар. Скалануў плячыма, нібы яго працяў холад. Выдыхнуў. Апусціў у траву яшчэ дужае сваё цела. І адчуў, як клубок крыўды падкаціўся да горла. Ён сціснуў зубы. Стараўся пракаўтнуць. Думаў, перасіліць сябе. Але горкі ўсхліп раптам вырваўся з яго грудзей.

* * *

Гулялі ў «чыжыка» каля Буслікаў, дзе вёска дзялілася на дзве часткі. Адна ішла наўпрост, а колькі хат былі пабудаваны збоку і пачыналі новую вуліцу, якая налічвала падворкаў дваццаць, не болей. Першай на гэтым скрыжаванні стаяла хата дзядзькі Мішы Бусла, у якога было чацвёра школьнікаў: два сыны-пагодкі і дзве дзяўчынкі-блізняткі. Там і любіла збірацца вясковая дзятва, каля Буслікаў.

У «чыжыка» гулялі ці не кожны дзень. У Волечкі быў свой «чыжык» — тоўстая палачка даўжынёй з аловак, завостраная з двух бакоў. Дзед пастараўся. Для гульні патрэбна была яшчэ адна палка, каля метра, роўная і гладкая. Выкопвалі ямку, клалі на яе «чыжыка» і вялікай палкай падкідвалі яго ў «поле», у якім стаялі гульцы. Ім патрэбна было або злавіць «чыжыка» і займець сабе адразу сто ачкоў і права кідка, або збіць «чыжыкам» вялікую палку, што клалі на ямку. Збіў — набівай ачкі, пакуль не змылішся, падбіваючы палкай «чыжыка». Не збіў — перадай наступнаму.

Волечка любіла гуляць з малодшымі ці хаця б на год-два старэйшымі дзецьмі. Тады яна заўсёды ў лідарах. А калі прыходзілі хлопцы-старшакласнікі, дзяўчынка пабойвалася і саромелася іх, таму гульня не ладзілася.

Сёння гулялі ўсе малыя. Павысыпалі пад вечар з хат, бы дамовіліся. Канікулы ж пачаліся! І ў кожнага ў руках — луста хлеба ці батона. У каго з чым бутэрброды! Волечка намазала два. Адзін — смародзінавым варэннем. Учора паабіралі з бабуляй кусты смародзіны, што шчыльна раслі ля плота. Наварыла баба Жэня не проста варэння — густога джэму. Ваніліну туды дабавіла — смакоцце! А другі ў пакецік цэлафанавы паклала: хлеб, не шкадуючы, намазала маслам, а зверху цукрам пасыпала. Пакуль ішла «пад Буслікаў», лусту з джэмам з'ела. А той, што з маслам, давала каштаваць дзецям. І сама каштавала. Адкусвала невялікімі кавалачкамі: у Ірыны — са смятанай, у Лілі — з малінавым варэннем, у Буслікавых — самыя смачныя — луста на лусце, а між імі — катлетны фарш з цыбулькаю смажанай. Наеліся! І гульня пайшла! Не згледзелі, як прыцемак аблашчыў зямлю. Гналі з поля кароў. І Волечка, задаволеная сваім выйгрышам, пайшла за Красуняй дахаты.

«Волечка!» — голас Алесі дзяўчынка пазнала адразу. Азірнулася.

— Чакай! Лісты табе зноў.

Алеся разносіла за маці пошту. Ішла з невялікай торбай цераз плячо, размахваючы рукамі. Спяшалася, каб не сцямнела.

— Колькі? Два? — адгукнулася.

— Не-а! Гадай! — заінтрыгавала Алеся.

— Тры? — засвяціліся вочы ў Волечкі.

— Ы-ы! — Алеся падняла руку, выставіла ўсю пяцярню над галавой, растапырыла пальцы.

— Няўжо пяць? — радаць у голасе нельга было стрымаць.

Алеся параўнялася з Волечкай, падняла другую руку, сагнула вялікі палец, выставіла астатнія чатыры перад вачыма: «Дзевяць! Уяўляеш?»

Не, Волечка ўявіць не магла, што ёй адным днём прыйдзе ажно дзевяць лістоў. Пасля выхаду газеты з вершам яна пачала атрымліваць лісты з усіх канцоў Беларусі. Пісалі і дзяўчынкі, і нават хлопчыкі. Распавядалі пра сябе, прапаноўвалі сяброўства па перапісцы. Адзін ці два лісты амаль штодня. Але каб дзевяць…

— Дзякуй, Алеська! — ледзь не кінулася цалавацца Волечка. Забрала лісты і пабегла даганяць Красуню.

— Бабулечка, глядзі! — хвалілася дзяўчынка па-дзіцячы шчыра. — Сёння мне аж дзевяць лістоў прыйшло. Во гэтае ад Коліка. Пэўна, напісаў, як школу закончыў. А тут во, бачыш, Гомельская вобласць, Мінская, Віцебская, зноў Мінская…

— Бачу, бачу, дзіцятка! — бабуля спаласнула ў бочцы ля калодзежа рукі, выцерла іх фартухом, аберуч падцiснула вузел на хустцы, завязанай «бабачкай», заправіла пасмы валасоў, нібы рыхтавалася да нечага вельмі адказнага.

Баба Жэня ўзяла ў рукі каляровыя канверцікі, падпісаныя крываватым дзіцячым почыркам.

— От, дзеткі, малайцы! З усёй Беларусі пішуць. А ты ж, унучачка, глядзі, усім адпісвай. Як канвертаў мала будзе, то я дам табе грошай, купіш, каб усім адказала, — пасміхнулася, і радок пластмасавых зубоў, роўных, белаватых асвяціў і амаладзіў яе твар. — Але ж загулялася ты нешта сёння, Красуня малака не аддасць, як бурачніку не ўкіну ў жолаб. А дзе ж яго ўзяць? Волечка не нарвала, — голас у бабулі мяккі, нязлосны, павуцінкі-маршчынкі разбегліся па ўсім твары, а на носе — жоўтая плямка: кветкі, мабыць, нюхала.

— Ой, бабулечка, — спахапілася дзяўчынка, — а ты нашы пачканосы нюхала,

мусіць? Ха-ха! Носік свой вымурзала. — І выцірае рукой бабін нос, а тая ўжо сама старанна трэ фартухом твар, смяецца: «Палола кветкі пад вокнамі, нанюхалася. Ха-ха-а!»

І Волечка падскокам забегла ў сенцы, сунула пад падушку на ложку лісты, прыхавала, быццам іх нехта мог забраць. Схапіла кошык ля плота, і бегма ў агарод па бурачнік. Нарве — і за лісты. Які цудоўны вечар чакае яе! Першымі, канешне ж, прачытае навіны ад Коліка: пэўна, напісаў, калі яго тата на канікулы прывязе.

* * *

*«...А яшчэ высылаю табе пяць марак з жывёламі нашай краіны. Я збіраю маркі ўжо два гады. А ці маеш ты хобі? Пішы. Я буду чакаць.*
*Каця Раманькова, в. Верцяліўшкі, Гродзенская вобласць».*

Волечка зазірнула ў канверт. Пусты. Пакруціла лісток са школьнага сшытка, на якім быў напісаны ліст. Няма ніякіх марак. «От, Кацька, забылася, мусіць, свае маркі пакласці», — пасміхнулася сама сабе Волечка. Узяла наступны канверт. Ад хлопчыка. Ігар Будавей. З Брэсцкай вобласці. І падалося ёй, што канверт ужо быў адкрыты і заклеены зноў не вельмі акуратна. А ў лісце Марыны Шыбко паведамлялася, што на памяць яна высылае здымкі сваіх любімых акцёраў Наталлі Гвоздзікавай і Вячаслава Ціханава. О-о! Волечка таксама любіла Ціханава! Асабліва «Дажывём да панядзелка» — фільм пра школу. Але… Здымкаў ў канверце не знайшла. Перачытала ліст яшчэ раз. Задумалася. «Алеська!» — паласнула думка. І праз секунду стала сорамна за такія дагадкі. Балюча сціснула віскі. Сціснула — адпусціла. Зноў сціснула. І тах-тах-тах… пульсавала кроў. «Няўжо?» Алеся не першы год дапамагала маці разносіць пошту ў той канец вёскі, дзе жыла Волечка. Няўжо ж ёй закарцела зазірнуць у таўставатыя канверты? Употай. Каб маці не даведалася? Але, атрымліваецца, лісты яна не чытала… Толькі здымкі і маркі забрала. Волечка яшчэ раз пакруціла канверты. Добра ўгледзеўшыся, можна было заўважыць: яны былі заклеены па другім разе…

Доўга сядзела Волечка ў гэты вечар. Перачытвала лісты. Радавалася новым знаёмствам. Дастала сваю скрыначку з-пад пернікаў, дзе захоўвала ўсе свае важныя паперкі. Складала, пераглядала, успаміналa. Але на душы панаваў неспакой, прытаілася трывога. Мо дарэмна яна падумала на Алесю? Мо і праўда, забыліся дзяўчаткі ўкласці гэтыя маркі ды здымкі? Дый ці справа ў марках і здымках! Каб жа не падумаць пра чалавека блага. Мо і не чапала Алеся гэтых канвертаў? Калі ўжо забіраць, то магла б і ліст выкінуць. Хто б там ведаў: дзевяць ці пяць лістоў прыйшло? Хто б правяраў? А можа бабулі расказаць? Не! Яшчэ ёй галаву дурыць. І Алесі не скажаш. Не злавіў — не злодзей… От загадка!

Сон не ішоў. Волечка прасіла Божаньку, каб дараваў, калі дрэнна пра Алеську падумала. Час пакажа, як там было… Нікому гаварыць пакуль не варта. З дзяўчынкамі ж перапіску весці Волечка будзе. Калі забылі пакласці здымкі ды маркі — напішуць.

* * *

Каровы апетытна шчыпалі траву, выбіраючы і захопліваючы языком купкі зялёнейшай атавы. Сонца дурасліва гуляла ўвесь дзень у хованкі з невялікімі хмаркамі. Паветра было насычана настоем разнатраўя, позніх грыбоў і духам свойскай жывёлы: авечкі і каровы хадзілі ў адной чарадзе.

Уступала ў свае правы восень. Паволі, не спяшаючы, дзень за днём напамінала пра сябе. То дробным дажджом, які бы з сіта сеяўся ад самага ранку з шэрага сумнага неба, то дбала пра прыгажосць дрэў і сыпала адценнямі розных колераў на асіны, ліпы, бярозкі. А то і кругленькім нулём на тэрмометры, які зашкляў ноччу рэдкія лужынкі, і раніцай колы вазоў, ровараў, а часам і капыты кароў растрэсквалі іх, нават не заўважаючы, што гэта ўжо першы лядок.

Волечка пасвіла чаргу за Красуню. Разам з дзедам. Летам такога клопату яна не мела, бо гэта быў абавязак Коліка. Дзед зрабіў яму добрую пугу і малец з задавальненнем ганяў кароў па вёсцы. Сёння, у гэты светлы вераснёўскі дзень, памочніцай дзеду была ўнучка.

Дзяўчынка сядзела на невялікім круглым камені, накінуўшы на яго сваю цёплую куртку. Сонца стаяла ўжо высока, грэла амаль па-летняму. Нізка схіліўшы галаву, Волечка раз-пораз нешта запісвала алоўкам у свой вучнёўскі сшытак, потым крэсліла, зноў пісала. Дзед Уладзік хадзіў непадалёку. Расхінаў доўгай палкай купкі восеньскай пажоўклай травы, шукаў сямейкі апошніх шампіньёнаў.

Волечка ўсё ж недалюблівала дзеда. Ці, можа, пабойвалася. Высокі, як слуп, вочы навыкат, вусы рыжыя на бараду сцякаюць. Даўно не голены твар. Ён ці ленаваўся, ці не меў звычкі галіцца часта. Шырокія густыя бровы. Глянеш — адразу непрыемны халадок па спіне прабяжыць. Але як бы там ні было, а Волечка — дзедава ўнучка. І ростам ў яго, і валасы каштанавыя. Ды і здольнасці яе, пэўна, ад дзядулі.

Таго з маладых гадоў на вяселлі сватам бралі. Усе ў вёсцы ведалі: добры Уладзік сват. Як стане гаварыць — ніхто не паправіць. Так і скачуць з яго вуснаў словы-рыфмаванкі, так і ляцяць прыказкі-прымаўкі, на хаду прыдумляе дзед цікавы выпадак ці смешны анекдот. Спраўна ў яго атрымлівалася. І традыцыі, і абрады бярог, змалку ад свайго дзеда навучыўся. Цяпер, вядома, гады не тыя па вяселлях ездзіць, таму ўспамінае стары той час з прытоеным сумам ды лёгкім шкадаваннем.

Цішыню спалохаў шум машыны. Яна неслася акурат да чарады. Каровы паднялі галовы, зірнулі на вішнёвы «Жыгулёнак». Палявая дарога скончылася ля ўсохлай рэчкі-канавы. І машына спынілася. Далей ходу не было. Па пашы на легкавушцы не папрэш. Ляснуўшы дзверцамі, з машыны вылез чалавек сярэдняга росту, у касцюме, з капелюшом на галаве.

— Ой! — гэта ж Павел Іванавіч, дырэктар школы. — У Волечкі — сэрца ў пяткі. — Чаго б гэта?

Павел Іванавіч спрытна пераскочыў перасохлую канаву і наблізіўся да дзеда. У руках — скрутак, нейкія паперы. З дзедам за руку павітаўся.

— Во, як прыспічыла, бачыце, дзе вас знайшоў. У полі. Я дадому заехаў, Яўгенія Пятроўна кажа: «Няма нікога, каровы пасуць». Да пашы — рукой падаць, а справа не церпіць.

Волечка падышла бліжэй, сарамліва паздароўкалася.

— То што ж за справа такая пільная? — дзед адной рукой пачаў пагладжваць свае вусы, відаць, захваляваўся.

— Вось, Уладзіслаў Трафімавіч, дакументы на ўнучку прывёз. Медыцынская карта з прывіўкамі, выпіска са школьнага журнала з адзнакамі за гэты месяц і пуцёўка. Збірайце яе ў рэспубліканскі піянерскі лагер «Зубронак». Пуцёўку на яе імя з газеты даслалі, я ўчора з раёна забраў. А сёння ўжо з «Піянера Беларусі» тэлефанавалі: хвалююцца, ці паведамілі юнай карэспандэнтцы пра адпачынак і вучобу на Мядзельшчыне, на Нарачы. Заўтра патрэбна ў раён ехаць, медкамісію прайсці. А ў пятніцу — у добры шлях! Паспееце купіць, што неабходна? Вось тут спіс, — Павел Іванавіч павярнуўся да дзяўчынкі, ускалахмаціў ёй кучаравыя валасы. — Ну што,

Вольга, заслужаны ў цябе адпачынак будзе, малайчынка! Добрую ўнучку выхавалі, Трафімавіч, старанную, таленавітую. І школе прыемна такую вучаніцу мець.

Дзед, пераступаючыся з нагі на нагу, сказаў:

— Дзякуй, дзякуй, Павел Іванавіч. Ага, старацельнае дзяўчо, не падганяем. І бабе дапаможа, і ўсё нешта піша, чытае. От, хай свету трохі пабачыць далей за нашую вёску, брат ты мой, хай паедзе. Баба з ёй камісію пройдзе, купіць, што патрэбна. Мы што, мы не супраць, — стары нібы апраўдваўся перад дырэктарам, неяк галаву ўгнуў, аж ростам паменшаў, быццам у нечым вінаваты быў, што людзі яго ўнучцы падарунак зрабілі, а не ён сам.

Волечка глядзела на дарослых, слухала іх размову і здавалася ёй, што гэта нейкі сон. Яна чытала пра «Зубронак» у часопісе, у газетах, але каб самой трапіць туды… І марыць баялася. А тут такое! «Божанька! Няўжо гэта праўда?»

* * *

Бабуля Жэня тупала паўночы. Яшчэ раз чамадан Волеччын перагледзела: ці не забылі чаго? Узяла са стала невялічкі абраз Маці Божай, засунула ў кішэньку ў чамадане, пад замочак. Хай беражэ Багародзіца ўнучачку. Прашаптала «Ойча наш» і легла на ложак, укрылася цёплай коўдрай.

Але дзе ходзіць той сон? Нагадвалі пра сябе натруджаныя рукі і ногі. Удзень за беганінай ды клопатамі бабуля і не зважае на боль, а як толькі ляжа, і ёй стане цяплей, пачынае круціць ногі, ныюць рукі. Не вытрымала: спаўзла з ложка і паклыпала да кухоннай шафкі, дзе хавае свае лекі, травы, націранкі. Узяла літровы слоік, у якім яшчэ застаўся настоены на спірце квет конскага каштана, старанна расцерла вадкасцю пальцы ног і лыткі. Нацягнула вязаныя шкарпэткі, якія пакусваюць босыя ногі (сама прала авечую воўну на ніткі і вязала сама). Потым, пакуль не адчула лёгкае цяпло, расцірала левае пляча: мо сагрэецца, мо перастане ныць? Як мыш у нору шмыганула пад коўдру, сцішылася. Супакойваецца, здаецца, навярэджаная рука, цяплеюць ногі. А вось душа… Чым яе падлячыць, сагрэць? Яна ные-баліць горш за рукі-ногі. Жаліцца на сваю долю, скавыча па невядомай, няшчаснай долі дачкі. Куды лёс занёс яе? Ні ліста, ні званочка… Жывая яна ці, можа, даўно ўжо костачкі парыць у зямельцы чужой?

«…Ох, дачушка, дачушка! Якую ж ты дзе сцежачку топчаш? Хоць прысніся калі, раскажы пра жыццё-быццё, улагодзь душу маю збалелую, пташка мая пералётная… Вунь унучачка як вырасла ўжо. Гадую яе па-людску. Ніхто не скажа, што крыўджу ці не выхоўваю нябогу сваю. Удаленькая такая расце Волечка наша! І за яе сёння трапеча-перажывае душа. Як ёй там будзе, у лагеры гэтым? Яна ж ніколі ад дому не ад'язджала. Разоў пару ў Мінск бацька вазіў, у цырк з Колікам хадзілі. Але ж так узрадавалася паездцы гэтай! А яна ж сарамлівая такая… Хаця б не крыўдзілі яе там дзеці! Ці здолее пастаяць за сябе? Ці справіцца з вучобай? Ці не будзе плакаць па начах, сумуючы па бабулі? Охо-хо, Божа мілы! Беражы ты, мой Божа, гэтае дзіцяня, сірацінку маю… Каб хаця ўсё добра было ў яе. Каб даспадобы гэты месячык у новай абстаноўцы прыйшоўся. Охо-хо-хо!»

Нарэшце выратавальнік-сон забірае бабулю ў свой палон.

* * *

Красаваў красавік. Не вельмі ахвотна ў гэты год сыходзіў снег. Гаманкія ручаі ўсё яшчэ беглі навыперадкі па вясковай вуліцы. Разбалоцілася яна: без гумавых ботаў і не ступіць. На бярозе ля хаты шчыравалі шпакі. Дзён колькі назад учынілі яны

сапраўдную бойку з вераб'ямі, выганялі іх са шпакоўняў ды з-пад стрэх, адваёўвалі сваё пакінутае на зіму жыллё: арэнда скончылася. І вось сабраліся шпакі сямейкамі на дрэве, пер'е чысцяць, гамоняць, рыхтуюцца да наваселля. Па гародзе паважна расходжвалі гракі, вышуквалі спажыву. А ў небе… Вісеў над полем круглаю плямкаю жаваранак. Высвістваў, выцвінькваў сваю дзівосную песню, з асалодай вітаючы вясну. Ласкавыя сонечныя промні клапатліва сагравалі зямлю.

Волечка з бабуляй увіхаліся ў гародзе. Дзед збіў вялікую раму-цяпліцу, насыпаў у яе чарназёму, накрыў старымі шклянымі вокнамі. А далей — справа жаночая. Пікуецца сёння расада памідораў. Дзяўчынка рабіла ў зямлі ямачкі, папярэдне разлінеіўшы драцяным драпачыкам чарназём на квадраты, а бабуля пікавала кволыя раслінкі. Няхай растуць, грэюць вушкі на сонейку. Іх дружную працу перарваў, піскнуўшы коламі ля брамкі, цёмна-зялёны УАЗік. З яго выйшла маладая жанчына ў блакітным вясновым паліто, а за ёй — мужчына ў касцюме, пры гальштуку, з фотаапаратам на шыі.

— Дзень добры, гаспадынькі! — ветліва прывіталіся госці.

Пераазірнуліся бабуля з унучкай, на прывітанне адказалі.

— А ты і будзеш тая самая Вольга Нічыпаронак, што дасылае нам свае вершы?

Волечка зачырванелася, вочы апусціла, ледзь выдыхнула: «Я».

— А я вось той самы рэдактар Раіса Сарокіна, што адказы табе шле, — працягвала знаёмства прыемная жанчына.

Баба Жэня захвалявалася, заспяшала. Рукі пад рукамыйнікам спаласнула, гасцей у хату кліча: «Заходзьце, заходзьце, людзечкі! З якім наказам да нас, з якой вестачкай?»

Селі ў зале за сталом. Пра жыццё Вольгу пачалі распытваць, пра вучобу, пра бацькоў. А дзяўчынка баіцца слова лішняе выціснуць, не ведае, ці варта праўду расказваць. Добра, што бабуля з кухні самавар прынесла, выратавала:

— Даставай, унучачка, кубачкі ды сподкі з буфета, будзем гарбату піць. Я вось малінавага лісця ды ліпавага цвету заварыла. Вы ж з дарогі, частуйцеся, калі ласка, бабуля ўвіхалася, задаволеная, што такія госці завіталі ў хату. Расклала па талерках пернікі і цукеркі, прысела на крэсла. «У нас яна з дзедам гадуецца. Змалку. Дзяўчынка руплівая, настойлівая. Любую работу нароўні са мною робіць, у школе добрыя адзнакі атрымлівае, а як гуляць адпушчу, то за аловак і сшытак мая нябога — ды вунь у сад, пад вішні, піша нешта, сама з сабой размаўляе», — вочы бабулі свяціліся непадробнай радасцю.

Зазірнулі госці і ў Волеччын пакойчык. Там, на сцяне, ля засланага бабінымі вышыванкамі ложка, вісяць у некалькі радкоў пахвальныя лісткі, граматы, медалі і з «Зубронка» значок.

— Як табе ў лагеры, спадабалася? — павесялела Раіса Іванаўна.

— Ой, гэта казка! — успаміны пра лагер заўсёды запальвалі ўсмешку на дзіцячым тварыку.

— Ну, Вольга, ты вельмі таленавітая і старанная дзяўчынка. Поспехаў табе! Вучыся, бабулі дапамагай і вершы пішы. Шчырыя яны ў цябе, як і твая ўсмешка! — ласкава гаварыла журналістка, — давай я табе на памяць вось гэтую стужку прыкалю, так мы цябе і сфатаграфуем. Згода?

Волечка радасна ўсміхнулася, а мужчына пры гальштуку некалькі разоў шчоўкнуў кнопкай фотаапарата.

— Бач, Волечка, людзі якія ў нас сёння пабывалі: інтэлігентныя, аж з Мінска. І гарбаткі не адмовіліся з намі папіць, — бабуля паднесла хусцінку да носа, выцерла шурпатаю рукою вільготныя вочы. А Волечка і не супакойвала яе: свяціліся, скакалі

ў яе шэра-зялёных вочках іскрынкі шчасця, бо яна ведала, што гэта слёзы радасці. Можа, нават гонару.

* * *

Развярэдзілі душу сваім прыездам мінскія госці. Ніяк заснуць не магла ў тую ноч Волечка. І падушку ўзбівала, і з боку на бок па пяць разоў варочалася, ды вочы змружыць не магла. А тое, што ніяк не давала ёй спакойна акунуцца ў сон — успаміны пра «Зубронак».

Волечка шчоўкнула кнопкай, цьмяна загарэлася бра. Дзяўчо ціхенька дацягнулася да тумбачкі, дастала з шуфлядкі светла-блакітны агульны сшытак. На вокладцы роўненька выведзены друкаваныя літары: «Мой «Зубронак». Волечка адчула, як прыемна разлілася цеплыня па ўсім целе ў прадчуванні бяссоннай ночы, напоўненай успамінамі пра жыццё ў лагеры, і разгарнула свой дзённік.

* * *

***22 верасня. Нядзеля.***

*Вось і пачалося маё новае жыццё. Жыццё ў лагеры з новым сябрам — дзённікам.*

*Прыехалі ў пятніцу вечарам. Ехалі з Мінска ў «Ікарусах» у суправаджэнні міліцыі. Я — ў трэцім аўтобусе. Адразу пазнаёмілася з Ірынай, з якой сядзелі побач. Па дарозе вучылі песні пра «Зубронак».*

*Я ў другім атрадзе дружыны «Лазурная». У нас такія смешныя важатыя! Наталля Віктараўна — у акулярах, з пісклявым звонкім голасам. Худзенькая, з кароценькай стрыжкай «пад вожыка». І Сяргей Іванавіч. Ён таўставаты для маладога хлопца, няўклюдны. А гальштук надае яму выгляд падлетка-перарostка. Сяргей Іванавіч нядаўна перахварэў на ангіну, таму ў яго яшчэ сіплы голас, які пераходзіць на шэпт.*

*У пакоі нас восем дзяўчынак. За два дні мне яшчэ цяжка сказаць, хто ёсць хто. Але з Ленкай Маляўка (нашыя ложкі стаяць побач) мы пасябравалі адразу.*

*Учора была субота. На атрадным месцы ля возера «Нарач» мы палілі касцёр (на дварэ было даволі цёпла), знаёміліся, расказвалі пра сябе, далі назву атраду і выбралі старшыню. Нам усім далі значкі! Змена наша называецца «Юнкараўская». Усе дзеці любяць пісаць і сябруюць з газетай «Піянер Беларусі». Кожны атрымаў пасаду. Я — рэдактар насценнай газеты. Са мной яшчэ Насця, Таня, Віця, Ленка. І нашае першае заданне: аформіць атрадны куток. Сёння выразалі літары, клеілі, малявалі (Таня так прыгожа малюе!). І атрымалася даволі нічога!*

*А вечарам у суботу ў нас была дыскатэка «Прыемна пазнаёміцца». Я так натанцавалася! І гульні розныя былі. Я запісала, каб у школе развучыць.*

*Ой! У нас ва ўсіх аднолькавая форма: паўсядзённая і святочная. Святочная — кароценькая сіняя спаднічка, белая кашулька, гальштук, стужкі белыя і пілотачка. Мне вельмі падабаецца!*

*Заўтра ўжо будзем вучыцца ў школе. Бр-р! За геаметрыю і фізіку хвалююся. Не люблю…*

*А яшчэ… На дыскатэцы мне спадабаўся адзін хлопец. Ён таксама ў восьмым класе, але не ў нашым атрадзе.*

*А яшчэ… Усё! Іду спаць! Сяргей Іванавіч сварыцца, што святло не выключылі. Адбой!*

* * *

***24 верасня. Аўторак.***

*Фу! Учора была геаметрыя. Настаўніца такая строгая, не тое, што наша Ірына Валер'еўна. Тэму растлумачыла, а за дзесяць хвілін да канца ўрока дала самастойную работу. Я не паспела рашыць… Калі там! У школе на палову ўрока такія заданні даюць. А вось мовы — цуд! І руская, і беларуская! А яшчэ была гісторыя. Вельмі цікавы настаўнік! Ён і гісторык, і кампазітар. Песні для «зубранят» піша. Яшчэ добрая навіна: сёння сказалі, што настаўнік па фізіцы ў бальніцы. Таму фізікі пакуль не будзе. Ура! Сядзім на самападрыхтоўцы. Дзве гадзіны адводзіцца. Мала. На трэцім уроку ў клас з баянам завітаў Раман Васільевіч, настаўнік музыкі. Праслухоўванне рабіў. Я толькі завяла «Пусть всегда будет солнце», як раптам… «Як прозвішча? А другой гадзіне ў актавую залу». Пайду. Спяваць я вельмі люблю. Вось такія навіны. Вечарам яшчэ дапішу.*

*P.S. Ужо ўлегліся. Не паспяваем нічога. У Ленкі — ліхтарык. Пад коўдрай пішу. Нават у прыбіральні нельга чытаць ці пісаць пасля адбою. Дысцыпліна!*

***27 верасня. Пятніца.***

*Ужо тыдзень тут. Ліст бабульцы адправіла, што ў мяне ўсё цудоўна! Але сёння па геаметрыі тройку схапіла. За тую самастойную. Плакала. Сорамна.*

*Вечарам ідзём на дыскатэку. Хадзіла да Рамана Васільевіча. Развучвалі песню пра радзіму: буду спяваць на «Зубрацкім вінегрэце». Па літаратуры сачыненне задалі. Па гісторыі дваццаць дат на памяць! Калі паспець усё?*

*Ой, ледзь не забыла! Дзяўчынкі ў пакоі ўсе такія розныя! Ала ўмее з парашутам скакаць. У яе тата вайсковец. Ірына — завучка! Медалістка будучая. Галя нейкая непрыкметная, ціхоня. Танюша — мастачка! Светка — весялуха. Пасля адбою анекдоты расказвае і гісторыі розныя. Насця… Моцны арэшак. Сябе толькі любіць. Урокі не вучыць. Адны хлопцы ў галаве. Грубая. Абразіць — і не пачырванее. І Светку ўсё некуды кліча. А вось Ленка — мой чалавек! З ёй мы нечым падобныя. Шэпчамся пасля адбою. У яе ўжо хлопец ёсць, на два гады старэйшы. Праз дзень лісты яму шле. Кажа: каханне! Я за яе рада!*

* * *

***28 верасня. Нядзеля.***

*Ціхі час. Для многіх ён — катарга! Дзве гадзіны дзённага адпачынку. Каб я калі дома ўдзень спаць улеглася! А тут! Набегаешся, наслухаешся, і можна спакойна асэнсоўваць уражанні, лавіць летуценныя мары. Ніхто не спіць. Толькі Светка задрамала, у яе зуб баліць. Заўтра да ўрача пойдзе. І Ірыну ў ізалятар паклалі. Тэмпература паднялася: вуха застудзіла.*

*А ўчора… Учора быў канцэрт на вялікай сцэне, у актавай зале. Я праспявала «на біс». Выйшла на паклон, аж галава закружылася! «Зорнай» хваробай каб не захварэць! Жартую…*

*А потым была дыскатэка. З гульнямі і конкурсамі. Калі гулялі ў «Знайдзі пару», мая частачка паштоўкі супала з частачкай, што была ў чарнявага хлопца з пятага атрада. Ён знайшоў мяне хутка. Пазнаёміліся і танцавалі. Я так хвалявалася! Алег*

*аказаўся даволі сімпатычным і таварыскім хлопцам. Сказаў, што вельмі любіць матэматыку і піша вершы на рускай мове. А вось сачыненні пісаць не любіць. А я наадварот. Трэба будзе неяк дапамагчы адно аднаму ў вучобе.*

*А яшчэ працавала «Пошта». У мяне быў 25-ты нумар. Так цікава! Прыйшло тры лісты. Два — так сабе. А вось трэцяе… Ад нейкага Валеркі. Мяне запрашаюць на сустрэчу. А палове на дзясятую. Сёння. Што рабіць? Да 21.30 у нас звычайна атрадныя вячоркі. Падводзім вынікі дня, плануем мерапрыемствы на заўтра. А сёння — выхадны. Ісці ці не?Паказала запіску Ленцы. Яна кажа: «Схадзі. Цікава, што там за хлопчык?» А я так баюся. Трасуся, як ліст асінавы. Урокі не вучацца. Даты па гісторыі не запомніла — у галаву не лезуць. Як быць?Можа, гэта непрыгожа: бегчы на сустрэчу па нейкай запісцы?Але ж у мяне ніколі не было спаткання! Ні разочка яшчэ… Схаджу!*

* * *

***30 верасня. Панядзелак.***

*«Канчай начаваць!» — у Сяргея Іванавіча нарэшце прабіўся голас. Сёння ён пабудзіў нас а шостай раніцы. Я і забыла: мы на гэтым тыдні — дзяжурны атрад. Пад'ём на гадзіну раней. Зарадка. Збор. І — бягом у сталоўку. Пішу зноў на ціхай гадзіне. Не ведаю, ці пісаць пра ўчарашняе. Пра Валеру. Пра мой першы паход на спатканне. Ой, смехата! Усе зубы чысціць, а я роўна а 21.30 на атраднае месца — шмыг! Пяць хвілін стаяла. Святло ж не ўключу, важатая ўбачыць. Нікога не відаць, нічога не чуваць. Дрыжыкі па ўсім целе. Мамачка! Яшчэ хвіліны тры пачакала. Ажно чую: нехта з боку лесвіцы ледзь чутна падкрадаецца. Я — ходу! Уцякла! Адно пяткі бліснулі! От схадзіла! Сорам! Захацелася дарослай сябе адчуць… Эх, Валера, Валера!*

*P.S. Дапісваю ўжо пасля адбою, з ліхтарыкам. Ленка з мяне пасмяялася: «Трэба было мяне з сабой узяць, я б не здрэйфіла!»*

*Але я вось пра што хацела напісаць. На самападрыхтоўку прыйшлі, а ў мяне на стале сшытак. Разгарнула. На ўсю старонку — смешныя тварыкі, а замест роцікаў — слова «Алег». Далей — чыстыя лісткі. Добра, што дадумалася пагартаць. Усярэдзіне — рашэнне самастойнай работы па алгебры. І допіс: «Пісалі сёння. Заўтра такая будзе ў вас. Тут два варыянты. З цябе — сачыненне. Пакінь у кабінеце гісторыі, на чацвёртай парце ля акна. Згода?»*

*Вось гэта прыдумка! Супер! Быў бы Алег побач, кінулася б абдымаць! Сачыненне накатала мо за паўгадзіны. Як заўтра і праўда супадзе самастойная, я буду самай шчаслівай! Пра гэта — нікому! Нават Ленцы. Сакрэт. Добрай ночы, Волечка! Добрай ночы, бабулечка! Сумую па табе! Дзед, і табе — дабранач!*

* * *

***3 кастрычніка. Чацвер.***

*Ура! Ура! Ура! Па самастойнай атрымала пяцёрку! Спрацавала Алегава шпаргалка! Праўда, я і сама ведала рашэнне. Але так мала даюць часу, не паспела б! Брава, Алежак! Бачыліся ў сталоўцы. Ён дзякуе, я — у адказ. Здорава прыдумана! А вы, Марыя Вітальеўна, і не здагадваецеся! Мне б яшчэ тройку па геаметрыі выправіць!*

*Ад таго таямнічага Валеркі — ні слыху ні дыху! Учора на дыскатэцы я ўсё пазірала на таго хлопца, які спадабаўся з першых дзён. Быў «белы танец», але я не*

*адважылася. Сэрца просіцца, а ногі не ідуць. І Насця, і Света, і Таня любога хлопчыка запрашаюць, нават і не на «белы», а я… «Дзярэўня»! Так мяне Насця ўчора абазвала, калі на дыскатэку збіраліся. Яна сукеначку міні апранула. Нафарбавалася як лялька. Валасы накруціла. Гараджанка, з Салігорска. А я зноў сваю спаднічку ў клетку нацягваю. Яна мне: «А ты што трэці раз спадніцу гэтую напінаеш? У цябе джынсы ёсць? Я б табе кофтачку падагнала. Глянь!» І кінула нейкую ружовую блузку. «Не, дзякуй. Яна вельмі адкрытая». «Шмат ты разумееш, “дзярэўня”! Так на цябе ніхто не гляне. Шкада мне цябе. Жабрачка, хоць і мілая!»*

*Як было сцярпець? Сцярпела. І слязу не пусціла. Пракаўтнула абразу. І ніхто, вядома, за мяне не заступіўся. Насцю ўсе пабойваюцца. Я і праўда не маю нічога моднага. А джынсы ў мяне ёсць. Іх і апранула. Са сваёй блакітнай блузачкай. А Ленка мне вочы намалявяла. Прыгожа!*

*Хлопчык той на мяне таксама глядзеў. Ажно мурашкі па скуры. Ён такі харошанькі. Але толку. Паўздыхаю сама сабе, памрою трохі, ды хопіць.*

*Сёння газету выпускалі конкурсную, такая яркая. І мой верш у ёй! Танька пастаралася. І змястоўная. Я тэксты падбірала. Бабулечка, тут так добра! Толькі па табе сумую. Ужо два ліста адправіла. І тату з Колем напісала. От, якая я разумніца!*

* * *

***6 кастрычніка. Нядзеля.***

*Прабач, мой дзённічак, што не размаўляла з табой колькі дзён запар. Было столькі спраў! Я нічога не паспяваю! Два дні хадзілі з Ленкаю на рэпетыцыі. Рыхтаваліся да конкурсу «Алё, мы шукаем таленты!» Я спявала беларускую жартоўную песню, а Ленка чытала гумарыстычны маналог дзіцячым галасочкам. Медаль другой ступені! Ляжыць у тумбачцы, сумуе без мяне. А ў Ленкі — бронза! Узнагароды знайшлі свае таленты!*

*Пішу на падрыхтоўцы. Заўтра кантрольная па геаметрыі. У Алега на трэцім уроку, у мяне — на чацвёртым. Хоць бы пару заданняў падказаў! От, геаметрыя! Навошта ты мне? Я на філалагічны паступаць хачу. А тут трацъ нервы на матэматыку. Што зробіш? Перажывём! Ірына абяцала растлумачыць адну незразумелую мне тэму. Пайду прасіцца. А на душы — песня: вечарам дыскатэка з гульнямі!*

*P.S. Я адна. Сяджу з табой, мой верны сябра-дзённік, і глытаю слёзы. Усе на дыскатэцы. Нават Ленка. А я не пайшла. Сказала, што моцна баліць галава. Яна мне і баліць, але справа зусім у іншым! Ірына, калі тлумачыла мне тэму па геаметрыі, расказала, што чула, як дзяўчаты смяяліся з мяне. Што я апранаюся па-сялянску, спяваю, як вясковыя бабулі, што тую запіску ад Валеркі мне Насця напісала. Каб пажартаваць. Паглядзець, ці пабягу я на спатканне. Яна гэта і праверыць прыходзіла. Ніякага Валеркі і не існуе зусім. Добра, што я ўцякла. Не дазволіла з сябе паздзекавацца. Вось так, Волечка! Такія ў цябе сяброўкі па пакоі. А ты за іх падлогу штораніцы мыеш, каб пяцёркі за чысціню ставілі, а часам і ложкі прыбіраеш, бо яны да агляду не паспяваюць. Так крыўдна… І няма настрою з імі на дыскатэку ісці. А ну іх! Во, гляджу на сябе ў люстэрка. Вочы вялікія, зялёныя, вейкі доўгія, кірпатая, праўда… Затое валасы каштанавыя, і круціць іх не трэба — хвалямі на плечы кладуцца. І ногі ў мяне нармальныя: не худыя, не крывыя… І талія ёсць. Як бабуля кажа: «Тачоная ты наша!» Значыць, спраўная! А можа, яны проста зайздросцяць, га? Люстэрка? «Ты ўсю праўду раскажы»! Хто з іх медаль за песню атрымаў?*

*Ніхто! Зайздросцяць! Мне Ленка неяк казала: «Шэпчуцца нешта бывае пра нас, ты не звяртай увагі! Зайздросцяць, што мы актыўныя, а ў іх не атрымліваецца!» Хай будзе так! Хоць я да іх добра адношуся. Дапамагаю, чым магу. Дурніца! Чаго я на дыскатэку не пайшла? Ай, добра! Натанцуюся яшчэ. Прэч слёзкі! Ніхто цябе, Волечка, не прытуліць. Не пашкадуе! Расклеілася я нешта... Лепш пайду геаметрыю паўтару. Праўда, дзённічак?*

* * *

***10 кастрычніка. Чацвер.***

*Люблю пісаць у чацвер на самападрыхтоўцы, бо ў пятніцу ўрокі лёгкія. За гадзіну ўсё павучу і — вольны час. У мяне яшчэ адна радасць! Наша атрадная газета «Ветразі Нарачы» — сярод пераможцаў! І мне сёння на «зубрацкім» сходзе ўручалі грамату. Галоўны рэдактар «Піянера Беларусі» прыязджала! Пашчасціла табе, Волечка! Дзяўчынкі нават павіншавалі. Я выгляду не падала, што мне Ірына пра іх расказала. А Ленцы то не вытрывала: выклала як на духу! Разумная мая Ленка. Супакоіла: «А можа, і не было такой размовы? Ірына такая выдумшчыца. І не сябруюць яны з ёй, бо спісваць нікому не дае. А ты да сэрца бярэш!»*

*Яно так! Але ж пра запіску Ірына не ведала. Значыць, награшыла Насця! Як некалі Алеська з тымі лістамі... Я за канвертамі неяк да іх пайшла. А ў яе на сцяне — фотаздымкі акцёраў. І Гвоздзікавай, і Ціханава. Пытаю: «Ты дзе ўзяла?» «Купіла ў кіёску, як у горад ездзіла!» — сказала Алеська. І пачырванела як каліна ўвосень. Значыць, саграшыла. А Насця не ведае, дзе сябе праявіць. А я не хачу разводзіць плёткі, ды і сварыцца не ўмею. Прайграю, хоць і не вінаватая. Хай яго, з тым Валеркам! У мяне сапраўдны кавалер з’явіўся! Мішам завуць. Міхась Ігнатовіч. На дыскатэцы пазнаёміліся. Танцавалі, размаўлялі. Кажа: «Ты такая актыўная! Спяваеш прыгожа. Узнагароды атрымліваеш. Я цябе даўно заўважыў. Давай сябраваць!»*

*Ой, мамачкі! Гэта значыць, у мяне хлопец з’явіўся! Як у Ленкі! Учора таго хлопца прыгожанькага і не заўважыла нават. Мішкам захапілася.Чарнявенькі такі, сімпатычны. І размаўляць з ім цікава.*

*P.S. У сталоўцы на полудні сустрэла Мішку. Ён аддаў мне свой апельсін. Пасля вячэры сёння збор на атрадным месцы ля возера. Дыскатэкі не будзе. На двары цёпла, як увесну. Будзем вогнішча паліць і сала смажыць на палачках. Клас!*

* * *

***11 кастрычніка. Пятніца.***

*Учора пасля размоў і гульняў ля вогнішча не маглі ніяк заснуць. Насця прызналася, што ў яе ёсць цыгарэты. Цэлы пачак. І прапанавала ціхенька пакурыць на балконе. Аказваецца, курыць спрабавалі амаль усе (вось куды Насця Светку ўсё клікала!), акрамя мяне, Ленкі і Ірыны. Узялі па цыгарэце. Я пару разоў зацягнулася. Ну і атрута! Галава закружылася, у роце — гарката! Не-е! Паспрабавала, і хопіць! Спаць пайшла. І Ірына з Ленкай — са мной. А астатнія доўга там сядзелі. На раніцу Наталля Віктараўна ледзь пабудзіла. Добра, што на балкон не зайшла: пах трымаўся доўга. Але пра гэта дамоўлена нікому «ні-ні»!*

* * *

***13 кастрычніка. Нядзеля.***

*Мішка! Мішка!*

*Сказаць сорамна! Мы так пасябравалі! Што мне здаецца… Здаецца мне… А можа, не здаецца зусім… Ой, дзённічак, даруй! Ну, разумееш… Як лепш сказаць? Па-да-ба-ец-ца ён мне — Мішка! Мы ў пятніцу і суботу з ім усю дыскатэку разам былі. Ён падарыў мне дваццаць паветраных шарыкаў! І танцавалі ўвесь час разам і ў гульні гулялі. І вочы ў яго так іскрыліся! І ён мяне абдымаў, як дарослы. А сёння абяцаў у госці прыйсці пасля вячэры. З гітарай. Ён на гітары іграе! Во-ой!*

* * *

***16 кастрычніка. Серада.***

*Як хутка ляцяць дні! Яшчэ трошачкі — і дамоў… А так не хочацца. Тут так цудоўна! З дзяўчынкамі неяк па-іншаму сталі стасункі складвацца. Я ведаю, чаму. Яшчэ б! Мой Мішка на гітары як пайграў, як усе разам паспявалі… Абзайздросціліся! І іншымі вачыма на мяне глядзець сталі.*

*P.S. Выправіла сваю троечку па геаметрыі. На чацвёрку і пяцёрку. Ура!*

* * *

***17 кастрычніка. Чацвер.***

*Ой, бабулечка! Што твая Волечка сабе дазволіла?! Учора на дыскатэцы мы некалькі разоў выходзілі з Мішкам «падыхаць» з актавай залы. І там, на цёмным калідоры Мішка прытульваўся да мяне і цалаваў у шчочку. Ой, бабулечка! Я дарослая ўжо. Мне хутка — пятнаццаць!*

* * *

***18 кастрычніка. Пятніца.***

*Ну вось і ўсё! Казка заканчваецца! Заўтра дамоў… Сёння раздавалі ўзнагароды паводле вынікаў нашай змены. «За актыўны ўдзел у жыцці лагера» — грамата, за самы чысты пакой як старасце — пахвальны ліст і медаль першай ступені — залатый! — за конкурс вершаў «Зубрацкія сны». Дырэктар лагера абвясціў, што конкурс ацэньвалі вядомыя беларускія паэты. Я ганаруся, што мае вершы атрымалі «золата»! Радуюся, што ў нашым атрадзе адзначана яшчэ пяць чалавек, але медаль вышэйшай пробы — толькі ў мяне! Будзе чым у школе пахваліцца. І адзнакі добрыя прывязу. І новыя знаёмствы. Мы з Мішам дамовіліся перапісвацца. А летам — сустрэцца! Праўда, ён ажно з Гомельшчыны. А я — з Міншчыны. Далёка. Але я веру, што наша сяброўства працягнецца. Дзякуй, «Зубронак»! Дзякуй табе, Божанька, што падарыў мне такі цудоўны месяц!*

* * *

***19 кастрычніка. Субота.***

*Бывай! Бывай, наш мілы «Зубронак»! Бывай, Нарач-сінявочка!*

Матуля-восень. Дні залатыя.
Я ўдзячна лёсу за дні такія!
«Зубронак» — казка! Душа сумуе.
Ты толькі сніся, цябе прашу я!

Волечка з сумам загортвае дзённік. На гадзінніку — палова другой ночы.

«Жыць толькі ўспамінамі нельга! І Мішка нешта не піша. Тры тыдні таму выслала яму ліст. У адказ — цішыня. Выкінуць яго з галавы! Эх, Мішка, Мішка! Але наперадзе яшчэ цэлае жыццё! Усё! Спаць!»

* * *

Палае агонь на ўскрайку поля. Хлопцы з Волеччынага класа назбіралі ламачча, травы, прынеслі сухога бульбоўніку, распалілі вогнішча. Напачатку з яго валілі клубы бела-шызага дыму. Потым разгарэлася зырка, толькі зрэдку вылятаалі невялікія іскры. Хлопцы чакаюць, каб вогнішча ператварылася амаль на вуглі, закідваюць унутр бульбу. Класны кіраўнік Вера Іванаўна заклікае: «Яшчэ па адным кошыку — і ўсё! Машына поўная! Ідзём адпачываць! Саша з Лёнем ужо бульбы напяклі». І (адкуль сілы ўзяліся!) усе хапаюць свае пустыя кошыкі, вёдры, імгненна напаўняюць іх, і мчаць да машыны. Насыпалі з горкай. Ігар падхоплівае поўную тару, дасыпае ў пусты кут кузава. «Усё! Пад завязку!» — хлопец саскоквае з машыны, даганяе Волечку і хоча забраць з яе рук пусты кош: «Дапамога бясплатная!» Волечка ўсміхаецца ў адказ, аддае кошык. Ля вогнішча сядаюць разам. Ігар разграбае палкай вуголле, выкочвае бульбіны. Тое ж робяць з усіх бакоў іншыя вучні. Хапаюць бульбіны, якія папрыгаралі, войкаюць: пячэцца ў пальцы. Хто як стараецца абцерабіць. І, крыху падзьмухаўшы, перакінуўшы з рукі ў руку кладуць у рот. Не зважаючы, што і язык апякаецца гарачанькім, жуюць, апетытна, з прыдыхамі. Ігар аблуплівае бульбіну для Волечкі, але тая не чакае, сама разломвае на часткі бульбіну і ласуецца. Смачненька! Дамоў ішлі пешкі. Стомленыя, запыленыя. Ігар нёс Волеччын кош да самай хаты. Калі аддаваў, на адным дыханні (відаць, хваляваўся моцна), парапанаваў: «Давай я зайду вечарам. У клуб на танцы разам сходзім». Успыхнулі дзявочыя шчокі. Вось ужо не чакала. Жаніх! Так і не адказала. Усміхнулася, зубкі-фасолькі свае паказала. Позірк адвяла, а то ў вачах, пэўна, жвавыя зайчыкі заскакалі! Шыла ў мяшку не ўтоіш! І — круць да брамкі. Рада была Волечка такой прапанове.

Ігар — аднакласнік. Летам з бацькамі прыехаў жыць у іх вёску. Бацькі — спецыялісты па сельскай гаспадарцы. Тата — галоўны аграном. Мама — заатэхнік, родная сястра завуча па выхаваўчай рабоце Алены Адамаўны. Ім далі вялікі новы катэдж. Ад таго, што Ігар пачаў праяўляць да Волечкі цікавасць, ёй было і прыемна, і крыху боязна. Трапіць пад яго прыцэл — мара не адной дзяўчынкі. Ён вылучаўся сярод аднакласнікаў. Заўсёды акуратны, у чысцюткім абутку, свежанькай кашулі. І пры дзяўчынках ніколі не брыдкасловіць.

«Як хутка ляцяць дні! Вось ужо і выпускны клас. Не згледжу — экзамены, школьны баль… Бывай, школа! Прывітай мяне, дарослае жыццё!» — Волечка мые ў хаце падлогу (бабуля ў гародзе корпаецца) і думае, думае… Дома толькі і гаворка пра тое, што трэба ўсе сілы аддаць вучобе, рыхтавацца да паступлення ў інстытут. А тут — на табе! Кавалер наклёўваецца. У клуб кліча. І сэрцайка трапечацца: «Эх, Ігарок! І прынесла ж цябе ліхая ў нашу школу. Прыгажун! Высокі, статны, спортам займаецца. Як такі ў душу не западзе? А тут яшчэ і знакі ўвагі праяўляць стаў. Во, на танцы запрасіў. Хутчэй бы!» І дзяўчынка ўяўляе ўжо, як ідуць яны разам у клуб, як Ігар яе на танец запрашае і дыхае на вуха горача-горача. «Ой, дзеўка! Прыбірай у хаце, ды за кнігі. Танцы табе ў галаве!» — абрывае сама свае думкі-гаданкі Волечка. А настрой! Як у латарэю выйграла!

* * *

І прыйшлі для Волечкі шчаслівыя дзянькі! Нават не заўважыла, як пасля таго вераснёвага вечара ў клубе, калі Ігар зайшоў за ёй у хату, закруціла-заваражыла яе дзіўнае пачуццё. Пачуццё, якое размалявала яе адзінокае шэрае жыццё ў вясёлкавыя колеры, падарыла лёгкія крылы, якое надавала сілу і ўсяляла веру ў незвычайнае заўтра.

Ігар! Ён для яе не проста аднакласнік. Ён — яе надзейнае плячо, яе радасць. І яе тайна!

> Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
> Светлыя згадкі з сабой прывяла…

Яны ішлі па ціхай вясковай вуліцы, трымаючыся за рукі, і ўзіраліся ў зорнае начное неба.

— А дзе тая зорка Венера? Знойдзеш? — адрэагавала Волечка на Багдановічавы радкі ў Ігаравым выкананні.

Неба было проста ўсеяна зоркамі. Глыбокае, яркае. А збоку — сярпок месяца.

— Венеру хочаш? Выбірай самую яркую зорку. А сузор'і бачыш? Вунь Вялікі Воз. А вунь — Лебедзь. Знайшла? — Ігар прыгарнуў яе да сябе — пяшчотна, нясмела. І Волечка пакорна прытулілася да яго пляча. Адчула прыемны пах адэкалону, аж галава закружылася.

— Не, не знайшла. А месячык які! На поўню бярэцца. Рожкі літарай «Р» закручаны: расце! Хітранькі! Куды мы — туды і ён. Цікуе.

— А што за намі цікаваць? Мы ж як дзеці малыя. Ходзім-блукаем, за рукі трымаючыся. Змерзлі ўжо. Мароз бярэцца.

— То дадому пара. Я ж сваім не кажу, дзе блытаюся. Ужо адзінаццаць вечара. А я яшчэ чытаць планавала, — уздыхае Волечка, ці то праз тое, што чытаць не хочацца, ці то шкадуючы, што час развітвацца.

— І мае не здагадваюцца, што сын на спатканні бегае. Паспееш дадому. Выспішся. Заўтра ж выхадны, — Ігар схіляецца да самага твару дзяўчыны, дыхае часта-часта і нечакана кранаецца вуснамі халоднага Волеччынага носа, потым цалуе недзе каля самага вока.

Ой, як спалохалася, затрапяталася сэрца. Перахапіла дыханне. Дзяўчына ад страху заплюшчыла вочы і раптам адчула, як цёплыя вусны злавілі яе маленькі роцік. О, якая невымоўная салодкасць напоўніла душу! Умомант сагрэлася цела! Вось ён які — смак першага пацалунка! Няўмелага, нечаканага, але ўзаемнага. І Волечка абхапіла Ігара за шыю, а ён прыціснуў яе дужымі рукамі аж да хрусту костачак і цаллаваў ужо смела, доўга, па-сапраўднаму, здалося: адрываешся ад зямлі і ляціш, ляціш, ляціш…

Міналі дні. І кожны з іх быў самым-самым. Цікавым і незабыўным. Волечка з Ігарам стараліся не падаваць выгляду, што між імі штосьці большае за простае сяброўства. Але на ўроках усё ж не маглі стрымацца, каб не глядзець адно на аднаго, перамаўляліся вачыма і адчувалі, як радасна пульсуе кроў у жылах, як хораша і лагодна расцякаецца па душы сарамяжлівая здагадка: няўжо гэта і ёсць яно, непаўторнае пачуццё, якое прыгожа называюць каханнем?

Людміла Адамаўна, маці Ігара, вырашыла пагаварыць з сынам неадкладна. Нутро так і віравала ад пачутай навіны. «От, смаркач! Не паспеў тут ногі абагрэць, ужо шуры-муры ў яго! Ужо дзеўку знайшоў! А я думаю, дзе ён прападае да адзінаццаці ледзь не кожны вечар? То ў Вані, то ў Пеці… А вочы свецяцца. І паслухмяны

такі стаў: што ні скажы — бягом, "зараз, мамачка!" А ён, глядзі ты, закахаўся! Ды ў каго? Быццам і дзяўчат у вёсцы больш няма. Ну, дапусцім, знешне яна харошанькая. Алена казала, што таленавітая, спакойная. Але ж сям'я? Сірата-галата! Што яна ў той сям'і бачыла-чула? Чаму дзед з бабай яе навучылі? Карову даіць? Гарод палоць? Не, не! Майму сыну не такая дзяўчынка патрэбна! Тут планка зусім заніжана! Што я, дарэмна яго ў музычную школу аддала, над тымі струнамі гітарнымі разам з ім слёзы ліла? На секцыі розныя з пяці гадоў цягала? На канцэрты-спектаклі ў Мінск штогод па некалькі разоў вазіла? Кнігі патрэбныя прымушала чытаць... Ён у мяне з іголачкі заўсёды! Нам бы дачку старшыні калгаса хаця б, а то і на гараджанку замахнуцца. А тут? Казала ж свайму, пераедзем пазней, хай закончыць гарадскую школу. Не, угаварыў! Катэдж гэты голаў закружыў. Зараз яшчэ і гаспадаркай прымусіць абзавесціся. Ото! Не на тую нарваўся! Мне на рабоце спраў па горла! А тут во, сыночка яшчэ пільнаваць трэба. А то волю дай, і ў інстытут не паступіць з любоўю гэтай. Добра, што Галя-паштальёнка расказала, дзе ён і з кім бадзяецца. А то сястрычка ў завучах сядзіць, выхаваўчы працэс кантралюе і не бачыць нічога! Пагавару з ім, пераканаю»...

Але пераканаць сына ў сваіх меркаваннях Людміле Адамаўне не ўдалося. Ён і слухаць не захацеў, што Волечка зусім не тая, з кім варта праводзіць увесь свой вольны час!

— Мама! Ты зусім не ведаеш, якая яна! Яна вясёлая, спявае прыгожа, вершы піша, у інстытут рыхтуецца паступаць… — ён знайшоў яшчэ з дзясятак слоў, каб абараніць дзяўчыну, а калі маці павысіла голас і прыгразіла не выпускаць яго з хаты пасля дзевяці: «Будзеш сядзець і рыхтавацца да паступлення», ён грукнуў дзвярыма і збег. І куды падзелася тая рахманасць і паслухмянасць? Ой, як жа яна дрэнна ведае свайго сына, адзінага, амаль дарослага ўжо сыночка... «Ігар, вярніся-а!»

Дзе там! Шапку схапіў, куртку накінуў і — шусь! Як было стрываць?! Расплакалася, разжалілася… «От, гадуй-гадуй дзетак і на — атрымай!»

Другі дзень шчыміць-коле Волеччына нутро нейкі неспакой. У школе было ўсё спакойна. Напрыканцы года, калі дамоў з арміі вяртаюцца салдаты з тэрміновай службы, старшакласнікі традыцыйна праводзяць вечар «Служыць Айчыне салдат». Сёння была генеральная рэпетыцыя, зусім нядрэнна атрымалася. Дык чаму ж дома томіць сэрца нейкае дурное прадчуванне? Можа, віною таму Ігар? Апошнімі днямі ён нейкі сам не свой. І гуляць не запрашаў, кажа, што дрэнна сябе адчувае.

— Нешта «хуткая» памчала, мо забрала каго? — баба Жэня ўкацілася ў хату борздзенька, але холад не праміргаў сваёй магчымасці патрапіць у цёплае памяшканне. — Мароз бярэцца. А ў нас у хляве прыбытак: ягняткі маленькія. Мілка дваіх прывяла. Стракаценькія такія, рухавенькія. Ужо скачуць.

Волечка іншым часам кінулася б у хлеў, каб на ягнятак падзівіцца. А цяпер быццам і не пачула пра Мілку, навіна пра «хуткую дапамогу» зачапіла куды больш. Бабуля вады сагрэла, зноў у хлеў патупала, Мілку паіць.

Вярнулася мо праз паўгадзіны. Насупленая, устрывожаная.

— Ну, як там Мілка? — Волечка накрывала на стол.

— Нічога, корміць сваіх дзетак, — і на Волечку вочы скасіла, нядобра неяк глянула.

— Бабуль, я катлеты разагрэла. Сядай абедаць. Дзед не хутка яшчэ будзе.

Бабуля, не падымаючы вачэй, тыцнулася, то да печы, то да вядра з вадою. Нарэшце прысела, пачала церабіць фартух.

— Я от што, унучачка. На вуліцы бабы сказалі, што «хуткая» Ігарка аграномавага ў бальніцу забрала. Кажуць, падазрэнне на апендыцыт. Жывот схапіў.

Волечку як варам абдало! Вось стрэмка-пякучка, што не давала спакою. Ігар у бядзе! Каб хоць абышлося... Заўважыла бабуля, як унучка з твару змянілася, і рашыла ўжо адным стрэлам двух зайцоў забіць. Не цярпелася ёй выказаць усё, пра што суседкі наплялі.

— А я гэта… Спытаць яшчэ хацела ў цябе, Волечка… Ты ж казала, што з Ігарком сябруеш… — як цяжка было бабулі падабраць патрэбныя словы, каб не акрывавіць душу любімага дзіцяці. Дыханне пераняла. — Дык от кажуць людзі, маці яго, як дазналася, што ён да цябе заходжвае, як уджаленая пабегла. «Не пара ты яму, — крычала, — не дапусціць!» — голас у бабулі дрыжаў.

Волечка замерла. Глядзела на бабулю і не магла ўцяміць, што яе больш параніла: Ігарава хвароба ці нязгода?

— Я што, замуж за яго сабралася? Што не дапусціць… — усяго і сказала дзяўчо. Паплялася ў залу. Ёй быццам крылы падрэзалі, пакрамсалі вострым лязом. Замкнулася. Як бабуля ні клікала абедаць, у адказ — цішыня. Сама са стала ўсё прыбрала, не крануўшы.

«Божанька, міленькі, выслухай, прашу! Зрабі так, каб Ігар паправіўся! Дапамажы яму пераадолець хваробу. На ўсё твая воля, Госпадзі! «Ойча наш, які ёсць у небе! Да свяціцца імя тваё, ды прыйдзе воля твая…» — Волечка стаяла на каленях перад абразамі, ціхенька шаптала словы малітвы і плакала. Яна не хацела плакаць, але слёзы самі душылі яе і сцякалі па шчоках.

Вечарам, дзесьці каля сёмай гадзіны, Волечка ўсё ж такі адважылася набраць нумар раённай бальніцы. Ігара прааперыравалі на апендыцыт. Ад наркоза адышоў добра. Паўгадзіны таму з рэанімацыі перавялі ў палату.

«Божанька, міленькі, родненькі, шчыранькі… Дзякуй табе, што пачуў! Дзякуй, што анёлаў да яго адправіў!» — дзяўчына адчула, што дастала, выкалупала тую стрэмку-пякучку. Адразу зрабілася лёгка-лёгка.

* * *

На вечар прыйшло пяцёра салдацікаў. А ў суботу ранкам прыехаў са службы яшчэ адзін — Антон. Той самы Антон, які калісьці паведаміў Волечцы цудоўную навіну пра надрукаваны верш. Прыгожы, узмужнелы. Паводле сцэнарыя, Волечцы выпала пытанні яму задаваць. Хлопец адказваў упэўнена, усміхаўся і падміргнуў ледзь прыкметна. Інтрыгант!

Танцавалі пад магнітафон. Калонкі разрываліся на ўсю спартыўную залу. Моладзь збівалася ў купкі па некалькі чалавек ці рабіла адно вялікае кола на ўсю залу. Хлопцы і дзяўчаты па тры, па чатыры выходзілі па чарзе ў гэтае кола, выбрыквалі, выраблялі хто як мог рукамі-нагамі. Весяліліся. Дамоў разыходзілся групкамі. Волечка затрымалася ў гардэробе, але дзяўчынкі яе чакалі ля дзвярэй. Не паспелі адысці ад школы, як ззаду падкраўся знянацку, напалохаў Антон. Абвіў моцнай рукой Волеччын танклявы стан, і, свецячыся сваёй белазубай усмешкай, ветліва папрасіў: «Дзяўчаткі, а што калі я на хвіліначку выкраду ў вас гэтае мілае стварэнне, не будзеце супраць?» — і, прыпыніўшыся, прыхінуў дзяўчыну да свайго шыняля.

Што там шчабяталі сяброўкі, Волечка і не даслухала. Антон спрытна павярнуў яе і горача зашаптаў на вуха: «Я і не пазнаў цябе адразу. Як ты пасталела! Можна, я цябе праваджу? Распавядзеш мне, якія тут у нас навіны ў вёсцы. Пачытаеш свае вершы. Дазволіш?»

— Ну, ад такога праважатага грэх адмаўляцца. Нам жа па дарозе. А вось вершы чытаць не буду. Не зразумееш. Ты ж родную мову забыў. А я пішу выключна пабеларуску. — Волечка вызваліла сваю руку. — Ну, пайшлі. Толькі без абдымкаў.

Антон крыху сумеўся. Але паслухмяна пайшоў побач. Ішлі моўчкі. Слухалі, як рыпіць пад нагамі снег. Непадалёку забрахаў сабака, і следам заліліся, усчалі сабачую пераклічку яго суседзі.

— Воль, ты выбачай за маю рускую. Я два гады роднай мовы не чуў. Цяжка адразу перастроіцца. Вось пабуду дома, адаптуюся, — Антон шукаў тэму, каб узнавіць гаворку.

— Я, таварыш сяржант, па-руску цудоўна разумею, не хвалюйцеся, — Волечка заспявала рускую песню, і неяк адразу абрушылася ледзяная сцяна маўчання, успыхнула іскрынка ўзаемаразумення.

Ішлі праз поле. Сцежка была добра ўтаптаная, але даволі вузкая. Таму Волечка тупала паперадзе, Антон — за ёй, як ахоўнік. І ўсё нешта распавядаў, распытваў, жартаваў. І Волечка ахвотна падтрымлівала яго, смяялася ад душы. Ля хаты спыніліся.

— Ну, дзякуй! Дарога была ў радасць, — Волечка зняла рукавічку, працягнула руку.

— Дык дзембель я ўжо! Адслужыў! — заўсміхаўся хлопец. — Вольны! А ты?

Сумелася дзяўчына. Чаго-чаго, а такога пытання не чакала зусім. Але адразу ж знайшлася: «Не, я ўся ў ланцугах! Вучоба, вучоба і яшчэ раз вучоба! Ну і… яшчэ адзін ланцужок ёсць…»

— Адказы прынятыя! — і хлопец раптам падхапіў яе сваімі дужымі рукамі, пакружыў і… не, не апусціў на снег, паставіў на лавачку, што адзінока сумавала ля плота.

— Антон, можа, хопіць рамантыкі. Адпусці мяне! — папрасілася Волечка, дурасліва, зусім па-дзіцячы. Яна стаяла высока, але ёй лёгка было дакранацца да плеч хлопца. Той падтрымліваў яе, не адпускаў.

— Ведаеш, ты дзівосная! Як светлы анёл. Я хачу папрасіць цябе, Волечка, беражы сябе. Не страць сваю непаўторнасць, не згубі сваю чысціню... Можа, гэта высокія словы, але заставайся такой вось мілай, простай, наіўнай. Гэта заўсёды будзе ў цане, гэта будзе тваёй непаўторнай фішкай! Гэта дапаможа табе ў жыцці...

Яна затаіла дыханне. Здавалася, нават сэрца не білася. Такога ёй яшчэ ніхто ніколі не гаварыў. Нібы павучаў, і... так прыемна! А што сказаць у адказ? Ды і ці варта нешта гаварыць? І жартаваць расхацелася…

Антон асцярожна зняў яе з лаўкі, крыху іранічна скамандаваў: «Шагам марш дамоў, таварыш школьніца! Салодкіх сноў!»

І Волечка, задаволеная і ўзнёслая, адчыніла веснічкі: «Ужо бягу! Дабранач!»

Ля самай веранды азірнулася: Антон стаяў на тым жа месцы. Радасна выгукнула: «Антон! Дзякуй табе!» — і ціхутка зачыніла за сабою дзверы.

* * *

У бальніцу паехалі ў чацвярых. Ігарава палата была ў самым канцы доўгага бальнічнага калідора. Ішлі, накінуўшы на плечы халаты, на пальчыках, бо нарабілі б тупату і шуму. «Ціхая гадзіна» толькі што скончылася, і хворыя патроху высоўваліся з палат. Ля працэдурнага кабінета ў нос моцна патыхнула лекамі. Бальнічны пах Волечка не любіла, бо асацыіраваўся ў яе з людскім болем і пакутамі. Зайшлі, прывіталіся, агледзеліся. У палаце — трое. Двое мужчын і Ігар. Ложак Ігара стаяў ля акна. Не спіць. Кнігу чытае. Засаромеўся трохі, прыўстаў, стаў папраўляць коўдру:

— Сядайце, сядайце, аднакласнікі дарагія!

— Ну як ты, наш хвораньկі? — Саша падаў руку, падбадзёрыў, — нішцяк выглядаеш, паехалі дамоў, чвэрць заканчваецца, Новы год на носе!

— Дня са тры яшчэ мінімум праляжу. Хаджу паціху.

— Вось, вітамінчыкаў табе прывезлі, — Волечка паставіла на тумбачку пакет з фруктамі, паглядзела на Ігара радаснымі, светлымі вачыма, злавіла яго позірк і …спалохалася. Божа мой! Якія халодныя, чужыя вочы глядзелі на яе з-пад цёмных густых веяў! Гэта былі зусім не тыя вочы, што ўпотай перамаўляліся з ёй на ўроках, што любаваліся ёй зімовымі вечарамі на вясковай вуліцы. Яна стрымала пранізлівы калючы погляд, у якім адчувала адчай, нават папрок…

Слова за слова. Пачалі развітвацца. Ігар устаў, давёў аднакласнікаў да дзвярэй палаты. На Волечку стараўся не глядзець. Яна таксама не хацела зусім расчаравацца, баялася астудзіць сваё дзявочае пачуццё.

У аўтобусе ўсё ўспамінала гэты погляд. Гадала прычыну адчуджанасці. «Маці! Яна накруціла яго, адгаварыла, а мо і забараніла! Мамчын сынок, значыць… Яна захацела пасварыць, пусціла чорную котку між намі».

Правёўшы аднакласнікаў, Ігар асцярожна лёг, узяў у рукі кнігу, робячы выгляд, што чытае. Не мог справіцца з думкамі. Здавалася, мазгі «закіпаюць». Душыла горкая крыўда. «Вітамінчыкаў яна прывезла. Вочкамі бліскае, выгляд робіць, што нічога не здарылася. Думае, на хлюпіка нарвалася. Думае, што не ведаю нічога. І ў сцен вочы ёсць! Маці праўду кажа, што ўсё ад выхавання. Я ў бальніцы пад скальпелем хірурга, а яна сюсі-мусі з іншым. Адразу замену знайшла. А я праз яе з бацькамі перасварыўся, бажыўся, што яна самая лепшая! Эх, Волечка! А так у нас з табой рамантычна ўсё пачыналася, так даверліва, пяшчотна… Глядзець на цябе не магу! Думаць пра цябе не хачу! Як там было ў кіно: “На мой век дзевак хопіць!”»

* * *

Чвэрць Волечка закончыла з дзвюма чацвёркамі: па фізіцы і геаметрыі. Амаль выдатніца! Ды дзе там… Настрой — горш не прыдумаеш! За апошнія дні звяла яе тонкая дзявочая душа. Вышуквала розныя сітуацыі, каб застацца сам-насам з Ігарам, каб загаварыць. Сама сябе ненавідзела за тое, што першая імкнулася расставіць кропкі над «і», нават запіску напісала. А як па-іншаму? Ігар рабіў выгляд, што яны знаёмыя, проста вучацца ў адным класе і не даваў аніякага шанцу высветліць прычыну разладу.

Сукенку на навагодні баль-маскарад шылі цэлы тыдзень. Бабуля дастала са свайго куфра ладны адрэз бялюткага паркалю. Спачатку раскроілі (аж дванаццаць кліноў!), пасля спадніцу сфастрыгавалі, потым шчыравалі над верхняй часткай сукенкі: зрабілі адкрытыя плечы, на шырокіх шлейках. Больш за ўсё часу Волечка патраціла на каўнер для Снежнай Каралевы. Выразала адразу з кардону, пасля тканінай абшывала. Усю сукенку вышылі бліскучымі сняжынкамі з дожджыку. Нарэшце гатовая!

— Уладзік! Хадзі-тка сюды, у залу, — бабуля паклікала дзеда лагодным, задаволеным голасам. — Мы табе сюрпрыз пакажам!

У залу дзед абы-як не заходзіў. На кухні разбуўся, улез утапкі, штаны ватныя і куртку скінуў, прыгроб рэдказубай расчоскай свае рыжаватыя валасы.

— Ну, паказвайце свой сюрпрыз, — адчыніў дзверы пакоя. Ступіў і замер: «Унучка! Калі паспела стаць сапраўднай нявестай! У шыкоўнай сукенцы да падлогі, з каронай на пышных валасах — каралева!»

І адразу абазвалася, зашчымела збалелае сэрца. «І кропелькі мацярынскія пабрала!» Волечка нагадала яму той дзень, калі рабіў вяселле сваёй адзінай крывіначцы — сваёй дзевятнаццацігадовай дачцэ. Вось такая ж была прыгажуня-нявеста. Ягоная кроў — Уладзікава! Пастаяў з хвілінку. Прыцмокнуў:

— Як з дарагой крамы сукенка, — прамовіў ён і павярнуўся да бабулі: — Майстрыха ты, Жэня! Вучы і яе, красуню нашу, заўсёды сама сабе абнову справіць. От жа і не пазнаць, як прыбралася, хоць да шлюбу ідзі!

Памякчэў, амаладзіўся бабулін твар ад замілавання. І тут жа знячэўку падступілі слёзы. Так захацелася заплакаць! Ціхімі, раднымі слязьмі за ўдалую ўнучачку, а затым загаласіць, заскавытаць уголас па збеглай, зніклай дачушцы. Чула, здагадвалася мацярынскае сэрца: не ходзяць ужо яе ножанькі па гэтым свеце… Хіба ж не наведалася б за столькі гадоў да дзетак сваіх? Не магла яна бясследна з’ехаць і маўчаць… Казаў зяць, што напісаў ліст у Маскву, дзе служба ёсць, якая людзей шукае. Ціха пакуль. Маўчаць службы тыя…

* * *

І ўсё ж Божанька пачуў Волеччыны малітвы.

Школьны навагодні вечар быў у самым разгары. Грымела музыка. Не пазнаць было старшакласнікаў: усе ў касцюмах, масках, апавітыя серпанцінавымі стужкамі і гірляндамі бліскучага дожджыку.

Ігар падышоў са спіны. Шапнуў на вуха: «Дазвольце, фея, запрасіць вас на танец!» Ні вачэй, ні мімікі, ні ўсмешкі Волечка ўбачыць не змагла — маска закрывала ўвесь твар хлопца. Але яна адчула цеплыню і душэўнасць у ягоным голасе, пакорна падала руку і пажартавала ў адказ: «А вы не памыліліся, Містар Ікс? Перад вамі — Снежная Каралева!» «У такім разе гару жаданнем растапіць вашае ледзяное сэрца, Каралева!» — і павёў яе ў кола. Прытуліўшы, адчуў усю яе танклявую фігуру, асабліва вострыя, як два кулачкі, грудзі. Затрапяталася, затахкала сэрца, быццам сто разоў адціснуўся. У роце перасохла. Так хацелася загаварыць. Ён доўга рыхтаваўся да сённяшняй размовы, але і дыхаць баяўся. Пераступаў з нагі на нагу, бо яны ніяк не хацелі слухацца, зрабіліся ватнымі, трымцелі, як пасля двухкіламетровага кросу.

Ледзь перастаўляла ногі і Волечка. Шчаслівая ад таго, што так беражліва абвіў сваімі гарачымі рукамі яе гнуткі стан Ігар, што нарэшце зноў стаў такім блізкім. «Нікому не аддам!» І бессаромна, пяшчотна прыціснулася да яго. І нікога наўкола не заўважала.

А ў гэты час дзве пары вачэй па-рознаму цікавалі за іх танцам: з замілаваннем і лёгкай зайздрасцю — Антон, са злосцю і помслівай усмешкай — Алена Адамаўна, завуч і Ігарава цётка.

* * *

— Волечка! Там цябе Алена Адамаўна шукае. Прасіла, каб да яе ў кабінет зайшла, — кінула Ліля, бегучы ў сталоўку.

Кабінет завуча Алены Адамаўны быў на другім паверсе. Волечка па школьных справах часта завітвала ў гэты кабінет. Абстаўлены ён лепш за дырэктарскі. Мэбля новая, крэслы мяккія, тэлефон кнопачны. На падлозе — цёмна-карычневы дыван пад колер мэблі. А вазонаў! За вочы завуча па выхаваўчай рабоце называлі «Княгіняй» і баяліся яе больш, чым іншую адміністрацыю. На школьных лінейках, калі Княгіня выступала, адразу рабілася цішыня. Яе слова ў школе — закон.

— Добры дзень, — павіталася вучаніца, хоць бачыліся ўжо на ўроку: Алена Адамаўна выкладае ў выпускным класе фізіку.

— А-а, Волечка! Паклікалі дзяўчаты? Праходзь, праходзь, прысаджвайся, — гаварыла завуч ласкава, але дзяўчына адчула ў яе голасе ноткі фальшу. — Ну, як у цябе справы? Вызначылася ўжо з паступленнем? — бліснула залатымі зубамі.

— А я даўно вырашыла: у педагагічны буду паступаць, на філфак. Думала пра журналістыку, але там конкурс высокі, не прайду. А дзяцей і школу я люблю, — Волечка гаварыла спакойна, упэўнена.

Алена Адамаўна ўстала, узяла жоўтую анучку, пачала праціраць лісты лапушыстага фікуса.

— Гэта добра, што ты разумееш, дзе тваё месца, дзе, так сказаць, твой узровень, — слова «дзе» яна знарок вылучыла інтанацыяй. — Педагог — цікавая прафесія. Нялёгкая, праўда. Філфак — гэта бясконцыя сачыненні, дыктоўкі, сшыткаў валам. Але, так бы мовіць, кожны цвыркун ведай свій прыпек, — крыху нервова ўхмыльнулася жанчына. — Ты ж у нас талент. Філалогія — тваё прызванне. Малайчына. Я рада за цябе. — Настаўніца працерла фікус, перайшла да кітайскай ружы. Яна не глядзела на сваю субяседніцу, стаяла да яе спінай. — …Але ж ты ўяўляеш, як складана здаць экзамены ў інстытут, гэта табе не школа. Вельмі сур'ёзна трэба рыхтавацца. А ты замест таго шуры-муры завяла, любоў галаву тваю кружыць…

Прабег калючы халадок па Волеччынай спіне. «Дык вось вы куды круціце размову, паважаная Алена Адамаўна! А я думаю, чаго вы за мяне так хвалюецеся!» — Волечка слухала моўчкі. Адчувала, як нараджалася ў душы крыўда ўперамешку са злосцю.

Завуч нахілілася над сталом да Волеччынага твару:

— Я не хачу табе благога, дзіця! Але як маці прашу: ты ж разумніца, сама сабе дурнога рабіць не будзеш. Займіся сур'ёзна вучобай. Хіба дзед не ведае яшчэ, што ты надта дарослай стала, з хлопчыкам сустракаешся? Думаю, калі я, так бы мовіць, яму ў вушы ўвяду, то ён цябе не пахваліць. Чуеш мяне, Волечка? — які пісклявы і падробна мяккі быў галасок у «дабрадзецелькі»!

Чуе, чуе ўсё Волечка. Усё зразумела.

— Ты падумай! У цябе наперадзе столькі выпускных іспытаў. І фізіка, і геаметрыя, і алгебра… А я ў камісіі. Як што — дапамагу, а як што, так бы мовіць… Чацвёрка ў цябе па фізіцы слабенькая. Вучыся, дзіця, а любоў нідзе не дзенецца. Паступіце ды мілуйцеся тады сабе, хто ж супраць…

Волечцы падалося, што Алена Адамаўна хацела працягнуць да яе руку, пагладзіць па галаве, як маленькую. Дзяўчына ўскочыла. Крэсла пад стол засунула. Стрымала сябе.

— Дзякуй. Я пайду. Я ўсё зразумела, — і ў дзверы. Але завуч прытрымала за локаць:

— Чакай, Волечка! Я ж цябе па справе выклікала. Тут Палажэнне прыйшло. Рэспубліканскі конкурс сачыненняў. Вось, пачытай, абяры тэму, якая табе спадабаецца. За дні тры напішаш? Бо мы ў раён яго адвозім, а раён далей адбірае лепшыя. Шанцы на рэспубліку, так бы мовіць, у нас ёсць, — усунула ў рукі вучаніцы лісток. — Ствара́й! Вера Іванаўна з бальнічнага прыйдзе, праверыць — адзнакі паставіць. Ну, поспехаў, табе! Я рада, што мы так добра пагаманілі! — і Княгіня расчыніла перад Волечкай дзверы свайго шыкоўнага кабінета.

* * *

*Прабач мне, дарагі мой чалавек! Прабач і даруй! Я не змагла б табе сказаць усё гэта ўжывую. Не адважылася б ці сказала б зусім не тое… Нічога не адбылося! Жыццё бяжыць, яно цудоўнае. Проста нам трэба расстацца… Хаця б на нейкі*

*час. Як у Багдановіча: «але расстацца нам час». Давай супакоім тваіх родных, паслухаемся іх, усе сілы аддамо вучобе, падрыхтоўцы ў інстытут. Праз няпоўныя тры месяцы — выпускны. У нас такі адказны перыяд у жыцці. Мы зробімся самастойнымі і вырашым: «быць альбо не быць...» Аб'яднае нас лёс ці развядзе ў розныя бакі. А пакуль скажы маці, хай спіць спакойна. Скажы, што ты выкрасліў мяне са свайго жыцця! І няхай у вашу хату прыйдзе ўзаемаразуменне. Не крыўдзі бацькоў з-за мяне! Я перажыву! Але я буду думаць пра цябе. І гэта дасць мне сілы ў вучобе.*

*Ты найлепшы, Ігар! І я веру, што, калі нам суджана, мы станем студэнтамі і дамо волю сваім пачуццям! А пакуль буду ціхенька пазіраць на цябе на ўроках і радавацца, што ты побач! Бяром за аснову ленінскі запавет: «Вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца!» Я жадаю нам поспехаў! Дзякуй табе, родны!*

Праз дзень Волечка атрымала адказ на сваё пісьмо. Кароценькі, але вельмі змястоўны.

*Здрадніца!*
*Добра, будзем вучыцца на радасць родным!.. Я ніколі не пакіну цябе!*

* * *

Не, яна не спіць! Волечка проста на колькі хвілін зрмужыла вочы пад манатонны шум матора аўтобуса, бы правалілася куды. Але яна адчувала, як утульна спачывае яе рука ў абдымках Ігаравых рук. Ад самай школы яны ўселіся разам на перадапошніх аўтобусных сядзеннях. Дарога далёкая. Яны ўсім класам едуць у Брэсцкую крэпасць-герой і Белавежскую пушчу на экскурсію. Вера Іванаўна «выбіла» ў калгасе аўтобус, як падарунак выпускному класу да апошняга званка. Вырашылі ехаць з начоўкай, на два дні. І а шостай раніцы рушылі.

Добра прыдумала Вера Іванаўна, якраз у тыднёвы перапынак паміж апошнім званком і першым экзаменам зменяць абстаноўку, знімуць напружанне, пабудуць разам перад развітаннем.

На начлег выехалі за горад, размясціліся на ўзлеску, на прыгожай, усыпанай вясновымі кветкамі паляне.

Узбуджаныя, крыху стомленыя пасля цікавых экскурсій, старшакласнікі разбілі свой міні-лагер. Ставілі намёты, рассцілалі на траве настольнікі, раскладвалі ежу. Задымілася вогнішча. Хлопцы нарэзалі дубчыкаў, панасаджвалі на іх кавалачкі сала. Ох, які пайшоў пах! Сальца на вогнішчы! Елі лепш за які заморскі прысмак. Не згледзелі, як цяжкі дзень пайшоў на спачын. Ужо прыцемкам нарыхтоўвалі дровы, каб не згасла вогнішча. Сядзелі вакол полымя дружнай гаманкой сям'ёй, наперабой узгадвалі і распавядалі выпадкі са школьнага жыцця. «Дзынь-дзынь!» — зазвінелі гітарныя струны ў Ігаравых руках. Паплыла ў неба песня: «Милая моя, солнышко лесное, где, в каких краях встретимся с тобою?» Падхапілі ўсе. Нават тыя, хто не ведаў слоў, пастуквалі ў такт па каленях, пляскалі ў далоні. І Вера Іванаўна спявала. За дзень нахадзілася, нахвалявалася і цяпер, як клапатлівая маці, накарміўшы сваіх дзетак, суцішылася ля самага вогнішча.

— Ну, мае маляты, другая гадзіна ночы. Забіраю сваю падушку і коўдру — ды на задняе сядзенне аўтобуса. Пайду драмаць. Спадзяюся, намёты не пераблытаеце, дзе каму спаць? — усміхнулася. — Пасля трэцяй гадзіны вогнішча затушыць і — поўны адбой! Усё зразумела?

— Зразумела, Вера Іванаўна! — загаманілі «маляты», — не хвалюйцеся, адпачывайце.

Няма настаўніцкіх вачэй — ажывіліся вучні, пачалі ўспамінаць тое, што пры класнай гаварыць не хацелася б, расказвалі зусім не дзіцячыя анекдоты, разбіліся па парах, паабдымаліся, паўкрываліся.

— Ну, саграшым цішком? — Віця Клімчук дастаў дзве бутэлькі самаробнай вішнёўкі. Усе ведалі, што яго бабуля майстар-вінароб, шмат гадоў налівачкі робіць з розных ягад, нават прадае знаёмым, называе іх «дзявоцкімі». Выпілі патрошкі ўсе: за апошні званок, за будучыя поспехі.

Юрка папрасіў у Ігара гітару, забрынкаў. І зноў заспявалі. Вясёлыя, сагрэтыя цяплом вогнішча і віна.

Ігар нахіліўся да Волечкі, шапнуў: «Пайшлі, кветак нарвём! У мяне ліхтарык ёсць».

Праз хвіліну іх постаці злізала цемрадзь.

Вясновы луг. Вечаровае жыццё заціхае. Не капошацца, не мітусяцца ўжо жучкі, мурашы, чмялі, матылькі. Напрацаваліся, напоўзаліся, наляталіся за дзень. Суцішыліся, задрамалі. Толькі лугавыя кветкі, быццам раскіданае жменямі каляровае канфеці, стракацелі ў смарагдавай зеляніне, захмяляючы сваім незвычайным водарам. Іх так многа! Жоўтыя, ружовыя, блакітныя, белыя… Нарвалі, як можна было абхапіць. Волечка паспрабавала вянок сплесці. Цёмна. Атрымаўся абы-які. Але на галаў надзела, пачала прытанцоўваць, напяваць. Падала Ігару руку, і яны закружыліся па роснай траве, заблыталіся, упалі знарок і не спяшаліся падымацца. Зліліся ў салодкім пацалунку. Раз-другі. Потым яшчэ і яшчэ. Тут, воддаль ад людскіх вачэй, сам-насам з прыродай, урэшце скінулі яны сваю маскіроўку, далі волю пачуццям.

Яна, ап'янелая ад мядовых пацалункаў і водару разнатраўя, нават і не заўважыла, як дакранулася да яе пругкіх грудзей яго аголенае цела, як без дазволу папаўзла вышэй за калена гарачая рука, як яго вусны вольна загулялі па цнатлівым дзявочым целе. «Ты мая, чуеш?! Мая! Ты — самая лепшая, светлая…»

Волечка лавіла словы і не ўдумвалася ў іх сэнс.

Як страла маланкі раптам працяла дзяўчо! Не памятала, як ускочыла. Спалохалася. Пачала зашпільваць кофтачку.

— Ігар, ты што?

Ён таксама ўстаў, пачаў запраўляцца. Паспрабаваў абняць.

— Ну што ты? Я не зраблю табе балюча. Ідзі да мяне, — стараўся супакоіць дзяўчыну.

— Не, не, Ігар! Пусці. Пайшлі адсюль. Холадна.

— А кветкі?

— Не трэба. Хай ляжаць. Пайшлі.

— Волечка, прабач! Я не хацеў пакрыўдзіць цябе.

— Маўчы! Гэта я галаву згубіла! — узяла хлопца за руку, павяла да намётаў.

Вогнішча яшчэ гарэла, але большасць аднакласнікаў разышлася спаць. Волечка пераапранулася ў спартыўны касцюм, палезла ў намётку. Усунулася паміж Ліляй і Ленай. Заплюшчыла вочы. У думках усплыў Антон: «Ты як светлы анёл… Чыстая, несапсаваная… Гэта будзе тваёй фішкай…»

«От, дурэба! Ледзь "фішку" сваю не растраціла. І куды ты глядзіш, анёл-ахоўнік?!» Сагрэлася каля сяброўак. Аддалася кароткаму ранішняму сну.

* * *

«…Атэстат аб агульнай сярэдняй адукацыі ўручаецца Нічыпаронак Вользе Аляксееўне, — Павел Іванавіч доўга цісне Волеччыну руку і не адпускае яе. — Волечка — наша зорачка, таму выконваю вельмі прыемную місію: уручаю ёй заслужаныя ўзнагароды! — і гучна, святочна зачытвае: «Грамата за добрую вучобу і актыўны ўдзел у жыцці школы», «Грамата за другое месца ў рэспубліканскім конкурсе сачыненняў для школьнікаў», «Падзяка раённай газеты “Сцяг Перамогі” за цеснае супрацоўніцтва», «Пахвальны ліст за асаблівыя поспехі ў вывучэнні беларускай мовы і літаратуры».

І пасыпаліся воплескі. Гарачыя, шчырыя. Школа любіла Волечку. Школа ганарылася ёй. Як ганарыліся ёй і яе родныя. Вунь яны, усе разам: тата, Колік, бабуля, дзед. Вясёлыя, шчаслівыя. Плешчуць у далоні.

І яна прыціскала да грудзей свае граматы, пахвальны ліст і самы важны дакумент у яе кароткім жыцці — атэстат сталасці. Апякаў ён крыху рукі сваёй адзінай троечкай па фізіцы. Але… Слёзы крыўды за гэтую тройку даўно высахлі. Сярэдні бал атэстата яна надта не сапсавала, як не сапсавала і іх адносіны з Ігарам. Як уласнаму, радавалася Волечка яго срэбнаму медалю. Не кожны год школа магла пахваліцца такімі выпускнікамі.

«Бывай, школа! Даруй, калі пакрыўдзіла цябе чым! Даруйце, настаўнікі! Я любіла вас і сваю родную школу ўсім сэрцам! Вось… Надышоў час. Станаўлюся дарослай. Самастойнай! Божа ж мой! Што падрыхтаваў ты для мяне там, на новым шляху? Якія іспыты давядзецца вытрываць? Ці здолею злавіць сваю птушку шчасця?» — думкі-развагі… Танцуе Волечка. Святкуе свой выпускны баль. А музыка гучыць, гучыць. У галаве. У душы. У сэрцы…

Па вёсцы ішлі ўсе разам. Паздымалі свае абцасікі дзяўчаты, тэпалі басанож па пыльнай вясковай вуліцы, не саромеючыся накінутых на плечы пінжакоў аднакласнікаў. А тыя нават ганарыліся гэтым: паступаюць як дарослыя.

Волеччына хата не спіць. Топчацца ля калодзежа бабуля. Спаласнула ў даёнцы цадзілку, павесіла на вяроўку. Ужо і кароў завялі. І пеўні адкрычалі. Вёска прачынаецца.

— Ну, пакуль! — працягнула дзяўчына руку Ігару. — Ужо не хутка ўбачымся. Я ў Мінску, ты ў Гродне. Адрас не згубі. Пішы, тэлефануй.

— Ну… — самотна выдыхае юнак, шкада, што мой дзядзька не жыве ў Мінску. Я б тады ў Мінскі медыцынскі паступаў. А так… Жыць там ёсць дзе, ды і паступіць лягчэй. Ты не думай, усё ў нас атрымаецца. Паступім, адвучымся.

— Ажэнімся, — іранічна выдыхае Волечка.

— Ажэнімся, — больш упэўнена вымаўляе Ігар.

Грукнулі дзверы сенцаў. На ганку з’явіўся тата.

— Вольга, ехаць ужо трэба. Мне ж у восем на працу.

— Бягу, татуля! — і, як бы нязўнак, нечакана цмокае хлопца ў шчаку, смяецца. А смех... разбаўлены сумам расстання. — Бывай! Не забывай!

Стаіць у двары татаў сіні «Масквічок», чакае сваю новую пасажырку.

— Здаецца, нічога не забыла. Адзенне, кнігі, дакументы.

— А мая ж ты нябога-а-а! — загаласіла бабуля. Добрай жа табе дарожанькі, дзіцятка маё-о-о… Абхапіла рукамі, прытуліла і не магла адарвацца. Волечка адчула, як трапеча бабульчына сэрца, як намачылі яе шчаку слёзы роднага, самага блізкага чалавека. Абвіла рукамі хударлявыя плечы жанчыны, удыхаючы ледзь улоўны водар сырадою, змешаны з пахам смажаных грыбоў з цыбулькай. Заплюшчыла

вочы, не стрымалася: пасыпаліся градзінкі-слязінкі. Так і стаялі, пакуль дзед не грымнуў басам:

— Ну, макроту не разводзьце! Не ў войска ідзе. Хай едзе, вучыцца. Давай, унучка, не падвядзі! Вучы, пиступай. У нас тут памагаты добры застаецца. Ты сваё глядзі. Мы тут не прападзём! — руку працягнуў, абняў унучку за плячо, лёгенька, нават пяшчотна.

Апошнім развітаўся Колік. Сонны (ледзь бабуля падняла з ложка) патрапаў сястру па валасах, ускудлаціў выпускную прычоску: «Давай, гараджанкай станавіся! Тату не крыўдзі! Я спаць! Шчаслівай дарогі!» — і нырнуў у сенцы.

— Татачка, я ззаду, — Волечка адразу ж скінула туфлі, уселася на задняе сядзенне, махала рукой аж пакуль не зніклі з вачэй дзве дарагія постаці і не схавалася за паваротам страха роднае хаты.

— Спаць хачу-у! — паклала галаву на бабуліну мяккую пуховую падушку, укрылася коўдрай. — Чым не рай!

— Драмі, драмі, — прыемная татава ўсмешка супакоіла, адвяла трывогу, і тут жа забрала-запаланіла маладое цела салодкая дрымота.

…Мора. Ні хвалі. Якая незвычайная ў ім вада! Блакітна-валошкавая, чысцюткая. Волечка ідзе ў сваёй ярка-ружовай выпускной сукенцы басанож па цёплым пясчаным беразе. І так светла, так лёгка на душы. Дзяўчына намагаецца нешта сказаць, заспяваць, але не чуе свайго голасу, не атрымліваецца. Лёгкі ветрык падхоплівае яе. І яна бяжыць. Крок, другі, трэці… Паляцела-а! Лёгенька. Як лебедзь над вадой. Ляціць-ляціць… І нешта шэпча, ледзь перабіраючы вуснамі:

Мора. Сонца.
І лодка плыве ад пляжа.
Хвалі. Двое.
І ты мне пра нешта кажаш…

Спіць Волечка. І не ведае, ніколі не даведаецца, як ужо шмат гадоў неадступным анёлам-ахоўнікам лунае над ёй матчына душа. Душа, якая пакінула цела ўсяго праз колькі тыдняў пасля развітання з дзеткамі.

Грузінская свякроў не магла змірыцца з выбарам сына. Не дазваляла жаніцца на іншавернай. Сваркі не сціхалі штодня. Адзінае, што супакойвала няпрошаную нявесту — мора! Яна хадзіла на аблюбаваны бераг, што ведалі толькі старажылы (гэтае месца паказаў ёй будучы муж), кожную раніцу. Плёхалася, загарала, вучылася плаваць. Верыла, што хутка старая супакоіцца, і яе мара збудзецца. Яна прывязе сюды, да берагоў ласкавага Чорнага мора, сваіх пакінутых дзетак. А не — купіць квіток і з’едзе назад, на радзіму. Да малятак сваіх, да бацькоў! Тут ужо як лёс паверне.

Яна ніколі не плавала ў шторм. А тут падумала, што толькі акунецца. А вакол — ні душы! Мора не даравала ёй. Праглынула цалкам, адным глыточкам.

Вечарам на пяску ён знайшоў яе ручнік і капялюшык. Плакаў горка, як пакрыўджанае дзіця. Клікаў, крычаў да глыбокай цемры. Маці сказаў, што адправіў яе назад, у Беларусь. І сам паверыў у гэта.

*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

*Клеменс МАЕР*

# НОЧ. АГНІ



***Клеменс Маер нарадзіўся ў 1977 годзе ў Гале. Нехта кажа, што ён быў створаны, каб апісваць цёмныя старонкі жыцця. Іншыя называюць яго enfant terrible нямецкай літаратуры. І часта крытыкуюць за татуіроўкі, якімі пакрыта значная частка яго цела. Сам пра сябе ў адным з інтэрв'ю ён сказаў: «Я — індывідуаліст... Я адразу насцярожваюся, калі нехта кажа пра "нас" або пра "пакаленне". Кожны памірае ў адзіночку». Кніга Die Nacht, die Lichter («Ноч. Агні»), у якую ўвайшлі апавяданні In den Gängen («Між стэлажоў») і Der kleine Tod («Маленькая смерць»), была напісана ў 2008 годзе. За яе аўтар атрымаў узнагароду на Лейпцыгскім кніжным кірмашы. Кніга апавядае пра няўдачнікаў, людзей, якія страцілі ілюзіі і перспектывы. Аўтар паказвае, што і ў іх жыцці ёсць месца каханню, смеласці і сяброўству.***

## МІЖ СТЭЛАЖОЎ

Перад тым, як я ўладкаваўся грузчыкам і пачаў праводзіць вечары і ночы між стэлажоў гіпермаркета, парадкаваць паліцы, даставаць аўтапагрузчыкам паддоны з самага верху, даваць час ад часу камусьці з апошніх наведвальнікаў парады і знаёміцца з усімі магчымымі відамі прадуктаў, я пару гадоў працаваў на будоўлі.

Я сышоў адтуль не па сваім жаданні, але, нават калі б начальнік мяне не звольніў, я нядоўга яшчэ прымаў бы ва ўсім гэтым удзел. Я быў падсобным рабочым: цягаў мяхі з цэментам і гіпсакардонныя лісты, дэманціраваў кватэры, абіваючы тынк са сцен і зносячы каміны і коміны вялікай кувалдай, якую мы называлі «Бэла», датуль, пакуль не пакрываўся сажай і пылам. Потым дома мне трэба было некалькі гадзін, каб вычысціць ад гэтай сажы і пылу нос. Плацілі на гэтай фірме не вельмі, а шэф быў паскуда. Ён быў з Баварыі, але я сустракаў баварцаў, з якімі не было ніякіх праблем.

Я ўжо не памятаю дакладна, калі пачалася тая вялікая непрыемнасць з шэфам, але памятаю, што ў той дзень зносілі стары дах. Мы знайшлі вялі-

кія галубіныя могілкі. Там былі два галубы, якія вельмі ціха сядзелі пасярод касцей, гор пер'я, напалову сатлелых і ўжо высахлых цел. І толькі па іх вачах і тулавах, якія часам крыху рухаліся, мы ўбачылі, што яны жывыя. Мы паклікалі партугальцаў — і яны забілі гэтых галубоў рыдлёўкай. Потым мы пасыпалі галубіныя могілкі вапнай, згрэблі ўсё ў вёдры і высыпалі ў трубу для смецця, якая была знадворку прымацавана да рыштавання.

Пасля нам было ўжо не да цяжкай працы, галубы выбілі нас з каляіны. Мы без настрою знялі наступную частку даху, прыбралі з дапамогай цвікадзёра латы і зрабілі перапынак на абед.

Звычайна мы рабілі перапынак на абед а палове на дванаццатую, а ў дванаццаць, калі ў царкве, што была адразу за рагом, званілі званы, мы працягвалі працу.

Але калі званы зазванілі ў той раз, мы не скрануліся з месца, а сядзелі разам з партугальцамі, якія пілі чырвонае віно з тэтрапакаў. Партугальцы дрэнна размаўлялі па-нямецку, зараблялі менш за нас і жылі ў маленькіх кватэрах у падвале аднаго з дамоў, што належалі шэфу. Яны пілі чырвонае віно падчас працы, бо ведалі, што шэф іх ніколі не звольніць. Надта добрая праца за малыя грошы. Яны працавалі мулярамі і тынкоўшчыкамі, а часам былі і падсобнымі рабочымі, як мы.

А калі адбылася непрыемнасць з шэфам і я два разы ўдарыў яго па твары сваёй рабочай пальчаткай з застылым цэментам, яны адзін за адным падыходзілі да мяне, паціскалі руку і казалі: «Добра зрабіў» на ламанай нямецкай, смяяліся, зазначлі: «Новая праца знойдзеш, добры праца» — і ляпалі па плячах.

— Свіння лайдачая, — сказаў мне шэф, а я пры гэтым нават не трымаў тэтрапак, сядзеў на перавернутым вядры, прыпёршыся спінай да сцяны, спрабуючы зусім ні пра што не думаць.

А я не быў лайдачай свіннёй, нават калі і зацягнуў крыху абедзенны перапынак.

Калі пачаў працаваць грузчыкам у гіпермаркеце, там адразу заўважылі, што я не лайдачная свіння. Я знайшоў гэту працу праз аднаго знаёмага, які працаваў у гэтым гіпермаркеце чатыры гады.

Сем ці восем год таму я дапамог яму з працай, і ён ведаў, што пасля выпадку на будоўлі мне патрэбны грошы. Таму, калі ў аддзеле «размяшчэнне тавараў/ноч» вызвалілася месца, ён прывёў мяне на гутарку. Я ўзяўся за працу закасаўшы рукавы: расстаўляў тавары на паліцах, як мне паказвалі, цягаў за сабою вялікую цялежку, у якую кідаў пустыя кардонныя каробкі і ўпакоўкі. Мне паказвалі, як працаваць з маленькімі гідраўлічнымі цялежкамі, з дапамогай якіх можна было падымаць і перавозіць паддоны. Былі яшчэ электрычныя цялежкі, якія называліся «мурашкамі», на якіх можна было перавозіць адразу некалькі паддонаў адзін на адным, але спачатку мне нельга было іх выкарыстоўваць.

Гэта не быў адзін з тых гіпермаркетаў, у якіх можа закупляцца кожны. Усім пакупнікам набходна было мець спецыяльныя дакументы. Яны павінны былі быць рамеснікамі, прыватнымі прадпрымальнікамі і гэтак далей, каб закупляцца для свайго бізнесу. У гіпермаркеце былі «харчовая» і «нехарчовая» часткі, але я займаўся толькі прадуктамі і напоямі. Гэта была агромністая крама на два паверхі. Уверсе размяшчаліся аддзелы адзення і тэхнікі. «Харчовая» частка знаходзілася на ніжнім паверсе і мела аддзелы «прадукты харчавання», «кандытарскія вырабы», «замарожаныя прадукты», «гастраномія», «садавіна і агародніна» і яшчэ некалькі іншых, якіх я не памятаю.

Праходы паміж паліцамі зрабілі вельмі шырокімі, каб было месца для аўтапагрузчыкаў, якія ездзілі цэлы дзень, нават калі ў краме снавалі пакупнікі. Кіроўцы здымалі вялікія паддоны са стэлажоў, якія сягалі да столі і былі надбудаваны над паліцамі, з якіх пакупнікі бралі тавары.

Спачатку я ўвесь час здзіўляўся, чаму не адбываецца жахлівых няшчасных выпадкаў, чаму паддоны не падаюць з віл пагрузчыка і не забіваюць пакупнікоў, чаму вялікія колы аўтапагрузчыка не расплюшчваюць людзям ногі. Але пазней, калі сам атрымаў пасведчанне кіроўцы і пачаў ездзіць на жоўтым пагрузчыку між стэлажоў, здымаць з паліц паддоны з півам, малаком або мяхамі з мукой, я зразумеў, што гэта ўсё было пытаннем лёгкадумнасці, асцярожнасці, здольнасці ацэньваць сітуацыю і спрыту. Але мне здавалася, што галоўным была непахісная ўпэўненасць у тым, што калі ты падымаеш альбо апускаеш паддон, то ператвараешся ў цэнтр усяго гіпермаркета.

Мне спатрэбілася колькі часу, каб навучыцца кіраваць аўтапагрузчыкам. Займацца я мог, калі гіпермаркет зачыняўся, а між стэлажоў заставаліся толькі супрацоўнікі аддзела «размяшчэнне тавараў/ноч». Адзін з работнікаў быў экзаменатарам, але, калі я вывучаў і спасцігаў усе таямніцы абслугоўвання і кіравання аўтапагрузчыкам, практычныя ўрокі мне даваў другі шматгадовы работнік. Па сутнасці, гэта былі толькі трыццаць хвілін перад канцом працоўнага дня ў гадзіну ночы. Пад яго наглядам я марудна ездзіў між стэлажоў на пагрузчыку, якім мы пазней карысталіся з ім разам, спыняўся паралельна паліцам, ставіў вілы ў гарызантальнае становішча і з дапамогай гідраўлічнага механізма падымаў іх. Калі вілы дасягалі вышыні паддона, я пачынаў рухацца ўперад, пакуль іх канцы не аказваліся ў праёмах. Потым я націскаў на адзін з рычагоў на прыборнай панэлі, канцы траплялі ў праёмы і вілы ўязджалі ўнутр поўнасцю. Потым націскаўся другі рычаг, і паддон марудна падымаўся.

— У цябе добра атрымліваецца, — гаварыў Бруна, і яго вялікая далонь ляжала перада мною на прыборнай панэлі. — Толькі падымай не так хутка, а то можа зверху ўдарыцца.

Бруна быў даволі вялікім мужчынам і ўвышыню, і ўшырыню, хоць на самай справе больш ушырыню. Яму прыкладна пяцьдзясят з нечым гадоў і ў яго сівыя валасы, але здалёк ён стварае ўражанне барца альбо баксёра-цяжкавагавіка. Яго вялікая галава сядзела на плячах, таму што за адваротамі спяцоўкі амаль не было шыі, а далоні, адна з якіх ляжала перада мною на панэлі пагрузчыка, былі вялікія, як талеркі. На правым прыдалонні ён насіў шырокі скураны бранзалет, накшталт напульсніка. Ён працаваў у аддзеле напояў, дзе здымалі з паліц самыя вялікія паддоны, скрыні з півам, сокамі і іншымі напіткамі, якія для замацавання абматвалі шпагатам, але яны ўсё роўна пагражальна хісталіся сюды-туды.

Бруна працаваў у гэтай краме больш за дзесяць год. І хоць ён не быў начальнікам аддзела, менавіта ён вёў у ім рэй.

— Добра спраўляешся, цыбаты, — гаварыў ён. — Хутка атрымаеш сваё пасведчанне.

Ён называў мяне «цыбаты», як і большасць калег, таму што я быў амаль метр дзевяноста.

— Хопіць, — сказаў я. — Я ж разумею, што не ўсё раблю дасканала.

Ён засмяяўся.

— Ведаеш, чым больш часу табе спатрэбіцца, тым лепш для мяне. Я тут з табою спакойна праводжу час. Лепш, чым батрачыць.

Ён паказаў пальцам у бок аддзела напояў. Праз паліцы я чуў брынканне бутэлек. Адзін з работнікаў цягнуў апошнія за гэты дзень скрыні з півам.

— Аднойчы, — сказаў Бруна, назіраючы, як я спрабую паставіць паддон з пачкамі солі на паліцу. — Аднойчы ў мяне сарваўся паддон з півам. Пару гадоў таму. Шпагат парваўся. Такое здараецца.

Ён запусціў руку ў кішэню і дастаў некалькі шматкоў шпагату. Бруна ніколі не выкідаў шпагат, які мы здымалі канцылярскімі нажамі з вялікіх паддонаў з півам, паспяхова апусціўшы іх уніз.

— Заўсёды можа спатрэбіцца.

У яго быў невялікі ўчастак за горадам, з хлявом і жывёлай. Ён жыў там са сваёй жонкай, якая даглядала жывёлу, пакуль ён працаваў. Ад Бруна заўсёды сыходзіў асаблівы пах, пах жывёл, хлява. Але нельга было сказаць, што ён смярдзіць. Ад яго толькі зусім крыху патыхала, і ў гэтай сумесі пахаў, якую ён прыносіў са свайго двара, было яшчэ нешта, нейкая дзіўная саладжавасць, бліжэй да горка-салодкага, але я так і не разабраўся, што гэта магло быць.

— Ад'язджай, — сказаў Бруна і паглядзеў на свой гадзіннік. — На сёння хопіць.

— О'кей, — сказаў я.

Мне ўрэшце ўдалося паставіць паддон з соллю на прадугледжанае для яго месца, крыху ад'ехаў, потым націснуў на адзін з рычагоў, і вілы вельмі марудна апусціліся з самай вышыні пад шыпенне і цурчанне, што ішлі ад гідраўлічнай сістэмы. Я пачакаў, пакуль вілы не дакрануліся да пліткавай падлогі, а потым нахіліў іх так, што зубцы сталі пад вуглом. «Ездзі толькі з нахіленымі вілкамі. Ніколі не ездзі з паднятымі. Толькі калі грузіш».

Я павінен быў паглядзець некалькі фільмаў, у якіх для запужвання паказвалі самыя жахлівыя няшчасныя выпадкі і іх наступствы: адарваныя канечнасці, расплюшчаныя ногі, насаджаных на зубцы людзей. І чым больш я глядзеў на гэту аўтапагрузачную апраметную, тым часцей я думаў, ці правільнае месца працы я абраў. Але супрацоўнікі гіпермаркета прынялі мяне добра, і я не збіраўся насаджваць іх на зубцы або расплюшчваць ім ногі.

— Паедзеш са мною, Бруна?

— Не, едзь адзін. Толькі не хутка, як трэ.

Іншы раз Бруна станавіўся на нахіленыя вілы, хоць гэта і было забаронена, ды ехаў са мной на стаянку.

Я паехаў, назіраючы, як ён ішоў між стэлажоў у іншым напрамку. Ён крыху горбіўся і трымаў рукі прыўзнятымі, быццам быў гатовы да таго, што з-за паліц на яго нападуць. Я спрабаваў уявіць, як ён працуе са мной на будоўлі, і я тлумачу яму ўсё і ўвожу ў працу. Але не мог уявіць, як гэты чалавек дэманціруе дах. Магчыма, з-за яго сівых валасоў. А яшчэ гэты яго пах жывёл не вязаўся з пылам.

Я паехаў на стаянку, якая была ў задняй частцы гіпермаркета, дзе праводзілася прыёмка тавараў. Я ехаў па пустых праходах, паўз маразільныя камеры і доўгія рады халадзільных вітрын ля сцен. Мы працавалі ў апошнюю змену, і я толькі зрэдку бачыў некага са сваіх калег. Яны снавалі між стэлажоў, дараблівалі апошнія справы, стаялі пры сініх століках на колцах і запісвалі ў спісы тавары са зламанымі ці разарванымі ўпакоўкамі, якія мы кожны раз знаходзілі на паліцах. Іншыя на стаянцы падрыхтоўвалі свае пагрузчыкі да ночы. Я яшчэ не ведаў усіх па імёнах. І нават потым, калі я ўжо пэўны час папрацаваў у гіпермаркеце і з горам напалам здаў экзамен па кіраванні пагрузчыкам, калі я размаўляў з імі або мне трэба было папрасіць штосьці, я неўпрыкмет глядзеў на таблічкі з імёнамі на іх спяцоўках.

— Дзякуй, спадарыня Кох, — сказаў я.

Яна ўсміхнулася і прамовіла:

— Без праблем.

Я заўважыў, як яна паглядзела на маю спяцоўку. Але я згубіў сваю таблічку з імем і яшчэ не атрымаў новую.

— Хрысціян, — сказаў я і працягнуў ёй руку.

— Марыён, — адказала яна.

Яна пазычыла мне свой пагрузчык, таму што аднаму з пакупнікоў незадоўга да закрыцця спатрэбілася бутэлька віскі «Уайлд Туркі». Я зняў паддон з віскі з паліцы, даў яму адну бутэльку і потым зноў запоўніў пустую ячэйку. Бруна на сваім пагрузчыку займаўся півам. Была пятніца, лета, і людзі куплялі піва скрынямі.

— Давай вып'ем па каве. Я плачу́.

— Канешне, — сказала яна, і мы пайшлі да кававага аўтамата. У гіпермаркеце былі два кававыя аўтаматы: адзін там, дзе прымалі тавары, а другі перад халадзільным складам. Другі быў бліжэй.

Я ўжо сустракаў яе некалькі разоў між стэлажоў, і мы ківалі адно аднаму галавой. А паколькі яна была вельмі прыгожая, я кожны раз усміхаўся.

Я бачыў яе не кожную ноч, бо яна працавала яшчэ ў дзённую. Толькі мяне і яшчэ пяцёх чалавек ставілі заўсёды ў начную.

— А ты вельмі хутка экзамен здаў.

Яна адпіла крыху кавы, а потым пачала дзьмухаць на маленькія воблачкі пары і ўсміхацца.

— Бруна добры настаўнік, — сказаў я, пазіраючы на таблічку з імем на яе грудзях: «М. Кох, Кандытарскія вырабы».

— Бруна малайчына, — сказала яна. — Да яго заўсёды можна прыйсці, калі табе патрэбна дапамога або калі табе ўсё ўжо ў пячонкі ўелася, і хочацца проста выпіць кавы ды пабалакаць.

Яна ўсміхнулася і дзьмухнула на сваю каву, потым адпіла пару глыткоў.

— А табе, значыць, часта ўсё ў пячонкі ўядаецца?

— Паменш нахабства, навічок.

Яна, трымаючы кубачак у адной руцэ, указальным пальцам вольнай рукі тыцнула мне ў плячо. Потым усміхнулася, і я ўсміхнуўся ў адказ. Было нешта такое ў тым, як яна сябе паводзіла і як размаўляла са мной, што мне падабалася. Нават даволі моцна падабалася. Калі я сеў у яе пагрузчык, то адчуў цяпло на сядзенні, на якім яна толькі што сядзела.

Яна выглядала на пару гадоў старэйшай за мяне, дзесьці на трыццаць з нечым. У яе былі даволі кароткія валасы, з якімі заўсёды нешта было не ў парадку. Мы пілі каву і размаўлялі пра сёе-тое.

Мы доўга стаялі ля аўтамата, і я ўвесь час укідваў грошы і напаўняў нашы кубачкі. Мы стаялі за штабялямі са скрынь і тавараў, таму нас маглі бычыць толькі тыя, хто таксама зрабіў перапынак на каву.

— Я хутка вярнуся.

Я пайшоў да цялежак з прадуктамі, у якіх канчаўся тэрмін прыдатнасці. Часам мне давалі заданне адвезці іх на пляцоўку да кантэйнераў для смецця. Хлеб, шакалад, мяса, малако — усё прыдатнае яшчэ пару дзён. І калі мне хацелася есці, я спрабаваў неўпрыкмет запхнуць у сябе што-небудзь са смачнага перш, чым выкідаць усё ў кантэйнер. Шакаладныя труфелі, чыябата з шынкай серана, малочныя батончыкі. Калі б мяне злавіў на гэтым хто-небудзь з начальства, я мог бы адразу здымаць спяцоўку і сыходзіць з працы. Усё так ці іначай выкідалася, і мне здавалася, што большасць супрацоўнікаў таксама цягаюць употай.

Я разадраў упакоўку шакаладнага пірага, адрэзаў сваім канцылярскім нажом два вялікія кавалкі, засунуў іх у кішэні спяцоўкі і пайшоў да Марыён.

— Я ўжо думала, што табе надакучыла мая кампанія.
— Не, — сказаў я. — Дай мне сваю руку.
Яна паглядзела на мяне запытальна, але потым працягнула далонь, і я дастаў з кішэні кавалак пірага.
— Блін, навічок! — сказала яна. — На прыгоды нарываешся.
Толькі пазней я падумаў пра тое, што на самай справе я падвёў яе пад небяспеку, бо калі б нас злавілі... Але за скрынямі мы былі ў бяспецы, ды, апрача таго, усе начальнікі даўно пайшлі, а начальнік аддзела «размяшчэнне тавараў/ноч» быў вельмі легкадумны, часта знікаў у прыбіральні, каб выкурыць адну цыгарэтку, хоць гэта было і забаронена. Да таго ж аднойчы я бачыў, як ён жаваў, трымаючы ў руцэ вялікую палку салямі. Марыён, здавалася, вырашыла не заўважаць рызыкі, бо яна ўсміхнулася мне, сказала «дзякуй» і пачала есці.
— Што, паклаў на яе вока, цыбаты? Га?
— Ай, не вярзі лухты.
Была дванаццатая гадзіна, і мы ставілі вялікія кардонныя каробкі і ўпакоўкі з сокам на паліцу. Бруна прыхіліўся да пагрузчыка і сказаў:
— Яна замужам, але ён паскуда. Бачыў яго пару разоў, на карпаратывах і калядных вечарынках. Раней, мусіць, быў ніштаваты хлапец, але як страціў працу, дык стаў сапраўдным паскудам. Маеш шанец, цыбаты.
— Ды годзе ўжо, хопіць, — я запхнуў дзве каробкі ў ячэйку. — Яна здаецца мне вельмі мілай, нічога больш.
— О так, яна мілая, наша Марыён.
Ён кіўнуў. Далей мы працавалі моўчкі да дванаццаці. Потым мне трэба было ў аддзел «прадукты харчавання». Там знаходзілася толькі адна жанчына, яе звалі Ірына Палмер, і для яе дваццацікілаграмовыя мяхі з мукой былі занадта цяжкімі. Ірына была вельмі сімпатычная, і, калі мы скончылі, яна павяла мяне між стэлажоў з прадуктамі. Ад яе моцна патыхала халодным дымам і яна даволі шмат кашляла. І пакуль я браў мяхі з мукой з паддона і цягаў іх да паліц, яна знікла ў напрамку прыбіральні.
— Дык вось, глядзі, — сказала яна і павяла мяне паўз стэлаж з макароннымі вырабамі. — Гэта ўсё пытанне навыку. З часам ты заўважыш, але гэта важна, на выпадак, калі ў цябе запытаецца хто-небудзь з пакупнікоў.
Яна кашлянула і правяла рукамі па адваротах спяцоўкі. Ёй было прыкладна столькі ж гадоў, як Бруна, і яна была амаль такая ж ушырыню. Некалькі разоў я бачыў, як яны разам ідуць да прыбіральні. Бруна таксама час ад часу выкурваў цыгарэтку, але не так часта, як Ірына. І кашляў ён таксама не так.
— Дык вось, тут у нас самыя звычайныя спагеці, побач ляжыць кітара, — гэта такая локшына з вугламі — нам яе пастаўляе толькі адна фірма, але асаблівага попыту на яе няма.
Яна даволі хутка рухалася ля паліцы сюды-туды і дакранался абедзвюма рукамі да ўпаковак і каробак.
— Тут у нас фузілі, гэта такія спіралі. Пэ́нэ лі́шэ, пэнэ рыга́тэ, тартэліні, тартэлоні, макарона, макаранчыні, папардэ́ле — шырокая стужкавая вермішэль. Потым вось тут трэнэ́тэ, вузкая, ратэле для супу, арык’етэ — гучыць, як вуха, выглядае таксама. А калі нехта спытае вермічэлі, значыць, ён хоча спагеці і ён з Сіцыліі.
Яна вымаўляла назвы як сапраўдная італьянка. А рухалася ля паліцы сюды-туды ўсё хутчэй і хутчэй ды паказвала мне макаронныя вырабы, якіх я ніколі не еў і пра якія нават нічога не чуў. А потым, адрэкамендаваўшы мне «фарфале» і «рыгатоні», яна раптам, з той жа інтанацыяй, з тым жа раскацістым «р», сказала:

— Ты лічаш Марыён з аддзела ласункаў ласым кавалачкам, ці не так?

Я засмяяўся.

— Я ж проста прапанаваў ёй выпіць па каве.

Але калі яна кіўнула, пакруціла галавою, як італьянская мама, і адкрыла рот, каб нешта сказаць, я дадаў:

— Але яна сапраўды мілая.

— Паслухай, Хрысціян, — яна падышла бліжэй да мяне, і паколькі не назвала мяне «цыбаты», як усе астатнія ў гіпермаркеце, я адразу зразумеў, што гаворка пойдзе пра нешта важнае. — Дык вось, Марыён вельмі пяшчотная, нават калі па ёй і не скажаш. Я маю на ўвазе, па-свойму, яна… так, што я хачу сказаць, на языку круціцца… але не смей рабіць ёй балюча, зразумеў?..

— Не, — сказаў я, больш не смеючыся. — Гэтага я зусім не хачу.

Яна кіўнула:

— Не хачу ўмешвацца, але Марыён мне вельмі даспадобы.

Потым па гучнагаварыцелі прагучала абʼява начальніка пра канец працоўнага дня. Мы з Ірынай Палмер, якая не пераставала кашляць і ўжо трымала ў руцэ свой пачак цыгарэт, пайшлі да службовага выхада, а потым у раздзявальню.

Прайшло некалькі тыдняў, пакуль я зноў убачыў Марыён. Нейкі час яна працавала ў дзённую змену, але калі я потым перастаў сустракаць яе між стэлажоў і ля кававага аўтамата, Бруна расказаў мне, што яна пайшла на бальнічны.

— Нешта сурʼёзнае? — запытаў я.

— Не ведаю, — адказаў ён, але я бачыў па ім, што гэта няпраўда.

— Ды ладна, давай, кажы ўжо.

— Забудзься пра гэта, — сказаў ён. — Калі яна табе падабаецца, не пытайся.

І мы моўчкі пачалі ставіць упакоўкі з безалкагольным півам, па шэсць бутэлек у кожнай, на паліцу.

За дваццаць хвілін да канца працоўнага дня, калі мы рабілі апошні круг вакол стэлажоў з напоямі, ён сказаў мне:

— Хадзем, я хачу табе нешта паказаць.

Я пайшоў за ім. Мы пачулі, як кашляе Ірына ля макаронных вырабаў, але Бруна ішоў далей, пакуль мы не дайшлі да месца, дзе знаходзіліся рыба і ракі, і ён не спыніўся.

Мы называлі гэты аддзел «мора». За рулоннымі варотамі хаваўся вялікі прылавак. Ля яго, за ім і вакол месціліся басейны і шкляныя вітрыны з жывой рыбай, ракамі і крэветкамі, а таксама ахалоджвальныя скрыні з лёдам, у якіх ляжалі мёртвыя марскія жывёлы. Вароты былі напалову апушчаны, і мы прапаўзлі пад імі. Святло ўнутры было прыглушана, толькі пара неонавых лямп на столі свяцілася жоўтым. Ён падвёў мяне да вялікага рэзервуара, у які ўваходзілі і выходзілі некалькі шлангаў.

— У гэтай вадзе, — сказаў ён, — дакладна тая ж самая колькасць солі, як у акіяне, у якім іх злавілі. Толькі самую крышачку больш або менш, і раней ці пазней яны б памерлі.

*Яны* — гэта вялікія ракі ці амары, што ляжалі побач альбо адзін на адным у рэзервуары так шчыльна, што ледзь маглі рухацца. Я падышоў бліжэй і ўбачыў, што іхнія клюшні звязаны гумкамі.

— Яны ляжаць тут, — сказаў Бруна, — пакуль іх хто-небудзь не купіць.

— Але іхнія клюшні, — сказаў я і ўбачыў, як адзін асабліва вялікі экземпляр паварушыў сваімі звязанымі клюшнямі і дакрануўся да шкла.

У той жа вечар на прэм'еры ў тэатры Сэнт-Джэймс я сустрэў МакКуэя. Ён рабіў замалёўкі для часопіса «Графік». Убачыўшы мяне, ён адразу накіраваўся ў мой бок.

— Вось цябе мне і трэба! Слухай, а ці браў я сёння з сабою ў Рычманд Хальярда?

— Так, — адказаў я.

— І Ліна кажа, што браў, — збянтэжана працягнуў ён. — Але магу пабажыцца, што калі мы прыехалі ў гатэль у Рычмандзе, яго з намі не было.

— Усё правільна: вы кінулі яго ў Путні.

— Кінулі ў Путні? Не помню такога.

— Затое ён помніць. Ты спытайся ў яго. Ён увесь ва ўспамінах.

Усе былі ўпэўнены, што МакКуэй ніколі не ажэніцца; спадзявацца, што ён калі-небудзь узгадае дакладныя дзень, месца ды сваю нарачоную, здавалася бязглуздзіцай. Нават пры ўмове, што ён усё ж дабярэцца да алтара, здавалася цалкам верагодным, што ён забудзецца, навошта туды прыйшоў і аддасць сваю нявесту свайму ж сведку.

Але ўсе памыляліся. Нейкім містычным чынам цырымонія адбылася. У такім выпадку, калі здагадкі Хальярда апынуцца вернымі (што цалкам магчыма), узнікне праблема. Што да маіх страхаў, то яны зніклі, як толькі я ўбачыў яго жонку. Гэта была чароўная, поўная жыцця жанчына, але яна не была з тых, хто дазволіў бы яму забыцца пра сябе. Я яго не бачыў з вяселля, што было вясной. Вяртаючыся назад з Шатландыі, па дарозе я спыніўся на пару дзён у Скарбара. Пасля «шведскага стала» я накінуў плашч і адправіўся на шпацыр. Ішоў моцны дождж, але пасля месяца ў Шатландыі, дзе надвор'е адрозніваецца ад тутэйшага, мне хацелася падыхаць свежым паветрам. Калі я гуляў па беразе, ухіляючыся ад моцнага ветру, натыкнуўся на чалавека, які нізка нахіліў галаву, шукаючы паратунку ад дажджу.

Я думаў, ён пачне лаяцца на мяне, але, мабыць, ён быў занадта падаўлены, каб рэагаваць.

— Прабачце, я вас не заўважыў, — сказаў я.

Пры гуках майго голасу ён ўстаў і ўскрыкнуў:

— Няўжо гэта ты, стары дружа?

— МакКуэй! — усклікнуў я.

— Проста неверагодна! Я ніколі не быў такім шчаслівым, — сказаўшы гэта, ён пацiснуў маю руку.

— Але што ты робіш тут у такую непагадзь? — спытаў я.

На ім былі светлыя штаны і тэнісная куртка.

— Я нават не падумаў, што пойдзе дождж, бо раніцай было такое цудоўнае надвор'е, — адказаў ён.

Я ўжо пачаў турбавацца, што ад гэтых гулянняў ён стаміўся і пачаў губляць розум.

— Чаму ты не пайшоў дадому? — спытаў я.

— Не магу. Не магу ўспомніць, дзе я жыву. Я забыўся. Богам прашу, завядзі мяне куды-небудзь і дай чаго-небудзь паесці! Я жудасна галодны!

— Хіба ў цябе няма грошай? — зноў пацікавіўся я па дарозе ў гасцініцу.

— Ані, — адказаў ён. — Нават не магу ўявіць, як буду шукаць яе. Я спадзяваўся, што ўвечары яна пойдзе прагуляцца каля вады, і таму спрабаваў падлавіць каля выхада з шасці гадзін, але ўвайсці так і не ўдалося, бо грошай на білет не было.

— І нават не памятаеш, якая вуліца ці дом? — пацікавіўся я.

— Не маю ніякага ўяўлення, — адказаў ён. — Усе клопаты аб кватэры былі на Мод, і таму я не вельмі хваляваўся.

— А ты спрабаваў даведацца хаця б што-небудзь у пансіянаце? — зноў спытаў я.

— Вядома спрабаваў! — крыкнуў ён з горыччу ў голасе. — Я паўдня стукаў ва ўсе дзверы і пытаўся, ці жыве там місіс МакКуэй. А яны захлопвалі дзверы ў мяне перад носам, у большасці выпадкаў без усялякага адказу. Я звярнуўся да паліцэйскага, у надзеі, што хоць ён мне што-небудзь параіць, але гэты ідыёт толькі пасмяяўся. Гэта так мяне раззлавала, што я ўдарыў яго ў вока, і цалкам заслужана. Здаецца, мяне цяпер паўсюль шукаюць. Я зайшоў у рэстаран і паспрабаваў узяць у іх стэйк «у крэдыт», але гаспадыня страўні сказала, што ўжо не раз чула гэтыя гісторыі, і загадала мне вымятацца, пакуль не прыйшлі іншыя наведвальнікі. Магу выказаць здагадку, я б стаў тапельцам, калі б не ты.

Пасля таго, як ён пераапрануўся і перакусіў, распавёў, што адбылося, больш спакойна, але выпадак быў сур'ёзны. Яны пакінулі кватэру пуставать, ды і сваякі жонкі былі ў ад'ездзе. Увогуле, не было нікога, каму б ён мог напісаць вестку з просьбай дапамагчы. І жонка б не пазнала. Малаверагодна, што ў іх атрымалася б сустрэцца, хоць і кахаў сваю жонку вельмі моцна ды хацеў адшукаць яе. Нават калі б гэта было магчыма, ён усё роўна рабіў бы гэта без асаблівай надзеі.

— Яна падумае, што гэта вельмі дзіўна, — задуменна прашаптаў ён, седзячы на краі ложка і сцягваючы павольна шкарпэткі. — Яна менавіта так і падумае.

На наступны дзень, у сераду, мы пайшлі да юрыста і выклалі ўсё, як ёсць, і ён пачаў наводзіць даведкі сярод уладальнікаў усіх пансіянатаў у Скарбара, а ў чацвер МакКуэй, як герой спектакля тэатра Адэльф у апошняй сцэне, быў вернуты да сваёй жонкі. Калі я сустрэў яго ў наступны раз, вырашыў пацікавіцца, што яму на ўсё гэта сказала жонка.

— Ох, усё, што я чакаў пачуць, — адказаў ён. Але я так і не даведаўся, чаго менавіта ён чакаў.

## ЧАРОЎНАЯ ЖАНЧЫНА

— Вы той самы містар? Праўда?

У яе цёмных вачах хавалася задаволенае здзіўленне, змяшанае з сумневамі. З зачараванай недаверлівай усмешкай, памякчанай надзеяй, яна перавяла позірк з мяне на сябра, які нас пазнаёміў.

Ён запэўніў яе, смяючыся: «Аднолькавы і непаўторны», — і пакінуў нас.

— Я заўсёды лічыла вас паважным мужчынам сярэдніх гадоў, — сказала яна з далікатнай усмешкай, і потым дадала нізкім мяккім голасам: — Вельмі прыемна пазнаёміцца, праўда.

Гэта былі звычайная словы, але яе голас абвалокваў, як цёплая пяшчота.

— Падыдзіце і пагаварыце са мной, — прамовіла яна, усаджваючыся на маленькую канапу і вызваляючы месца для мяне.

Я нязграбна сеў каля яе, мая галава крыху шумела, як пасля лішняга бакала шампанскага. Я адчуваў сябе дзіцём. Як быццам адна маленькая кніжка, некалькі нарысаў і крытык, вычытаных з нейкіх выпадковых часопісаў было ўсім, што я ведаў пра сучасную літаратуру. І раптоўнае адкрыццё таго, што я быў Тым-Самым Містарам, што пра мяне думалі тыя чароўныя жанчыны і былі захоплены знаёмствам са мной, няслаба хвалявала мой розум.

— Гэта напраўду вы напісалі тую разумную кнігу? — працягвала яна, — і ўсе тыя цудоўныя рэчы ў часопісах і газетах. Ох, пэўна, чароўна быць разумным.

Яна злёгку ўздыхнула, і гэты яе ўздых крануў мяне за сэрца. Каб суцешыць яе, я пачаў рабіць вымучаны камплімент, але яна спыніла мяне сваім веерам. Крыху пазней я быў рад, што яна так зрабіла: ёсць рэчы, якія трэба выказваць інакш.

— Я ведаю, што вы жадаеце сказаць, — засмяялася яна, — але не трэба. Акрамя таго, я не ўпэўнена, як гэта ад вас прыняць. Вы можаце быць такім з'едлівым.

Я спрабаваў выглядаць, як быццам і сапраўды мог быць такім, але ў дачыненні да яе — нават не збіраўся.

На кароткі момант яна пакінула сваю руку без пальчаткі ляжаць на маёй руцэ. Калі б яна пакінула яе на момант даўжэй, я ўпаў бы калені перад ёй, або стаў бы на галаву ля яе ног — зрабіў бы сябе дурнем так ці інакш перад усімі. Але яе рухі былі разлічаны да секунды.

— Я не жадаю, каб вы рабілі мне кампліменты, — сказала яна, — я хачу, каб мы былі сябрамі. Нягледзячы на розніцу ва ўзросце, бо я вам сышла б за маці. (Да ведама, магу сказаць, што ёй магло быць і трыццаць два, але выглядала яна на дваццаць шэсць. Мне было дваццаць тры, і я быў зялёным і баязлівым.) Але вы ведаеце гэты свет, і вы так не падобны да людзей, якія звычайна ў ім сустракаюцца. Грамадства такое пустое і штучнае, вы так не лічыце? Вы не ўяўляеце сабе, як я часам прагну збегчы ад усяго гэтага, або ведаць кагосьці, каму б я магла паказаць сапраўдную сябе, хто б зразумеў мяне. Прыходзьце да мяне калі-нікалі, каб я магла пагутарыць з вамі, добра? Я заўсёды дома па серадах. Вы павінны перадаць мне ўсе вашы разумныя думкі.

Мне падалося, што яна, магчыма, жадала б некаторыя з іх пачуць там, адразу, але не паспеў я пачаць іх прамаўляць, як да нас падышоў адзін з прадстаўнікоў гэтага пустога грамадства і прапанаваў павячэраць, і яна была вымушана мяне пакінуць. Але перад тым, як знікнуць ў натоўпе, яна кінула мне праз плячо паў-жаласны, паў-камічны позірк, які я зразумеў. Ён казаў: «Пашкадуйце мяне. Я павінна нудзіцца з гэтай прэснай і павярхоўнай істотай». І я пашкадаваў.

Я шукаў яе перад адыходам, хацеў запэўніць у сваім спачуванні і падтрымцы. Але даведаўся ад дварэцкага, што яна сышла ў кампаніі таго чалавека з пустога грамадства.

Праз два тыдні я сутыкнуўся на вуліцы з маладым сябрам з літаратурнага клуба, і мы разам паабедалі.

— Учора вечарам я пазнаёміўся з чароўнай жанчынай, — сказаў ён, — місіс Кліфтан Куртэней. Цудоўная жанчына.

— О, вы яе ведаеце? — я ўсклікнуў. — Мы з ёй старыя сябры. Яна хоча, каб я наведаў яе. Мне на самай справе варта было б гэта зрабіць.

— О, а я не ведаў, што вы знаёмыя, — адказаў ён. Нейкім чынам тое, што я яе ведаў, паменшыла яе важнасць у яго вачах. Але ён хутка вярнуў сабе цікавасць да яе.

— На дзіва разумная жанчына, — працягваў ён. — Баюся, я ўсё ж такі крыху расчараваў яе, — але сказаў ён гэта са смяшком, які супярэчыў яго словам. — Яна не магла паверыць, што я быў тым самым містарам Смітам. З маёй кнігі яна сабе ўявіла, што я стары чалавек.

Сам я не бачыў нічога ў кнізе майго сябра, што магло бы навесці на думку, калі гэта было патрэбна, што аўтару было больш за васямнаццаць гадоў. Я палічыў непатрэбным выказваць сваю праніклівасць, але майго сябра, гэта, відавочна, цешыла.

— Мне было так шкада яе, — працягваў ён, — прыкаваную да гэтага безжыццёвага і штучнага грамадства, у якім яна жыве. «Вам не зразумець, — казала яне мне, — як я прагну сустрэць каго-небудзь, каму б я магла паказаць сапраўдную сябе, хто бы мяне зразумеў». Я іду да яе ў сераду.

Я пайшоў з ім. Мая гаворка з ёй не была такой канфідэнцыяльнай, як я чакаў, бо там было яшчэ чалавек восемдзесят, і кожны з іх разлічваў на аўдыенцыю. Але пасля гадзіны блукання ў гарачай і бессэнсоўнай пакуце, як гэта бывае на такіх сустрэчах з маладымі людзьмі, якія ведаюць там толькі чалавека, што іх прывёў, і не могуць яго знайсці, я схітрыўся сказаць ёй некалькі слоў.

Яна прывітала мяне з усмешкай, у святле якой я тут жа забыўся на мой ранейшы дыскамфорт, і на кароткі момант салодка сціснула сваімі пальчыкамі мае.

— Як гэта міла з вашага боку, што вы стрымалі сваё абяцанне, — прамовіла яна. — Гэтыя людзі такія надакучлівыя! Сядайце вось тут і раскажыце мне пра ўсё, што адбылося з вамі з нашай апошняй сустрэчы.

Яна слухала мяне не больш за дзесяць секунд і перапыніла:

— А памятаеце таго вашага разумнага сябра, з якім вы прыйшлі ў той раз… на мінулым тыдні я сустрэла яго ў лэдзі Ленан. Ці не напісаў ён яшчэ што-небудзь за гэты час?

Я адказаў ёй, што так і ёсць.

— Вы раскажаце мне пра гэта? — папрасіла яна. — Я так рэдка знаходжу час на чытанне, і не хачу марнаваць яго на пустыя кнігі, — і тут яна паглядзела на мяне з удзячнасцю, так выразна, што ў словах не было патрэбы.

Я апісаў ёй гэты твор і, каб аддаць належнае таленту майго сябра, нават працытаваў некалькі ўрыўкаў, якімі, як мне было вядома, ён асабліва ганарыўся.

Адзін са сказаў, як мне падалося, асабліва расчуліў жанчыну. «Абдымкі дабрадзейнай жанчыны — гэта выратавальны круг, кінуты мужчыну з саміх нябёсаў».

— Як пекна! — ледзь чутна прашаптала яна. — Прамоўце яшчэ раз…

Я зноўку працытаваў гэту фразу, і жанчына паўтарыла яе за мной.

А потым на яе наляцела нейкая гаваркая старая — і я адступіў у куток пакоя, дзе старанна, але беспаспяхова пачаў рабіць выгляд, быццам выдатна баўлю час.

Пазней, адчуўшы, што ўжо час ісці з вечарыны, я пачаў шукаць майго сябрука — і знайшоў яго ў адным з куткоў занятым размовай з ёй. Я наблізіўся і вырашыў крыху пачакаць. Яны гаварылі пра нядаўняе забойства ва Уэст-Эндзе: п'яную жанчыну забіў яе муж, рабацяга, раз'юшаны жончынай здрадай.

— Ах, — казала яна, — якую ўладу мае жанчына над мужчынам. Кожны раз, калі я чытаю пра здарэнне, дзе падазраюць жаночы след, я думаю пра вашы пекныя радкі: «Абдымкі дабрадзейнай жанчыны — гэта выратавальны круг, кінуты мужчыну з саміх нябёсаў».

* * *

Наконт яе рэлігійных і палітычных поглядаў думкі розніліся. Як казаў пра яе святар з евангелістычных англіканцаў: «Шчырая хрысціянка, сэр, з тых сціплых душой вернікаў, што заўсёды былі апорай нашай Царквы. Я ганаруся тым, што ведаю гэту жанчыну, і цешуся думкай, што мае бедныя словы сталіся дзейсным інструментам у справе адваджвання шчырага жаночага сэрца ад вольнасцей моды і заахвочвання яго да больш узвышаных матэрый… Дабрадзейная хрысціянка, сэр, дабрадзейная хрысціянка, у лепшым сэнсе гэтага слова!»

Як казаў пра яе графіне А з бляскам энтузіязму ў глыбока пасаджаных вачах бледны і арыстакратычны на выгляд маладзенькі абат Б: «Я чакаю

многага ад нашага дарагога сябра. Ёй падаецца цяжкім разарваць путы часу і кахання. Усе мы грэшныя, але яе сэрца горнецца да нашай маці-Царквы як дзіця, выхаванае чужынцамі, праз шмат год плача па грудзях, што яго ўскармілі. Мы гаварылі з ёй, і я магу стацца тым голасам, што кліча ў пустэльні і вядзе аблудную авечку назад да паствы».

Як пісаў пра яе ў сваім лісце да сябра сэр Генры Бэнэт, выдатны лектар-тэолаг: «Выключна адораная жанчына з відавочнаю прагаю да ісціны. Жанчына, здольная кіраваць сваім жыццём. Жанчына, якая не баіцца разумнага сэнсу, аматар мудрасці. Час ад часу я памногу гаварыў з ёй, і заўважыў, што яна падхоплівала маю думку нечувана хутка. І я ўпэўнены, што прыведзеныя мною довады ўжо далі выдатныя ўсходы. Я з нецярпеннем чакаю, калі — а гэты момант ужо недалёка — яна стане неацэнным сябрам нашай невялікай суполкі. Больш за тое, я ўжо амаль цяпер магу сказаць без бравады, што ўспрымаю яе зварот як факт, які цалкам стаўся».

Палкоўнік Максім заўсёды адгукаўся пра яе як пра «сапраўдны стоўп Імперыі».

«Калі мы ведаем пра ворага ў нашых шэрагах, — крычаў стары салдат, — кожнаму сапраўднаму мужчыну — так! — і кожнай сапраўднай жанчыне належыць згуртавацца дзеля абароны краіны! Пашана і гонар, скажу я вам, такім высакародным лэдзі, як місіс Кліфтан Куртэней, якая, адкінуўшы прыродную сціпласць, прыйшла на дапамогу ў гэткі пераломны момант, каб змагацца са здрадніцтвам, што забуяла на нашых землях».

«Але пачакайце, — скажа хто-небудзь, — я чуў ад малодшага Джосліна, што грамадскія і палітычныя погляды місіс Кліфтан даволі-такі прагрэсіўныя».

«Джослін? — адкажа Палкоўнік з пагардай. — Цьфу! Мала ж яму часу спатрэбілася, каб зачмурыць ёй галаву сваёй красамоўнай балбатнёй і доўгімі валасамі. Але я магу цешыцца, што ўсё ж уставіў палку ў калёсы містару Джосліну. Анягож, чорт яго дзяры, яе назначылі ў наступным годзе займаць пасаду Галоўнай Дамы Лігі Пралескі ў Бэрмандсі. І што тады Джослін скажа на гэта, мярзотнік ён гэткі!»

А Джослін сказаў вось што:

«Я ведаю, што жанчынам уласціва слабасць. Але я не вінавачу іх — шкадую. Надыдзе той час, а час гэты ўжо не за гарамі, калі жанчына перастане быць марыянеткай ў руках бязмозглага мужчыны, і калі жанчыне перастане пагражаць ганьба за смеласць кіравацца сваім розумам, а не розумам найбліжэйшага сваяка ў нагавіцах, тады толькі мы зможам чыніць над ёю суд. Гэта не ў маіх правілах — падвесці давер жанчыны, якая пакутуе, але, відаць, што гэты стары выкапень, палкоўнік Максім, ды старыя лэдзі з Лігі Пралескі ў Бэрмандсі могуць абраць місіс Кліфтан Куртэней сваім Прэзідэнтам і будуць насіцца з гэтым, як з пісанай торбай. Але яны бачаць толькі вяршыню айсберга. Яе сэрца б'ецца ў такт з хадою тых, хто рухаецца наперад, вочы яе душы ўжо прымружаны ў чаканні трыумфальнага ззяння новага дня».

Але ў адным згаджаліся ўсе — жанчынай яна была чароўнай.

***Пераклад з англійскай студэнтаў МДЛУ Ганны ГАВОРСКАЙ, Ганны КАСТУНОВАЙ, Лізаветы ВАСІЛЕВІЧ, Мацея БЯНЬКО, Дар'і СТАНЦЭЛЬ, Марыны ЯНГІРАВАЙ, Любові КІСЕЛЬ, Іааны ВЛАДЫКА.***

***Падрыхтоўка да друку Вольгі МАРОЗАВАЙ***

Арцём КАВАЛЕЎСКІ

# ДАРАЖЫЦЬ УБАЧАНЫМ, альбо ВАЧЫМА ЗАЧАРАВАНАГА ВАНДРОЎНІКА

***З вопыту прачытання фатаграфій Уладзіміра Суцягіна***



Фотамастак Уладзімір Суцягін нарадзіўся 20 лістапада 1955 года ў горадзе Горкім (цяпер Ніжні Ноўгарад). Займаецца фатаграфіяй са школьнага ўзросту. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1973 годзе паступіў у тэхнічнае вучылішча на спецыяльнасць «фатограф шырокага профілю». Быў сябрам легендарнага горкаўскага фотаклуба «Волга». З 1980 года жыве ў Мінску, доўгі час працаваў у галіне рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры. Працуе ў напрамку манахромнай піктарыяльнай (ад слова «picture» — карціна) фатаграфіі. Яго працы, знятыя на плёнку, аддрукаваны і таніраваны ўручную. Удзельнік больш як трох дзясяткаў персанальных і калектыўных выставак у Беларусі, Расіі, Украіне, Бельгіі, Італіі, Эстоніі. Аўтар сямі фатаграфічных выданняў, апошняе з якіх — фотаальбом «Встречая свет», у якім фатаграфіі аўтара суправаджаюцца кароткімі эсэ-ўспамінамі з творчай біяграфіі і развагамі пра прыроду і сутнасць фотамастацтва.

## I

> ***У раздумий беззвучны слова,***
> ***Как искать их люблю в тишине я!***
> И. Анненский

Святло, што не слепіць вочы, святло мяккае, якое трыумфуе пераканаўча і яўна, нібы зблiжэнне, што нараджае прыналежнасць. Святло, якое выяўляе ціхмяную прамяністасць зямлі ўлюбёнай, адзінай. Святло, сугучнае крохкай вытанчанасці празрыстага ладу. І ўжо не ўзнікае пратэсту ўнутранага, адчужанасці альбо спрэчкі, бо ўзрадаванае свячэнне сціплай красы сустракае і вітае нас сваёй явай.

Святло пакідае след. Створаная выява ўвасабляецца ў вобразе, які становіцца знамянальным і знакавым. Ён апанаваны ціхай шчырасцю і сапраўдным захапленнем. Вера выяве і вернасць гэтай веры цалкам натуральна ўзнікаюць у нас. Міг узаемапранікнення. Вобраз застаецца з намі. І цяпер ужо бездакорная злучанасць, звязанасць вядуць нас да спасціжэння цішыні не маўклівай, але прамаўляючай, патрабуючай разгадкі.

Увайсці ў прастору фатаграфіі лёгка. Пачынаецца падарожжа, вандроўка. Рукатворнае і падоранае Богам раптам, неяк знянацку (але невыпадкова) прыадкрываюць

нам свой запаветны сэнс. Мы адчуваем прамудрасць і хараство Тварца ў кожнай кветцы, галінцы, цявінцы, якія заклікаюць да нашай найглыбейшай увагі, таму што ўсё становіцца значным і выразным, абдораным веданнем нейкай важнай і вялікай таямніцы — таямніцы светабудовы.

І вось, нарэшце, убачанае авалодвае намі. Мы верым ягонай чысціні, і нам хочацца як мага даўжэй затрымацца там, у ціхім кутку зямлі, клапатліва прыадкрытым для нас мастаком. Выява непадробная, як напеў дзіцяці, якое не задумваецца, ці чуюць яго, — высокае адкрыццё непрыдуманага свету. Водгалас убачанага на адным здымку працягвае гучаць у нас нават тады, калі погляд пераносіцца на здымак іншы. І цяпер цэлыя сугуччы, пералівы перапаўняюць нас сваёй меладычнасцю, зладжанасцю, стройнасцю.

Безумоўнае ўлоўліванне рысаў. Мастак даражыць убачаным беражліва, як летапісец. Самотныя фігуры на здымках — ключы да спасціжэння існага ў прасторы і часе, катэгорыях, якія патрабуюць абсалютнага заглыблення. Усталёўваецца спакой.

Дзве палосы — зямлі і неба — не супернічаюць, не перасягаюць адна адну, а змыкаюцца ціхамірна і ласкава, залучаючы нас у свой рахманы дыялог. Тонкая, далікатная лінія небакраю…

Ледзь улоўная мяжа ўзаемапранікнення Мінулага і Будучага. Развагі пра час, які здзяйсняецца на фатаграфіі, прыводзяць нас у Цяперашняе. Прыпынены час. Жывы. Ён дыхае з намі ў такт, і подых гэты свабодны, як павеў прахалоднага ветру, і няспынны, як велічная плынь ракі. Цяперашняе немагчыма змерыць. Але яно суразмернае нашаму пражыванню, перажыванню, прасвятленню. Нам па сілах пачуць кожны асобны крок, зроблены на шляху ўзыходжання па лесвіцы часоў. Тады крок наш стане ўнікальным, мерным, нягледзячы на імклівую і мітуслівую будзённасць.

Бывае, мы гаворым шэптам. Не для таго, каб нас не пачулі, а для таго толькі, каб нам верылі, бо ціхае, няхітра вымаўленае шчырае слова пранікае ў самае сэрца і, затрымаўшыся там, саграве яго дабратворным міласэрным цяплом. Цяпло, што разлілося ў сэрцы, напаўняе святлом душу. Яна акрыляецца і ўзнімаецца ў неба, замілаваная і праясненая.

Патрабавальны мастацкі погляд. Ён неабыякавы. Убачанае і прадугаданае Майстрам з лёгкасцю передаецца нам. Угляданне, учытванне, далучэнне схіляюць і запрашаюць нас да шчырай сутворчасці. Слушнае пачуццё і адчуванне прыгажосці сапраўднай, стрымана-заглыбленай, а таму такой вартай, прапаноўваецца нам як дар, які немажліва адхіліць.

Акно фатаграфіі. Прастора, якая нас кліча. Зачараваныя яе бязмежнымі далячынямі, мы давяраемся ёй і патанаем у маўклівым ззянні. Хвілі трапяткога суназірання. Уход у сябе. І зноў вяртанне. Вяртанне ў выяву, прапанаваную здымкам. Падарожжа, вандроўка працягваюцца…

…а перад вачыма — здымак, які захоўвае цеплыню промня, што затрымаўся на сценах мудрай абіцелі; здымак, напоўнены святлом ціхім, што не слепіць вочы, а трыумфуе пераканаўча і яўна.

**II**

*Будущего недостаточно.*
*Старого, нового мало.*
Б. Пастернак

Вачыма зачараванага вандроўніка, бясконца закаханага ў кожны ўбачаны ім куток зямлі, Майстар пазірае на свет. Балансуючы на хісткай мяжы Мінулага і Будучага, што завецца Цяперашнім, Ён бачыць тое, што схавана ад пабочнага выпадковага погляду. Яго ўгляданне ў сучасны нам свет напоўнена нястомным і, па сутнасці, такім неабходным клопатам пра дзень сённяшні, клопатам, немажлівым без карпатлівага прачытвання мінуўшчыны і асэнсаванага (але часам і інтуітыўнага) прадугадвання будучыні.

## Бывае, мы гаворым шэптам. Не для таго, каб нас не пачулі, а для таго толькі, каб нам верылі

Гісторыя, што заўжды заклікае да працягу, так ці інакш працягваецца. Мінулае застаецца нязменным. Часта яно выпадае з-пад нашай увагі. Мы губляем нітку, якая звязвае нас з Вечнасцю.

Авеяная легендамі і паданнямі ўмудроная даўніна адкрывае свае таямніцы толькі таму, хто здольны разгледзець у ёй бязмежную ўнікальнасць і неверагодную, поўную тужлівай безвыходнасці, тленнасць. Зямля-паданне. Зямля-легенда… Напаўразбураныя храмы, некалі велічныя паркі, змрочныя касцякі замкаў… Цяперашняе ўвайшло ў нашае жыццё з ценяў Мінулага, з мінулых успамінаў. Здараецца, што ў сне мы даведваемся пра існаванне чагосьці блізкага, роднага, надзвычай дарагога, але назаўжды аддаленага ад нас часам. Абуджэнне памятае толькі слабы, ледзь чутны водгалас перажытага ў сне. Нядаўняе адчуванне блізкасці прытупляецца, а хутка і зусім забываецца, сыходзіць у нябыт. Мы бяднеем, бо зноў пазбаўлены мажлівасці ўз’яднацца з Вечнасцю.

Засяроджана-спакойны погляд мастака ў свет дорыць нам адзіны момант, эпізод, кадр з жыцця, сканцэнтраваны на ўнутраным (а значыць, нятленным) змесце ўбачанага. Праз знешняе, бачнае, рэальна існуючае мы спасцігаем метафізічны сэнс прасторы і часу. Неперанасычанасць і надзвычайны аскетызм выявы пазбаўляе нас ад імклівай віхуры другасных думак. Мітуслівы свет адыходзіць. Перад намі ясная праўдзівасць і ў той жа час казачная ірэальнасць здымкаў, якая мяжуе з парадоксам. І зусім незразумелым, невытлумачальным і таемным чынам легенды дзён мінулых, гераічных і слаўных становяцца нам больш блізкімі, зразумелымі і роднымі. Мелодыя выявы пявучая, спакойная, у ёй усё бесканфліктна і на дзіва прыемна для нашых стомленых вачэй.

Архаіка, увасобленая ў працах Майстра, а таксама падкрэслена вінтажная візуальная манера заварожваюць, як заварожвае старасвецкае, крыху памутнелае, усё ў вясёлкавых разводах, шкло альбо люстра, у паўпразрыстасці якога мы можам разглядаць не толькі ўласнае няяснае адлюстраванне, але і мноства амаль сімвалічных водбліскаў, абрысаў, паўтонаў. Сціпласць, стрыманасць і вытанчанасць пейзажу на здымках, лаканізм і ідэальна выбудаваная кампазіцыя ператвараюць маналог выявы ў маналог мастака. Ягоная паэтызацыя Мінуўшчыны, пэўная дагматычнасць, але разам з тым неверагодная свабода і раскаванасць увасаблення ўбачанага ўспрымаюцца абсалютна натуральна і лёгка. Мы пераносімся ў час, які існуе і цягнецца на фатаграфіі. Амаль гэтак жа, як і мастак, мы бачым тое адзінае месца, якое ён выбраў для нас з тысяч іншых зямных прыстанкаў. Амаль гэтак жа, як і ён, мы чуем і перажываем няспешную размову зямлі з часам — цалкам ужываемся ў стыхію фатаграфічнага адбітка. Чарговасць здымкаў падобная да калідора, што складаецца з сумежных пакояў. Трапляючы ў адзін з іх, узнікае няўтольнае жаданне ўвайсці ў наступны. Беспрытульнасць адных памяшканняў змяняецца мяккай уладкаванасцю іншых. У некаторых з іх мы падоўгу блукаем, а калі выходзім, то нас сустракае радаснае святло, спакойнае і ціхамірнае.

Убачыць і ўвасобіць. Увасобіць, каб запомніць — запомніць доўгае, расцягненае на стагоддзі, чуванне спарахнелых сценаў і сцёртых камянёў, якія захоўваюць бясконцыя гісторыі засмужанай і чамусьці заўжды прыцягальнай Мінуўшчыны. Рука Майстра паказвае нам на дзверы, за якімі мы становімся суразмоўцамі дзён даўно мінулых. Ён дорыць нам ключы — свае работы, каб мы маглі адчыніць гэтыя запаветныя дзверы. Нам прапаноўваецца зірнуць на наш чароўны і ўцешны свет вачыма зачараванага вандроўніка, вачыма вечна здзіўленага, захопленага чалавека, закаханага ў кожны ўбачаны калісьці куток зямлі.

***2001 год***

Алесь ДУБРОЎСКІ

# РЫФМА Ў ВЕРШАВАНЫМ ТВОРЫ:
## *функцыянальнасць, семантыка, эстэтыка*

Пасля рытмічнай арганізацыі рыфма з'яўляецца другім па значнасці структураўтваральным кампанентам вершаванага тэксту. Для рэдактара значэнне ацэнкі рыфмы абсалютна такое ж, як і значэнне ацэнкі рытмічнай арганізацыі: на абодвух гэтых узроўнях паэтыкі верша знаходзяцца прынцыповыя крытэрыі, якія вызначаюць адпаведнасць тэксту тым мінімальным патрабаванням, невыкананне якіх азначае немагчымасць пусціць верш у друк. Тлумачыцца гэта тым, што ў абодвух выпадках гаворка ідзе пра валоданне ці невалоданне элементарнай тэхнікай вершавання. Разам з тым аналіз як рытмічнай арганізацыі, так і рыфмы дазваляе меркаваць не толькі пра мінімальныя патрабаванні, але (пры наяўнасці прыкмет гэтага) і пра сапраўднае паэтычнае майстэрства.

Функцыянальнасць рыфмы, яе семантыка і эстэтыка надзвычай цікава ўзаемазвязаны. Гэтыя тры катэгорыі нібы перацякаюць адна ў адну; часам, гаворачы пра адну з іх, непасрэдна выходзіш на астатнія. Як пісаў Ю. М. Лотман, «гучанне рыфмы звязана непасрэдна з яе нечаканасцю, гэта значыць мае не акустычны ці фанетычны, а семантычны характар. <…> Рыфма ў роўнай меры належыць метрычнай, фаналагічнай і семантычнай арганізацыі» [1, с. 69]. У чым, напрыклад, праблема банальнай рыфмы? Справа ж не ў тым, што яна «дрэнна гучыць». Менавіта гучыць яна «добра», бо такія рыфмы з'яўляюцца рыфмамі дакладнымі і нават багатымі, але слова *добра* таму і заключаецца тут у двукоссе, што сур'ёзна гаварыць пра эстэтыку рыфмы можна толькі пры ўсведамленні яе семантычнай функцыі (як адной з функцый). А рыфмы банальныя — гэта катастрофа менавіта з пункту гледжання семантыкі: калі ўзяць рыфмы *любовь — вновь* ці *любовь — кровь*, то адразу можна прадказаць тыя схемы, па якіх будзе разгортвацца план зместу ў адпаведных тэкстах. Гэтым і тлумачыцца тое, што сёння немагчыма адмоўна ацэньваць недакладныя рыфмы толькі таму, што яны недакладныя.

Змену густаў ёсць сэнс прадэманстраваць на прыкладзе шэдэўраў. Паміж тэкстамі Аляксандра Пушкіна «Пророк» і Сяргея Ясеніна «Не жалею, не зову, не плачу…» — 95 гадоў. Прывядзём усе рыфмы з гэтых вершаў. «Пророк»: *томим — серафим*, *влачился — явился*, *сон — он*, *зеницы — орлицы*, *он — звон*, *содроганье — прозябанье*, *полет — ход*, *приник — язык*, *лукавый — кровавой*, *змеи — мои*, *мечом — огнем*, *вынул — водвинул*, *лежал — воззвал*, *внемли — земли*, *моей — людей* (15 пар, але трэба адзначыць, што рыфма *сон — он* праз два радкі паўтараецца ў выглядзе *он — звон*). «Не жалею, не зову, не плачу…»: *плачу — охваченный*, *дым — молодым*, *биться — ситца*, *холодком — босиком*, *реже — свежесть*, *уст — чувств*, *желаньях — ранью*, *мне — коне*, *тленны — благословенно*, *медь — умереть* (10 пар).

У першым выпадку ўсе рыфмы дакладныя, сярод іх ёсць граматычныя, у тым ліку дзеясло ўныя, да чаго сучасная паэзія ставіцца насцярожана, хаця, мусіць, самай «ганебнай» тут можна назваць пару аднатыпных суфіксальных утварэнняў *содроганье — прозябанье*. Але ўсё гэта было абсалютна нармальна ў 20-я гады XIX стагоддзя. Прычым, пераходзячы да семантыкі, мы бачым, што нават рыфмы, граматычна аднародныя, з'яўляюцца зусім не аднароднымі семантычна. *В пустыне мрачной я* ***влачился*** і *серафим / На перепутье мне* ***явился*** — гэта выразнае супрацьпастаўленне тужлівага духоўнага стану лірычнага героя і таго духоўнага ўзрушэння, якое нясе з'яўленне серафіма. *Неба* ***содро-***

**У чым, напрыклад, праблема банальнай рыфмы? Справа ж не ў тым, што яна «дрэнна гучыць». Менавіта гучыць яна «добра»**

***ганье*** і *дольней лозы* ***прозябанье*** — зноў сэнсавае супрацьпастаўлене. У радках: *И он мне грудь рассек* ***мечом****, / И сердце трепетное* ***вынул****, / И угль, пылающий* ***огнем****, / Во грудь отверстую* ***водвинул*** антытэза паміж *сердцем* і *углем* сама па сабе даволі яскравая, а дзеясловы, якія рыфмуюцца, яшчэ ўзмацняюць яе сваёй антанімічнасцю; пры гэтым творнасклонавыя формы *мечом — огнем* знаходзяцца ў вельмі цікавых семантычных адносінах, бо адсылаюць нас да тэксту трэцяга раздзела кнігі Быцця: «І выгнаў Адама, і паставіў на ўсходзе каля саду Эдэмскага херувіма і **палымяны меч**, які сам паварочваўся, каб ахоўваць дарогу да дрэва жыцця» (там херувім з палымяным мячом, а тут серафім, таксама з мячом, і полымя прароцкага закліку, якое робіцца як бы новым сэрцам паэта-прарока; нагадаем, што і сам верш грунтуецца на біблейскіх матывах, а менавіта на эпізодзе з шостага раздзела Кнігі прарока Ісаі, прычым *мяча* там няма). І апошняя дзеяслоўная рыфма, якая злучае радкі *Как труп в пустыне я* ***лежал****, / И Бога глас ко мне* ***воззвал*** (а далей — *восстань!)*, дэманструе тую ж сітуацыю супастаўлення / проціпастаўлення, што і ў пачатку верша (паміж мізэрным станам чалавека — *как труп... лежал* — і веліччу Божага закліку). Да таго, што тут выразная рэалізацыя кальцавой кампазіцыі, мы яшчэ вернемся. Не з'яўляюцца праблемай і дзве пары на адну рыфму: *сон — он* і *он — звон*. Такі паўтор абумоўлены паралелізмам: *Моих зениц коснулся он — Моих ушей коснулся он* (прычым у гэтым разе *сон* і *звон* уступаюць у адносіны кантэкстуальный антанiмii).

Такім чынам, нават тое, што магло б здавацца сённяшняму чытачу вельмі простым у тэхнічным плане, аказваецца строга матываваным у плане семантычным. Дарэчы, у гэтым разгадка таго, чаму класіка застаецца актуальнай: тэхніка сапраўды можа састарэць, а вось семантычная функцыянальнасць так проста адменена быць не можа. Геніяльнасць заключаецца не ў тэхніцы як такой і ўвасабляецца не ў ёй, а ва ўменні стварыць гармонію паміж зместам і формай. У гэтым мы пераканаемся яшчэ раз, калі звернем увагу на кампазіцыйную функцыю рыфмоўкі ў гэтым вершы.

Але спачатку вернемся да рыфм у творы Ясеніна. Бясспрэчна, эпоха дыктуе свае патрабаванні, і ў 20-я гады XX стагоддзя мы бачым тое, чаго за 95 гадоў да таго проста не магло быць, і адначасова не бачым таго, што раней было дапушчальным. Заўважная колькасць недакладных рыфм і ніводнай граматычнай рыфмы! Пры гэтым такія геніяльныя знаходкі, як *плачу — охваченный*, *биться — ситца*, смелая рыфма *реже — свежесть*, а пры гэтым семантычная функцыянальнасць застаецца, нікуды не знікае, прычым семантычныя супастаўленні тым мацнейшыя, чым менш «цікавыя» рыфмы (што цалкам заканамерна): *Все пройдет, как с белых яблонь* ***дым*** *— Я не буду больше* ***молодым***.

Рэдактару важна разумець патрабаванні гістарычнага этапу развіцця літаратуры. Заўважана, што аўтары, якія дэманструюць графаманскі ўзровень тэкстаў, найменш знаёмыя з той літаратурай, якая бліжэй да сучаснасці і далей ад школьнай праграмы. А гэта не можа не мець фатальных наступстваў менавіта ў галіне тэхнікі, гэта значыць менавіта ў тых аспектах, што абумоўліваюць той мінімальны ўзровень адпаведнасці эстэтычным крытэрыям, які дазваляе твор апублікаваць. «Предосудительно-запретная пресловутая рифмопара» [2, с. 527] — вось як называе А. І. Фядотаў вышэйзгаданую рыфму *кровь — любовь*. Сапраўды, ёсць рэчы забароненыя.

На пытанне: «Ці можа ў нязграбнай форме быць выражаны ў паэзіі "добры" змест?» — трэба адказаць адмоўна. Вышэй мы прадэманстравалі непарыўную сувязь формы і зместу ў шэдэўральных тэкстах, але і ў тэкстах іншага ўзроўню гэтая сувязь існуе, проста механізмы яе рэалізацыі будуць крыху іншымі. Напрыклад, катастрафічнасць зместу будзе ўвасоблена ў катастрафічнай форме. Вось урыўкі з розных тэкстаў аднаго аўтара (арфаграфія і пунктуацыя захоўваюцца):

*Нет, сердце я не расточаю / Лишь свет лазурный излучаю / Тебя читатель, здесь встречаю / И взором чутким привечаю / Хочу и Ты чтоб заискрился / Нутром со мною вместе слился.*

*Вот думаю книгу Судьбы почитать / Хоть бегло страницы Судьбы полистать / Удастся быть может там что-то достать / Что будет со мною заранее знать! / А вдруг вот увижу несказочный путь! / И стоит ли мне с той дороги свернуть? / Наверно его надо лишь обогнуть / Хоть это непросто, но лучше прильнуть.*

*И всё же в рулетку играть? Не хочу / Во снах может с ангелом ввысь полечу / Он взмахом крыла меня нежно коснётся / Всё как наяву! Сердце трепетно бьётся / Встаю, просыпаюсь, пытаюсь подняться / Коль Муза пришла! Ей пора отдаваться.*

Пытанне пра тое, што можна знайсці ў тэкстах, дзе ўсе рыфмы дзеяслоўныя, у дадзеным выпадку можа быць толькі рытарычным.

Тып рыфмоўкі і яго кампазіцыйная функцыя — наступнае, на чым трэба спыніцца (і гэта тая сфера, дзе рыфма непасрэдна судакранаецца з іншым узроўнем паэтыкі верша — строфікай). Тут мы зноў звернемся да верша Аляксандра Пушкіна «Пророк».

Гэта астрафічны верш, у якім выкарыстоўваюцца ўсе тры тыпы рыфмоўкі — сумежная, перакрыжаваная, апаясная. Паслядоўнасць рыфмаў наступная:

аБаБввГГввДееДжжЗiiЗкЛкЛммНоНо

Пакажам паслядоўнасць тыпаў рыфмоўкі (С — сумежная рыфмоўка, П — перакрыжаваня, А — апаясальная):

П — С — С — С — А — С — А — П — С — П

Здаецца, што кампазіцыя даволі хаатычная. Аднак пры аналізе яе ў сувязі з сінтаксісам, лексікай, паэтычнай семантыкай твора становіцца зразумелым, што тут выкарыстаны надзвычай цікавыя элементы як сіметрыі, так і асіметрыі, якія разам працуюць на мастацкі змест. Дарэчы, сіметрыя ў асіметрыі — адно з самых цікавых кампазіцыйных рашэнняў, якое можа быць рэалізавана ў літаратурным творы: сіметрыя сама па сабе мае нейкую штучнасць, асіметрыя пазбаўлена канцэптуальнай выразнасці, а іх спалучэнне аказваецца надзвычай плённым.

Паспрабуем падзяліць астрафічны верш Пушкіна для нагляднасці на страфоіды, для чаго графічна аддзелім іх адзін ад аднаго (у арыгінале тэкст не разбіваецца графічна):

Духовной жаждою томим,
В пустыне мрачной я влачился,
И шестикрылый серафим
На перепутье мне явился;

Перстами легкими как сон
Моих зениц коснулся он:
Отверзлись вещие зеницы,
Как у испуганной орлицы.

Моих ушей коснулся он,
И их наполнил шум и звон:
И внял я неба содроганье,
И горний ангелов полет,
И гад морских подводный ход,
И дольней лозы прозябанье.

И он к устам моим приник,
И вырвал грешный мой язык,
И празднословный и лукавый,
И жало мудрыя змеи
В уста замершие мои
Вложил десницею кровавой.

И он мне грудь рассек мечом,
И сердце трепетное вынул,
И угль, пылающий огнем,
Во грудь отверстую водвинул.

Как труп в пустыне я лежал,
И Бога глас ко мне воззвал:
«Восстань, пророк, и виждь,
и внемли,
Исполнись волею моей,
И, обходя моря и земли,
Глаголом жги сердца людей».

Атрымліваецца шэсць страфоідаў. Такі падзел дыктуецца як сінтаксісам, там і зместам твора. У вершы пяць сказаў. Першы сказ займае два страфоіды (аддзяляе іх кропка з коскай), астатнія чатыры сказы займаюць па адным страфоідзе. Заўважым, што падзел першага сказа на два страфоіды абумоўліваецца нават не столькі наяўнасцю кропкі з коскай, колькі сэнсам: першы страфоід — уступ; апошні — заключэнне; другі, трэці чацвёрты і пяты прысвечаны паслядоўнасці дзеянняў серафіма: *Моих зениц коснулся он*; *Моих ушей коснулся он*; *И он к устам моим приник*; *И он мне грудь рассек мечом*.

Такім чынам, мы ўбачылі першую праяву сіметрыі: уступ — 1— 2 — 3 — 4 — заклю-

чэне. Пры гэтым страфоіды, абазначаныя на гэтай схеме лічбамі 1 і 4, — гэта чатырохрадкоўі; 2 і 3 — шасцірадкоўі: уступ — 1 (чатырохрадкоўе) — 2 (шасцірадкоўе) — 3 (шасцірадкоўе) — 4 (чатырохрадкоўе) — заключэнне. Перад намі яшчэ адна праява сіметрыі. Пры гэтым, калі шасцірадкоўі маюць ідэнтычную рыфмоўку (ввДееД — жжЗііЗ), то чатырохрадкоўі адрозніваюцца (ввГГ — кЛкЛ). Гэта ўжо асіметрыя, але яна не адвольная, а падпарадкаваная сваёй логіцы, а па сутнасці — упісаная ў іншую сіметрыю. У прыватнасці, пераход ад уступу (аБаБ) да першага дзеяння серафіма (ввГГ) у інтанацыйна-страфічных адносінах выражаецца ў тым, што павольны, «эпічны» ўступ (перакрыжаваная рыфмоўка дае менавіта гэтую павольнасць і «эпічнасць»), які акцэнтуе ўвагу на маркотным стане лірычнага героя (*Духовной жаждою томим*), змяняецца імклівымі, «драматычнымі», напружанымі чатырма радкамі з сумежнай рыфмоўкай. Так ствараецца выразны кантраст.

Каб зразумець логіку рыфмоўкі перадапошняга страфоіда твора, трэба заўважыць, што ў вершы некалькі разоў выкарыстоўваецца люстраны кампазіцыйны прынцып. Важна знайсці, дзе расстаўлены «люстэркі» — тады мы і ўбачым, як рэалізуецца сіметрыя ў асіметрыі. Так, першыя чатыры радкі і апошнія чатыры радкі «Пророка», якія рыфмуюцца аБаБ — НоНо, знаходзяцца менавіта ў адносінах адлюстравання. Дзякуючы гэтаму на фармальным узроўні рэалізуецца кампазіцыйнае кальцо, якое на змястоўным узроўні выражана дастаткова яскрава: *В* ***пустыне*** *мрачной я* ***влачился*** *— И,* ***обходя моря и земли***. Тут супрацьпастаўлены як дзеясловы руху (на правах кантэкстуальных антонімаў), так і назоўнікі, якія называюць «месца дзеяння».

Прынцып люстэрка вытрымліваецца не толькі ў адносінах да ўступу і заключэння, але і на працягу ўсяго тэксту. Мы ўжо казалі пра супрацьпастаўленне *сон — звон*, але заўважым, што гэтае супрацьпастаўленне фармальна таксама дае рэалізацыю прынцыпу люстэрка, бо радкі з пятага па дзясяты рыфмуюца *ввГГвв*, дзе першая лічба *в* адпавядае якраз слову *сон*, а апошняя — слову *звон*.

Тую ж самую люстранасць бачым і ў апошніх дзесяці радках верша: *кЛкЛммНоНо*, прычым яна зноў адпавядае семантычнаму супастаўленню: *...И* ***сердце*** *трепетное вынул, И угль,* ***пылающий огнем — Глаголом жги сердца*** *людей*.

Нарэшце, цэнтральныя два страфоіды, пра ідэнтычнасць рыфмоўкі ў якіх ужо было сказана, зноў рэалізуюць прынцып люстранасці. Гэта кампазіцыйны цэнтр твора, узмоцнены шматразовым анафарычным паўторам злучніка *И*. Пры гэтым сам пераход ад лаканічнай і энергічнай рыфмоўкі *ввГГ* да двух шасцірадкоўяў (*ввДееД — жжЗііЗ*), гучанне якіх самае складанае ў вершы ў інтанацыйных адносінах, поўнасцю адпавядае семантычнаму разгортванню і паглыбленню тэмы, якія адбываюцца ў гэтых страфоідах. Апаясальная рыфмоўка, якая выкарыстоўваецца тут, — выдатны сродак менавіта такога паглыблення, бо пры ёй рыфмовае чаканне самае расцягнутае па прычыне максімальнай аддаленасці радкоў, што рыфмуюцца (абазначаны літарамі *Д* і *З*).

Такім чынам, мы ўбачылі, па-першае ўзаемасувязь розных узроўняў паэтыкі твора, па-другое, узаемаабумоўленасць формы і зместу, па-трэцяе, фактычную тоеснасць функцыянальнасці, семантычнай напоўненасці і эстэтычнасці рыфмы. Такі падыход да аналізу паэтычнага тэксту дапаможа рэдактару бачыць твор у яго цэласнасці і даваць аб'ектыўную, абгрунтаваную ацэнку тым ці іншым кампанентам паэтыкі. Якасныя літаратурныя творы заўсёды будуць вызначацца гэтай узаемаабумоўленасцю і ўзаемасувяззю кампанентаў, чаго нельга сказаць пра тэксты, якія належаць да найніжэйшых узроўняў у літаратурнай іерархіі.

**ЛІТАРАТУРА:**

1. Лотман, Ю. М. Анализ поэтического текста. Структура стиха / Ю. М. Лотман // О поэтах и поэзии / Ю. М. Лотман. — СПб.: Искусство — СПБ, 1999. — С. 17—252.

2. Федотов, О. И. Приложение. Русская стиховая культура XIX века / О. И. Федотов // История русской литературы XIX века: учеб. для студентов вузов, обучающихся по специальности 032900 «Рус. яз. и лит»: в 3 ч. / под ред. В. И. Коровина. — М.: Гуманитар. изд. центр ВЛАДОС, 2005. — Ч. 3 (1870—1890 годы) / А. П. Ауэр [и др.]; под ред. В. И. Коровина. — С. 497—534.

Вольга КАЧАЛКА



# ПРАШУ, КАБ МЯНЕ ПЕРАНЕСЛІ Ў НЯСВІЖ

***Вольга Качалка — маладая даследчыца, студэнтка 4 курса аддзялення беларускай філалогіі філалагічнага факультэта БДУ — прадстаўляе матэрыял з фактамі, многія з якіх застаюцца невядомымі шырокай чытацкай аўдыторыі.***

***Дзе б я ні памёр (верагодна,***
***што з гэтых нашых зямель на чужыну***
***ўжо не ад’еду, але хоць бы і памёр***
***выехаўшы куды-небудзь),***
***прашу, каб мяне перанеслі ў Нясвіж.***

З Тастамента Мікалая Крыштафа Радзівіла

Разуменне чалавекам сваёй прыналежнасці да вялікага і вечнага дае яму грунт пад нагамі, жыццёвы падмурак і ўнутраны стрыжань. У такім выпадку ён не мітусіцца ў бяздзейнасці, а, наадварот, ведае, што рабіць і як сябе паводзіць. Калі мы прыглядаемся да славутых асоб беларускай гісторыі, складваецца ўражанне, што яны мелі грунт, падмурак і стрыжань — дакладна ведалі, адкуль чэрпаць сілы і натхненне.

Пазіраючы на постаць Мікалая Крыштафа Радзівіла, вядомага ў гісторыі Беларусі як Сіротка, праз прызму сённяшніх ідэалаў, мы можам толькі захапляцца гэтым вартым пашаны чалавекам. У сённяшніх умовах уявіць сабе асобу, якая ахвяруе вялікія ўласныя фінансы на абарону Айчыны і яе культурнае развіццё, цяжкавата. Варта захапляцца таксама і актыўным палітычным жыццём князя, які асабіста браў удзел у войнах і дбаў пра палітычную самастойнасць Вялікага Княства Літоўскага. Ён быў Радзівілам не паводле прозвішча, а паводле статусу, быў чалавекам прынцыпаў, глыбокай веры ў Бога і вялікай патрабавальнасці да сябе. Яго духоўная еднасць з зямлёй, дзе нарадзіўся, вызначылася вялікім жаданнем быць пахаваным у Нясвіжы.

Нашчадкі выканалі волю Мікалая Крыштафа Радзівіла — пасля смерці ў 1616 годзе пахавалі князя ў Нясвіжы ў касцёле Божага Цела, побач з жонкай і дзецьмі.

Адыход з жыцця аднаго з самых вядомых Радзівілаў стаў прычынай узнікнення двух літаратурных помнікаў стылю барока. Першы — гэта «Казанне на пахаванні М. К. Радзівіла» ксяндза Марціна Відзевіча, другі — «Даніна памяці М. К. Радзівілу» ксяндза Яна Аланда (казанне на ўгодкі смерці). Яны былі прамоўлены адпаведна ў 1616 і 1617 гадах і пасля выйшлі асобнымі выданнямі. Рэаліі годнага жыцця Мікалая Крыштафа адлюстраваны ў гэтых творах, яны з’яўляюцца сведчаннем патрыятызму і высакароднасці іх героя. Марцін Відзевіч звязаў якасці князя з вобразам арла, сімвала роду Радзівілаў, змешчананага на выяве герба «Трубы». Традыцыя мець свой герб у сям’і Радзівілаў не была проста традыцыяй: Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка праз усё сваё жыццё захаваў годнасць, высакароднасць, моц — якасці, уласцівыя арлу:

*«Велічны той арол, бо вялікі Радзівіл з’яўляецца князем Свяшчэннай Рымскай Імперыі. […] Але ж звернем увагу ўжо на два шырокія крылы гэтага арла […] без іх ніводны пан або князь, як бяскрылы арол, не можа ані сягнуць (узляцець) увысь, ані*




*лётаць высока, ён вымушаны сядзець між людзьмі нізка на зямлі. Вось на такія [крылы] высакароднага арла, нашага яснавяльможнага памерлага князя глядзім мы сёння».*

Ён нарадзіўся ў Нясвіжы ў 1549 годзе. Час той быў стракаты: вялікія дасягненні і вялікія страты перажывала Вялікае Княства Літоўскае. Бацька князя, Мікалай Радзівіл Чорны, быў не менш вядомым у гісторыі чалавекам, а маці паходзіла са знакамітага шляхецкага роду Шыдлавецкіх. Па волі лёсу Мікалай Крыштаф, народжаны і ўзгадаваны ў сям'і перакананых кальвіністаў, будучы юнаком, падчас вучобы за мяжой перайшоў у каталіцтва і пераканаў зрабіць гэта ўсіх сваіх родных братоў. Дарэчы, вядомая мянушка Радзівіла — Сіротка — мае даволі цікавае паходжанне. Легенда распавядае пра выпадак, калі вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт II Аўгуст у адным з пакояў палаца ўбачыў пакінутае без нагляду дзіця. Кароль узяўся суняць яго слёзы, кажучы: «Ах, ты мой бедны, усімі забыты сіротка!». Гэта і быў Мікалай Крыштаф, з таго часу і пачалі яго так называць.

Прадстаўнікі адной з самых уплывовых сямей ВКЛ заўсёды мелі выдатнае выхаванне, былі людзьмі адукаванымі і адданымі Радзіме. Мікалай Радзівіл Чорны адправіў старэйшага сына на вучобу ў Еўропу. Там Мікалай Крыштаф вучыўся ў пратэстанцкіх навучальных установах і сустракаўся з вядомымі рэлігійнымі дзеячамі. Радзівілы вельмі дбалі пра вядомасць ВКЛ за мяжой. Да прыкладу, Мікалай Радзівіл Чорны даслаў сыну Мікалаю Крыштафу ліст аб перамозе на рацэ Ула з наказам распаўсюджваць яго ў Еўропе — гэтым самым павінна было распавядацца пра поспехі ў вайне з Маскоўскай дзяржавай. Падчас вучобы за мяжой маладога чалавека напаткала навіна і пра смерць бацькі. Зрабіўшыся паўналетнім, ён атрымаў бацькаву спадчыну і стаў апекуном малодшых братоў і сясцёр. Мікалай Крыштаф Радзівіл усведамляў адказнасць за спадчыну сваёй сям'і і разумеў, што як пры бацьку, так і пры ім багацці павінны прыносіць плён для людзей. Як было прамоўлена ў казанні Марціна Відзевіча, так было і ў рэальнасці — князь увекавечыў сваё імя праз развіццё Нясвіжа. Менавіта пры Сіротцы горад атрымаў Магдэбургскае права і герб, актыўна пачалі будавацца шпіталі і дарогі, касцёлы і манастыры. Грашыма князь дапамагаў нават дзецям бедных мяшчан. Радзівіл часта ўкараняў заходнееўрапейскі вопыт у рэалізацыі сваіх задум. Прыкладам гэтаму служыць стварэнне ардынацый на сваіх землях. Гэты з Радзівілаў быў заклапочаны не толькі функцыянальным развіццём Нясвіжа, але спрабаваў зрабіць яго сапраўднай перлінай сярод беларускіх гарадоў. Прыкладам таму касцёл Божага Цела, адзін з першых пабудаваных у стылі барока італьянскім архітэктарам Янам Марыя Бернардоні. Пры касцёле быў заснаваны езуіцкі калегіум, а ў сутарэннях святыні па жаданні і ініцыятыве Мікалая Крыштафа закладзена крыпта для фамільных пахаванняў. Сёння там захоўваецца каля 70 трун Радзівілаў — гэта трэцяе па памеры родавае пахаванне ў Еўропе! Сённяшні Нясвіж увогуле славіцца сваёй архітэктурай дзякуючы менавіта Мікалаю Крыштафу Радзівілу. На працягу жыцця Мікалай Крыштаф ахвяроў-

ваў агромністыя фінансы не толькі нясвіжскім кляштарам, але таксама касцёлам і капліцам у Ерусаліме, фінансаваў і праваслаўныя храмы. Князь заснаваў першую ў Вільні каталіцкую друкарню, перанёсшы яе з Брэста і аддаўшы езуітам. Таксама па яго ініцыятыве ў канцы XVI стагоддзя была пачата праца над стварэннем мапы Вялікага Княства Літоўскага. Гэта грандыёзнае выданне, выкананне якога было даручана Тамашу Макоўскаму, пабачыла свет у 1603 годзе і заставалася запатрабаваным яшчэ доўгі час. Марцін Відзевіч увасобіў гэтыя заслугі Мікалая Крыштафа ў вобразе арліных крылаў, без якіх птушка не магла б лётаць. Два крылы, на якіх трымаецца арол і якія паказваюць веліч, — гэта, у дачыненні да князя, багацце і годнасць:

*«Гэты вялікі арол мае на дзіва шырокія крылы. Хто хоча ўбачыць ягоныя багацці, што азначае першае крыло, хай не глядзіць у скарбніцы і скрыні, бо не яны з'яўляюцца сапраўдным багаццем, якое схавана, але няхай накіруе свой позірк на магутныя, вялікія і абарончыя замкі, на гарматы і стрэльбы, на порах і ўсю ваенную артылерыю, на гарады ды аркі ды мураваныя ратушы, на велічныя касцёлы і іх багатае аздабленне, на плябаніі, шпіталі і іншыя таму падобныя рэчы. [...] Хто ж не заўважыць, якія выдаткі і ахвяраванні павінны былі быць патрачаны на агульныя дарогі, як сады абсаджаны разнастайнымі дрэвамі [...]?»*

У пахавальным казанні Марціна Відзевіча асабліва падкрэсліваецца тое, што князь не шукаў дзяржаўных пасад, але быццам бы яны самі яго знаходзілі. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка меў пасаду надворнага маршалка ВКЛ, троцкага ваяводы, віленскага ваяводы, але, як сказана ў казанні, не імкнуўся атрымаць гэтыя званні, наадварот, з-за слабога здароўя адмаўляўся ад іх. Але дзяржава мела ў ім патрэбу — як у мудрым і справядлівым сенатары. І Мікалай Крыштаф Радзівіл актыўна займаўся палітычным жыццём краіны. Ён удзельнічаў у выбары караля і клапаціўся ў цяжкія часы бескаралеўя, каб краіна мела гаспадара, таму ў казанні Марціна Відзевіча мы бачым заклік: *«Аплаквай, найяснейшы міласцівы кароль, прыхільніка тваёй годнасці і велічы»*. Князь валодаў дыпламатычным талентам, яго рашэнні былі дальнабачнымі, а такая дзейнасць вельмі запатрабавана ў палітычным і грамадскім жыцці дзяржавы. Усведамленне вялікай страты для краіны прысутнічае ў казанні Марціна Відзевіча: «*Аплаквай, слаўная Айчына, найлепшага сенатара*». Радкі казання Яна Аланда: *«Справядліва нашае сэрца трывае ў жалобе з-за смерці такога пана. [...] Але для збаўлення душы больш справядліва і патрэбна браць прыклад яго святога жыцця».*

Шляхецкае прызначэнне абароны Айчыны цалкам рэалізавалася ў жыцці Мікалая Крыштафа Радзівіла. Князь асабіста прымаў удзел у важных бітвах супраць Маскоўскага княства. Ён ахвяраваў сваім здароўем і рызыкаваў жыццём, атрымліваючы баявыя раненні, якія выклікалі сур'ёзныя наступствы. Будучы чалавекам глыбокай веры, Мікалай Крыштаф следаваў важнаму хрысціянскаму прынцыпу — шчыра і аддана служыць свайму жыццёваму прызначэнню. Для Радзівілаў яно заключалася найперш у любові да Айчыны. Марцін Відзевіч называе гэта вельмі важнай чалавечай якасцю, якая спаўна рэалізавалася ў дзеяннях князя Радзівіла:

*«Праз любоў да Бога нараджаецца любоў да Айчыны. [...] Верным знакам шчырай любові да Айчыны з'яўляецца тое, што [чалавек] не шкадуе не толькі сваёй маёмасці, але і ўласнага здароўя, каб зберагчы мілую Айчыну. У чым і быў на дзіва дбайным яснавяльможны князь, бо не толькі выдаткоўваў сродкі на вайскоўцаў у паходах, але і сам праславіўся праз удзел у некалькіх значных выправах і бітвах супраць ворагаў Айчыны. Асабліва праславіўся пры Жыгімонце Аўгусце пад замкам Ула. Потым пры каралю Стэфану, калі той быў з войскам каля Гданьска, а Масква нішчыла Інфлянты ў 1577 годзе. У 1579 годзе, калі кароль Стэфан, прыбыўшы да Вялікага Княства Літоўскага пад Полацк, выправіўся супраць агульнага для Айчыны непрыяцеля, ён [М. К. Радзівіл] таксама туды выправіўся са сваім атрадам. І там, мужна змагаючыся з непрыяцелем, быў паранены ў галаву пулгакам. Дзякуючы Божай ласцы, цудоўным чынам вылечыўся ад небяспечнага ранення. Таксама ў 1581 годзе, хоць слабы і хворы, побач з каралём прабываў цэлае лета ў абозе пад Псковам».*

Важным хрысціянскім чыннікам у свеце тагачаснай хрысціянскай культуры выступа-

ла мудрасць. Адукаванасць чалавека была адной з рыс духоўнага развіцця асобы. Мікалай Крыштаф Радзівіл атрымаў бліскучую адукацыю ў традыцыях роду. На працягу ўсяго жыцця князь павялічваў сваю эрудыцыю. Марцін Відзевіч дае важнае і цікавае сведчанне мудрасці і адукаванасці Мікалая Радзівіла:

*«Трэцяй княжацкай дыбрачыннасцю ў ім была вялікая мудрасць. [...] Дасканала ведаў матэматыку і геаграфію, а ў лекарскай навуцы самі дактары не маглі наслухацца яго цудоўных размоў. [...] Ахвотна запытваўся пра новыя і навуковыя кнігі, якія выходзілі ў свет, і загадваў іх скупляць. Таксама ахвотна іх чытаў. Ведаў замежныя мовы і [...] сам без перакладчыка мог вельмі добра размаўляць з людзьмі розных народаў. У сенаце даваў мудрыя парады і здалёк, быццам арліным вокам, выглядаў, што павінна здарыцца або адбывацца, і не пераставаў перасцерагаць. [...] Мудрым словам і сваім аўтарытэтам нязгоды і бойкі паміж вялікімі сем'ямі стрымліваў і цярпеў».*

Шмат гучных слоў можна казаць пра патрыятызм Мікалая Крыштафа Радзівіла, якія ён, безумоўна, заслугоўвае. Аднак адной з праяў служэння Айчыне з'яўляецца любоў да чалавека. Гэта ўласцівасць натуры Мікалая Крыштафа Радзівіла выявілася ў вельмі значнай і яскравай падзеі яго жыцця — падарожжы ў Святую Зямлю. Пра яго мы можам даведацца з творча перапрацаванага дзённіка падарожа князя па Блізкім Усходзе *«Hierosolymitana peregrinatio Illustrissimi Domini Nicolai Christophori Radziwili, ducis in Olyka, epistolis comprehensa»* («Пэрэгрынацыя ў Ерусалім Найяснейшага Пана Мікалая Крыштафа Радзівіла, князя ў Алыцы, сабраная ў лістах», 1583—1584). Ужо ў мэце выдання, якую князь акрэсліў як «пашырэнне кругагляду землякоў», бачны клопат пра суайчыннікаў, задзел на іх адукаванасць і абазнанасць пра замежныя краіны. У гэтым духоўным падарожжы Мікалай Крыштаф шукаў карысць для сваёй дзяржавы. Ён назіраў за прыроднымі ўмовамі краін Блізкага Усходу, іх гаспадаркай, земляробствам, каб атрыманыя веды выкарыстаць ва ўласным гаспадаранні. Пільнай увагі князя заслугоўвалі архітэктура аб'ектаў і будаўнічыя матэрыялы. У Егіпце наш Радзівіл вельмі зацікавіўся старажытнымі пахаваннямі, а менавіта рэчывамі, з дапамогай якіх бальзаміравалі целы фараонаў. Як вядома з біяграфіі князя, ён нават узяў некалькі мумій з сабой на Радзіму, але, на жаль, яму давялося скінуць іх з карабля падчас буры. Некаторыя даследчыкі сцвярджаюць, што Сіротка прывёз спосаб бальзаміравання ў Нясвіж і перадаў яго прыдворнаму лекару. Але лекар раптоўна памёр, так і не перадаўшы сакрэт рэцэпту, таму целы прадстаўнікоў роду сталі захоўваць з дапамогай вакууму ў цынкавых трунах. Мікалай Крыштаф у сваёй кнізе апісваў таксама народныя звычаі, святы, традыцыі і адносіны паміж народамі. Пра папулярнасць і вялікі попыт кнігі сярод людзей сведчаць 19 перавыданняў і мноства перакладаў на польскую, нямецкую, рускую мовы.

Кажуць, што сапраўды пачынаеш любіць і цаніць месца, дзе нарадзіўся і вырас, толькі пасля разлукі з ім. Паражыўшы доўгае падарожжа хоць і ў Святую Зямлю, але ўсё ж на чужыну, Мікалай Крыштаф у сваім тастаменце асаблівым чынам падкрэсліваў важнасць свайго жадання быць пахаваным ля сваёй сям'і, у родным горадзе, у сваёй краіне. Ян Аланд заўважае:

*«Тастамент — гэта развітанне з гэтым светам не лежачы на смяротным ложку, але ў добрым здароўі і моцы, у трыццацігадовым узросце свайго жыцця».*

Урыўкі з тастамента Мікалая Радзівіла прыведзены ў казанні Марціна Відзевіча:

*«І тут прашу аб пахаванні майго цела. Хачу, каб быў пахаваны ў нясвіжскім касцёле Божага цела, які належыць ордэну езуітаў, у дольнай капліцы Святога Крыжа, дзе падрыхтаваў сабе і нашчадкам [месца] на хвалу Божую. Там я ўжо пахаваў сваю жонку і двух сыноў, Мікалая і Крыштафа. І дзе б я ні памёр (верагодна, што з гэтых родных краёў на чужыну ўжо не ад'еду, але хоць бы і памёр, выехаўшы куды-небудзь), прашу, каб мяне перанеслі ў Нясвіж без аніякай пышнасці [...]. Каб маё цела не было прыбрана ніякімі ўбраннямі, апроч майго пілігрымскага адзення, у якім я быў каля Святога гробу нашага Збаўцы Езуса Хрыста».*

Але не толькі тастамент сведчыць пра вялікае жаданне князя быць пахаваным на бацькоўскай зямлі. Свае ўспаміны пра гэта

жаданне Мікалая Крыштафа Ян Аланд таксама размяшчае ў сваім казанні:

*«Яснавяльможны князь меў пэўны досвед і распавядаў пра яго ў звычайных размовах, як, бываючы ў чужаземных краінах, шмат разоў бачыў на розных месцах прыгатаваныя і прыбраныя дамавіны для пахавання розных паноў, у якіх, аднак, не спачываюць. Бо калі іх жыццё скончылася, яны не былі перанесены сябрамі да сваіх пахавальняў. [...] Ні ў якім іншым месцы, а толькі ў гэтым касцёле [князь] прагне злажыць сваю галаву. У гэтым і пацешыў яго значна ласкавы Бог: не ў Італіі, не ў Германіі, не ў Галіі, не ў Англіі, не ў Палестыне, не ў Егіпце і не ў іншых далёкіх і небяспечных краінах, у якіх змоладу часта бываў і не раз мог загінуць, але ва ўласным доме, на сваім ложку, пры сваіх мілых сынах, у прававерным каталіцкім звычаю пакінуў прыпынак зямнога жыцця, і пахаваны, як і сам хацеў, ў тым касцёле, які збудаваў уласным коштам на хвалу Пану Богу».*

Шукаць славы ў сучасным разуменні не з'яўляецца годным жаданнем, хутчэй, варта, каб слава сама знайшла цябе. У барочнай жа культуры шуканне славы набывала высокі змест: вельмі годным лічылася жаданне мець добрую памяць у нашчадкаў, зрабіць у жыцці тое, што цябе сапраўды праславіць. У хрысціянскай традыцыі зямной славай чалавек заслугоўваў Неба. Мікалай Крыштаф Радзівіл сур'ёзна ставіўся да таго, што ён пакіне пасля сябе, які прыклад дасць дзецям, як праславіць род уласным жыццём. У казанні Яна Аланда мы маем доказы небеспадстаўнай пасмяротнай славы князя, яго заслугу быць прыкладам і ўзорам служэння Богу, Айчыне і людзям:

*Яшчэ жадае сабе яснавяльможны князь пасля смерці славы і благаслаўлення ў людзей. [...] Заслужыў яе [славу] мудрымі парадамі ў мірны час, кроўю і грашовымі выдаткамі на войнах, у розныя часы — незлічонымі дабрачыннасцямі перад Богам, Айчынай, бліжнім. [...] Нясвіж будзе вечна памятаць свайго дабрачынца, пры якім ён [Нясвіж] здабыў прывілей залатой вольнасці, гарадскіх правоў, славы не толькі ў Кароне Польскай, але і ў замежных краінах. Студэнты будуць успамінаць з вялікай пашанай патрона і мецэната пад час свайго навучання, для будучых стагоддзяў змогуць ушанаваць яго некалькімі вершамі іх маладой кемлівасці.. [...] Будуць памятаць да смерці цудоўныя сыны свайго бацьку. [...] Зычлівая Айчына будзе заўсёды мець у памяці свайго мудрага сенатара, разам з якой [Айчынай] ён заўсёды быў побач пад час любых цяжкасцяў. Яе [Айчыну] і сыноў сваіх бараніў ад непрыяцеляў уласным здароўем і грудзямі».*



Шчырасць Мікалая Радзівіла ў самаадданасці, а не ў блюзнерствах, амбіцыях ці хітрых стратэгіях даказваецца настойлівым жаданнем спачываць целам на беларускай зямлі, у родным Нясвіжы. Князь не пажадаў слаўнага пахавання на Святой Зямлі ці ў якім-небудзь іншым знакавым месцы, ён не хацеў гучнай і багатай урачыстасці ў свой гонар. Ён сустрэў вечнасць такім, якім ёсць, стаў перад Богам не ў княжацкім адзенні, а ў пілігрымскім убранні, у праўдзе і пакоры. Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка не меў страху смерці, бо ён зрабіў усё, што мог зрабіць у сваім жыцці, скарыстаў яго спаўна, вычарпаў усе магчымасці і гэтым даў велічны прыклад сучаснікам, а таксама і нам, далёкім нашчадкам, бо вечныя каштоўнасці неабходны чалавеку ва ўсе часы.

# ЯЎГЕН БАРЫШНІКАЎ. ЗРАБІЦЬ З ГЛЮКА ФІШКУ



*Гэты тэкст пра тое, што атрымліваецца, калі за культуру бярэцца чалавек з мысленнем інжынера. З Яўгенам Барышнікавым (і швец, і жнец, і на дудзе, так бы мовіць) гутарылі Наста Салдаценка і Тамара Сарачынская.*

**— Вы вельмі шматгранны чалавек: бард, перкусіяніст, дызайнер, дудар… Што для вас самае галоўнае?**

— Нядаўна спрабаваў вызначыць для сябе найважнейшае. Прыйшоў да высновы, што гэта сям'я і дзеці. А ўсё астатняе я ўспрымаю комплексна. Ёсць рэчы, важныя асабіста для мяне, а ёсць рэчы, важныя для глабальнай ліквідацыі бездухоўнасці ў сусвеце. Спадзяюся, у мяне атрымліваецца захоўваць баланс паміж імі. Тое, што я раблю як аўтар песень і як сябра Студэнцкага этнаграфічнага таварыства, не супярэчыць адно аднаму. Для мяне важна, каб унутры чалавека не было супярэчнасцей: днём добры самарыцянін, а ноччу ходзіць па бардэлях. Шмат хто з беларускіх культурных дзеячаў на гэта пакутуе. А мне не хочацца нікому хлусіць.

**— Мо ёсць жаданне яшчэ чым-небудзь заняцца?**

— Шмат чым! Ёсць даўнія мары заняцца мультыплікацыяй ці дакументалістыкай, каліграфіяй — распрацоўкай шрыфтоў у кантэксце беларускай культуры... Я веру ў чалавечыя магчымасці: пры жаданні мы можам навучыцца чаму заўгодна. Калі адзін чалавек здолеў, то чаму іншыя не могуць? Гэта пытанне часу і жадання. Быў у Сярэднявечнай Японіі самурай Міямота Мусасі, які напісаў «Кнігу Пяці Калец», прысвечаную мастацтву бою на мячах. Зараз гэта настольная кніга японскіх бізнесменаў.

Мусасі займаўся чым заўгодна: каліграфіяй, жывапісам, лепкай гаршкоў і г.д. і нічым сябе не абмяжоўваў. Ягоны прыклад паказвае, што ўсё магчыма.

**— А ці патрэбна, каб заняцца, напрыклад, дакументалістыкай, вышэйшая адукацыя?**

— Адукацыя ўжо даўно страціла значнасць. У большасці выпадкаў хлопцы цяпер вучацца ў ВНУ, каб адкасіць ад войска, а дзеўкі — каб хутчэй знайсці мужа. На жаль, хапае ідыётаў з вышэйшымі адукацыямі, навуковымі ступенямі, а вялікая колькасць разумных людзей не мае адукацыі ўвогуле. У мяне, напрыклад, няма вышэйшай адукацыі, я некалі кінуў універсітэт, бо таму, што мне тады было патрэбна для рэальнай працы, там не вучылі. Большасць з таго, чым я сёння займаюся, — ад музычных інструментаў да тэхнічных нюансаў працы — я засвойваў сам.

**— А дзе вы працуеце?**

— У IT-сферы: раблю сайты. Праца займае 160 гадзін на месяц, 40 гадзін на тыдзень, 8 гадзін на дзень. Рэшта часу ідзе на ўсё астатняе.

**— Ці варта адмяжоўваць працу ад творчасці?**

— Я задаволены тым, што, сыходзячы з працы, не нясу яе ў галаве дадому. Для мяне праца — рамесніцтва ў добрым сэнсе: вытачыў якасную гайку і не думаеш пра яе бясконца. Зрабіў — і ўсе задаволены. Гэта дае магчымасць адчуваць творчую свабоду. А прафесійныя беларусы, якія зарабляюць, займаючыся фальклорам або этнаграфіяй, знаходзяцца ў залежнасці ад фінансавай паспяховасці сваёй справы.

**— І гэта ператвараецца ў бізнес…**

— Не так кепска, калі ў бізнес, — горш, калі ў кан'юнктуру, бо тады людзі пачынаюць рабіць тое, што ім дыктуюць замоўцы. А мяне не цікавіць, якія зараз настроі ў грантадаўцаў. Гэта здаровая беларусацэнтрычная пазіцыя, не навязана кімсьці. Чым больш будзе на Беларусі людзей з такой пазіцыяй, тым лепей.

> Для мяне важна, каб унутры чалавека не было супярэчнасцей: днём добры самарыцянін, а ноччу ходзіць па бардэлях. Шмат хто з беларускіх культурных дзеячаў на гэта пакутуе

**— Вы ўдзельнічалі ў шматлікіх замежных фестывалях. Якія найбольш запомніліся?**

— У Літве ёсць фестываль MĖNUO JUODARAGIS, які ладзіцца ўжо гадоў пятнаццаць. Пачынаўся ён як невялічкі фестывальчык, а цяпер гэта буйное мерапрыемства, якое падтрымліваецца Міністэрствам культуры. Там тры сцэны: на вялікай — мэйнстрым, на сярэдняй — што заўгодна ад «Дахі-Брахі» да блэк-металу, а на малой — фальклор. Усё гэта адбываецца паралельна. На фестываль прыязджаюць выступоўцы і наведнікі з усяго свету. Я быў толькі наведнікам MĖNUO JUODARAGIS, але хацелася б паўдзельнічаць у ім калі-небудзь. Таксама люблю фальклорны фестываль у Вільні Skamba skamba kankliai. Найперш там выступаюць літоўцы, але прыязджаюць і эстонцы з латышамі, а таксама прадстаўнікі экзатычных краін: Зімбабвэ, Каўказа ці Сіцыліі. Рэгулярна там удзельнічаюць і беларусы. Збіраецца добрая кампанія, арганізуюцца начныя танцы. Маю там шмат сяброў і прыязджаю туды, як дадому.

**— Вы былі на дударскім фэсце ў Германіі. Чым адметная беларуская дуда? І ўвогуле чым, па-вашаму, вылучаюцца беларусы на міжнародных фэстах?**

— Беларуская дуда крутая тым, што пры жаданні ёй можна «ўламіць». Чаму б не прыдумаць які-небудзь від адзінаборстваў з выкарыстаннем дуды? Лепш распавяду пра адметнасць беларусаў увогуле. Дударскі фэст Sackpfeifen in Schwaben — душэўны міжнародны фестываль, які адбываецца раз на тры гады. Туды з'язджаюцца дудары з усёй Еўропы. Арганізуюць яго мясцовыя немцы — швабы. У іх існуе культурніцкае

**Быў у Сярэднявечнай Японіі самурай Міямота Мусасі, які напісаў «Кнігу Пяці Колаў», прысвечаную мастацтву бою на мячах. Зараз гэта настольная кніга японскіх бізнесменаў**

таварыства, якое збірае і адраджае традыцыі швабіі. На фестывалі, у якім удзельнічалі мы, мусілі быць людзі з Расіі, але не даехалі па нейкіх прычынах. Немцы ўвесь час блыталі і казалі на нас «Русланд» замест «Вайсрусланд». Зразумела, немцам усё роўна, якая ты «Русланд»: белая, чорная ці зялёная. Як і мы не бачым розніцы паміж Нямеччынай і Аўстрыяй. Але гэта не праблема немцаў. Гэта наша праблема, вырашыць якую будзе вельмі цяжка. Як? Можна кожнага немца папраўляць. Яны папросяць прабачэння, але ім так і будзе ўсё адно. Калісьці я працаваў у Штатах па студэнцкай праграме. Аднойчы прыйшоў мой менеджар і сказаў: «Вось цяпер я ведаю, што такое Беларусь!» Акурат тады на алімпійскіх гульнях беларуска ўзяла залаты медаль у спрынце. Атрымліваецца, што змяніць такое стаўленне мы можам нейкімі дасягненнямі на сусветным узроўні: гэта могуць быць спорт, культурныя праекты.

Калі я ездзіў у Лондан на канферэнцыю па дудах, мне давялося пабываць у Оксфардзе ў музеі «Pitt Rivers». Там сабраны артэфакты з усяго свету: вялізны пакой завалены рознымі рэчамі. Афрыканскія плямёны, Азія, Еўропа, эскімосы — што заўгодна. Ты стаіш там і разумееш, што твая краіна і ўвесь яе «культур-мультур» — гэта маленькая палічка. Брытанцы мысляць у маштабах планеты. У нас шмат хто мысліць маштабамі хутара. Падчас той паездкі давялося пабываць на шматлікіх вечарынах традыцыйнай культуры: французскай, італьянскай, грэчаскай, турэцкай, ірландскай. Я задумаўся: што можа Беларусь паказаць шматкультурнаму свету, каб яе ацанілі? Я прыхільнік інжынернага падыходу да гэтага пытання: вырашаць задачку, не змяняючы ўмоў. Магчыма, праграмісцкая адукацыя ўплывае. Адзін з эфектыўных шляхоў — зрабіць з глюка фішку. Беларусь адметная тым, што тут вельмі добра захаваліся архаічныя пласты фальклору, яны дагэтуль жывуць у народзе. Ніводная еўрапейская краіна не можа гэтым пахваліцца, бо ўплыў індустрыялізацыі пачаў дзейнічаць у іх на сто гадоў раней. У нас дзякуючы калгасам, якія прымушалі сялян заставацца на зямлі, народная творчасць закансервавалася і дажыла да нашых дзён. Жаніцьбу Цярэшкі рабілі на Лепельшчыне яшчэ ў 80-я гады. Гэта тое, што можна выносіць і паказваць свету. Таму з’яўленне праектаў кшталту «Тройцы» ці «Шумы» — добрая тэндэнцыя. Гэта спроба зрабіць фішку, хай з сучаснай апрацоўкай, нейкімі дадаткамі — гэта нармальна. Праблема ў тым, што нават у Беларусі, не кажучы пра замежнікаў, людзі не ведаюць арыгіналаў таго, інтэрпрэтацыі чаго ім прапануюць. Калі нехта зробіць аранжыроўку «В лесу родилась ёлочка» і заспявае летам, людзі пакруцяць пальцам ля скроні. Бо ўсе ведаюць, што гэта за песня і калі яна спяваецца. Каляндарны фальклор таксама жорстка прывязаны да часу. І калі прыходзяць героі папулярызацыі і пачынаюць спяваць калядкі летам, а купальскія песні зімой, свет пераварочваецца з ног на галаву. Гарадская публіка не ведае, калі гэта мусіць спявацца, і выказвае сентыменты. У выніку адбываецца падмена арыгінала адной з інтэрпрэтацый. У самой наяўнасці інтрэрпрэтацый нічога кепскага няма. Бо чым больш нейкая традыцыя можа прадукаваць новых форм, тым больш яна багатая, глыбокая і жыццядайная. Апошнім часам у нас абвастрылася праблема падмены арыгіналаў інтэрпрэтацыямі. Іх стваральнікі не кажуць, што робяць інтэрпрэтацыю, яны сцвярджаюць, што гэта аўтэнтычнае, сапраўднае. Атрымліваецца, што аргомністая сутнасць звужаецца.

**На жаль, хапае ідыётаў з вышэйшымі адукацыямі, навуковымі ступенямі, а вялікая колькасць разумных людзей не мае адукацыі ўвогуле**

**Што такое ў разуменні шараговых грамадзян традыцыйная беларуская культура? Гэта куточак, які ёсць у кожнай школе і дзіцячым садку, дзе ляжыць прасліца, валік-качалка, вісяць ручнічок і кашулька**

**— Чым вы кіруецеся пры стварэнні ўласных тэкстаў?**

— Не магу сказаць адносна ўсіх песень, але пры стварэнні некаторых я стараюся весці сябе так, нібыта фальклорная традыцыя не перарывалася. Я не імкнуся пераспяваць, а прапускаю матэрыял праз сябе і атрымліваю нейкія новыя формы, якія не супярэчаць традыцыі. Напрыклад, песня «Дзяды» — ад імя хлопчыка, які пазірае ў акно ў горадзе і бачыць там творы продкаў. Калі б культурныя напластаванні не былі знішчаны індустрыялізацыяй, магчыма, сённяшні фальклор выглядаў бы так.

**— Як мы можам адукоўваць народ у пытаннях культурнай спадчыны?**

— Ніяк. Каму гэта не трэба, таму не трэба. Мы не будзем за кімсьці бегаць і нешта даказваць, апускацца да ўзроўню слоганаў і нахабнага папулізму. Магчыма, такі шлях таксама мае права на існаванне, але гэта не наш метад. Можна бегаць са сцягам, а можна будаваць фартэцыі. І тое, і тое патрэбна.

**— Калі б у школе ўвялі прадмет «Культура Беларусі»…**

— І перыядычна ўводзяць. Былі розныя этнашколы з модулямі, якія датычыліся традыцыйнай культуры. Але што такое ў разуменні шараговых грамадзян традыцыйная беларуская культура? Гэта куточак, які ёсць у кожнай школе і дзіцячым садку, дзе ляжыць прасліца, валік-качалка, вісяць ручнічок і кашулька. Усё гэта пыльнае і патыхае нафталінам. Вось традыцыйная беларуская культура. Людзям гэта гідка. Яны не хочуць сябе атаясамліваць з такой культурай. Сэтаўскі падыход адметны тым, што мы імкнёмся вывучаць беларускую культуру, прапускаючы яе праз сябе і найперш для сябе, каб з пэўнымі агаворкамі стаць пераемнікамі народных традыцый, і потым пускаць іх далей у новых формах. Традыцыя — вельмі трывалая, яна заўсёды знаходзіць нейкія новыя формы. Калі мы рабілі жаніцьбу Цярэшкі ў Мінску ў кабаку, адбылося амаль ідэальна. Бо было адпаведна месцу, часу, мэтам і задачам. Як гэта рабілі сто гадоў таму, так зрабілі і мы. І гэта больш цяжкі шлях, чым набыць сабе вышымайку. Але затое ты можаш заставацца беларусам нават у лазні без вопраткі.

**— Раскажыце падрабязней пра СЭТ.**

— Мэты арганізацыі падрабязна апісаны ў статуце. Асноўныя — захаванне і папулярызацыя беларускай традыцыйнай культуры.

**— Як вы трапілі ў СЭТ?**

— Мая жонка, якая вучылася ў Інстытуце культуры, аднойчы збіралася ў бібліятэку. «Нашто табе бібліятэка, паглядзі ў інтэрнэце», — кажу я. «Няма нічога ў інтэрнэце па тэме беларускай этнаграфіі». Я не паверыў, але пашукаў — сапраўды нічога няма. Тады мы стварылі суполачку ў ЖЖ, прысвечаную этнаграфіі, дзе пачалі збірацца дзіўныя людзі і расказваць пра нейкі міфічны СЭТ. Скончылася тым, што кіраўнікі запрасілі нас ў таварыства.

Да нядаўняга часу СЭТ быў арганізацыяй досыць закансерваванай: не было імкнення да распаўсюду і папулярнасці. Але сябры яго шмат год займаліся працай: ладзілі экспедыцыі, збіралі архіў. Апошнім часам СЭТ стаў больш адкрыты, гэтаму паспрыяў інтэрнэт. Але і цяпер арганізацыя не імкнецца да колькасці: «Нам не патрэбныя мільёны мёртвых душ у сябрах». Сёння СЭТ налічвае каля 200 чалавек.

**Беларуская дуда крутая тым, што пры жаданні ёй можна «ўламіць». Чаму б не прыдумаць які-небудзь від адзінаборстваў з выкарыстаннем дуды?**

Гэта афіцыйна зарэгістраваная моладзевая рэспубліканская арганізацыя. Паколькі яна рэспубліканская, у ёй павінны быць прадстаўнікі з кожнай вобласці. Слова «моладзевая» кажа пра пэўны ўзроставы цэнз. Мы плануем перарэгістравацца з моладзевай у проста грамадскую арганізацыю, бо ўжо цяжка прытрымлівацца ўзроставага цэнзу: касцяк таварыства пакрысе перастае быць моладдзю. Мы досыць працяглы час існуем выключна на складкі нашых сяброў, арэндуем офіс, дзе захоўваюцца архівы, ладзяцца навучальныя гурткі па строях, спевах і г.д. Праца ідзе, хоць яна і незаўважная, руцінная: апрацоўка архіўных матэрыялаў, пранне ручнікоў… Калі параўноўваць нас з сучаснымі моднымі трэндамі, мы «Наф-Нафы»: будуем каменны домік. Мы яго доўга можам будаваць, але ён будзе трывалым. А іншыя будуюць домік з кардонкі: воўк прыйдзе, падзьме — і доміка няма. Пры гэтым ён можа выглядаць як яркі, прыгожы замак. Навошта нам вынаходзіць традыцыі, калі мы маем жывое і сапраўднае — тое, што трэба падтрымліваць.

**— Мы дазналіся, што вы па нацыянальнасці рускі…**

— У мяне бабуля па мамінай лініі з Сібіры, яе бабка — беларуска з Магілёўшчыны, а муж яе быў, паводле сямейнай легенды, паляк. Я гэта называю «скарынаўскім нацыяналізмам»: «так і чалавек: дзе нарадзіўся і ўзрошчаны, да таго месца вялікую ласку мае». Я цалкам свядомы таго, што калі б мой дзед-афіцэр у свой час асеў дзе-небудзь у Латвіі, я б зараз, напэўна, спяваў бы латышскія песні. За 70 год існавання СССР усіх так перамяшалі, што ў кожнага знойдуцца сваякі і ў Расіі, і на Украіне. У Заходняй Беларусі палова насельніцтва мае карту паляка… Я абсалютна спакойна сябе адчуваю. Быў пэўны момант у жыцці, калі я сутыкнуўся з пытаннем: «Ты хто?» Вырас у рускім культурным асяродку, чытаеш рускіх класікаў, глядзеў савецкія мульцікі ў дзяцінстве, мама ў цябе з-пад Ноўгарада, а тата з-пад Тамбова — чаму ты беларус? Нічога з гэтай зямлёй цябе не лучыць, акрамя ўсведамлення, што на плошчы ў тваім горадзе з аднаго боку царква, з другога — касцёл, а яшчэ далей — сінагога. Асяродак, у якім ты жывеш, якраз і фарміруе цябе як асобу. Калі я пачаў цікавіцца традыцыйнай культурай, зразумеў, што трывала стаю на гэтай зямлі — не падкапаешся. У мяне была суседка баба Люба, фальклорны элемент, якая ўсё жыццё размаўляла на пыўкраснай трасянцы. Аднойчы пры маці я з ёй разгаварыўся пра ткацтва, шавецтва, рамесніцтва і г.д. Мама здзівілася: «Ніколі не думала, што ты з бабай Любай будзеш вось так размаўляць: на адной мове і па-сяброўску». Цяпер я разумею, што магу камунікаваць з людзьмі не толькі майго ўзросту, але і са старэйшымі — мне ёсць пра што з імі паразмаўляць. Разрыву паміж пакаленнямі няма, калі яны аб'яднаны культурай. З кожным чалавекам у краіне табе ёсць пра што пагаварыць. У сучаснай гарадской моладзі няма ніводнай тэмы, на якую яны могуць пагаварыць з чужой васьмідзесяцігадовай бабулькай. Мы дзівімся: чаму ў нас кволая ідэнтычнасць? Таму што ў нас няма культурнай повязі. Калі чалавек займаецца этнаграфіяй і фальклорам, ён не павінен рабіць гэта прафесійна, займацца асветніцтвам, адукацыяй гаротных беларусаў, вяртаць ім карані і ідэнтычнасць. Спачатку зрабіце гэта для сябе, вырашыце ўласныя ўнутраныя пытанні. Хочаш змяніць свет — пачні з сябе. Шмат людзей ведаю, якія досыць добра арыентуюцца ў традыцыйных штуках, але гэта ім абсалютна не замінае займацца чымсьці з іншай культуры: напрыклад, фламенка. Пры гэтам яны спакойныя, не адчуваюць сябе здраднікамі. Ты ведаеш, адкуль ты выйшаў і можаш ісці, куды заўгодна. Таму напісана ў маім пасведчанні аб народзінах «рускі» — ну і няхай. Я тут вырас і ведаю мясцовыя культурніцкія коды…

**— Апошняе «каверзнае» пытанне. Вы са Слоніма. Як на радзіме прымаюць?**

— Я рэдка там выступаю. Праблема невялікіх гарадоў у тым, што жыхары іх не прывыклі адрывацца ад канапы і кудысьці выходзіць, нават калі гэта бясплана. Інэртнасць і абыякавасць. Слонім не выключэнне. Але ў кастрычніку я граў у мясцовай музычнай школе невялічкі канцэрцік. Людзі прыйшлі, паслухалі, дзякуй ім за гэта. Хто быў здольны пачуць — пачуў. Рабі, што можаш, і будзь, што будзе.

Маргарыта ДЗЯХЦЯР



# ПТУШКА ВЫЛЕЦЕЛА З КЛЕТКІ

Чаму людзі так прывыклі ацэньваць штосьці па вокладцы? Кажуць, што знешнасць — гэта першае, на што звяртаеш увагу. Я згодна, але ці трэба верыць першаму ўражанню? Пераканана, што не. Так сталася ў мяне са стужкай мексіканскага рэжысёра Алехандра Гансалеса Ін'ярыту «Бёрдмэн». Чаго чакаць ад фільма з такой назвай? Новай гісторыі пра супергероя? Авантур жыцця кагосьці? Экшана? У асноўным, мае знаёмыя так і лічылі. Я ж вырашыла не «весціся» на назву і схадзіць на прэм'еру.

Фільм пра чалавека, які стаў акцёрам адной ролі, палонным супергероя Бёрдмэна, пра тое, як пачаць жыццё з нуля, страціўшы сябе. Фільм пра тое, як быць вядомым, не ведаючы пра гэта. Фільм пра адносіны паміж людзьмі на мяжы нянавісці і кахання. «Бёрдмэн» — і камедыя, і драма. Кожны момант пранізаны думкай пра галоўнае. Кожны герой мае моцны характар за кволымі плячыма.

Галоўны герой Рыган калісьці здымаўся ў ролі супергероя Бёрдмэна. Яму надакучыла, што гледачы толькі так яго і ўспрымаюць, таму вырашае паставіць спектакль на адной з брадвейскіх сцэн. Здаецца, якія цяжкасці могуць узнікнуць у знакамітага артыста, але ўсё аказваецца складаней. Рыган не можа знайсці акцёраў, квіткі на пастаноўку разыходзяцца дрэнна, узнікае шмат праблем у сям'і.

— Дык ці атрымаў ты ад гэтага жыцця тое, чаго жадаў?

— Атрымаў.

— І чаго ж ты жадаў?

— Адчуваць сябе любімым.

Рыган хоча славы, папулярнасці, хоча вярнуць маладосць, калі яго ледзь не на руках насілі, калі ён быў Бёрдмэнам. І таму часта ў яго галаве ўсплываюць думкі; ці не — хутчэй, гэта ўнутраны голас, эга. Жаданне стаць зоркай зноў — вось мэта. Таму ён і ставіць гэты спектакль, таму знаходзіць маладых і знакамітых акцёраў, таму хоча ўлагодзіць крытыкаў. Эгаістычнае жаданне вярнуцца. Акрамя таго, неабходна вярнуць жонку, больш камунікаваць з дачкой, стаць узорам для сяброў і блізкіх. Ён нават твор для пастаноўкі выбірае з розумам: калі быў яшчэ школьнікам, на спектакль з яго ўдзелам прыйшоў Райманд Карвер і быў захоплены гульнёй тады малога Рыгана. Таму цяпер ён ставіць спектакль па яго апавяданні «Пра што мы гаворым, калі мы гаворым пра каханне?». Ён сентыментальны, адчувае, што хварэе сваёй працай. Рыган — гэта ўвасабленне волі, характару, таго, што мы шукаем у сабе, калі хочам нечага дасягнуць. А каб даведацца, ці атрымалася гэта ў яго, трэба пагледзець фільм.

«Бёрдмэн» намінаваны на Оскар, атрымаў два Залатыя глобусы, перамог у некалькіх намінацыях на Канскім фестывалі. Гэта фільм-пераможца дзякуючы ўсёй здымачнай групе і акцёрам (Майкл Кітан, Эдвард Нортан, Эма Стоун, Наомі Уотс, Зак Галіфіанакіс). Фільм быў зняты менш чым за месяц, а перад тым Ін'ярыту параўнаў кіно з хадджэннем па канаце паміж Башнямі-блізнятамі: «Гэта кіно, якое мы робім. Калі звалімся, мы прапалі».

Асабіста мне стужка падалася цікавай яшчэ і таму, што ў ёй ёсць узлёты-падзенні, расчараванні і крытыка. І з вуснаў галоўнага героя прагучала: «Крытыкам становіцца той, хто не здольны ствараць, гэтаксама як няздатны ваяваць становіцца даносчыкам». Але як жа я магу з гэтым пагадзіцца, калі той самы Рыган ледзь не са слязьмі на вачах прасіў крытыкесу з «Нью-Ёрк Таймс» напісаць добры водгук. А гэта значыць, што нешта крытыкі ўсё ж ствараюць. Яны ствараюць думкі публікі. Таму будзьце асцярожныя. Ваша папулярнасць, Рыган, не толькі ў вашых руках, і каб не застацца птушкай назаўсёды, трэба будзе нешта аддаць.

Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, у якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 70 300 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 28 600 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 89 000 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 20 200 руб.***


Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*





Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19.
Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.



Падпісана да друку 30.01.2015. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 14,98. Тыраж 1946 экз. Заказ Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «БудМедыяПраект».
220123, Мінск, вул. В. Харужай, 13/61.
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.




**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**



**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**